ISSN 0130–8068

# ПОЛЫМЯ

У НУМАРЫ:



7 2004



# ПОЛЫМЯ

**7**

**ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ**
**І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ**
**ЧАСОПІС**

**(897)**

**ВЫДАЕЦЦА СА СНЕЖНЯ 1922 ГОДА**

**2004**

**ліпень**



**РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА**
**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

**Мінск 2004**

ЗМЕСТ



**ЗАСНАВАЛЬНІК — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.**



АЛЕСЬ САВІЦКІ

# ПАМЯЦЬ ВОЛЬНАЙ ЗЯМЛІ

Памяць ёсць не толькі ў людзей, яна ёсць і ў вольнай зямлі, на якой жывуць тыя, каму яна, зямля, належыць.

Няма памяці толькі ў зямлі заваяванай, зямлі, што скарылася чужынцу, бо яе, тую памяць, бот чужынца-заваёўніка спачатку знявечыў, а потым перамалоў на пыл, і вецер часу той пыл скінуў у нябыт.

Ёсць Памяць Розуму. І гэта — падманная, часцяком і не дужа надзейная памяць, бо, пасяліўшы яе ў сваіх душах і слугуючы ёй, крывадушныя палітыкі і прадажныя гісторыкі дзеля чорнага разліку і ўласнае выгоды могуць — звычайна тое на нашых вачах і робіцца! — выбудаваць самыя розныя доказы і высновы, апраўдаць тое, што апраўдаць нельга, што ўвогуле апраўданню не належыць.

Ёсць Памяць Сэрца. І гэта таксама часам не вельмі надзейная памяць, бо яна на сваіх ружовых крылах і хвалях, здараецца, узносіць чалавека на вышыні, адкуль не дужа відаць зямлю і ўсё тое, што робіцца на ёй, альбо кідае яго ў прорву адчаю, тугі і роспачы.

Ёсць Памяць Рук. Памяць мужчынскіх рук, якія галубілі каханую жанчыну. Памяць рук маці і памяць бацькоўскіх рук, што ўзнялі на сваіх далонях дзіця, народжанае ў любові і сардэчнай згодзе, узнялі высока, каб яно, тое дзіця, убачыла, які дзівосны і прыгожы гэты свет і зямля Бацькаўшчыны. Памяць салдацкіх рук, якія абнялі плечы баявога сябра перад смяротнай атакай ці ў часе крывавага бою сутыкнуліся ў падсумку, дзе засталіся апошнія два патроны.

І гэта самая моцная, самая трывалая і надзейная Памяць. Яна з чалавекам да скону ягоных дзён, і яна застаецца ў Памяці Зямлі і ў Памяці тых, каму яна, зямля, належыць; і гэтай Памяці здрадзіць нельга, бо без яе душа чалавека робіцца пустая, і ўсё тое добрае, што ён зрабіў, ляціць у бяздонную прорву.

Памяццю Розуму, Памяццю Сэрца, Памяццю Рук мы, жывыя, знітаваны ў адзіны трывалы ланцуг, усе звенні якога роўныя перад асабістым лёсам кожнага з нас і лёсам нашай Айчыны.

Бясспрэчная гэта выснова асабліва яркімі, новымі гранямі высвечваецца сёння, у шасцідзесятую гадавіну з таго дня, калі, скінуўшы з сябе смуроднае і крывавае покрыва фашысцкай навалы, з палёгкаю, на поўныя грудзі ўздыхнула наша вольная зямля.

Дзень вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў не проста дзень светлы і радасны. Воляю народа ён зрабіўся вялікім і ўсенародным святам, Святам Дзяржаўным, пазначаным на ўсіх малых і вялікіх календарах старонкай чырвонай як Дзень Рэспублікі — краіны незалежнай і вольнай.

Гэты святы дзень трэцяга ліпеня адгукаецца заўжды ў нашых сэрцах не толькі неабдымным радасным узрушэннем, але і стоенай скрухай, шчымлівым болем.

Шчымлівым болем з таго, што людская Памяць у гэты дзень абуджае ў душы горкі спамін, міжвольна вяртаючы нас да жахлівых і сумных лічбаў знішчэння і горкіх страт. Кароткія, вядомыя ўсяму свету хрэстаматыйныя тры словы — «загінуў кожны чацвёрты!» — у гэты дзень асабліва абвострана і нястомна грукаюць у сэрцы жывых, адкрываюць новым пакаленням свой бязлітасны і трагічны сэнс, усю глыбіню якога яшчэ невядома калі чалавечы розум здолее спасцігнуць да канца.

Неабдымным і радасным узрушэннем з таго, што ў гэты дзень не толькі душы тых, хто на свае вочы бачыў тое пякельнае, віхурнае полымя знішчэння, але і душы людзей маладых, тых, каго аддзяляе ад таго халоднага агню смерці болей як палова стагоддзя, набатна гукае Памяць Вольнай Зямлі. І таму з дзівоснай сілаю ў сэрцы кожнага добрага, сумленнага чалавека ў гэты дзень струменіць, буяе гонар за сваю Радзіму, народ беларускі, які наўпярок прадказанням і прароцтвам, што некалі нарадзіліся ў галовах цывілізаваных дзікуноў і адукаваных цемрашалаў, не стаў на калені і таму не загінуў, перакрэсліў тыя прароцтвы і захаваў свой высакародны, гожы твар і мужнае аблічча; гонар за людзей гэтай зямлі і людзей з братніх земляў, якія баранілі нашы хаты як свой уласны родны дом, не шкадавалі свайго жыцця і сваімі мужнымі сэрцамі дапамаглі беларусам захінуць сваю Бацькаўшчыну ад знішчальнага агню; гонар за веліч чалавечага духу і неадольную моц чалавечай веры ў тое, што Радзіма даецца чалавеку адна і на ўсё жыццё — адна і яму, і ягоным дзецям! — і калі ты, чалавеча, не ўберажэш сваю родную зямельку ад бяды, не абароніш ад чужынца, не ўратуеш у часіну чорнай навалы, дык ты не проста здрадзіш ёй і сабе, але здрадзіш будучыні сваіх дзяцей і аддасі іх у ганебнае рабства.

У сціплым, строгай архітэктуры будынку на Кастрычніцкай плошчы сталіцы, дзе месціцца Дзяржаўны Музей Вялікай Айчыннай вайны і над франтонам якога ўдзень і ўначы палымнеюць вядомыя ўсім словы «Подзвігу народа жыць у вяках», сярод мноства музейных экспанатаў ёсць адзін невялічкі, але вельмі сімвалічны — медаль «За адвагу», прабіты фашысцкай куляй, што праляжаў у зямлі не адзін дзесятак гадоў.

Рускі салдат Сямён Рыгоравіч Летаў атрымаў гэтую ўзнагароду за мужнасць у крывавай бойцы пад Курскам. Фашысцкая куля прабіла медаль і салдацкія грудзі ўлетку сорак чацвёртага, калі па беларускай зямлі каціўся вызваленчы вал пад кодавай назвай «Баграціон». Праз трыццаць пяць гадоў пасля вызвалення Беларусі ад гнюснай гітлераўскай пошасці медаль знайшлі ў заваленай выбухам снарада разоры на ўзлеску пад Жлобінам і па нумары ўзнагароды адшукалі імя героя.

Што выкрыкнуў рускі салдат Сямён Летаў, калі куля, прабіўшы метал медаля, ударыла яму пад сэрца? Што думаў Сямён Рыгоравіч, ка-лі, паміраючы, бачыў, як ліецца яго кроў на беларускую зямлю, якую, як і сваю зямлю ля Волгі, марыў бачыць вольнай і шчаслівай?

Што крычаў васемнаццацігадовы беларускі хлопец Хведар Кулеш, калі смяротна паранены — фашысцкай мінай яму перасекла ногі ў часе прарыву блакады партызанскага краю пад Ушачамі — прыкрываў адыход сваіх баявых сяброў і кідаў гранаты ў ланцугі гітлераўцаў? Якія думкі прамільгнулі ў ягонай галаве, калі вочы ў апошні раз убачылі блакітнае неба над зялёнымі шатамі сасновага бору?

Што крычаў скатаваны фашыстамі ўкраінец Леанід Запарожац, калі горла яму пераціснула пелька з тэлефоннага дроту, пачэпленага на галіну старой таполі каля чыгуначнай станцыі Загацце? Якога колеру аблокі выхапіў яго апошні позірк праз таполевую лістоту, шчодра залітую сонцам?

Што крычалі ў тое вызвольнае лета сорак чацвёртага дзесяткі, сотні, тысячы салдат-вызваліцеляў, якія, скошаныя металам смерці, падалі на зямлю Беларусі, што брала іх у свае абдымкі на вечны спачын? Якія жыццёвыя малюнкі сплывалі з іхніх вачэй, ужо атухлых і нежывых?

Мажліва, менавіта ў тых малюнках, у тым перадсмяротным крыку быў той святы — Боскі і выратавальны! — запавет усім нам, жывым, які, на жаль, нам не суджана пачуць. Але той Запавет не знік, ён застаўся ў камені вялікіх і малых абеліскаў, у маўклівым бляску метала, з якога адліты імёны тых абаронцаў Айчыны, што зляглі ад куль і снарадаў з думкамі пра волю нашу і нашу светлую будучыню, зляглі, пакінуўшы нам, жывым, адзінае, над чым ні яны, мёртвыя, ні мы, жывыя, не маем улады — сваю Памяць, што назаўжды ўвайшла ў Памяць Вольнай Зямлі.

У тыя віхурныя гады сутыкнуліся зброя, танкавая браня, якую вырабляла па найноўшых тэхналогіях уся Еўропа, з металам, што плавілі на ўральскіх заводах рукі не толькі выдатных майстроў, але і рукі жанчын і падлеткаў, якія, не дужа сыта пад'еўшы, і працавалі, і клаліся адпачываць, і падымаліся з адной і той жа малітваю, што была складзена не Богам, а чалавекам, якому верылі не меней ніж самому Госпаду: «Наше дело правое. Враг будет разбит. Победа будет за нами».

У тыя віхурныя гады сутыкнуліся два светы — і гэта прадвызначыла канчатковы вынік, — два погляды на вартасць і сутнасць жыцця чалавека на зямлі, сутыкнуліся святло і чалавечая дабрыня са змрочнай сілай цемрашальства, з пячорнай ідэяй сусветнага панавання «звышчалавекаў» над простым чалавекам працы. І ён, гэты чалавек працы, адразу і беспамылкова сцяміў, што ў яго асабіста і ў ягонай зямлі выбар просты: альбо воля, альбо рабства. Першае вымагала мужнасці, барацьбы, ахвярнасці, а другое — толькі пакоры.

І ён выбраў першае:

...акопы на грудзях маёй зямлі,
азёрнавокай, гордай партызанкі,
як стужкі кулямётныя ляглі.

На вялікі жаль, сёння павыпаўзалі на свет боскі крывадушныя «навукоўцы» і «гісторыкі», якія сіляцца пераканаць новыя пакаленні і ўвесь

свет, што да гэтага паэтычнага вобраза мужнасці беларускага народа трэба ставіцца як да звычайнай метафары, пнуцца не проста перагледзець вынікі ўсенароднай барацьбы, але і перакласці віну за пачатак Вялікай Айчыннай вайны на тых, хто ўзяў зброю ў рукі дзеля таго, каб бараніць сваю Бацькаўшчыну і матчыну хату. Яны не бяруць пад увагу нават тое, што тая зямля, з якой прыкаціла да нас жахлівая бяда, сваю віну прызнала і пакаялася перад Памяццю мёртвых.

Мне давялося браць удзел у адкрыцці помніка на месцы знішчанай карнікамі ў лютым сорак трэцяга года вёскі Масевічы, што на Капыльшчыне. З самай раніцы над зямлёй плылі калматыя хмары, сеяўся дробны дождж. Людзей з навакольных вёсак сабралася многа. І не толькі мне асабіста, а мабыць, кожнаму, хто зыркаў на замглёнае неба, падалося, што сумуе і плача і яно, і з высі церусяцца распыленыя слёзы людскія, боль сэрцаў тых ста трыццаці людцаў, якія жыўцом гарэлі ў драўляных вясковых хатах. Ад парыву ветру выгнуліся гнуткія галіны прыгожай бярозы, што расце ўсутык са сцяной мемарыяла, і бярозавае вецце нібыта рассунула створы шэрага, як надвая разламанага крыжа, і лашчыла дзіця, што стулілася ля ног бронзавага старога. Падалося, што гэта не лістота шамаціць ад ветру і дажджу, а з чорна-сіняй замглёнай высі плывуць сюды, на зямлю, галасы тых пакутнікаў, якія некалі жылі тут, марылі пра добрае і верылі ў свой шчаслівы лёс, а ім давялося згарэць у шалёным агні ваеннай віхуры.

Капсула з зямлёй, што прывезлі з Нямеччыны ўдзельнікі Тыдня Міру, лягла ў зямлю ля падножжа помніка. Здрыгануліся і на нейкі міг знерухомелі рукі святара з зямлі Рэйн-Вестфалія доктара Георга — па яго ініцыятыве былі сабраны грошы на пабудову мемарыяла, — калі ён дакрануўся да чорнай і блішчастай зямлі Капыльшчыны, блішчастай не ад дажджу, а з таго, мабыць, што не прасохлі яшчэ на ёй слёзы людскія, якімі была яна палітая ў горкую часіну бяды. Відаць, з таго і здрыгануліся пальцы святара з Нямеччыны, бо адчулі той незагоены боль зямлі, у якую з горкім адчайным плачам клаліся расстраляныя ў беларускіх вёсках і паселішчах жанчыны і дзеці; і, відаць, адчулі і стогны, пракляцці вайне салдат вермахта, якіх скасілі кулі народных мсціўцаў.

Крыху пазней, у Хатыні, бачыў я, як здрыгануліся рукі і другога ўдзельніка таго Тыдня Міру, былога салдата вермахта Марціна Оттмана. У сорак першым ён са зброяй у руках ішоў па зямлі Беларусі, потым трапіў у палон, пасля вайны вярнуўся на свой фатэрлянд, пабудаваў дом, выгадаваў дзяцей і вырасціў не адно дрэва. На невялічкім мітынгу ля трох бярозак Марцін казаў кароткае слова, а потым, на пляцоўцы за Вечным Агнём, што не вельмі шчыльна забрукавана гранітнымі плітамі, укленчыў каля вялікай лапіны сунічніку, абсыпанага белай квеценню. Мажліва, птушкі прынеслі і кінулі насенне, мажліва, з дзіцячай далонькі звалілася ягадка... Але ж прарасло насенне, забуяла густа сярод чорнага бруку, і былы акупант дрыготкай рукой дакрануўся да квецені, сярод якой чырванелі і маленькія ягадкі, і з яго вуснаў зляцела таксама дрыготкае: «Майн Гот!»

У гады вайны на спражцы ягонага рэменя, як і ў кожнага салдата вермахта, таксама былі агульнавядомыя словы: «Гот міт унз», з намі, маўляў, Бог. Цяпер жа з вуснаў былога нямецкага салдата, які дакрануўся да белай квецені на брукаванай пляцоўцы трагічнага месца —

могільніка спаленых фашыстамі беларускіх вёсак — зляцелі словы, сэнс якіх сімвалічны і дакладны: Бог там, дзе не разбураюць, а ствараюць, там, дзе не знішчэнне, а жыццё.

Я веру ў шчырасць былога нямецкага салдата не таму, што яго гэтак усхвалявалі белая квецень і чырвань суніц на брукаванай пляцоўцы ля Вечнага Агню ў Хатыні. Нямала падзівіўся я, калі пабачыў у Нямеччыне тое, на што здатныя чалавечыя рукі. На схіле погарба Марцін паставіў бетонную сцяну, нацягаў зямлі, і на гэтай роўнай пляцоўцы збудаваў трохпавярховы дом, і дрэвы пасадзіў наўкола, і ягаднікі, і маленечкі ставок зрабіў, і плаваюць у ім рыбкі, а маленечкі млынок на беражку прыводзіць у рух цацачных кавалёў, якія несупынна тукаюць малаточкамі па кавадле. Працуй, маўляў, чалавеча! Нястомна працуй, грукай па ўласным кавадле, бо толькі гэта прынясе табе добры плён, бо толькі тое, што ты зробіш сваімі рукамі, забяспечыць табе поспех, радасць і светлы заўтрашні дзень, бо толькі гэта — стваральная праца! — захавае ад разбурэння спрадвечна разумны жыццёвы парадак на зямлі.

Менавіта яго, гэты спрадвечны і разумны жыццёвы парадак, — права быць вольным, працаваць на сваёй роднай зямлі! — і абараніў наш народ ад знішчэння. Абараніў і застаўся верным яму: аднавіў спаленыя гарады і вёскі, засеяў удзірванелыя за гады вайны нівы, пабудаваў школы і пасадзіў сады. Ён, народ, ведае, чаго гэта каштавала. Ведае і памятае, праз які жахлівы агонь давялося прайсці, каб над роднай зямелькаю залунаў сцяг вызвалення і волі. Ведае і памятае тую велізарную і шчырую дапамогу, што прыйшла з братніх земляў з першага ж дня працы на папялішчах, што яшчэ курыліся горкім дымам ваеннай бяды.

Наўрад ці можна злічыць кветкі, што пакладаліся ў гэты святы Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь да манументаў і абеліскаў, якіх шмат на нашай зямлі. Наўрад ці можна змерыць тую неабдымную любоў, тую павагу, з якой кожны сумленны чалавек схіляе галаву перад Памяццю тых, хто загінуў на полі ратным і здзейсніў подзвіг, слава пра які не згасне ў вяках.

Але мы можам — і гэта наш святы абавязак! — убараніць гэтую Памяць ад тых крывадушных палітыканаў, шарлатанаў-навукоўцаў і фарысеяў-гісторыкаў, якія ўсё яшчэ пнуцца абылгаць мужнасць народа, павярнуць, спаганіць святую веру абаронцаў Айчыны, з якой яны ішлі насустрач агню і смерці, ратуючы ад знішчэння Наша Сёння. Калі мы не зробім гэтага, дык здрадзім Памяці Герояў, Святой Памяці Вольнай Зямлі, і Бацькаўшчына, Радзіма наша тое нам ніколі не даруе.





## ГЕНАДЗЬ ПАШКОЎ

* * *

Прачнуся на золку
ад дзіўных трывог
таемна-святлістай пакуты,
як ціхенька ўдарыць у шыбіну рог,
да высяў
сузор'ем прыкуты.

А ў шыбе,
што чырванню завалакло,
як пырснула сокам каліна,
дрыготкіх расколінак легла на шкло
сярэбраная павуціна.

Эх, светлая далеч, —
сцюдзёны туман
і дым над вярстою расстайнай,
я вып'ю твой горкі і даўкі дурман
і ледзь прычашчуся да тайны.

Да той,
што нікому не ахапіць
ні розумам і ні пачуццем.
Хіба па глытку
па маленькаму піць
з крыніц яе вечна мы будзем.

Як шмат курганоў утравелых вакол,
муроў паразбураных храмаў.
Якіх тут народаў,
якіх тут вякоў,
якіх нахавана тут драмаў?!

То музыка ў ветры,
то гром,
то выццё.
А мы —
не вандалы-прышэльцы.
Няхай блаславёным будзе жыццё
на беларускай зямельцы!

## У ДАЛОНЯХ СВЕТУ ГАРАДОК

У далонях свету...
Ці ж знайсці
на паўшар'ях сініх кантынентаў?!
Да яго сцяжынаю дайсці
больш зручней,
ды з падарожным ветрам!..

Хоць тут пасяліся,
завякуй,
бы ў залевах прахалодны камень,
як душу крынічна апякуць
маладзіцы сінімі вачамі.

Вокал ціша.
Прыпяцкая плынь
зносіць час у акіян Сусвету.
Вакаёмы мройныя акінь —
ходзяць здані
перабытых летаў.

І як сок з гаркавінкай калін,
закіпае водсвітак барвовы.
І звіняць раскатна салаўі,
што званы саборныя,
з дубровы.

Сам Кірыла Тураўскі
здаля
волатам ступае самавіта.
... Тураў... Тураў —
родная зямля,
як вятрамі,
славай апавіта!

## ХЛЕБ НА АБРУСЕ

Закалыхалася рыжае жыта.
Грукае ў грудзі.
Бяжыць да рукі.
Паразліваныя,
з неба нібыта,
сінімі кроплямі скрозь
васількі.

Жар палыхае ад сонечнай печы!
І аржаны з васілёчкамі пах!
Высі шчыпае
і ніву асвечвае,
крылы раскінуўшы,
велічны птах.

Неба сінечу
з-за хмарыны,
бусел,
дзеткам маленькім краплінкамі кінь!
Помню з дзяцінства я:
хлеб на абрусе
і васільковая чыстая стынь!

Гэтак было і вялося вякамі!
І як святое
заўсёды мне б —
Жыта, прашытае васількамі,
на васільковым абрусе — хлеб.

* * *

Праяснілася далеч.
І цёплыя ветры дарэчы.
І бяроза слязой
у люстэрка чысцюткае б'е.
Перагнула вясёлка
саломінкі ў небе над рэчкай,
апусціла па вёдрах
і слодыч жывільную п'е.

Вось і ўсё...
Адшумела шуга снегавая,
і магутныя сілы
вясна абудзіла ў зямлі.
Можа, гэтаю ноччу
пракоціцца рэха над гаем
ад зялёнага выбуху
ў анямелым галлі?..

* * *

Загусла павеяла просінь вясны.
Зямля ажывае.
Плывуць па раздоллі далёкай вярсты
ветразі мая.

Не толькі з паўднёвай жароўні цяпло, —
спагада з усходу.
Скрозь стому і стыласць,
як вечна было, —
прарыў крыгаходу.

Шугой адплываюць тужлівыя сны
за дуб па-над гаццю.
Ажыў і гамоніць закутак лясны
славянскаю раццю.

Як род наш адвечны на гэтай зямлі, —
руплівец спакону, —
вячыстае дрэва сабрала ў галлі
магутную крону!

## ВОЛЬНІЦА

Жыццё падорыць прагі крылы,
ты толькі путы разарві.

Такія нетры мы адкрылі!
Такі зацішак баравы!
Над расцяробам,
над ажынай
і над прыцішанай табой
звісаюць п'янкія ажыны
і меданосны зверабой.

Нябёсы возера заглыбяць.
Нашэпча вешчае трысцё —
усё пачуць,
адчуць
і выпіць,
як дараванае жыццё.

І бор смалісты,
і азёры,
і метэор начны наўскос
яшчэ не раз душу азораць,
яшчэ не раз асветляць лёс!

## ЛЮБАЙ

За мукі, за слёзы
каго мне ўшчуваць?
Ці дзякаваць лёсу,
ці лёс дакараць,
як хмельна-салодка
у зорнай цішы
стыхіі паводка
бушуе ў душы?

Ракоча па спратах
грымучы прыбой.
Чаму гэта раптам
такое са мной?

І ў ранішняй сіньцы
на весняй вярбе
я ў лёгкай пушынцы
пазнаю цябе.

Шчаслівай парою
на вольных вятрах,
узняты табою,
крыляю,
як птах.

Любові нямала
спазнаў я,
але
адна толькі стала
ты крыламі мне.

## Я ВЫДУМАЎ ЦЯБЕ

З прамення ды расы,
з бялюткага туману,
з паглядам верасным
спакуснага дурману
кладзеш іскрысты след
па травах шаўкавістых,
дзе зоравы Сусвет
сцяжыну табе выткаў.
Жагнаюся.
Не ў сне,
абнятая зарою,
плывеш ты да мяне,
і будзеш ты маёю!
У ранішняй журбе,
зануджаны, няйначай,
я выдумаў цябе
такой, якой убачыў.

* * *

Сышліся сінь
з сінечаю.
Так трэба!
І межы ўсе размытыя,
як гаць.
А дзе зямля-карміцелька?
Дзе неба?
Зліліся так,
што іх не разгадаць!

Зноў прагнуць высяў
і душа, і цела,
бо з воклічам любві
над галавой
стамлёны вырай,
шчасцем ахмялелы,
вяртаецца шуготнай чарадой.

Прыйшла вясна...
А, значыць, лёс паверне... —
шапчу на вушка горача табе, —
бо ты сама такая ўся,
павер мне, —
як залаценькі коцік на вярбе!

* * *

Спее дзень над гаем і над борам,
і душою чуйнаю здаля
азярынаў позірк ясназоры
пазнаеш.
Радзімая зямля!

І як птах крылаты між нябёсаў —
срэбраны і радасны званок, —
на зямлі жывеш высокім лёсам,
верачы — усё тут незнарок.

Незнарок промень, жывы і тонкі,
што, нібы запозненая ніць —
павуцінка восеньскай вандроўкі
на далоні сцішана трымціць.

Пад калінай — іней мураговы.
На каліне — выкіслелы жар.
Мне прастор такіх нашэпча словаў,
быццам праўду выкажа
у твар.

Крок за крокам — пушчу расхінаеш!
Крок за крокам — далеч пазнаеш!
Можа, гэта лепшае,
што маеш?
Можа, дзеля гэтага й жывеш?..





ГАЛІНА ВАСІЛЕЎСКАЯ

# СЕМ'Я

## *Аповесць*

*Прысвячаецца Марыі Адамаўне Скрыпко, маёй маці.*

Чым больш гадоў лёс кладзе на мае плечы, тым часцей у думках вяртаюся ў мінулае, да вытокаў, да каранёў. Шукаю нейкі сэнс у гэтым мінулым, капаюся ў ім, нібы археолаг.

І ўсё часцей не даюць мне спакою, трывожаць словы Вячаслава Уладзіміравіча Адамчыка, якія ён сказаў, калі прачытаў маю аповесць пра дзяцінства Веры Харужай:

— Лепей бы ты напісала гэтую аповесць пра сваю маці.

Ён ведаў яе. Ён яе паважаў.

Гучаць і гучаць у маіх вушах гэтыя словы: «Лепей бы... пра сваю маці».

Як запавет.

### ЕВА

Нарадзілася Ева ў 1841 годзе. Жыла ў Гародні з бацькамі ў маёнтку. Гэта бабуля маёй маці.

...Маладая паннaчка, рамантычная і самотная, сядзела ў сваёй спаленцы і думала, чым заняцца. Кніжкі чытаць — надакучыла, на раялі іграць — пальцы ўжо баляць, паўдня іграла. Пайсці пагуляць у парк? Глянула ў акно — толькі што прайшоў дождж. За акном было мокра, нават пабліскваді лужыны. Яна паглядзела на свае новенькія саф'янавыя туфлікі, якія купіла мама на апошнім кірмашы, і падумала: «Яны сапсуюцца, запэцкаюцца ад мокрай травы, і Франак такія светлыя, такія бліскучыя, такія прыгожыя не ўбачыць». А яна хацела, каб ён убачыў іх на яе ножках.

Лёгкага фаэтона, запрэжанага паркай коней, яшчэ не было відаць. Значыць, не прыехалі Франак і яго гаспадар, памешчык пан Незабытоўскі Канстанцін Хрыстафоравіч, член Дзяржаўнай думы і сябра яе бацькі. Гэты маёнтак бацька арандаваў у яго. Сёння дзень платы за арэнду.

За акном расло вялікае каштанавае дрэва. Лісце яго, мокрае ад дажджу, таксама, як і лужыны, блішчэла, а белыя свечкі-кветкі, чысценька памытыя, горда тырчэлі на фоне зялёнага-зялёнага лісця.

Была вясна. Быў травень. Быў час кахання.

Ева ўздыхнула. Ёй здалося, што пакуль яна дома адна, без Франака — жыццё праходзіць міма, нібы праплывае, як вада ў рэчцы, калі ты на беразе.

Раптам яе ўвагу прыцягнула вялікая чорная варона, што сядзела на доўгім суку і трымала ў дзюбе белы сухар. «Дзе яна яго ўкрала? — падумала паннячка і ўсміхнулася сама сабе. — Вось дурніца, калі яна пачне кляваць сухар, можа паламаць сваю дзюбу».

Варона зляцела з сука і, зусім нечакана для паннячкі, паклала сухар у... лужыну. І стала аглядацца навокал, ці няма ахвотнікаў на яе смачную здабычу. Праз нейкі час варона ўзяла ў дзюбу сухар, павярнула галаву і другім, сухім бокам зноў паклала ў лужыну. Еве стала весела. «Якая разумная варона, — падумала яна, — гэта ж трэба, змочвае сухар, каб яго можна было дзяўбці. Пайду раскажу маме».

Мама ў сваім пакоі чытала кніжку. Ева ўбегла ў пакой, расказала маме пра варону.

— Нічога дзіўнага, — адказала мама, — вароны жывуць, як людзі, аж да ста гадоў. За гэты час можна чаму-небудзь і навучыцца. — І перагарнула старонку кніжкі.

Вярнулася Ева ў свой пакой, падбегла да акна, каб паглядзець, што далей робіць варона, а тая спакойна дзяўбла свой мокры сухар, прыціснуўшы яго лапай, і не адна, а з другой順 варонай. «Відаць, яе сяброўка, — падумала Ева, — не толькі разумная варона, а яшчэ і добрая. А можа, яна — варона, а сяброўка — зусім не сяброўка, а крумкач? І жывуць яны разам амаль сто гадоў, — Ева ўздыхнула, — шчаслівыя!»

А фаэтона ўсё не было. Яна доўга глядзела на каштанавыя свечкі і раптам ёй уявілася, што яны зусім не на дрэве растуць, а гэта гараць свечкі ў касцёле, і яна ў белым вэлюме вянчаецца з Франакам. Ксёндз пытаецца ў яе: «Ці згодна ты ўзяць ў мужы гэтага чалавека?» — І яна радасна адказвае: «Та-а-ак». І Франак гаворыць тое ж самае.

Мроі, мроі! На самай справе яна добра ведае, што бацькі ніколі за простага фурмана яе не аддадуць. Бацькі знойдуць ёй багатага жаніха. А яна ўсё роўна кахае Франака. Ён прыгожы. Ён самы прыгожы на свеце! І ён кахае яе.

Як ён расказваў ёй пра свае Бацэвічы, дзе нарадзіўся, дзе вырас. І як яна яго слухала:

— Мястэчка наша невялічкае, не тое, што твая Гародня з яе высокімі дамамі, з Нёманам. Але і ў нас рэчка ёсць, з вельмі мілагучнай назвай — Ольса. Яна ціхая, Ольса наша, ласкавая, спакойная. Не шуміць, не бурліць нават вясною, калі растае снег і вады прыбывае. Яна добрая, павольна нясе свае чыстыя, празрыстыя воды далей, іншым людзям, каб і тым было хораша глядзець на яе, рыбу лавіць і радавацца цішыні і спакою, якія дораць яе воды.

І палац у нас ёсць. Ды які палац! Аж трыццаць пакояў у ім, па дзесяць на кожным паверсе. З падвала пасярод дома растуць пальмы аж да самага шклянога даху. У падвале дарожкі, як у парку. На трэцім паверсе — таксама парк. Там і экзатычныя дрэвы растуць, і кусты, і розныя кветкі. Ім цёпла, як дома на поўдні. Бо абаграваецца ўвесь палац паравым ацяпленнем.

Ён гаварыў павольна, летуценна, нібы казку расказваў. Ева слухала яго і ўяўляла і той палац, і тыя дзівосныя дрэвы, і млыны на рэчцы, гэта калі працаваць іх прымушае вада. Яна ніколі такога не бачыла. І начлег, калі на беразе гарыць вогнішча, у вуголлі пячэцца надзіва смачная бульба, а конюхі расказваюць хто былі, хто небыліцы, седзячы вакол вогнішча. І Франак, яшчэ хлапчанё, з імі, бо палюбіў коней, як толькі першы раз убачыў іх.

Полымя цягнецца ўверх, уверх, а яму не даюць падняцца высока, вяртаюць назад, разграбаючы дровы. Толькі іскры, яркія, нібы зоркі ў начным небе, падаюць долу. А стрыножаныя коні ходзяць тут жа побач, скубуць сакавітую траву і пафыркваюць ад задавальнення.

Любоў Франака да коней заўважыў і пан Незабытоўскі. І калі хлопец падрос — прапанаваў яму стаць фурманам. Яны ўдвух аб'ездзілі многа гарадоў, дзе ў пана былі свае дамы і маёнткі. Юнак у захапленні ад такой работы.

Вабілі Еву тыя расказы. І ўжо любімая Гародня, з яе касцёламі, святочным шумам вуліц у дні кірмашоў, рабілася не такой любімай, і ўсё часцей і часцей мроіліся незнаёмыя і такія жаданыя Бацэвічы.

Аднойчы яна запытала:

— Франак, ты нарадзіўся і жывеш у Беларусі, а кажаш, што ты прускі падданы. Хіба так бывае?

Ён рассмяяўся:

— А ты жывеш у Гародні, гэта таксама Беларусь, а лічыш сябе палячкай. Тое самае.

— Ну, не ведаю... У нас тут усіх католікаў яшчэ ў касцёле, калі хрысцяць немаўлятак, пішуць палякамі. А я каталічка.

— Дык ты не сапраўдная палячка?

— Чаму? Сапраўдная. І мама, і тата ў мяне палякі.

Тады Франак растлумачыў:

— Бацька мой чыстакроўны немец з Усходняй Прусіі. Ён — садоўнік. А багатыя беларускія памешчыкі выпісвалі да сябе на работу спецыялістаў з-за мяжы. Бацька майго пана Незабытоўскага, Хрыстафор, выпісаў з Прусіі садоўніка. Прыехаў мой бацька. Ён быў малады, яшчэ не жанаты. Тут садзіў дзівосны сад памешчыку і закахаўся ў мясцовую дзяўчыну. Ажаніўся. Нарадзіўся я. Таму імя ў мяне нямецкае — Франц, бацька так назваў. А прозвішча — Бонас. Бацька прускі падданы, і мяне так запісалі, па бацьку. А маці — беларуска, праваслаўная. І сястра мая родная Анэля — беларуска, па маці. Значыць, па бацьку пішуць хлопчыкаў, а дзяўчынак — па маці. Вось і ўся гісторыя. Ды якая розніца, хто як запісаны. Галоўнае — дзе жывеш і кім сам сябе адчуваеш. Я і адчуваю, і лічу сябе беларусам.

— А мову нямецкую ты ведаеш?

— Не, не ведаю. Тата хацеў мяне вучыць, а я не стаў. Навошта? У Прусію я не паеду, мне і тут добра. Я люблю коней. Люблю сваю работу.

— А мы дома гаворым толькі па-польску. І я добра ведаю і беларускую, і рускую і польскую мовы, а вучу яшчэ французскую...

Раптам далёка за варотамі ўбачыла яна чырвоную ліўрэю Франака і парку коней, што імчалі да іх дома лёгкі фаэтон.

Сэрца закалацілася хутка-хутка, вось зараз выскачыць і паляціць насустрач каханаму. Не вытрымала, збегла з другога паверха ўніз.

Са свайго кабінета выйшаў тата. Яна схавалася за дзвярыма.

Была шумная сустрэча таты і пана Незабытоўскага. Абняўшыся, яны прайшлі ў кабінет, не заўважыўшы Евы. А Франак праехаў міма параднага пад'езда, павярнуў за дом. Там ён распрог коней, павадзіў іх па двары, каб астылі, напаіў, адвёў у канюшню, насыпаў у яслі аўса. І толькі тады зайшоў у дом з чорнага ходу. Ева ўжо была тут, ля дзвярэй.

Высокі, статны юнак, чарнабровы, падобны да цыгана, і сапраўды вельмі прыгожы, падхапіў Еву пад рукі і закружыў, закружыў, і ў яе закружылася галава, і свет стаў святлейшы. І здалося ёй, што нічога і нікога навокал няма, толькі ён і яна на ўсім белым свеце.

— Франак, а я верш пра нас склала.

— Верш? — здзівіўся ён.

— Я даўно пішу, але нікому не паказвала. А гэты хачу прачытаць табе, бо ён пра нас, — паўтарыла Ева.

— Дык чытай хутчэй!

— У мяне вершы чамусьці пішуцца толькі па-руску.

— Я зразумею.

І Ева пачала ціха чытаць:

Жизнь кружит, словно вьюга снежная,
Завихрит, унесет покой.
Я такая делаюсь нежная
Если мысленно встречусь с тобой.
Я такая бываю любимая,
До смешного, до глупых слез.
Только ветер знает мечты мои,
Он тебе их еще не принес?
Я тоскую, я так устала,
Я хочу быть всегда с тобой.
Я такою послушною стала,
Только б ты был доволен мной.
Мы в мечтах всюду вместе, рядом,
Только встречи я долго жду.
Позови меня, ну хоть взглядом,
И я сразу к тебе приду.
Но опять, знаю я, буду я молчать,
И опять не скажу ни слова.
То, что сердце горит, не смогу передать,
И уйду как в туман снова.
А сейчас я тоскую, любимый мой
В ожидании новой встречи.
Трудно, очень трудно одной
Мне... без тебя... вечером.

— О Божа, і гэта ты яго прыдумала? Так хораша?

— Ён сам склаўся. Нібы нехта нагаварыў мне, а я толькі запісала.

— Якая ж ты... незвычайная.

І ён прытуліў яе да сябе.

— Франак, — зашаптала яна, — я не магу без цябе жыць, — і заплакала.

— І я не магу жыць без цябе, мая каралева, — таксама шэптам адказаў юнак.

— Бацькі не аддадуць мяне за цябе.

— Я ведаю, але што-небудзь прыдумаю.

— Што ж ты можаш прыдумаць? Што? Прыдумвай хутчэй!

— Не ведаю... што-небудзь... Я... я... Я ўкраду цябе, — гэтая думка падалася яму выратавальнай. — Так-так, я цябе ўкраду, — паўтарыў ён ужо больш упэўнена.

— Ты ж не адзін. Ты ж са сваім гаспадаром. Ён табе не дазволіць гэта зрабіць. — Яна згодна была, каб ён яе ўкраў сёння ж, зараз жа.

— Я ў яго пытацца не буду. Я прыеду адзін, праз некалькі дзён. Спынюся дзе-небудзь недалёка адсюль. А ты... падрыхтуйся. Вазьмі што цёплае ў дарогу. Ночы яшчэ халодныя. А цяпер ідзі да бацькоў. Госць у доме, шукаць будуць.

І яна пайшла да бацькоў, азіраючыся на Франака...

Праз некалькі дзён ён сапраўды прыехаў да яе адзін. У крытай брычцы. На ўсялякі выпадак захапіў з сабою скуру мядзведзя. Каб не дай Бог яго каралева не прастудзілася.

Ён украў яе з невялікім вузельчыкам цёплага адзення. Коні імчаліся хутка-хутка, а Еве здавалася, што ляцяць яны ў паветры і нясуць яе да шчасця, да раю.

Праз дзень дарогі Франак прапанаваў ёй напісаць ліст бацькам, каб не хваляваліся. Калі бацькі атрымаюць па пошце ліст — маладыя ўжо будуць далёка, не дагоняць. Усё прадумаў. Не прадумаў толькі аднаго, як яна, яго каралева, будзе жыць у іх хаце, хаця і з драўлянай падлогай, але з маленькімі акенцамі. Шкло было дарагое.

А яна кінулася ў гэтую паездку, як у вір галавой. Ні пра што не думала, толькі пра тое, што нарэшце яна будзе з Франакам, не разлучыцца з ім ніколі, а больш ей нічога не трэба. Астатняе — драбяза...

Раніцай прачнулася ў чужой хаце. І спачатку не магла зразумець, дзе гэта яна. Потым усё ўспомніла і рассмяялася.

Франака побач ужо не было. Дзверы адчыніліся, і ў пакой увайшла маці Франака.

— Уставай, дзіцятка, сняданак ужо гатовы. Я блінцоў табе напякла, — сказала яна.

— Дзякую, я зараз. А дзе Франак?

— Пайшоў да пана. Некуды трэба ехаць.

На наступны дзень прымчаўся Евін бацька. Угаворваў. Грязіўся пакінуць без спадчыны.

Яна засталася з Франакам. Спачатку, у вольную хвіліну ён вадзіў яе па Бацэвічах, паказваў, зноў расказваў. Яна шырока расплюшчанымі вачыма глядзела навокал. І ёй здалося, яна нават была ўпэўнена, што тут ужо жыла, бо ўсё добра ведае. А можа, тут праходзіла яе жыццё ў мінулым? І было гэта не вельмі даўно, таму і помніць.

Абвянчаўшыся з Евай у мясцовым касцёле, Франак не захацеў больш ездзіць па чужых гарадах, хацеў быць дома ля маладой любімай жонкі. Пайшоў працаваць на канюшню, стараўся, каб гаспадар быў задаволены ім і тут. Адзінае, што яго засмучала, — Ева дома з ім размаўляла па-польску, як прывыкла з дзяцінства. Спачатку ён нічога не разумеў, быў як глухі і бунтаваў. Ева была настойлівая. З цягам часу ён стаў разумець яе, а потым і адказваць па-польску.

Для Евы пачаліся будні. Яна стала прачынацца разам з Франакам і ішла да печы, каб дапамагчы маці Франака.

— Дачушка, — вучыла яе свякроўка, — кожная рэч павінна мець сваё месца. Тады будзе парадак.

Паступова, не адразу, а неяк зусім непрыкметна ўзяла ў свае маладыя рукі амаль усю хатнюю гаспадарку. Пацішэлі парсючкі ў хляве, якім яна часцей насіла вёдры з поліўкай. Карміла курэй, а яшчэ і качак, і гусей. І гулякала ім: «Гуля-гуля», як і суседзі, нібы ўсё жыццё толькі гэтым займалася.

А Гародня... маці... тата... маёнтак — гэта быў проста прыгожы сон.

Так і жылі яны ціха, любячы і паважаючы адно аднаго. Ева ніколі не папракнула Франака, што жыве цяпер не так, як жыла з бацькамі. Бо хата з маленькімі акенцамі была напоўнена дабрынёй і каханнем. Яны ўпрыгожвалі яе, хату, рабілі, святлейшай, цяплейшай, давалі Еве сілу жыць, працаваць, вучылі цярплівасці.

Ева нарадзіла Франаку пяцёра дзяцей: Юліяна, Адама, Франца, Ядвігу і Балеслава. І з дзецьмі з самага іх маленства Ева гаварыла толькі па-польску. Франак ужо не пярэчыў.

Памёр Франак рана. На скразняку ў канюшні прастудзіўся, не звяртаў увагі, хадзіў на работу. Атрымаў запаленне лёгкіх і — яго не стала.

Прыйшлося Еве адной падымаць дзяцей. Памешчык-сусед, пан Каржанеўскі Віктар Ануфрыевіч, які жыў недалёка ў маёнтку Канстантова, па другі бок Ольсы, пашкадаваў яе, былую панначку, прапанаваў стаць у яго кухаркай. Яна пераехала з дзецьмі ў Канстантова.

З усіх дзяцей самым здольным да вучобы аказаўся Адам.

## АДАМ

Гэта бацька маёй маці. Ён паспяхова скончыў народную школу ў Бацэвічах, і пан Каржанеўскі за свае грошы адправіў яго вучыцца на агранома. Куды — не ведаю. А спытаць ужо няма ў каго. Калі Адам вывучыўся, паміж ім і панам Каржанеўскім адбылася прыблізна такая размова.

— Адамка, я ўзяў у арэнду каменны дом у Свіслачы. Пераеду туды жыць. Табе аддаю свой драўляны — жыві ў ім, жаніся, гадуй дзяцей і будзеш гаспадарыць тут. Я прызначаю цябе ўпраўляючым гэтага маёнтка, гаспадаром фальварка. Я вучыў цябе, каб перадаць гаспадарку ў рукі свайго чалавека, сумленнага і адказнага. А ты — такі. Я цябе ведаю, давяраю табе. Будзь гаспадаром.

— А ці спраўлюся я? — сумеўся юнак.

— Веды ў цябе ёсць, а практыку з часам набудзеш.

— І навошта мне такі вялікі дом?

— Жэнішся, заселіш дзецьмі.

Так стаў малады Адам упраўляючым. Ён часта заглядваў у падручнікі, у канспекты лекцый. Не цураўся і другой навукі: глядзеў, калі сеюць на сваіх палосках сяляне, як яны цярэбяць у руках зямлю вясною — ці паспела яна да сяўбы.

Сяляне спачатку ставіліся да занадта маладога ўпраўляючага насцярожана. Пускалі ў патраву і коней, і кароў. Вартаўнікі прыгоняць шкоднікаў да Адама, а той не штрафуе сялян, не адбірае за патраву скаціну, толькі скажа:

— Ну як вы можаце ў шкоду пускаць жывёлу? Глядзіце самі, што яны нарабілі.

І адпусціць.

З часам і патраў стала меней, і сяляне пачалі адносіцца да маладога ўпраўляючага з даверам, зразумелі: ён іх не крыўдзіць. А потым і палюбілі яго.

Напачатку і пан Каржанеўскі прыязджаў паглядзець, як кіруе фальваркам Адам. У таго ўсё ішло добра, памешчык быў задаволены. Патрэбы прыязджаць часта ўжо не стала.

Аднойчы ён прыехаў на брычцы і сказаў Адаму:

— Надзявай свой лепшы касцюм і паедзеш са мной.

— Куды? — пацікавіўся ўпраўляючы.

— Па дарозе раскажу.

І расказаў гісторыю пра свайго сябра, памешчыка і вельмі вясёлага чалавека, графа Забелу Ігната Міхайлавіча, двараніна, які жыве ў сваім маёнтку «Ольса».

— Любіў ён гасцей прымаць і аднойчы, малады яшчэ быў, спакусіў вельмі сімпатычную сваю кухарку Валерыю. Яна зацяжарыла. Ён паступіў так: паклікаў да сябе двух работнікаў-будаўнікоў, братоў, якіх выпісаў быў з Харваціі. Хлопцаў звалі Кайтан і Даніла Адамавічы. Яны былі такія ж, як і нашы беларусы. Таксама хрысціяне, католікі. Толькі насілі на шыі пад кашуляй чырвоныя хусцінкі. (Дарэчы, першымі ў свеце насіць так хусцінкі пачалі менавіта харваты. Гэта спадабалася французам. Потым французы сталі насіць хусцінкі пад каўнерыкам на кашулі, потым паявіліся банты, за імі — гальштукі, якія носіць цяпер увесь свет. Па-французску гальштук — une crawate, ад харваты. — **Г. В.**) Граф сказаў братам:

— Даю вам кавалак зямлі і лесу, будуйцеся, жаніцеся з нашымі дзяўчатамі і жывіце на здароўе.

Хлопцы так і зрабілі. З Валерыяй ажаніўся Даніла. У іх нарадзілася чатыры дачкі і сын. Старэйшая Леанора — дачка графа, потым Мальвіна, Тэафіля, Стэфанія і Ян.

— Усе дзяўчаты ўжо нявесты. А табе, Адам, час жаніцца. Яны — твой лёс, ты — Адам, яны — Адамавічы. Я буду тваім сватам. Выбірай любую з чатырох. Не ведаю, як яны будуць спраўляцца на кухні, а танчаць добра, нават выдатна, усе бальныя выкрунтасы ведаюць. А кухня што? Як захочуць самі есці — звараць. І цябе накормяць.

Толькі адно пытанне задаў маўклівы Адам:

— А яны каталічкі?

— Нашы беларускія палячкі.

Адаму спадабалася Мальвіна, 1873 года нараджэння. Гэта маці маёй маці, мая бабуля.

На вяселлі прысутнічаў сват з жонкай. Жонка свата паабяцала маладым, што будзе хроснай маці іх першай дзяўчынкі.

Адам і Мальвіна жылі ціха, у згодзе. Дзеці нараджаліся праз кожныя два-тры гады. Усяго шасцёра: Уладзіслаў, Марыя, Валерыя, Балеслаў, Стэфан і Ігнась.

Марыю ў канцы 1899 года хрысціла ў касцёле як хросная маці — жонка пана Каржанеўскага. І зноў, як заўсёды, запісалі яе палячкай, дарэчы, як і яе сястрычку. Між сабой, як было прынята ў больш-менш заможных дамах, Адам і Мальвіна гаварылі па-польску.

— Каб дзеці з пялёнак чулі мову, разумелі яе. — Так даводзіў маладой жонцы Адам.

Мальвіне з цягам часу стала цяжка адной ўпраўляцца з дзецьмі і хатняй гаспадаркай. І яна папрасіла сваю малодшую сястру Стэфанію прыйсці да іх жыць, каб хоць трошкі памагчы ёй. Стэфанія прыйшла, як магла, памагала.

Але праз некаторы час да яе пачалі сватацца хлопцы з фальварка. Прасілі яе рукі ў Адама. Ён усім адмаўляў. Мальвіна спытала ў яго:

— Чаму ты ўсім адмаўляеш, Адамка?

— Сама паглядзі на яе ўважліва, — адказаў муж, — яна, як рамоначка, беленькая, прыгожанькая і далікатная. А яны — грубыя мужыкі, яны ёй не пара.

Пасля гэтай размовы Мальвіна задумалася.

Апошні жаніх па прозвішчы Гушча ад крыўды, што яму адмовілі, кінуў тут усё і з'ехаў жыць у Амерыку. Адтуль прыслаў ліст, у якім запрашаў Стэфу прыехаць да яго. Калі яна згодна — ён вышле ёй шыфкарту. Гэта такое афіцыйнае запрашэнне. Стэфа паказала ліст Мальвіне, каб параіцца, што рабіць. Мальвіна вынесла сваё катэгарычнае рашэнне:

— Трэба ехаць. Грошы на дарогу я дам.

Адам, канешне, быў супраць. Але паехала Стэфа ў Амерыку, выйшла замуж за Гушчу і стала там Стэлай. Дзяцей у іх не было.

Пра гэта мая маці, ды ўвогуле ўсе мы, дазналіся толькі пасля яе смерці, бо лістоў адтуль яна нікому ніколі не пісала... І мая бабуля Мальвіна, і мама ўсё жыццё думалі, што яна загінула ў дарозе.

Браты Адама і сястра Ядзя купілі зямлю ў Будзе. Пераехалі туды жыць. З дачкой паехала і Ева. Адам часта ездзіў у Буду наведаць маці, адвозіў ёй гасцінцаў. Запрашаў жыць да сябе.

— Я паехала б, Адамек, — гаварыла Ева, — але не магу.

— Чаму?

— Ядзя ж сплачацца.

Ева перажыла ўсіх сваіх дзяцей. Жыла ўжо з унукамі. І памерла ў 104 гады адразу пасля Вялікай Айчыннай вайны.

Мне здавалася, што каго-каго, а бабулю Мальвіну я ведаю добра. Бо яна жыла з намі з самага майго нараджэння. А стала пісаць — аказалася, ведаю мала, бо ў маладосці я была не цікаўная, а яна — маўклівая. Памятаю яе высокую постаць, статную, з вельмі прыемным тварам. Значыць, некалі была прыгожая. Памятаю, што яна ў свае салідныя гады без акуляраў працягвала нітку ў вушка іголкі. Значыць, да канца ў яе быў выдатны зрок.

Жылі мы на Камароўцы на вуліцы Дабралюбава, якую потым праглынуў рынак. Мы мелі адзін вялікі пакой і кухню на дваіх. У пакоі шафай быў адгароджаны куток, дзе стаяў бабулін ложак. Гэта было пасля вайны, пакой даў тату «Белпрампраект», дзе ён працаваў.

Часта ўдзень і рана вечарам бабуля Мальвіна клалася на свой ложак. Пра што яна думала, што ўспамінала — магу толькі здагадвацца.

Можа, думала-ўспамінала свайго Адамку, як ляжаў ён дома ў пакоі хворы на тыфус. У гэтым жа пакоі ля другой сцяны стаяў ложак, на якім ляжала яе прыгажуня Валерыя, таксама хворая на тыфус. А яна, Мальвіна, давала ім лекі, паіла, карміла і малілася. Прасіла ў

Бога ласкі — пакінуць у жывых яе мужа, бо як ёй без яго жыць далей, і пакінуць у жывых дачку, бо без яе і яна, маці, жыць не зможа.

— Ты ж забраў у мяне маленькага Болюся. Ён цяпер у цябе за анёла. Пакінь дачку мне.

Ці пачуў Бог яе малітву? Але мужа забраў, а дачку пакінуў ёй. І за гэта яна, плачучы па мужу, дзякавала Яму.

А можа, думала-ўспамінала моўчкі пра сыноў сваіх, якіх забрала Айчынная вайна? Канешне, думала, не магла не думаць. Сыны ж...

Таму, можа, і была маўклівая, таму не гаварыла нічога. Яе боль, ёй і цярпець. Так, відаць, вырашыла яна, мая бабуля Мальвіна. Ніколі яна ні на што не скардзілася, ніколі нічога не прасіла. Была гордая.

Пачынала яна сваё жыццё з Адамам у шыкоўным панскім доме на чатыры вялікія пакоі з высокімі вокнамі і столлю, побач з вялізным садам. А заканчвала ў закуточку за шафай. Чым яна, бедная, дыхала там у свае 86 гадоў? Ці хапала ёй хаця паветра?

## МАРЫЯ

Марыя нарадзілася «ў сарочцы», значыць, шчаслівай. Так кажуць людзі. Ці была ў жыцці шчаслівая мая матуля — вялікае пытанне. Вельмі вялікае. А ўвогуле — што такое шчасце? Аднаму, галоднаму, шчасце, калі ён паесць уволю. А другому, акрамя сытасці, і нешта іншае трэба...

Але пачну па парадку.

Маленькая Маня любіла гуляць з лялькамі. І лялькі ў яе былі. Яна давала ім імёны, якія ёй падабаліся. Самую любімую ляльку звала Валяй. Так потым назвалі малодшую Маніну сястрычку. Але не Валяй, а Валерыяй. А пяцігадовая Маня ўпарта называла двухгадовую сястрычку Валяй.

У любімай лялькі былі дзве доўгія касы і сукенка ў чырвоныя кветачкі.

Хадзіла яна з лялькамі гуляць у сад, што быў за домам, садзіла іх пад яблыні, пад вішні, карміла спелымі парэчкамі, потым сама мыла ім тварыкі.

Яна любіла сваіх лялек, лічыла іх самымі прыгожымі, самымі лепшымі. Пакуль аднойчы не адбылося наступнае...

Адам сабраўся ехаць у Бацэвічы па справах. Запрог коней у брычку. З ім паехала і Мальвіна купіць што ў магазіне, узяла з сабой Маню. Маня ўзяла ляльку Валю. У магазіне Маня падышла адразу туды, дзе ляжалі цукеркі, каб выбраць самыя смачныя, азірнулася сказаць маме, якія купіць і — аслупянела. Да прылаўка падыходзілі дзве дзяўчынкі, яе равесніцы, самі — прыгожыя, як лялькі, і — з лялькамі ў руках. Ды з якімі лялькамі! Маня такіх яшчэ не бачыла. Як яны былі прыбраныя, у якіх шыкоўных сукенках, у якіх карунках. Маня не магла адвесці ад іх вачэй. Схамянулася толькі тады, калі дзяўчынкі фыркнулі і засмяяліся, гледзячы на яе Валю. Маня імгненна схавала ляльку за спіну. Бо зразумела: у іх лялькі лепшыя.

Дома яна доўга разглядала сваю Валю: курносы носік, светлыя косы і вялікія блакітныя вочы. Яны нібы гаварылі ёй, нібы прасілі: «Не выкідвай мяне, прыглядзіся, якая я добрая». Тады Маня вырашыла:

калі яе ляльку апрануць так шыкоўна, як былі апрануты тыя лялькі, то і яна будзе не горшая за іх. Сукенка ў чырвоныя кветачкі паляцела на сметнік. У мамінай шафе Маня знайшла кавалак белага шоўку. Дзе ляжалі іголкі і ніткі, яна ўжо ведала.

Пакалола да крыві ўсе пальчыкі іголкай, бо шчыльны шоўк не хацеў прапускаць яе. Пальчыкі балелі. Яна дзьмула на іх і ціха плакала. Такой застала яе мама Мальвіна.

— А божачкі, што ты робіш, маё дзіцятка? — залямантавала яна, — за што ты ўзялася? Хіба твая гэта справа? Работніца ты мая!

Пачала змазваць пальчыкі сокам альясу, каб не шчыпала. Потым прынесла медны напарстак. Аддала Мані, сказаўшы:

— Як пальчыкі зажывуць, а іголка не будзе лёгка праходзіць у тканіну, надзень на вялікі пальчык напарстак і так паможаш іголцы.

Мая мама берагла гэты медны напарстак усё жыццё. Цяпер ён у мяне.

Калі настаў час ісці вучыцца ў школу, Адам аддаў сваю любіміцу Марыю ў жаночую польскую школу ў Бацэвічах. Усе прадметы там выкладаліся толькі на польскай мове, знаёмай дзяўчынцы з ранняга дзяцінства.

Любімым Маніным прадметам у школе стала літаратура. Асабліва падабалася ёй паэзія. Калі ўпершыню пачула, як гучаць вершы, яна была вельмі здзіўлена і ўражана. І калі настаўнік даваў хатняе заданне на дом — прачытаць і пераказаць заўтра ў школе змест верша — Маня зрабіць гэтага не магла. Прачытаўшы два-тры разы верш, яна ведала яго на памяць.

Гуляючы ў садзе, у полі, у лесе, яна паўтарала гучна радкі любімых вершаў па-беларуску і па-польску.

Калі тата Адам ехаў па справах у Бабруйск, яна прасіла ў яго толькі адно: «Купі вершы». Бо тое, што было ў кнігарні ў Бацэвічах, ужо даўно мясцілася на паліцы яе этажэркі. І ён прывозіў томік вершаў. Яна чытала словы, а ёй гучала музыка. І вельмі дзівілася, што гэтыя чароўныя радкі прыдумаў чалавек. «Не, — вырашыла яна аднойчы, — чалавек так прыдумаць не можа, гэта вуснамі паэтаў гаварыў сам Бог».

Кладучыся спаць, яна брала з сабою ў ложак томік вершаў. І чытала, чытала да болю ў вачах, пакуль не прыйдзе мама Мальвіна, насварыцца на яе і патушыць святло. І вынесе з пакоя газніцу, бо ведае, калі пакінуць лямпу, Маня зноў запаліць яе.

А Маня яшчэ доўга ляжала ў цемры, паўтарала пра сябе любімыя радкі верша, пакуль не засынала.

У школе, у адным класе з Маняй вучыліся і дзве дачкі пана Незабытоўскага. Тыя самыя, што некалі смяяліся з яе лялькі. Яны аказаліся вельмі сімпатычнымі дзяўчынкамі і падабаліся Мані.

Вучылася яна не проста добра, а з нейкім захапленнем, як чалавек, які хацеў піць і раптам натрапіў на чыстую крынічку з жывой вадою. Дома яна расказвала бацькам пра тое новае, што пачула сёння ў школе, расказвала так, што малодшая сястра Валя стала патрабаваць у бацькоў хутчэй аддаць і яе вучыцца.

Дзяўчынкі Незабытоўскага глядзелі на Маню са здзіўленнем і стараліся сябраваць з ёю. А душа яе была раскрыта насустрач кожнаму, хто хоць трошкі хінуўся да яе. Была яна і ў палацы, дзе жылі яе новыя

сяброўкі. Дзівілася парку ў доме, карцінам у залах, рэльефным партрэтам на сценах яе сябровак, іх братоў і бацькоў. Але хадзіць туды часта ёй чамусьці не хацелася.

Аднойчы сяброўкі запыталі ў Мані:

— Ты добра вучышся, кім ты хочаш стаць?

— Краўчыхай, — не задумваючыся, адказала яна.

Сяброўкі пераглянуліся:

— Дзеля гэтага не абавязкова вучыцца ў польскай школе.

— І краўчыхі розныя бываюць, — адказала Маня і адышла ад іх.

Яшчэ адзін дзіўны прадмет быў у школе — бальныя танцы. Танцавалі пад раяль. Настаўнік танцаў паказваў, як трэба прысядаць, паварочвацца ў мазурцы, як грацыёзна працягваць наперад руку, якія «па» рабіць у падэспані — адным словам усё, што трэба, каб яны, вучаніцы, сталі сапраўднымі паненкамі. Бо, калі дзяўчына танчыць не ўмее, паненкай яе не назавеш. А будзе ж выпускны баль. Без бальных танцаў ён быць не можа. Будуць і кавалеры — з мужчынскай школы.

Маня і танцавала з захапленнем.

Нарэшце настаў выпускны баль. Сукенку да яго пашылі ў самай моднай у Бацэвічах краўчыхі. У гэтай сукенцы з белага шоўку Маня адчувала сябе лялькай. Бацька Адам падвёз яе на брычцы пад самую школу. Яна, нібы матылёк, вылецела з брычкі і пабегла ў актавую залю. Тут будуць уручаць пасведчанні аб заканчэнні школы, тут жа будуць і танцы. І не пад раяль, пад жывых музыкаў.

Яна паклала сваё пасведчанне ў сумачку, таксама з белага шоўку, купленую спецыяльна да гэтай нагоды. Сумачку павесіла на руку ў доўгай белай пальчатцы і... пачаўся баль. Іграў аркестр з цымбалаў, бубна, дзвюх скрыпак і гармоніка.

Кіраваў балем, распараджаўся танцамі малады скрыпач, высокі, хударлявы. Ён іграў на скрыпцы і камандаваў:

— Дамы мяняюць кавалераў... кавалеры мяняюць дам... танец управа... танец улева... — і гэтак далей.

Раптам ён паклаў скрыпку і падышоў да Мані, якая стаяла ля сцяны, адпачывала, і запрасіў на танец. Скрыпачу адмовіць яна не змагла. Танцуючы, ён не забываў камандаваць. Танцаваў лёгка, круціў яе ва ўсе бакі, а яна была надзіва паслухмяная. Некалькі танцаў ён не адпускаў яе, потым сказаў:

— Мяне завуць Онуфрый, — ён зрабіў націск на літару «о». — А вас?

— А мяне Маруся.

— Можна, я буду зваць вас... Муся?

— Тады я вас буду зваць, — яна задумалася на хвіліну, потым рассмяялася таму, што прыдумала, — Оня.

Ён згадзіўся.

Гучала музыка развітальнага вальса. І Мані захацелася раптам, каб гэты вальс ніколі не канчаўся.

— Можна, я правяду вас дахаты? — пачула яна.

— Я жыву ў Канстантове, за мной прыедзе тата. Відаць, ужо прыехаў.

— А я жыву ў Кабылянцы.

— Гэта за Клічавам?

— Так...

Ён адчуў сум у яе пытанні.

— У мяне конь ёсць, — узрадаваўся Ануфрый, — але гэта потым. А цяпер да ганка дазволіце вас правесці?

— Да ганка можна...

Скончылася вучоба, скончылася свята. Трэба Марыі набываць спецыяльнасць. Сумненняў у яе не было. Яна стала вучаніцай той самай краўчыхі ў Бацэвічах, якая шыла ёй выпускную сукенку.

А тата Адам купіў ёй, асабіста ёй, самую лепшую на той час нажную швейную машыну «Зінгер».

Яна была здольнай вучаніцай і хутка першую ў жыцці сукенку пашыла сястрычцы Валі-Валерыі...

А ў краіне адбываліся незвычайныя падзеі. У Піцеры грымнула рэвалюцыя. Уладу ўзялі ў свае рукі бальшавікі. Рэха рэвалюцыі дакацілася і да Беларусі.

Па вуліцах Бацэвіч хадзілі юнакі з вінтоўкамі на плячы і з лентамі патронаў. Спявалі бадзёра: «Кто был никем, тот станет всем!»

Пан Незабытоўскі ад рэвалюцыі і ад новых гаспадароў уцёк. Са свайго радавога палаца ён ноччу вывез сям'ю і каштоўнасці. А золатам загрузіў баржу, якую яго любімы лакей Янка павінен быў прыгнаць у дамоўленае месца, дзе пан будзе сустракаць яго. Але Янка набраў золата, колькі хацеў, сабе, астатняе разам з баржай перадаў бальшавікам і ўцёк з Бацэвіч. Больш яго ніхто ніколі не бачыў, як і пана Незабытоўскага.

Забраўшы золата, новыя гаспадары вырашылі, што каштоўнасці могуць быць схаваныя і ў доме. І пачалі выстукваць сцены ў пакоях, разбіваць іх прыкладамі вінтовак, шукаючы скарбы. Пры гэтым прыгаворвалі: «Мір халупам, вайна палацам».

І калі Маруся з Валяй зайшлі аднойчы ў палац праз расчыненыя насцеж дзверы, яны ўбачылі вывернутыя з карэннямі пальмы, пабітыя сцены ў пакоях і паламаную мэблю. Асабліва дасталася крэслам. Жартаўнікі кідалі з сілай крэслы па нацёртым паркеце, і тыя, праляцеўшы праз вялізную залю, разбіваліся ўшчэнт аб сцяну...

Потым ў палацы зрабілі «Народны дом», дзе праходзілі частыя мітынгі і сходы, на якія хадзілі і Маруся з Валяй. Пасля мітынгаў і сходаў танцавалі. Дзіркі ў сценах з разбітымі партрэтамі былі замазаны.

## АНУФРЫЙ

У мяне ў руках фота, якому больш за 80 гадоў. Грамадзянская вайна. Заходні фронт. Першы кавалерыйскі полк 8-й стралковай дывізіі.

На фота — група чырвонаармейцаў-добраахвотнікаў. З імі камандзір. У яго толькі шапка камандзірская, нават на фота відаць, што яна большая і большы казырок. Ён сядзіць у першым радзе збоку. Завуць яго Ануфрый.

Усе маладыя, упэўненыя ў тым, што вайна, у якой яны ўдзельнічаюць, справядлівая, бо бароняць яны маладую рэвалюцыю, маладую дзяржаву рабочых і сялян. Сваю дзяржаву. «За землю, за волю, за лучшую долю», — спявалі тады ў песні. За гэта яны ўсе гатовы аддаць свае маладыя жыцці.

У камандзіра строгі твар, строгія вочы і невялікія вусікі над губой. Дзеля саліднасці. Ён старэйшы за іншых. Яму больш за дваццаць.

Побач з камандзірам сядзіць хлопчык. Ён і ростам ніжэйшы, і па твары відаць, што маладзейшы за ўсіх. Яму гадоў шаснаццаць.

Цяпер я звярнула на яго ўвагу і зразумела, што гэта дзяншчык камандзіра.

Калі ў дзяцінстве я глядзела на гэтае фота, усе, хто на ім, здаваліся мне тады дужа дарослымі. І я ўяўляла, як камандзір на сваім кані мчыць наперадзе байцоў, вядома ж, з шабляй у руцэ. Як Чапаеў. І вораг адступае перад смелымі коннікамі.

Цяпер я гляджу на гэтае фота зусім другімі вачыма. І бачу дзяцей, хоць некаторыя хмураць бровы перад фотаапаратам, каб здавацца дарослымі.

Тата рэдка расказваў мне пра сваю геройскую маладосць. Ды я асабліва і не цікавілася. Але адну гісторыю помню да гэтага часу.

Быў бой, адчайны бой з белапалякамі ў раёне Парычаў, што за Бабруйскам. Ворага адбілі. Але многа тады засталося на полі бою маладых змагароў. Застаўся і камандзір. Яго каня прывялі байцы, якім пашчасціла застацца жывымі.

Убачыўшы каня, дзяншчык кінуўся да чырвонаармейцаў:

— А дзе камандзір?

— Забілі Ануфрыя, — адказалі яму.

Дзяншчык ставіўся да камандзіра, як да бацькі. Нават на фота відаць, як ён хіліцца да яго. А камандзір да дзеншчыка, як да сына. Таму і бярог яго, дзіця, і забараняў ісці ў бой разам з іншымі, хаця хлопец рваўся.

Ён ускочыў на каня камандзіра і памчаўся туды, дзе толькі што грымелі стрэлы.

З неба сыпаў лёгкі сняжок. Потым стала яго болей і болей, нібы стараўся ён прыкрыць сваёй белай коўдрай целы тых, хто ляжаў на вытаптаным конскімі капытамі полі.

Сноўдалі з доўгімі насілкамі санітары, збіралі забітых. Юнак спяшаўся, бо хутка пачне змяркацца, і ён баяўся, што не знойдзе камандзіра. Але конь спыніўся якраз там, дзе той ляжаў. Ляжаў Ануфрый на спіне, увесь пакрыты лёгкім пушыстым снегам.

Хлопец саскочыў з каня, нахіліўся над целам. І тут заўважыў дзве ледзь прыкметныя дарожкі адталага снегу, што ішлі ад носа. Камандзір быў непрытомны, але яшчэ трохі дыхаў.

Дзяншчык пабег па санітараў. І хутка камандзір з прастрэленым лёгкім ужо быў на шпітальным ложку...

Яго выхадзілі. Але ўсё жыццё, а пражыў ён 83 гады, ён кашляў, асабліва раніцай, кашляў доўга, цяжка. І ўсё жыццё чытаў сваю любімую кнігу ў чырвонай скураной вокладцы «Гісторыя грамадзянскай вайны ў СССР». Бо там былі апісаны баі, у якіх ён прымаў удзел. Яго баі на яго вайне.

Можа, тата і называў мне ў дзяцінстве імя і прозвішча гэтага хлопчыка, які выратаваў яму жыццё, але яны недзе згубіліся ў маёй памяці. Вельмі шкада.

Тата мой не меў спецыяльнай ваеннай адукацыі, але быў пісьменны. Добраахвотна пайшоў у Чырвоную армію ў 1918 годзе — у самым пачатку грамадзянскай вайны. І стаў камандзірам і, відаць, ваяваў нядрэнна, бо пасля заканчэння вайны яму ў ваенкамаце прапанавалі паехаць вучыцца ў Ваенную Акадэмію ў Маскве. Ён адмовіўся і вяр-

нуўся дадому, бо ў Канстантове яго чакала любімая дзяўчына, яго Муся, яго Банасяначка.

Ваенкамат накіраваў яго на работу ў Бацэвічы членам Бацэвіцкага рэвалюцыйнага камітэта, рэўкама, як яго тады называлі. Далі пакой. Потым ён стаў сакратаром рэўкама, потым працаваў у райвыканкаме ў Бацэвічах і ў Клічаве.

Пасля работы ён садзіўся на каня і ехаў у Канстантова. Аднойчы ён сабраўся і ўжо выехаў, а тут пацямнела неба, наляцела навальніца. Ды якая! Маланка за маланкай рэзалі чорнае ад хмар неба. Гром грымеў так, што, здавалася, дрыжыць уся зямля, вось зараз расколецца. Шчыравала, радавалася раздоллю, шумела, грымела навальніца. І ліў дождж.

Бацькі Марыі ўжо спалі. А яна з трывогай паглядала на акно, за якім бушавала стыхія, і маліла Бога, каб Ануфрый, яе Оня, не прыехаў, бо казаў падчас апошняга спаткання, што прыедзе менавіта сёння.

А ён прыехаў. Яна пачула, як ён у сенцах тупае мокрымі ботамі, каб з іх сцякла вада.

— Ты вар'ят. Хіба можна ў такое надвор'е выходзіць з дому? — сказала Марыя, калі ён увайшоў у пакой, скінуўшы ў сенцах прамоклы плашч.

— Я ж абяцаў. І не хацеў, каб ты хвалявалася, думала, што ў дарозе са мной нешта нядобрае здарылася. Мяне на паўшляху дагнала навальніца. Ці вяртацца дадому, ці ехаць сюды — аднолькава вымакну. І я паехаў сюды.

Марыя слухала яго і ставіла на прымус чайнік. Каб сагрэўся Оня, каб не захварэў. У час гэтай сустрэчы яны дамовіліся, што ён прыедзе ў наступны раз да бацькі прасіць яе рукі.

Прыехаў. Размова з Адамам Францавічам была кароткай. Яму адмовілі.

— Чаму? — спытаў Ануфрый. — Я люблю вашу дачку, і яна мяне любіць.

— За праваслаўнага не аддам, — быў такі прыгавор.

Засмучаны Ануфрый вярнуўся ў Бацэвічы. Нейкі час ён не прыязджаў да Марыі. Потым прыехаў і паклаў перад Адамам Францавічам дакумент, у якім было напісана, што ён хрысціўся ў касцёле, і яму дадзена імя Анджэй.

Адпала тое, да чаго прыдзіраўся Адам. Марыя і Ануфрый-Анджэй пажаніліся...

Не помню, каб ён калі-небудзь у доме павысіў свой камандзірскі голас. Не помню, каб ён пакараў за што-небудзь мяне або брата Віцю, хаця мы былі свавольнікі.

Маму Марыю зваў толькі ласкава — Мусінька.

Яны пражылі разам доўгае жыццё. Адзначылі залатое вяселле. Мама — незвычайнай дабрыні чалавек, і тата — мужны і сціплы інвалід грамадзянскай вайны.

## СКРЫПКА

Прозвішча майго бацькі Ануфрыя Фёдаравіча было Скрыпко. Ён атрымаў яго ад свайго бацькі, той — ад свайго, дзед ад дзеда, прадзед ад прадзеда... А быў жа некалі той першы, каму гэта прозвішча

проста прысвоілі. І не выпадкова, а з-за той справы, якой ён шчыра займаўся. Гэта значыць, добра іграў на скрыпцы. І скрыпка ў яго была з тых далёкіх часоў і дайшла яна цалюткая аж да майго бацькі. Берaглі ў сям'і гэтую рэліквію. Бацька быў самавук у музыцы, але пад яго скрыпачку тупала нагамі моладзь не толькі на вясковых вяселлях.

Дайшла чарга да мяне — выявіўся абсалютны слых, і я да вайны вучылася ў музычнай школе пры кансерваторыі, і называлася яна школай даравітых дзяцей. Вядома ж, я іграла на скрыпцы.

Была яна з дзіўным моцным гукам, трошачкі ніжэйшым за звычайны голас скрыпкі. Кранеш струну, і яна доўга гучыць, спявае, нібы сама любуецца сваім голасам. Я тады яшчэ не ведала, што кожная добрая скрыпка, як і чалавек, мае свой голас. Мой настаўнік, студэнт апошняга курса кансерваторыі, прадказваў мне вялікую будучыню скрыпачкі, але толькі з гэтай скрыпкай. Была яна цёмная, не блішчэла — ці то ад часу, ці то ад якасці дрэва, з якога яе зрабілі. І таксама не ведаю, што за майстар яе стварыў, але гэта быў выдатны твор слыннага майстра.

22 чэрвеня 1941 года ў 12 гадзін дня прыйшла я ў апошні раз у музычную школу, каб атрымаць заданне на лета. Настаўнік мой быў нейкі збянтэжаны, сказаў:

— Іграй што хочаш, толькі кожны дзень, — і пабег у кабінет дырэктара, бо па радыё павінен быў выступаць Молатаў...

Перацерла, перакруціла, пераблытала лёсы людскія вайна. Усё змянілася ў адначассе.

Скрыпка мая ляжала на шафе ў футарале, накрытая чыстай анучкай, бо ў пакой, дзе мы жылі на Грушаўцы, заходзілі немцы, то адзін, то ўдвух. Яны адчувалі сябе гаспадарамі і ў нашых кватэрах. Заходзілі, нічога не казалі нам, моўчкі аглядалі пакой, адкрывалі шафу, што падабалася — забіралі. І гэтак жа моўчкі выходзілі.

Аднойчы немец адкрыў маленькую карабачку, што стаяла на століку, узяў у рукі маміну брошку: чорны, авальны пляскаты каменьчык у тонкай срэбнай аправе, а пасярэдзіне прымацавана вялікая белая жамчужына. Відаць, сапраўдная жамчужына, бо немец адкалупнуў яе, паклаў у кішэню, а брошку кінуў назад у карабачку. Яна і цяпер у мяне ёсць, тая брошка без жамчужыны.

На скрыпцы я не іграла. Мне здавалася кашчунствам іграць, калі ўсюды гаспадараць фашысты, робяць, што хочуць, могуць нават забіць ні за што.

Мне было 14 гадоў, худая, я ўвесь час хацела есці. Аднойчы мая матуля, Марыя Адамаўна, пазбірала маё і братава адзенне, з якога мы ўжо выраслі, перамыла, адпрасавала, акуратненька склала і падгаварыла сваю сяброўку, мастачку Леакадзію Нічыпаровіч, пайсці ў вёску выменяць на якія-небудзь прадукты.

— Людзі ходзяць, нешта прыносяць, а мы з голаду пухнем.

Я напрасілася пайсці з імі:

— Ты ж адна не прынясеш таго, што выменяеш, а я табе памагу, — даводзіла я матулі.

Дзве малыя дзяўчынкі Леакадзіі засталіся ў нас з маёй бабуляй Мальвінай.

А мы пайшлі, толкам не ведаючы куды. Паход наш ледзь не закончыўся трагічна. Бо калі мы ўжо вярталіся назад, натрапілі на немцаў, якія, як я думаю цяпер, ахоўвалі чыгунку. А мы — чужыя. З намі не

сталі асабліва разбірацца. На ўсялякі выпадак вырашылі расстраляць. Але афіцэр не хацеў псаваць сабе вячэру, таму нас зачынілі ў нейкім хлеўчуку да раніцы.

Лёдзя, вельмі прыгожая маладая жанчына, пачала маліцца. Малілася яна шчыра, па-польску, гучна прасіла прабачэння ў сваіх дачушак, што пакідае іх адных на белым свеце. І плакала.

Неўзабаве дзверы хлеўчука адчыніліся, увайшоў чалавек у нямецкай форме і спытаў па-польску:

— Хто тут ёсць паляк?

— Мы ўсе палякі, — паспяшалася адказаць мая матуля таксама па-польску, бо мову ведала яшчэ з дзяцінства і ў пашпарце яе сапраўды было напісана «палячка». І была, як і Лёдзя, каталічка.

Ён распытаў нас, адкуль мы і як апынуліся тут. Выслухаўшы мамін расказ, спытаў, не зводзячы вачэй з Лёдзі:

— Можна, я скажу, што вы мае знаёмыя?

—Так-так, канечне, — зноў паспешліва адказала мая мама.

— Эрык Патоцкі! — назваўся ён, стукнуўшы абцасамі.

— Дык вы граф? — спытала Лёдзя.

— Цяпер чыгуначнік.

Ён пайшоў і хутка вярнуўся з афіцэрам, які загадаў вартаўніку нас адпусціць. Так зусім незнаёмы паляк ратаваў нас ад смерці. І не толькі ратаваў, а яшчэ пасадзіў у цягнік, на якім мы вярнуліся дадому.

Я расказваю гэтую гісторыю, бо далейшыя падзеі склаліся так, што перад гэтым графам і яго сябрам, даваенным салістам варшаўскай оперы Вацакам Ілевічам, я вымушана была іграць на скрыпцы. Вымушана таму, што Лёдзя прыйшла аднойчы да нас з гэтымі двума палякамі.

— Ім хочацца пабыць у сямейнай абстаноўцы, — шапнула яна маме.

Не помню, як Патоцкі ўбачыў на шафе скрыпічны футарал. Можа, таму, што быў высокі?

— О-о-о, у вас скрыпка ёсць?— спытаў ён.

Я падумала, калі не скажу, што вучылася іграць на скрыпцы да вайны, яны вырашаць, што мы абрабавалі якую кватэру і ў нас чужы інструмент.

— Я займалася ў музычнай школе, — сказала я.

— Тады сыграй нам.

Ледзь не самлела ад страху. Іграць перад салістам варшаўскай оперы і перад графам — такога я не чакала. Але разумела, што адмовіцца не магу, не маю права. Узяла каніфоль, нацерла смычок, настроіла струны і пачала іграць.

Пераіграла ўсё, што помніла: эцюды, варыяцыі, песні.

А яны ўсё прасілі:

— Іграй яшчэ.

Тады я сыграла апошняе, што засталося ў маёй памяці, — гамы. І сказала:

— Больш нічога не ведаю.

Гэта быў першы і апошні ў маім жыцці «міжнародны» канцэрт.

Ілевіч дастаў з кішэні камертон, які я бачыла толькі ў свайго настаўніка, і ў пакоі загучала чыстае «ля». І пачаў спяваць арыі з опер. У яго выкананні я ўпершыню пачула арыю з оперы «Галька»; гэтую арыю ён прысвяціў мне ў знак удзячнасці.

Ведалі мы і пра далейшы лёс Патоцкага. У сорак трэцім годзе фашысты абвінавацілі яго ў тым, што ён сабраў групу аднадумцаў і дамовіўся з іміісці ў нашы беларускія партызаны, каб ваяваць супраць фашыстаў. Нехта яго выдаў. Немцы сказалі, што граф звар'яцеў, і адправілі яго ў вар'яцкі дом. Усё гэта, забегшы на хвілінку, расказаў нам Ілевіч:

— Яны яго не выпусцяць. Гэта канец.

Больш мы не бачылі ніколі ні Патоцкага, ні Ілевіча.

Цяпер, успамінаючы ўсё пра тое, я зноў думаю, як перапляла лёсы людзей вайна, як яна звяла іх і як развяла: граф Патоцкі выратаваў ад смерці маю матулю, яе сяброўку і мяне. Сам загінуў у Беларусі. А мой брат Віталь у ліпені сорак чацвёртага застаўся ляжаць у брацкай магіле ў Польшчы, пад Сувалкамі ў вёсцы Вярняйцэ, пахаваны з «отданием воинских почестей», як было напісана ў пахавальнай.

* * *

З раніцы нічога не паказвала на тое, што гэты дзень стане адным з самых чорных дзён майго жыцця. Ярка свяціла сонца, неба бла-кітнае, ні воблачка, ні хмурынкі. За акном чырыкалі вераб'і. Цвіў каштан. Бегалі тралейбусы, звінелі трамваі. Усё было як заўсёды, звычайны дзень. Колькі гадоў, нават дзесяткаў мінула, як скончылася вайна. Мірнае жыццё ў мірным, узнятым з руін, горадзе.

Ужо сыны мае былі вялікія. Старэйшы Юра вучыўся ва універсітэце, малодшы Пеця — у мастацкім вучылішчы. З работы прыйшоў Пятро з сябрам Аляксеем. Аляксей да гэтага сто разоў бываў у нас. А тут раптам папрасіў у мяне скрыпку.

— Я некалі іграў, можа, што ўспомню.

— Калі ласка, — не задумваючыся, што аддаю сямейную рэліквію, адказала я.

І сваімі рукамі аддала яму скрыпку.

Прайшоў час, і немалы, можа, год, можа, болей. Аляксей скрыпку не вяртаў. Я набралася смеласці і напомніла яму:

— Аляксей, калі вернеце скрыпку?

— Няхай яшчэ пабудзе ў мяне. Мне так добра на ёй іграецца.

— Ну, няхай пабудзе, — згадзілася я.

Зноў паляцелі месяцы. Пры сустрэчах, а яны надараліся ў Саюзе пісьменнікаў, я заўважыла, што Аляксей стаў пазбягаць мяне. Я нічога не разумела. Пакуль мне не растлумачыў Пятро:

— Аляксей даў сыну Колю скрыпку, а той яе паламаў. Ні адзін майстар не бярэцца яе правіць.

— Дык няхай мне паламаную аддасць. Мне ж перад маім бацькам сорамна. Гэта ж яго інструмент.

— Забудзь ты пра тую скрыпку!

— Як гэта «забудзь»?

Ён развёў рукамі:

—Наўрад ці ты яе вернеш.

— Скрыпка перажыла Першую сусветную вайну, рэвалюцыю, грамадзянскую вайну, айчынную. А цяпер жа мірны час.

— Я сказаў тое, што думаю.

Месяцы ўжо зноў складваліся ў гады. У Аляксея клопаты — пераезд на новую кватэру з плошчы Перамогі на Пуліхава. Калі ён уладкаваўся на новым месцы, я яму пазваніла:

— Аляксей, дзе мая скрыпка?

— Галя, не сярдуй, я яе пакінуў у падвале старой кватэры.

— Як гэта пакінулі?

— Хіба табе Пятро не гаварыў, што яна паламаная?

Пазваніла на яго старую кватэру. Трубку ўзяла мая знаёмая Лена, адказала:

— Ніякай, ні цэлай, ні паламанай скрыпкі ў падвале не было.

Яшчэ прабег час, і таксама немалы. Пятро аднойчы сказаў мне:

— Быў у Аляксея, бачыў скрыпку. Сапраўды ладна-такі паламаная.

— Чаму ж ён мне гаварыў няпраўду?

— Ну, такую сорамна аддаваць, а можа, яшчэ спадзяецца знайсці добрага майстра, тады будзе нечаканая радасць.

Ужо я старалася не сустракацца з Аляксеем. Хаця зразумець яго не магла: інтэлігентны, пісьменнік, тонка разумее душу чалавека. І раптам такое...

Адной раніцы Аляксей, як звычайна, прыйшоў на работу. А за яго сталом сядзіць чалавек і кажа:

— Я дырэктар.

Хто такое вытрымае ў салідным узросце?

Яго сэрца і здало. Не стала Аляксея.

Доўга, можа, год, можа, болей я ім не званіла, разумела, у яго доме не да мяне. Аднойчы ж не вытрымала і папрасіла да тэлефона Ніну, удаву Аляксея. Спытала пра скрыпку.

— Галя, пра што гаворка. Прыйдзі і забяры.

А ў мяне запаленне лёгкіх. Трапіла ў бальніцу. Пасля бальніцы пазваніла — ніхто не адказаў. Настала лета, і ўсе былі на дачы...

Нядаўна я пазваніла сыну Аляксея. Такая адбылася размова:

— Мікалай Аляксеевіч, гэта Васілеўская. Я хацела б забраць сваю скрыпку.

— Ніякай скрыпкі ў нас няма і ніколі не было. Навошта нам скрыпка. У нас не музычная сям'я.

— Бацька ваш гаварыў, што гэта вы яе паламалі, а мама ваша гаварыла мне: «Прыйдзі і забяры».

— Пяць гадоў да смерці яна ўжо нікога не пазнавала.

— Як гэта не пазнавала, калі пазнала мяне, па імені назвала, нармальна размаўляла са мною.

Ён трошкі падумаў, потым сказаў:

— На дачы ў шуфлядцы бацькавага пісьмовага стала ляжыць кавалак смычка, паліраваны кавалачак тонкага дрэва. А скрыпкі ніякай не было.

— Значыць, я гавару няпраўду?

Маўчанне.

І я зразумела: ён выкінуў яе на сметнік.

Вось і ўся гісторыя.

Пасля гібелі брата Віці, а потым смерці бацькі — не стала ў нашай сям'і прозвішча Скрыпко.

Не стала і скрыпкі.

А можа, на свеце яе трымала прозвішча?

# НА КРАІ

Праз незашторанае акно ў пакой зазірае поўня. Гляджу на яе, стараюся ўбачыць, што там сёння адбываецца, на гэтым срэбным шары. Бо кожны раз, у залежнасці ад настрою, бачу іншы малюнак. Цяпер мне здаецца, што там, у начным чорным асеннім небе, выразна відаць, як змагаецца нешта цёмнае з нечым светлым...

У палаце нас — двое. Суседка, таксама сардэчніца, варочаецца на ложку, уздыхае. Яна маладзейшая за мяне, але і ў яе букет хвароб. Яны ёй спаць не даюць? Яны трывожаць?

Пра свой букет думаць не хачу. Ганю прэч такія думкі. На голы лес. Мне чамусьці ўспамінаецца не толькі маё жыццё, як звычайна бывае, калі не спіцца ў салідным ужо ўзросце, а жыццё маёй матулі.

...Помню, ляжала яна вельмі хворая ў маім пакоі, на маім ложку, а я сядзела побач, трымала яе руку ў сваёй, гладзіла і слухала, слухала.

— Ты думаеш, я пражыла амаль восемдзесят гадоў — і гэта многа? А я і не заўважыла, як жыццё праляцела. Ніколі не жыла для сябе, не было часу, усё клопаты, клопаты... Спачатку дзеці былі маленькія, думалася тады: пастаўлю вас на ногі і пажыву для сябе. Вы пайшлі ў школу. Ты вучылася лёгка, а Віця — хлопчык. Усе яго равеснікі ў вайну гулялі, драўлянымі шаблямі размахвалі, і ён з імі... — Яна ўсміхнулася. — Разоў дзесяць глядзеў фільм пра Чапаева, спадзяваўся, што той выплыве... А я баялася, каб сын у якую бяду не трапіў, каб што з ім не здарылася. Трывога за яго не пакідала мяне ніколі... Потым вайна, загінуў Віця, і маё жыццё спынілася... Потым адно чаплялася за другое... Ты не думай, я не скарджуся, толькі, можа, я не так жыла?

Думкамі яна ўся ў мінулым...

Голас слабы, размова льецца-цурчыць, як ціхі ручай, яна закалыхвае сама сябе і засынае. Баюся падняцца, каб не разбудзіць, бо сон ёй вельмі патрэбны. Гаючы сон.

Ведаю, здагадваюся, што яна магла, хацела напомніць мне далей. Бо жылі мы амаль увесь час разам.

...Калі за сувязь з партызанамі, у лютым 1944-га, фашысты арыштавалі брата Віцю, яна кожную раніцу, як на працу, хадзіла шукаць яго. Бо не ведала, хто арыштаваў. Перад ёй, перад маці, адчыняліся ўсе дзверы, здавалася, самыя высокія, самыя глухія, самыя непрыступныя. Хадзіла, пакуль не знайшла яго ў СД. Дайшла да следчага, які вёў Віцеву справу. Размову вяла праз перакладчыка Анатоля. Аднойчы ён сказаў ёй:

— Вам пашанцавала. Следчы Вальтэр Ота не фашыст. Ён спартсмен, баксёр. У яго жонка фашыстка. Гэта яна яго ўладкавала працаваць у СД, каб не трапіў на ўсходні фронт.

Можа, на дзесятай сустрэчы ён паведаміў:

— Вальтэр перапіша ўсю справу вашага сына, нібыта ён сядзіць не за палітыку. За гэта падрыхтуйце 20000 нямецкіх марак.

Дзе ўзяць грошы? Ды столькі! Прадаваць ужо няма чаго. З аркушам паперы і алоўкам пайшла мама па суседзях. Ніхто не адмовіў. Давалі, хто колькі мог. Спіс атрымаўся доўгі.

Справу перапісалі, і не на аднаго Віцю, а на ўсіх, хто па ёй праходзіў. Брата хацелі адправіць у Германію. А мама не згаджалася. Ведала сына: уцячэ з цягніка, а вартавыя могуць застрэліць. Нарэшце ў чэрвені ён апынуўся дома.

Разумею, чаму следчы так рызыкнуў — ён ведаў, нашы ўжо зусім блізка...

Мінск быў вызвалены ад акупантаў 3 ліпеня. 7-га Віця пайшоў у армію.

На прызыўным пункце, які быў ля парка Чэлюскінцаў, набіраў рабочых прадстаўнік «Белпрампраекта», дзе тата працаваў да вайны і ездзіў з сынам летам у экспедыцыі. Ведаючы Віцю, ён прапанаваў яму бронь. Але брат адмовіўся, сказаў: «Пайду дабіваць фашыстаў». 27-га загінуў у Польшчы. У баі.

Мама доўга хварэла. Думала, не выжыве і вельмі баялася памерці, пакуль не разлічыцца з даўгамі. Паказвала мне, дзе ляжыць спіс.

— Дачушка, — гаварыла яна, — ты ж глядзі, як мяне не стане, разлічыся з кожным. Людзі аддавалі тады апошняе. Тыя грошы былі залатыя.

Гэты святы доўг памог ёй выжыць. І яна сама разлічвалася некалькі гадоў.

... Яна ставіла на ногі і аднаго майго сына, і другога. І не толькі ставіла. Пакуль я вучылася, пакуль працавала, ездзіла па камандзіроўках, душа мая была спакойная, дзеці з матуляй. А што ёй цяжка — пра гэта проста не думалася. Вінавачу сябе: была няўважлівая, была эгаістка. Матуля расплюшчыла вочы:

— Ты яшчэ тут? Добра, пасядзі са мной, мне лягчэй, калі ты побач. Як укол ад болю... Знаеш, а я нават сон сасніла зараз.

— І што ты ўбачыла?

Горкая ўсмешка кранула яе губы.

— Нібыта стаю я на краі высокай скалы, а перада мной бясконцае мора. Бліжэй да берага яно трывожнае, хвалі набягаюць адна на адну і з вялікай, магутнай сілай разбіваюцца аб скалу, толькі пырскі, як белы салют, ляцяць вышэй за мяне. А далей мора блакітнае здаецца нават спакойным і канца-краю яму не відаць. Далёка-далёка яно зліваецца з небам. І ўжо не разабраць, дзе мора, дзе неба...

Яна памаўчала. І раптам сказала тое, чаго я зусім не чакала:

— Не ведаю, ёсць Бог на небе ці няма яго. Калі ёсць, то ў мяне да яго просьба: за тое дабро, што я паспела зрабіць людзям, каб ён даў мне лёгкую смерць. Каб я не ведала, што паміраю. Каб заснула і ў сне памерла.

— Ну, пра што ты гаворыш? — абурылася я. — Ты паправішся. Доктар мне гаварыў. І мы з табою пажывём яшчэ не адзін год.

Яна ківае галавой:

— Пажывём, пажывём...

У словах нявер'е. Таму і ўспомніла Бога. А я думаю пра яе дабрыню. Яна была ва ўсім, дабрыня: да людзей, да жывёл, да кветак, да ўсяго, што яе акружала, з чым сутыкалася. Асабліва да людзей. Многае забылася, бо было прывычным, будзённым, звычайным, а нешта ўрэзалася ў маю памяць...

## Даўжніца

Бяжыць час. Не, не бяжыць — ляціць, як куля, хутка і няўмольна...

Здаецца, толькі ўчора ў мяне дома прагучаў гэты тэлефонны званок. Толькі ўчора... А мінула больш за дваццаць гадоў. Тады яшчэ

жыла мая матуля, а гэты званок быў адрасаваны ёй: яе шукала жанчына, што пазваніла мне. Мяне аказалася знайсці лягчэй.

Я падняла тэлефонную трубку.

— Гэта Галіна Ануфрыеўна?

— Так, гэта я.

— Не можа быць! Не можа быць, каб вось так адразу вы мне адказалі. Я шукала вашу маму, вас усе пасляваенныя гады і не магла знайсці. Адраснае бюро адказвала: Марыя Адамаўна Скрыпко ў Мінску не жыве. І вы таксама.

— Яна жыве пад сваім дзявочым прозвішчам. Пасля вайны атрымала на яго пашпарт і не стала мяняць. Жыве з маім старэйшым сынам. А хто вы?

— Я Соф'я Фамінічна Бронская. Вы не помніце мяне?

— Чаму? Помню. А як вы мяне знайшлі? У мяне ж таксама другое прозвішча.

— Я зноў прыехала ў Мінск, бо жыву далёка адсюль, на Каўказе, з вельмі кволай надзеяй знайсці хоць каго-небудзь з вас. Я маміна даўжніца. Павінна разлічыцца з ёю. А сёння выпадкова сустрэла на вуліцы нашу агульную знаёмую мінчанку. Яна мяне пазнала і падказала, як знайсці вас. Проста не веру свайму шчасцю. Мама жывая яшчэ?

— Жывая. Можаце ёй пазваніць, — і я назвала нумар тэлефона.

Гэты званок ускалыхнуў маю памяць...

Першыя дні вайны. Фашысцкія самалёты, гружаныя бомбамі, пралятаюць над Грушаўкай і бамбяць Мінск. Мы чуем выбухі і бачым у небе дым ад пажараў. Мама не ведае, што рабіць. Тата ў Беластоку ў камандзіроўцы. У бабулі Мальвіны запаленне лёгкіх. Мне — чатырнаццаць, Віця — на два гады старэйшы. Мы не выключаем радыё, а яно гаворыць адно і тое: «Грамадзяне, заставайцеся на сваіх месцах. Вораг будзе адбіты». І іграе музыка. Гэта перадаюць некалькі разоў на дзень. (Потым, калі я, закончыўшы універсітэт, працавала на радыё, даведалася, што гэтыя словы былі запісаны на плёнку, і вартаўнік час ад часу ўключаў яе. Астатнія супрацоўнікі горад пакінулі.)

На пяты дзень з Беластока пешшу прыйшоў тата.

— Трэба ўцякаць. Хутка немцы будуць тут. Збірайцеся.

Мама, краўчыха, у роспачы:

— Куды я дзену чужыя адрэзы? Украдуць жа, калі пакінуць іх.

— Якія адрэзы? Жыццё ратаваць трэба!

— А што я людзям скажу, як прыйдуць?

Тата глядзіць на маму, як на ненармальную. Яна здымае са стала цырату і кладзе ў яе адрэзы.

— Віцёк, — просіць сына, — памажы мне занесці іх у хляўчук. Закапаем там... А тады ўжо пойдзем у бежанцы.

...Праверыўшы дакументы, немцы вярнулі нас у горад праз дзень. І пачалося жыццё ў фашысцкай акупацыі. Яго і жыццём назваць было цяжка, галоднае, халоднае і бясконца доўгае.

Аднойчы ў ліпені да нас пастукалі ў дзверы. Дзень быў шэры. З неба цякло, як з рэшата. На вуліцы ледзь не па калена ліпкая гразь. Каму ў такое надвор'е не сядзіцца дома? Мама адчыніла. У пакой увайшла, дрыжучы ад холаду, маладая жанчына ў лёгкім хатнім халаціку.

— Соня? Ці ты гэта?

— Я, Адамаўна, я.

Мама накінула ёй на плечы сваё паліто, каб яна сагрэлася, і пайшла на кухню распаліць прымус, заварыць гарбату.

Соня — студэнтка медінстытута. Жыла ў інтэрнаце па вуліцы Ленінградскай, 6, што ля вакзала. І мы там жылі ў пакойчыку, бо бацька надбудоўваў паверхі ў галоўным корпусе медінстытута. Пабудаваў, і нас выселілі на ўскраіну, на Грушаўскі пасёлак за год да вайны. Будучыя доктаркі і былі маміны заказчыцы.

Папіўшы гарбаты з мятай, Соня сагрэлася.

— Інтэрнат згарэў. Я выскачыла ў чым была, толькі і паспела схапіць сумачку з дыпломам, які атрымала перад самай вайной. — Яна выняла з сумачкі дыплом аб заканчэнні медінстытута і паказала маме. — На работу ўладкавацца не магу. Не вераць, што гэта мой дыплом, думаюць, чужы прысвоіла. І сапраўды, хіба можа такая зачуха быць доктарам?

Мамін твар асвяціла добрая шырокая ўсмешка:

— Сонечка, у мяне ж вашы два адрэзы ляжаць.

— Мае адрэзы? Вайна ж!

— Але адрэзы вашы!

— Адамаўна! Што вы гаворыце? Жыццё памянялася.

— Значыць, так — спрэчка закончана. Я вам пашыю сукенку і касцюмчык. І вы будзеце апрануты, як сапраўдны доктар.

Соня недаверліва паківала галавой:

— А чым я вам заплачу? У мяне ж нічога няма.

— Пра што вы дўмаеце? Разбагацееце, тады і заплаціце. Давайце я мерку здыму. У мяне ў галаве такія фасоны для вас — лялечкай будзеце. Прыходзьце заўтра на прымерку.

Наш абедзенны стол зноў, як да вайны, ператварыўся ў стол раскрою. Мама шчыравала. Мерала сантыметрам чорную шарсцяную тканіну, якая на маіх вачах ператваралася ў строгі касцюм. І зноў у пакоі застракатала швейная машынка «Зінгер». Мама аж памаладзела, седзячы за ёю.

Праз некалькі дзён Соня забірала абнову. Мама загарнула ў газету яе халацік і новую сукенку, а касцюм прымусіла надзець.

— Ну вось, цяпер вы прынцэса, — сказала мама, любуючыся маладой прыгожай жанчынай і сваёй работай. — Цяпер вам толькі прынца й не хапае.

Соня горка ўсміхнулася:

— Мне б з голаду не памерці ў гэты цяжкі час, — адказала яна, цалуючы маму, і выйшла з пакоя.

Мама таксама выйшла і доўга стаяла на вуліцы, гледзячы ёй услед...

## Калі адцвітала таполя

Белыя тапаліныя пушынкі плавалі ў паветры, садзіліся на галовы рэдкіх прахожых, збіраліся па краях лужын, і тады здавалася, што гэта не таполя цвіце, а снег упаў летам на зямлю з хмурнага неба.

Быў чэрвень сорак чацвёртага. У горадзе трывожна. Фашысты хапалі на вуліцах мужчын і адводзілі невядома куды. А ў бок Дома ўрада паўзлі вялікія, цяжкія машыны.

У адзін з такіх дзён да нас прыйшла дзяўчынка-падлетак — Мая Лазоўская.

— Мама сказала ісці да вас, што ў вас яна мяне знойдзе.

Амаль год назад усю іх сям'ю фашысты арыштавалі. Турма, канцлагеры...

Мама накарміла нечаканую госцю, запаліла ў печы, каб нагрэць вады, адмыць яе, спаліць лагерную адзежу, у якой, вядома ж, былі паразіты, частым грэбенем вычасаць хоць і кароткія, але густыя чорныя валасы.

І толькі пасля гэтага сталі слухаць яе расказ.

...У вялікі двор канцлагера па вуліцы Шырокай (цяпер Куйбышава, шпіталь), дзе да вайны выгульвалі коней, бо там былі канюшні, з раніцы наехала многа грузавых машын, крытых чорным брызентам. З баракаў, былых конскіх стайняў, сагналі вязняў. І вось ужо машыны, набітыя вязнямі, гатовы выехаць з двара, каб ехаць, як ім сказалі, у другі канцлагер.

З самага краю адной машыны сядзелі Мая, яе маці і пяцігадовая Ларыса. Бацька быў у другой машыне. Па двары лёталі тапаліныя пушынкі, і адну з іх злавіла Ларыса.

— Мама, глядзі, што ў мяне ёсць! Маленькі парасончык!

Яна разняла пальчыкі, вецер падхапіў пушынку і панёс. Ларыса заплакала.

— Не плач, я табе налаўлю іх многа. — Мая скокнула ўніз і пачала бегаць, лавіць пушынкі. Але вецер, нібы знарок, падымаў іх усё вышэй і гнаў да варот. Мая бегала за імі, падскокваючы, забыўшыся, што да варот падыходзіць строга забаронена.

Вартавы немец, што стаяў з аўтаматам, схапіў яе за руку, і не паспела яна спалохацца, як апынулася... за варотамі. Хацела вярнуцца назад, каб быць разам з усімі, стукала кулачкамі па жалезе, але пачула гучны голас немца:

— Wek! Wek!

Ад страху лягла ў канаву, каб яе не было відаць, і плакала.

Пачуўся гул матораў. Вароты расчыніліся, і пачалі выпаўзаць машыны. У адной з іх убачыла маму з Ларысай.

— Мама, што мне рабіць? — паспела крыкнуць.

— Ідзі да цёці Мусі. Мы цябе там знойдзем.

І яна прыйшла да нас...

Мама паклала яе на ложак, і Мая імгненна заснула. Прычыніўшы шчыльна дзверы пакойчыка, мы выйшлі на кухню параіцца. Як сказаць гаспадарам кватэры, хто яна?

Жылі мы ўжо на Паўночным завулку, бо пасля забойства Вільгельма Кубэ ўвосень сорак трэцяга ўсіх жыхароў выселілі з Грушаўкі. Нас пусцілі ў гэты маленькі пакойчык. Гаспадары днямі адсутнічалі, і ім патрэбны былі вартаўнікі, каб не абрабавалі.

Стукнулі веснічкі. Я глянула ў акно. На двор зайшлі два немцы.

— Мама, немцы!

Калі яны прыйшлі па вязня канцлагера, то нас усіх расстраляюць на месцы. Мы гэта разумелі. Віця і тата палезлі на гарышча. Мама кінулася да Маі, пачала будзіць:

— Дзетка, прачніся, лезь пад ложак, можа, шукаць не будуць.

А ў дзверы ўжо стукалі.

На наша шчасце, немцы ў хату не зайшлі. Яны спыталі толькі, ці ёсць у нас мужчыны. Мама адказала, што няма. І яны пайшлі. Былі нейкія разгубленыя.

Зноў стукнулі веснічкі. Мы падумалі, што вярнуліся немцы, а гэта прыехалі на машыне гаспадары. Убеглі ў дом, схапілі падрыхтаваныя загадзя клункі і, нічога не сказаўшы нам, выбеглі. Толькі пасля мы зразумелі: яны ўцяклі з немцамі...

Мы прыслухоўваліся, стараліся пачуць глухія, ледзь чутныя гукі далёкай кананады. Здагадваліся, радаваліся, што гэта нашы ідуць вызваляць Мінск. Як і ў пачатку вайны, горад гарэў. І цяпер яго палілі фашысты, палілі тое, што не паспелі вывезці. Тушыць не дазвалялі. Ды і не было чым. Воданапорныя вежы ўзарваны, у горадзе не было вады.

Ішлі дні. Бацькі па Маю не прыходзілі.

Па радыё перадавалі: «3 ліпеня ў 12 гадзін усе жыхары Мінска павінны з'явіцца на сход каля Дома ўрада, дзе будзе абвешчана важная навіна. Хто не прыйдзе — будзе расстраляны».

Трэцяга ліпеня ў шэсць гадзін раніцы Мінск быў вызвалены. Сапёры апусціліся ў сутарэнні Дома ўрада. Там былі бомбы, узрыўчатка. Ад іх цягнуліся шматлікія дроцікі да машынкі з ручкай.

Жыхары Мінска на сход не сабраліся. Нашы прыйшлі раней.

Маіных бацькоў не было. Цішком яна плакала. Мы суцяшалі:

— Можа, іх адвезлі ў другі горад, пешшу ідуць. Прыйдуць.

А яны ўсё не прыходзілі.

Аднойчы я пачула па радыё, што ўсіх вязняў з канцлагера па вуліцы Шырокай адвезлі ў Трасцянец і там палілі некалькі дзён...

Мы не верылі, усё спадзяваліся, што Маіны бацькі жывыя. А аднойчы праз спалены, разбураны горад пайшла я з ёй у той Трасцянец. Дарога здавалася бясконцай. Мы ўбачылі хлеў, дзе былі спалены людзі, асобна ляжалі рэчы, што не згарэлі: можа, хто пазнае. Мая падняла абгарэлы кацялок, глядзела на яго са страхам і стала белая, як снег. На кацялку нажом былі надрапаны ініцыялы: «І.Л.» — Іван Лазоўскі. Яе тата.

...Яна засталася жыць у нас. Вучылася ў школе. Паступіла ў маскоўскі інстытут, потым выкладала там. Кожнае лета, калі цвіла таполя, яна прыязджала да нас у госці. Маму маю называла мамай, а мяне — сястрой.

## Пра Андрэя

Мама хадзіла па суседзях, пыталася мо хто здасць пакойчык для сябра дзяцінства Пятра Васілеўскага — Андрэя Макаёнка. Ён будзе вучыцца ў партшколе і хацеў бы жыць недалёка ад нас. Дамовілася з адной гаспадыняй на нашым Паўночным завулку. І Андрэй пераехаў у Мінск.

Ён стаў бываць у нас кожны вечар. А ў нядзелю, акрамя Андрэя, прыходзіў Аляксей Кулакоўскі (сям'я ягоная жыла яшчэ ў вёсцы), які працаваў у рэдакцыі газеты «Сталинская молодежь» разам з Пятром Васілеўскім. Крыху пазней да іх далучыўся чацвёрты — Іван Шамякін. Было гэта ўжо летам 1947 года, Іван Пятровіч жыў яшчэ ў Гомелі, але часта прыязджаў у Мінск.

Усе яны былі маладыя, усе прайшлі фронт і ўсе, акрамя Шамякіна, былі параненыя. Андрэй ужо тады быў вельмі дасціпны расказчык. І што б ён ні расказваў, ён абавязкова прадстаўляў, кожны раз сам разыгрываў маленькі спектакль: гаварыў за кожную дзеючую асобу, мяняў голас, выраз твару... Ужо тады ў ім нараджаўся драматург.

Аднойчы Андрэй расказаў, як ён удзельнічаў у дэсанце ў раёне Феадосіі, як быў паранены — асколкамі яму пабіла абедзве нагі, як яго ўгаворваў хірург згадзіцца на ампутацыю, казаў, што другога выйсця проста няма. Дактары баяліся, што пачнецца гангрэна. І як ён, малады палітрук, з узведзеным пісталетам не падпускаў да сябе хірургаў. Крычаў:

— Застрэлю, а ногі адрэзаць не дам!

І гаварыў, што вельмі баяўся заснуць, каб у сне не забралі ў яго пісталет...

Расказваў так, што мы ўсе, хто слухаў яго, уяўлялі і той медсанбат, і тых хірургаў, работы ў якіх было па 24 гадзіны ў суткі і нават больш, і яго зусім, зусім маладога... На ягонае шчасце, на месца, дзе быў высаджаны дэсант, выпадкова сеў самалёт. Ён і адвёз Андрэя ў тылавы шпіталь, дзе яму рабілі бясконцыя аперацыі, каб выратаваць ногі.

Тады, у сорак сёмым, ён яшчэ накульгваў, але хадзіў на сваіх нагах.

Слухаючы Андрэя, матуля плакала і гаварыла яму:

— Добра, што так у цябе, Андрэйка, усё шчасліва скончылася. А мог жа памерці.

— А хіба гэта жыццё без ног!

— Жыццё. Яшчэ як жыццё!

Збіралася чацвёрка не проста так — прабавіць час. Яны чыталі свае творы і ім хацелася пачуць слова сяброўскай крытыкі. Крытыка сапраўды была сяброўская, хоць ад яе часам звінелі шыбы ў вокнах. Калі яны дружна крытыкавалі чый-небудзь твор, мне здавалася, што больш ніколі яны не збяруцца вось гэтак. Але праходзіў тыдзень і зноў усе былі разам.

Андрэй стаў чытаць свае аднаактоўкі, Кулакоўскі — апавяданні, Шамякін прыязджаў з Гомеля і чытаў першыя раздзелы рамана «Глыбокая плынь». Васілеўскі — аднаактоўкі і гумарэскі.

Мая мама, Марыя Адамаўна, была не проста добрая краўчыха, а — вельмі вядомая ў горадзе. Яна была адначасова і майстрам, і мастаком сваёй справы, сама прыдумвала фасоны ў залежнасці ад фігуры і ў яе не было адбою ад заказчыц. Потым на ўсё жыццё яны сталі яе сяброўкамі... Але ніколі і нікому яна не прызначала прыйсці на прымерку або забраць гатовае ў выхадны дзень. Гэты дзень належаў неразлучнай чацвёрцы. І яна рыхтавалася да сустрэчы з імі цэлы тыдзень. Яна шыла сукенкі і так размяркоўвала сваю работу, каб у суботу здаць заказ і атрымаць грошы. Потым ішла на базар і купляла прадукты на нядзельны абед... Бо ведала: прыйдуць маладыя, галодныя хлопцы, якіх трэба накарміць. І зноў тыдзень сядзела да ночы, не разгінаючы спіны.

Я ёй памагала — падшывала сукенкі і абмётвала швы...

— Ты бачыла фільм «Нармандыя-Нёман»? — спытаў у мяне аднойчы Андрэй.

— Бачыла.

— Песню ў фільме помніш?

— «В небесах мы летали одних...»?

— Гэту. Зможаш мне напець?

— Змагу.

І я пачала ціха напяваць. Андрэй уважліва слухаў, апусціўшы галаву. Ён так задумаўся, што не заўважыў, калі я перастала спяваць і здзіўлена глядзела на яго. Прайшоў нейкі час, падняў галаву, паглядзеў на мяне і спытаў:

— Чаму не спяваеш?

— Песня скончылася.

— Праспявай яшчэ.

— Ты ж не слухаў.

— Слухаў, яшчэ як. Праспявай, прашу.

Зноў пачала напяваць. І зноў ён вельмі ўважліва слухаў. Потым папрасіў запісаць яму словы. Села за стол, узяла аркуш паперы, пачала пісаць. Андрэй падышоў да акна і паверх фіранак глядзеў на вуліцу. У суседнім пакоі стракатала швейная машынка — мая мама шыла.

Была восень. Наш завулак з невысокімі драўлянымі прыватнымі дамамі нагадваў вёску, — летам патанаў у зеляніне. А цяпер лісце дрэў у садах ужо амаль усё асыпалася, яблыкаў таксама не было відаць, іх парвалі дзеці, не даўшы даспець. А бярозкі на вуліцы за парканам яшчэ залаціліся, яшчэ красаваліся, жылі. Дзьмуў вецер.

Я паглядзела на Андрэя і здалося мне, што ў тую хвіліну ён думаў, успамінаў свае Журавічы, сваю маці, якая адна гадавала яго малодшых братоў, а цяпер яшчэ гадуе маленькага ўнука, сына трагічна загінуўшай сястры Моці, бацьку, якога невядома дзе і як завірліла вайна...

Закончыла запісваць словы і не клікала Андрэя, не хацела перашкаджаць ягоным думкам. Ён раптам азірнуўся, падышоў і, беручы паперу са словамі песні, сказаў:

— Ёсць у мяне ідэя, толькі яшчэ не ведаю, з якога боку да яе падступіцца, як яе ўзяць за рогі... Але вазьму. Усё роўна вазьму... — Голас яго ўзмацнеў. — Я ім пакажу. — Ён сціснуў кулак.

— Каму?

— Потым дазнаешся...

Я забылася б зусім пра гэты выпадак, калі б праз некалькі месяцаў Андрэй не пачаў чытаць у нас сцэны з п’есы «На досвітку».

І тады я зразумела, што кулаком ён пагражаў... праклятым капіталістам.

Слухаючы п’есу, я ўсё чакала, што вось зараз нехта з герояў заспявае песню, словы якой я запісвала Андрэю. Але песні ў п’есе не аказалася. Я спытала ў яго:

— А дзе песня?

— Не спатрэбілася. Інакш павярнулася п’еса. Але ўсё роўна табе за дапамогу дзякуй.

П’есу паставіў у Акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы рэжысёр Канстанцін Саннікаў. Андрэй прысутнічаў на ўсіх рэпетыцыях, расказваў, як яны праходзяць, і вельмі хваляваўся. А перад прэм’ерай прыйшоў да маёй маці, пашаптаўся з ёй на кухні, яна схадзіла яшчэ да некага з суседзяў, вярнуўшыся, уручыла Андрэю цэлы пачак грошай на яго самы першы ў жыцці банкет пасля спектакля...

* * *

Надышоў мамін юбілей — восемдзесят. Мы з Пятром вырашылі адзначыць яго. Адчувалі, ён можа стацца апошнім. Падрыхтаваліся, запрасілі сваякоў, якіх яна любіла. І Адамчыкаў, з якімі мы ў той час шчыра сябравалі. Вячаслаў Уладзіміравіч не раз бываў у нас дома і заўсёды знаходзіў хвілінку пагаварыць з маёй мамай.

Застолле было шумнае, як бывае, калі збіраюцца блізкія людзі. Гучалі шанаванні юбілярцы, шчырыя, цёплыя словы і пажаданні ў яе адрас.

Каб жа гэта магло спраўдзіцца... Каб жа памагло...

Потым загаварылі пра яе ўнукаў. Пётр Савельевіч раптам падняўся з чаркай у руцэ, паглядзеў на нашых сыноў, Юрыя і Пётру, і сказаў:

— Я шчаслівы ад таго, што свае нарысы і артыкулы, якія я чытаю ў друку, мае сыны абодва пішуць лепей за нас, за мяне і маю жонку. Ура! — і выпіў чарку.

У знак згоды і салідарнасці з мужам я таксама са словам «Ура!» прыгубіла сваю чарку.

Усе дружна падтрымалі гэты тост.

У нейкі момант, калі ў пакоі стала больш-менш спакойна, раздаўся ціхі мамін голас:

— Адна, ізноў адна, як колас той у полі...

Яшчэ зусім малой я чула ад мамы гэты верш. Тады памятала болей, і мама прачытала яго ўвесь, а цяпер, калі пішу, ў памяці застаўся толькі адзін гэты радок: "Адна, ізноў адна"... Не ведаю, чый верш па памяці чытала мама, у каго з душы некалі вырваліся такія шчымлівыя словы...

Мама закончыла чытаць, і, амаль не прыпыняючыся, працягвала, толькі па-польску ўжо. Я ўбачыла найвялікшае здзіўленне на твары Вячаслава Уладзіміравіча. Калі мама замоўкла, Чэсь падняўся са свайго месца, падышоў, стаў перад ёй на калені і пацалаваў руку.

Мама ўспомніла вялікі кавалак з «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча, які вучыла яшчэ ў школе...

* * *

Праз паўтара месяца, на пачатку снежня, удзень яе не стала. Мая хворая старэнькая матуля заснула і ў сне памерла. Як прасіла ў Бога.

## СУСТРЭЧЫ З ПУШКІНЫМ

Было гэта ў 1987 годзе. Яшчэ існаваў Савецкі Саюз, і кожную вясну ў Маскве збіраліся дырэктары Бюро прапаганды мастацкай літаратуры рэспублік на ўсесаюзны пленум для абмену вопытам. На адным з такіх пасяджэнняў, у канцы свайго выступлення я заўважыла, што было б зусім нядрэнна, каб масквічы не толькі расказвалі, як у іх выдатна праходзяць усесаюзныя святы паэзіі: Пушкінскія, Някрасаўскія, Ясенінскія, а запрасілі б дырэктараў рэспубліканскіх бюро на гэтыя святы, каб мы паглядзелі, павучыліся, а потым пастараліся ў сваіх рэспубліках зрабіць нешта падобнае. Лепш адзін раз убачыць...

Неўзабаве, вярнуўшыся дадому, я атрымала персанальнае запрашэнне на Пушкінскае свята паэзіі на Пскоўшчыну. Папрасілі мяне

ўзяць з сабой аднаго паэта. І я прапанавала паехаць Дануце Бічэль-Загнетавай.

Усе госці збіраліся ў Маскве, а адтуль накіраваліся ў Пскоў.

Гледзячы ў акно цягніка на рускія краявіды, я думала, што зусім хутка буду хадзіць па сцежках, па якіх некалі хадзіў Пушкін, буду дыхаць тым самым паветрам, можа, нават дакрануся да якой-небудзь рэчы, якую ён трымаў у руках...

Толькі паспелі мы з Данутай уладкавацца ў гатэлі, як ужо трэба было спускацца ў рэстаран на абед. За сталом мы аказаліся ўдваіх. Напрыканцы абеду ўсім аб'явілі, што ў нас ёсць паўгадзіны на адпачынак, а потым адбудуцца сустрэчы з чытачамі, і зачыталі спісы, хто дзе выступае.

У абласную бібліятэку едуць маскоўскі паэт Сяргей Смірноў, рэктар Такійскага універсітэта, прафесар, паэт, які пераклаў на японскую мову вершы Пушкіна, Тэцуо Іенэкава, народны паэт Калмыкіі Давід Кугульцінаў, праўнук Пушкіна Рыгор Рыгоравіч Пушкін, а ад Беларусі... Галіна Васілеўская.

Я ехала на экскурсію. Выступлення дома не рыхтавала. А тут раптам... Ды яшчэ разам з такімі людзьмі і ў прысутнасці праўнука Пушкіна! Мне стала не па сабе. Прашу Дануту — пагуляй, а я паспрабую за паўгадзіны прадумаць, пра што мне гаварыць...

І вось — бібліятэка. Вялікая зала, поўная народу. На трыбуне — мікрафоны. Сяджу ў прэзідыуме, слухаю выступленні і з нецярплівасцю чакаю, калі ж убачу і пачую праўнука Пушкіна.

Японскі паэт выдатна валодае рускай мовай, і вывучыў ён яе, каб у арыгінале чытаць Пушкіна. Дорыць бібліятэцы томік вершаў паэта, якія ён сам пераклаў, і абяцае перакласці на сваю мову ўсё, што напісаў Пушкін.

Пасля яго выступаю я. І пачынаю гаварыць пра тое, што да Вялікай Айчыннай вайны наша сям'я жыла вельмі сціпла і бібліятэкі дома ў нас не было. Але на паліцы сплеценай з бамбуку этажэркі ляжалі два вялікія тамы ў светла-бэжавым скураным пераплёце, на якім быў выціснены профіль паэта і напісана: А. С. Пушкін. Гэта былі тамы з акадэмічнага шасцітомнага поўнага збору твораў паэта з мноствам каментарыяў. Купіла кнігі мая маці.

Я далучылася да Пушкіна, прыкіпела да яго сэрцам у раннім дзяцінстве, мне было тады ўсяго дзесяць гадоў. Я зачытвалася казкамі Пушкіна і гэтак палюбіла яго паэзію, што думала нават: навошта патрэбны другія паэты, калі ёсць Пушкін? Лепш за яго напісаць немагчыма, а горш пісаць навошта?

Не разумела я тады, што кожная эпоха, кожны час вылучае сваіх летапісцаў...

Пачалася вайна. На сёмы дзень Мінск быў акупіраваны фашыстамі. Разбураны бомбамі горад ляжаў у руінах. Ацалелыя мінчукі пракладвалі сцежкі між руін.

Наш дом на Грушаўцы не разбамбілі, на маё шчасце, засталіся цэлымі і два тамы Пушкіна. Іх ніхто не ўкраў, пакуль мы хадзілі «ў бежанцы».

Голад, холад, у горадзе гаспадарыць вораг, уводзіць свае парадкі, і самае распаўсюджанае слова пры новым парадку — расстрэл. Мне здавалася, жыццё скончылася.

Душу маю ратаваў Пушкін. Ён уводзіў мяне ў свой свет, свет казак, і трымаў там моцна. Чытаючы, я забывалася на тое, што адбываецца навокал. І пачынала верыць, што ўсё, чым жылі мы да вайны, вернецца.

Увосень сорак першага, у 14 гадоў, я напісала свой першы ў жыцці верш. Пачынаўся ён так:

У Лукоморья дуб свалило,
Златую цепь грозой разбило,
А Кот? — Он с грустью вспоминает
О том, что было. Но он знает:
Все, к чему так сердце бьется,
Не может вдруг уйти, вернется!..

Пушкін стаў для мяне тады сімвалам Радзімы. А вера ў тое, што ўсё абавязкова вернецца, памагла выжыць...

Першыя казкі, якія я потым чытала сваім сынам, сваёй унучцы, былі казкі Пушкіна. У сэрцы кожнага чалавека жыве свой бог. Мой бог — Пушкін. Я нізка кланяюся яму і зямлі, дзе спачывае ягоны прах...

Маё выступленне было апошняе, бо праўнук Пушкіна ў бібліятэку не прыйшоў.

За вячэрай, на маю вялікую радасць, высветлілася, што мы з Рыгорам Рыгоравічам і яго юнай дачкой Юляй сядзім за адным сталом. Яны прыехалі наступным цягніком.

Мы з Данутай не маглі не запрасіць нашчадкаў Аляксандра Сяргеевіча да нас у нумар, тым больш, што з сабой у нас быў штофік «Белавежскай». Запрасілі яшчэ маладога пскоўскага паэта Уладзіміра Палоўнікава і правялі незабыўны вечар.

Рыгор Рыгоравіч Пушкін расказаў, як у час вайны ён, савецкі разведчык, узяў у палон нямецкага афіцэра. Калі афіцэру сказалі, што яго паланіў праўнук Пушкіна, той не паверыў і папрасіў паказаць яму гэтага чалавека. Убачыўшы, толькі спытаў:

— Вы сапраўды маеце адносіны да паэта Пушкіна?

— Я — ягоны праўнук.

Немец глядзеў на яго так, нібыта перад ім быў сам Аляксандр Сяргеевіч.

І я ў той вечар углядалася ў твар нашага госця і шукала ў ім падабенства са славутым прадзедам. Гладка паголены твар, каротка падстрыжаныя цёмныя прамыя валасы. Хударлявы. Смуглы.

Ён усміхнуўся на маё маўклівае пытанне і расказаў, як аднойчы ў Маскве малады скульптар працаваў над помнікам Аляксандру Сяргеевічу. Ніяк не мог ён дабіцца падабенства. І тады папрасіў праўнука прыйсці да яго ў студыю. Там на яго надзелі кучаравы парык, прыляпілі бакенбарды, і стаў ён сапраўды падобным на прадзеда.

Потым рэй павяла Юля. Маладая, светлавалосая, абаяльная, яна іскрылася весялосцю, пікіравалася з Уладзімірам, жартавала так трапна, разумна, што ўсім было весела. А мне здалося яшчэ, што менавіта ў той вечар я больш зразумела, адчула як чалавека і маладога Пушкіна...

Чатыры дні, што мы правялі на Пскоўшчыне, праляцелі як адно імгненне. Свята было грандыёзным. Акрамя прадстаўнікоў усіх рэс-

публік Савецкага Саюза было многа іншаземных гасцей. Балгарыя, Чэхаславакія, Польшча, Румынія, Куба, Югаславія, Нікарагуа, Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка, Іспанія, Мексіка, Францыя, Японія прыслалі сваіх прыхільнікаў таленту Пушкіна.

Нарэшце я ўбачыла на свае вочы пушкінскае Лукамор'е, залаты ланцуг на зялёным дубе і, вядома ж, славутага мудрага Ката. Хадзіла па ліпавай алеі, пасаджанай яшчэ дзедам Пушкіна па маці — Восіпам Ганібалам. Ёй больш за 200 гадоў, і завецца яна цяпер «Алея Керн».

...Магутныя векавыя ліпы спляліся кронамі высока ў небе. Сонечны дзень самага пачатку чэрвеня. Але сонца ледзь-ледзь прабіваецца праз густыя вершаліны і рэдкімі залатымі плямамі падае на параслую травой алею. Па ёй хадзіў Аляксандр Сяргеевіч з Ганнай Пятроўнай Керн. Яны стаялі на Гарбатым мастку, глядзелі на люстраную паверхню сажалкі, акружанай серабрыстымі вербамі. А над імі спявалі птушкі. Цудоўнае, дзіўнае імгненне...

Была ў доме, дзе жыў Паэт, куды часта прыязджаў, бо тут, у цішы, добра пісалася. Бачыла дарагія, блізкія яго сэрцу рэчы: побач з камінам — рабочы стол, дзе ляжаў ягоны рукапіс, вытанчаны чарнільны прыбор, гусінае пяро, лямпа пад зялёным абажурам, мяккае крэсла з высокай спінкай, да якой можна было прыхінуцца стомленай галавой і думаць...

Міхайлаўскае... Трыгорскае... Пятроўскае... Пушкінскія Горы... Святагорскі манастыр і... святое месца на зямлі — магіла Паэта.

У апошні дзень — літаратурнае свята на знакамітай паляне Міхайлаўскага.

На сцэне — вялікі партрэт Пушкіна. Задумлівы позірк. Кожную хвіліну ён у творчасці, спяшаецца паспець напісаць свае бессмяротныя творы.

Вялізная паляна на шэсцьдзесят тысяч гледачоў. За сцэнай сосны ўрачыста падымаюць угору свае зялёныя свечкі. Справа ад трыбуны пушыстыя бярозы ледзь калышуцца пад ветрам. Бярозы, ліпы, сосны, елкі...

З раніцы было пахмурна і дзьмуў халодны вецер. Здавалася — не збяруцца людзі. Але суцэльныя цёмныя хмары развеяліся, неба стала блакітным, і толькі невялікія белыя воблачкі, вечныя вандроўнікі, паволньна плылі па ім. І — мора людзей.

Фанфары паведамілі пра пачатак свята... Збылося ўсё, пра што я магла толькі марыць...

Развітваючыся з праўнукам Пушкіна, я запрасіла яго, калі зможа, прыехаць у Мінск. І ён прыехаў. Нават не адзін. А з чалавекам, які 25 гадоў разгадваў пушкінскі выраз: «Дорожу именем моих предков»... Арыенцірам да пачатку работы паслужылі зноў-такі словы Аляксандра Сяргеевіча: «Как не открою страницу истории России, всюду Пушкины». Гэта Андрэй Андрэевіч Чаркашын, аўтар схемы-радавода Аляксандра Пушкіна. Ён не толькі праштудзіраваў «Гісторыю дзяржавы Расійскай», а і вывучаў летапісы і працы многіх вядомых рускіх гісторыкаў.

Калі у Камінная зале нашага Дома літаратара Чаркашын развесіў сваю схему, яна заняла ўсю сцяну. На схеме больш за тры тысячы імёнаў. А дадатак да схемы — 200 старонак спасылак і жыццяпісаў.

Я прадставіла праўнука Пушкіна — Рыгора Рыгоравіча Пушкіна. Ён сказаў некалькі слоў пра Чаркашына, інваліда Вялікай Айчыннай

вайны, які ў снежні 1941 года са стралковым палком выбіваў фашыстаў з Палатнянага Завода — сядзібы, куды прыязджаў сватацца Пушкін і дзе пасля гібелі паэта раслі яго дзеці.

Увесь астатні вечар расказваў Чаркашын.

Радня Аляксандра Сяргеевіча — і князь Дзмітрый Пажарскі, і фельдмаршал Кутузаў. У XXI калене сам Пушкін — нашчадак Аляксандра Неўскага. Дзве лініі ідуць ад Яраслава II: адна — да Пушкіных, другая да Беклемішавай — маці Дзмітрыя Пажарскага. А гэты князь праз той жа род звязаны з Кутузавым.

Сяргей Львовіч Пушкін, бацька паэта — стрыечны дзядзька сваёй жонцы — Надзеі Восіпаўне Ганібал. А свайму сыну — Аляксандру Сяргеевічу — маці была і «чацвераюраднай» сястрой.

У XI калене Наталля Мікалаеўна Ганчарова (праз род Пушкіных) — сястра свайму мужу і пяціюрадная сястра Лермантаву. У тым жа XI калене Пушкін і Лермантаў — браты.

Род Пушкіных мае больш чым тысячагадовую гісторыю. І ніхто з іх не запляміў гонар прозвішча, гонар роднай зямлі.

Нашчадкі Пушкіна жывуць у Англіі, Германіі, Японіі, Грузіі і, вядома ж, у Расіі. Былі яны і ў Беларусі: у Бабруйску, у Лідзе, у Навагрудку...

Пасля сустрэчы ў Саюзе пісьменнікаў я запрасіла маскоўскіх гасцей да сябе дадому. І паказала праўнуку Пушкіна тыя два тамы Аляксандра Сяргеевіча, купленыя маёй маці пяцьдзесят гадоў назад. Рыгор Рыгоравіч узяў ручку і зрабіў наступны запіс: «На память Галине Ануфриевне. От всего сердца желаю Вам здоровья и благополучия. Григорий Пушкин, правнук А. С. Пушкина. 18.01.88 г.».

На вялікі жаль, пра гэта ўжо ніколі не даведаецца мая маці. А яна хоць трошкі была б шчаслівая.





## НАВУМ ГАЛЬПЯРОВІЧ

* * *

Захавай маю мову, чарговы наш век,
Захавай, як лясы, сенажаці, азёры,
Як світанне ў расе, як сцяжынку ў траве,
Як у жніўнай начы адзінокія зоры.

Гэтай мовай я словы любові шапчу
Да жанчыны, да краю, адзінага ў свеце,
Да ўсяго, чым я смутак асенні лячу,
І надзею ў душы зноў спялю на дасвецці.

Захавай маю мову для родных маіх,
Захавай не як памяць, а кветку жывую,
Захавай маю мову, як зрок і як слых,
Як мелодыю свету, якую я чую.

* * *

Я смутак, быццам птушку,
Схаваю ад людзей
І буду ціха гушкаць
Святло сваіх надзей.

Туга мая, як рана,
Загоіцца ізноў,
Бо паміраць нам рана
І час наш не прайшоў.

Яшчэ кахаць нам можна,
І век наш малады...
Дык што ж тады трывожна
І вусцішна тады?

* * *

Я той звыклы расклад не парушу,
Што стварыўся прыродай самой:
У суладдзі заўсёды быць мушу
З небам, птушкамі, лесам, травой.

З сонцам тым, што праз хмары праб'ецца,
З першым ранішнім зыркім святлом...
Пакланюся таму, што было,
І што будзе, і што застанецца.

## ВАДА

У чорнай бездані вады,
Што з вёслаў капае рыплівых,
Майго мінулага сляды
І час, бясконцы ды імклівы.

Плывуць па возеры кругі,
Нябёсаў пахмурнее позірк,
Нібыта душ, мне дарагіх,
Штохвілі адчуваю позвы.

І адступаецца бяда,
Надзея хоча нарадзіцца...
І толькі ціхая вада
У твар мой сцішаны глядзіцца.

* * *

На марозе ссівелі ажыны,
І, згубіўшы жанчын і сяброў,
Я блукаў па бясконцых сцяжынах.
І цябе нечакана знайшоў.

Свет змяніўся. І дзіўнаю сілай
Загарэлася сонца ўгары...
Ты нічога ўзамен не прасіла,
Я нічога ўзамен не дарыў.

Толькі ўведаў: усё, што мне трэба,
Узляцеўшы над роднай зямлёй, —
Светлай долі і чыстага неба,
І пяшчоты надзейнай тваёй.

* * *

Убачу зноў: ля ціхай рэчкі
За той фабрычнаю трубой
Аблокаў белыя авечкі
Спяшаюцца на вадапой.

А поўдзень светлы і высокі!..
І ў гэты момант на зямлі
Ёсць толькі вечнасць і аблокі,
Што ў сінім небе паплылі.

* * *

Каб сустрэцца, нашыя імёны
Па вірлівых крочылі шляхах...
Восень. Полацк. Помнік Сімяону,
І святло пяшчотнае ў вачах.

Бо, каб не згубіцца ў паняверцы,
Мне тады мой горад нагадаў,
Што аднойчы знойдзе маё сэрца
Тое, што я ўсё жыццё шукаў.

Каб адсюль, сабраўшыся ў дарогу,
Несці зноў праз новыя гады
Пахвалу святлу, каханню, Богу,
І адхланне мрояў маладых.

* * *

Прытуліся ціха да мяне,
Я цябе пяшчотай адагрэю.
Сёння ты — адзіная надзея,
Што даўно прымроілася ў сне.

Сёння ты — адзіная віна,
Сёння ты — адзінае адхланне.
І маё шчымлівае прызнанне
Аб'яднала таямніцай нас.

У маёй руцэ твая далонь
Птушкаю даверлівай трапеча...
Не сумуй: пакуль яшчэ не вечар
І не згас для нас жыцця агонь.

* * *

Апошняе каханне, бы восеньскі туман —
Здаецца, прыйдзе дзень, і ўжо яно растане.
Апошняе каханне — спакуслівы падман
Перад сівой зімою, перад глухім расстаннем.

Апошняе каханне — салодкае, як мёд,
Пяшчотнае, як свет, спакуснае да згубы,
Балючае, як рана, танюткае, бы лёд,
І горкае да слёз, як ціхі выгук «любы».

Апошняе каханне — апошняя віна,
Апошняе віно, апошняя надзея.
Апошняе каханне — апошняе для нас,
Калі світальны золак на небе заірдзее.





**УЛАДЗІМІР ДАМАШЭВІЧ**

# КРАЙНЯЯ АВЕЧКА

*Апавяданне*

Усё пачалося з таго, што Зініна маці прывяла аднойчы ў іх хату прымака — хударлявага невысокага мужчынку гадоў сарака па прозвішчы Сучкоў. Зіну гэта не надта здзівіла, бо яна ўжо ведала: да яе маткі, даяркі з вялікім стажам, паходжвае новы тут чалавек, нейкі прышлы дзядзька, які хадзіў заўсёды з палявою ці кірзаваю сумкаю з доўгаю вочапкай, якую ён наматваў сабе на руку, а як трэба было адбівацца ад вясковых сабак, дык адпускаў вочапку і пускаў сваю сумку ў ход. Дзеці адразу ахрысцілі яго Сучкаю па сугуччы з прозвішчам, і мянушка як прыкарэла да яго. Нават з-за гэтай мянушкі, а мо па якой іншай прычыне, але Зіне гэты дзядзька Міхей адразу не спадабаўся. Быў ён маўклівы, насуплены, як нечым пакрыўджаны. І позірк яго маленькіх цёмных вачэй з-пад кусцістых броваў быў пранізлівы, звераваты, а прыгнуты да верхняй губы касцісты нос яшчэ больш даваршаў малюнак чалавека нелюдзімага, заўсёды насцярожанага. Як маці магла знайсці ў гэтым чалавеку нешта добрае, цікавае, Зіну вельмі здзіўляла.

Хоць, з другога боку, яна вунь ужо колькі гадоў жыве ўдавою, яе муж і Зінін бацька Іван Саета загінуў у аварыі, калі кіраваў трактарам і сутыкнуўся з самазвалам. Потым казалі, што ён быў п'яны, а так ці не так гэта было — хто ведае? Ва ўсякім разе, пенсію за карміцеля атрымлівае меншую, чым калі б бацька загінуў цвярозы. Зіне тады было дванаццаць гадоў, яна вельмі балюча перажыла смерць бацькі, нават вучыцца стала горш. Пры бацьку яна збіралася скончыць школу і паехаць паступаць у інстытут, яе цікавіла медыцына, хоць яна ведала, што паступіць туды вельмі цяжка, казалі, трэба мець шмат даляраў. А дзе іх возьмеш, тых даляраў, калі і рублёў не хапала?

Таму на навуку яна махнула рукою — скончыць школу, а потым пойдзе да маткі ў памочніцы. Сілу ў сабе яна ўжо адчувала, вырасла ладнаю дзяўчынаю — і станам, і з твару паглядная: высокі лоб, дужкамі бровы, кірпаты спрытны носік, поўныя круглыя вусны, пад кофтачкай цесна маладым крамяным грудзям. Ужо заўважала, што на яе сталі заглядацца хлопцы. Што хлопцы? Калі нават айчым Сучка неяк непрыкметна перамяніўся да яе: з суровага і насупленага, які і слова

ласкавага да яе ніколі не сказаў, стаў нейкі надта лагодны, уважлівы да яе, асабліва за сталом у часе абеду ці вячэры, бо раніцай у іх хаце кожны снедаў асобна — кожнаму была свая пара ісці на працу: матцы на ферму рана-рана, айчыму ў калгас, дзе ён быў нейкім начальнікам ніжэйшага звяна — «загадваў» тэхнікай бяспекі на машынным двары і ў майстэрнях — недзе ў гадзін сем-восем, а ёй, Зіне, у школу пазней за ўсіх, і яна ўжо стала прывыкаць да такога распарадку, ён ёй падабаўся. І дзіўная рэч: калі айчым адыходзіў на працу, ён амаль кожны дзень не забываў ёй сказаць — яна яшчэ ляжала ў пасцелі — некалькі слоў наказу. Маўляў, яечня накрыта ў печы злева, кашу запраў маслам, кіслае малако ў халадзільніку, і не забудзь грошы на абед у школу.

А вось да маткі ён стаў неяк непрыкметна мяняцца — і ў горшы бок. Зіна не ведала, ці заўважае гэта маці, ці адчувае сваім чулым сэрцам, але яна сама на вачах мянялася як да свайго новага мужа, так і да сваёй дачкі. Чаго добрага, яны, маці і дачка, яшчэ гатовы стаць саперніцамі!

Зіна дагэтуль мала думала пра свайго айчыма, яна яго проста не заўважала, нібы яго ўвогуле тут у іх не было. Але зусім нядаўна адбыўся выпадак, які прымусіў яе глянуць на яго новымі вачыма. Яна вярталася з фермы, дзе дапамагала матцы даіць кароў, і па дарозе трапіла пад дождж — нейкі такі нечаканы, раптоўны і надта спорны, што не паспела нават куды-небудзь схавацца, як прамокла да ніткі. А была яна ў лёгкай паркалёвай сукенцы з кароткім рукавомю. «Дык меней вады будзе», — пажартавала з самое сябе.

Прыйшла дадому, гэта недзе пася палудня, зайшла ў свой пакой, каб пераапрануцца: ледзь садрала з сябе прыліплую да голага цела сукенку, скінула і трусікі, і зусім голая, бо станіка яшчэ не насіла, маладыя грудзі трымаліся самі, без падпорак, — выйшла са свайго пакоя, каб узяць у шафе ручнік: галава, трэба было адразу з яго пачынаць!

Яна адчыніла шафу, стала шукаць ручнік, і тут раптам нехта ззаду абхапіў яе — адной рукою за жывот, а другою — за грудзі, моцна прыціснуў да сябе, захіхікаў неяк непрыемна-штучна, па-змяінаму. Яна адразу пазнала айчыма — па яго перагарным паху, па гэтым нялюдскім хіхіканні, і спалохалася, бо не чакала, што ён ужо дома і, галоўнае, што ён на такое здольны. Яна ўскрыкнула ад крыўды і агіды, рэзка павярнулася і правым локцем нечакана для сябе так стукнула нахабніку ў пераноссе, што той адляцеў ад яе, войкнуў ад болю і схапіўся за нос — адтуль адразу хлынула кроў.

Зіна і сама спалохалася сваёй смеласці, але тут жа супакоілася: так яму і трэба, старому тхару! Улез у чужы куратнік, і яшчэ яму маладую курачку падавай. А хваробу ў бок! А дулю ў нос! А локцем — у нос!

Маці пра гэтае здарэнне рашыла не расказваць, каб не псаваць ёй нерваў. Але дарэмна — ён расказаў першы, каб апярэдзіць Зіну, бо яна раскажа ў сваю карысць, а ён — у сваю: што ён хацеў Зіне ўслужыць, падаць ручнік — а яна стукнула яму за гэта локцем у нос, спусціла кроў. Вось якая ў цябе дачка, Антаніна! Хіба ён дрэнна да яе адносіўся, хіба калі пакрыўдзіў? Ніколі такога не было! І вось яна заплаціла за яго дабро!

«Каб тваё дабро ды табе ў рабро», — казала сабе Зіна пасля таго, як пачула ад маткі скаргу айчыма. Яны разам трохі пасмяяліся з усяе

гэтай гісторыі, але маці раптам стала сур'ёзная, задумалася і сказала дачцэ, каб асцерагалася айчыма, бо ён можа яшчэ нарабіць бяды. Якой бяды, маці не сказала, але Зіна не малая, каб здагадацца, што маці разумее пад бядою.

Той эпізод адразу падзяліў айчыма і Зіну нябачнаю сцяною адчужанасці, якая была і раней, але не такая, як цяпер, калі ён адкрыта як бы не хацеў яе заўважаць — нібы яе зусім не было. Дзіўна, што ў маці такія адносіны да яе дачкі зусім не выклікалі пратэсту ці вялікага здзіўлення: хай будзе лепш адкрытая варожасць, чым нейкае там заігрыванне, нейкія прыхаваныя хітрыкі, якія могуць невядома чым скончыцца. Хоць і так яшчэ невядома, ці даруе гэты чалавек такую абразу нейкай там яшчэ зялёнай Зіне. Хоць прозвішча яе не простае, шмат пра што гаворыць: «Адзін ходзіць у саеце, у золаці з плеч да ног», — сказана ў вершы Францішка Багушэвіча, беларускага песняра. Саета — казаў настаўнік беларускай мовы Тазура, — гэта тонкае дарагое сукно, часцей за ўсё прывазное, хутчэй ангельскае — яны ўмеюць, як ніхто іншы, ткаць розныя сукны. А колер можа быць самы розны — сіні, зялёны, чырвоны або белы. Некалі нехта з іх роду ці хадзіў у гэтым саеце, ці купляў яго ды прадаваў іншым, ці ўвогуле меў дачыненне да гэтага сукна, што яго назва прыляпілася да іх роду, стала прозвішчам. Зіна ўжо не раз збіралася заняцца пошукам сваіх каранёў, ды ўсё не стае часу. Ды і дзе ты тут у раёне знойдзеш патрэбныя кніжкі, з якіх дазнаешся праўду? Гэта трэба ў сталіцу, там вунь колькі бібліятэк! Вось як яна стане студэнткай, тады ўжо абавязкова дакапаецца да каранёў свайго роду. Ды і яе імя, казаў настаўнік, не такое ўжо простае, як здаецца на першы погляд, бо ідзе ад Зянона, патомка Зеўса ці народжанага ад Зеўса, — адным словам, мае грэцкія карані, ды яшчэ вунь якія — ад самога бога багоў Зеўса.

Са страхам Зіна думае пра тое, як будзе паступаць у педінстытут, каб стаць настаўніцай. Так ёй раяць сябры, так ёй раіць настаўнік беларускай мовы і літаратуры. У яе ёсць нешта такое, што прыцягвае да сябе: ёсць нейкія флюіды, ці як іх там зваць, але яна ўмее знайсці хоць што агульнае з любым чалавекам, — і сабе роўным, і старэйшым за сябе, і з малым дзіцем, — і гэта выглядае ў яе вельмі проста, нязмушана — і вельмі натуральна.

Школу яна скончыла добра, у атэстаце адны пяцёркі і чацвёркі, але ўсё роўна страшна, бо вясковая школа — не тое, што гарадская. Там і настаўнікі больш «падкаваныя», чым вясковыя, там і вучні менш занятыя ўсялякімі сямейна-гаспадарчымі клопатамі, як яны тут у вёсцы, там у іх больш часу як на вучобу, на самастойныя заняткі, так і на адпачынак. Калі яна, Зіна, ходзіць у бібліятэку? Раз у тыдзень ці ў два, каб памяняць кніжкі. А каб пасядзець там у чытальні, пакапацца ў гэтых залежах, у гэтых скарбах, што назбірала за вякі чалавецтва, — на гэта ў яе не стае часу, бо чакае маці, чакае гаспадарка, хоць і невялікая, а клопату, догляду патрабуе шмат. Дык хіба можа яна ведаць тое, што ведае гарадская дзяўчына, у якой ёсць усе ўмовы, каб быць на ўзроўні сённяшняга дня? Не, яна адчувае сваю шэрасць і таму баіцца. Але нічога, паспрабаваць трэба. Не паступіць сёлета, дык будзе паступаць праз год. Так робяць цяпер шмат якія выпускнікі школы, бо з першага заходу не заўсёды ўдаецца, трэба мець практыку, хоць і невялікую. А ўвогуле з вёскі рэдка хто паступае ў інстытуты —

надта высокія патрабаванні, хоць вясковых вучняў часцей за ўсё ловяць на дробязях, якія для выкладчыкаў з прыёмных камісій здаюцца вельмі важнымі, напрыклад, як зваць гогалеўскага Чычыкава ці Тулягу з п'есы Крапівы «Хто смяецца апошнім».

Надышла сярэдзіна лета, Зіна паехала здаваць уступныя экзамены. Недалёка ад вакзала яе педагагічны інстытут, любата, не трэба далёка ездзіць і шукаць. Будынак высозны і вялізны, можна заблудзіцца. Цуд тэхнікі — ліфт, які закіне цябе на любы паверх, там правае крыло, левае, мноства класаў — аўдыторыяў. А моладзі — як пчол з патрывожанага вулля. Ля дзвярэй аўдыторый, дзе ідуць экзамены, кучкуюцца абітурыенты — тыя, што хочуць быць студэнтамі. Усе ўстурбаваныя, заклапочаныя, варухлівыя, кідаюцца то да аднаго, то да другога такога ж абітурыента, нешта распытваюць, часам спрачаюцца, нешта шукаюць у канспектах, у кніжках. Адны выходзяць з дзвярэй аўдыторыі спакойна, нават велічна — відаць, пашанцавала, здалі на выдатна; другія выходзяць са слязамі, асабліва дзяўчаты. Іншыя расказваюць пра свае беды, другія моўчкі адыходзяць далей ад людскога тлуму. Яе вельмі здзівіла, што ўсе яны гаварылі па-руску.

Зіна здавала роўна, на чатыры—пяць, як у атэстаце, але ўрэшце аказалася, што не дабрала два балы. Прапанавалі ісці на завочнае аддзяленне, яна згадзілася — усё ж такі ёсць зачэпка, ёсць надзея. Мо гэта яшчэ і лепш — будзе дома памагаць матцы на ферме. А можа, і знойдзе сабе якую працу, каб зарабіць хоць на вопратку і абутак.

Маці дома чамусьці не ўзрадавалася, што дачка будзе з ёю, і гэта Зіну здзівіла: няйначай, з-за айчыма. Яна баіцца за дачку, каб гэты стары курашчуп зноў не кінуўся на дзяўчыну.

Час пайшоў хутка — працы шмат, не паспееш азірнуцца, як тыдзень прамільгнуў. Запамінаецца толькі нядзеля, калі больш-менш можна адпачыць, схадзіць у бібліятэку ці на дыскатэку, сустрэцца з сяброўкамі, патанцаваць з якім хлопцам, калі не з сваёй вёскі, дык з чужой. Хлопцаў мала, але на нядзелю прыязджаюць да бацькоў з суседніх гарадоў, нават са сталіцы — студэнты, рабочыя, часцей за ўсё будаўнікі, якім у горадзе лягчэй знайсці працу.

І вось адзін з такіх будаўнікоў, бывалы хлопец, які адслужыў у войску і ўжо меў інтэрнат для нежанатых, Шульга Анатоль, кінуў пільнае вока на яе, Зіну. І ён таксама здаўся ёй неблагім хлопцам: рослы, бялявы, з прамым носам і лагоднаю ўсмешкаю на прыпухлых вуснах. Ён здаваўся ёй тым чалавекам, якога яна ў марах песціла ўжо некалькі гадоў, яна нібы вычытала яго з кніжак — і вось ён прыйшоў: рэальны, жывы, з моцнымі працавітымі рукамі, упэўнены ў сабе, але разам з тым і далікатны, нават сарамяжлівы, нясмелы з ёю, паслухмяны, як добра выхаванае дзіця. Вясковыя хлопцы, якія пабылі ў горадзе, нахапаліся «гарадское» культуры, праўдзівей, яе «вяршкоў» — пераважна нахабства і развязнасці, сустракаліся ўжо ў яе такім яшчэ бедным на падзеі жыцці, але яна і блізка не падпускала іх да сябе, не хацела нават і знацца. Хоць некаторым вясковым дзяўчатам такія хлопцы нават вельмі падабаліся. «Лепш ніякага, чым такога», — гаварыла сама сабе Зіна. І вось яна дачакалася такога, каго чакала-жадала, пра каго марыла.

Яна некалькі разоў запрашала яго зайсці да іх, каб паказаць матцы, але ён аднекваўся, адкладваў на потым, а хутчэй за ўсё саромеўся.

Яны трохі больш асвойталіся, калі яна паехала ў сталіцу здаваць сесію на завочным у педінстытуце, а ён працаваў і жыў у сваім рабочым інтэрнаце на вуліцы Якуба Коласа, што за Камароўкаю. Але блізкасці між імі не было, Анатоль нават не рабіў для гэтага ніякіх захадаў, чым яшчэ больш спадабаўся Зіне. «А можа, гэта яго тактыка?» — думала часам Зіна. Яны іншы раз хадзілі ў кіно, на нешта большае ў яе не хапала часу — трэба было слухаць лекцыі, рыхтавацца і здаваць залікі і экзамены. «Ты станеш вучонаю, — сказаў ёй аднойчы Анатоль, — а я хто? Просты муляр, кладу цэглу. Ты мяне і знаць не захочаш». Гэтыя словы ён гаварыў ёй з нейкім унутраным болем, са смуткам, нібы ўжо і праўда прыйшоў той час, калі яна стала «вучонаю», а ён, просты муляр, застаецца адзін — яна яго кідае як сярод балота. Яна смяялася і гаварыла, што ніякая яна не «вучоная», проста будзе настаўніцаю малодшых класаў, носа задзіраць не збіраецца, ды і ён таксама можа вось так, як яна, паступіць на завочнае ў які будаўнічы тэхнікум, каб павышаць свой навукова-тэхнічны ўзровень. З чым ён згаджаўся, але нейк няпэўна, нібы яму нешта не давала рашыцца на такі крок. Як нехаця, ён урэшце прызнаўся ёй, што хацеў бы хутчэй ажаніцца, а потым ужо думаць пра вучобу. Бо ёсць вельмі добрая нагода: яго сябра, з якім ён жыве ў адным пакоі, ідзе ў прымы, як ён сказаў, да свае будучай жонкі, на яе жылплошчу, а на яго месца могуць пасяліць якога-небудзь хлопца, які чакае свае чаргі. Дык як можна прапусціць такі ўдалы момант? Яны павінны пажаніцца, каб у яго ў пашпарце стаяў штамп, каб ведалі, што ён забірае жонку на вольнае месца ў інтэрнаце.

Такое хуткае развязкі яна не чакала і нават спалохалася, бо пра такі паварот лёсу нават не марыла, яе займала толькі вучоба — каб яе найхутчэй скончыць, а тады ўжо думаць пра ўсё астатняе.

Яны абмеркавалі сітуацыю і дамовіліся, што праз тыдзень ён прыедзе да яе ў вёску прасіць дазволу ў маткі і айчыма на тое, каб Зіна выйшла за яго замуж. Прыедзе ён не адзін, а са сваім сябрам Андрэем Мацкевічам, які вызваліць для яе плошчу ў іхнім пакоі.

Тыдзень для Зіны прайшоў як у гарачцы. Яна хапалася за ўсё і не ведала што рабіць перш: думаць пра сябе — у што апрануцца, якую зрабіць прычоску, што абуць на ногі, ці думаць пра тое, як прыняць гасцей, як лепш прыбраць у хаце, каб не было сорамна перад хлопцамі, чым іх частаваць, каб ім спадабалася, каб было смачна, каб потым не абгаворвалі, што былі галодныя.

Яна ўвесь час раілася з маткаю, як рабіць і што рабіць, а тая супакойвала яе, казала, што да ўсяго трэба ставіцца спакойна, не кіпяціцца, а сама, па ўсім відаць, хвалявалася не менш за дачку. Маці загадала айчыму купіць гарэлкі, віна, сокаў і мінералкі, каб было чым запіваць. Сказала яшчэ засекчы вялізнага гусака, якога потым яны аскублі, а айчым асмаліў яго ў садзе між яблыняў, дзе стаяла калодка з убітаю ў яе сякераю.

Потым маці, памыўшы асмаленага гусака, сама разбірала яго, саліла і складвала ў вялікую каструлю, каб у суботу вечарам засмажыць мяса ў жароўні. Можна было сасмажыць яго цалкам, заклаўшы ў жывот цеста з яблыкамі, але на гэта трэба было б патраціць шмат часу, і Зіна ўгаварыла матку абысціся меншым — сасмажыць кавалкамі, без цеста і яблыкаў.

Хоць яблыкаў гэты год у іх было процьма — зарадзілі як на праяву, аж голле ломіцца. Але і клопату з імі нямала: вазіць здаваць на кансервавы завод, а там чарга — на паўвярсты. Ды і каня трэба выпрошваць у брыгадзіра, нібы гэта не конь, а золата. Цяпер гэтым займаўся айчым, ім, жанчынам, было лягчэй, яны толькі памагалі яму абіраць яблыкі, насыпаць мяшкі, ладаваць на воз, а здаваць вазіў ужо ён сам, без памочнікаў.

І вось субота, пачало шарэць. Маці ўзялася смажыць гусака на керагазе ў сенях, а Зіна выйшла ў сад — падыхаць настоеным на яблычным водары паветры, абдумаць заўтрашні дзень, нібы ад гэтага залежала, якім ён будзе і што ёй прынясе.

Вецер, налятаўшыся за дзень, прыціх, галіны яблынь не варушыліся, падрыгвала сям-там толькі лісце, як вушы ў сабакі, які спіць, але і ў сне чуйна ловіць гукі навакольнага свету. Яблыкі рэзка вылучаліся на фоне шэрай у змроку лістоты, паблісквалі сваімі крамянымі бакамі. Сад быў ужо даволі стары, яго садзіў яшчэ да вайны Зінін дзед Лявон, тады сам яшчэ малады. А з вайны ён вярнуўся кульгавы на левую нагу, але быў рухавы, увішны і працавіты, у вольную хвіліну любіў пагаварыць. Яго няма ўжо дзесяць гадоў, а за ім праз пяць гадоў пайшоў і бацька, і засталіся яны з маткаю ўдваіх, яна — удавою, Зіна — сіратою... Дзед Лявон любіў пагаварыць з ёю, малою, вучыў яе жыць, разбірацца ў людзях. Як сёння яна памятае яго наказ — ніколі не быць крайняю авечкаю. Бо крайняя можа хутчэй трапіць у якую бяду: або яе воўк схопіць, або гаспадару заманецца пасмакаваць бараніны, або злодзей які схопіць за карак ды ўкіне ў мяшок. Шыйся ў сярэдзіну, дзіцятка, не заставайся з краю — тады будзе зацішней у жыцці, — гаварыў дзед Лявон, пакурваючы сваю любімую люльку, з якой ніколі не разлучаўся. Цяпер гэтыя яго павучанні здаваліся трохі смешнымі, а калі добра падумаць, то і справядлівымі: крайняму заўсёды дастаецца першаму адчуць на сабе якую нечаканку. Але і за чужыя плечы ўсё жыццё не нахаваешся, трэба мець смеласць часам выйсці наперад, асабліва тады, калі ніхто не выходзіць. І калі выходзіць трэба, бо далей нельга трываць, нельга цягнуць і чакаць. Калі трэба абараняць праўду і справядлівасць...

Потым ёй падумалася, што з заўтрашняга дня яе жыццё можа змяніцца, што яна пакіне сваё гняздо, вылеціць з-пад матчынага крыла і паляціць у свет — у людзі. Было страшна нават падумаць пра такое, а што ж будзе яна адчуваць, як пераносіць сапраўдную ростань з любімым і адзіным родным чалавекам, якім стала для яе маці. Неяк усё гэта нечакана звалілася на яе галаву, хай бы ўсё тое, што павінна адбыцца заўтра, прыйшло праз які год ці два, калі яна акрэпне духам, падрасце маральна і фізічна, узмужнее, нават проста прывыкне да думкі, што так трэба, што гэта непазбежнасць, якая чакае кожную дзяўчыну — яна рана ці позна павінна стаць маці, каб не звёўся род чалавечы, каб не звяліся са свету беларусы, яе аднакроўныя браты.

Зіна перавяла вочы на чыстае неба — і жахнулася, перахрысцілася: якраз падала зорка, прачарціўшы на небе яркі, трохі загнуты хвост святла і знікшы назаўсёды: вось яна знічка — была і няма. Кажуць, што калі зорка патухла — чалавек памёр. А яшчэ кажуць, што зорка патухла — чалавек нарадзіўся. Чыя тут праўда? Хто можа праверыць? Але ж людзі так гаварылі нездарма — усё было праверана жыццёваю

практыкай: адны нараджаліся, другія — паміралі, на гэтым свет стаяў і стаяць будзе. Іншая рэч, што цяпер нараджаецца менш, чым памірае. Гэта ўжо бяда. Калі так будзе працягвацца, мы згінем, мы знікнем, як вось гэтая знічка. Гледзячы на яе, Зіна нават не паспела загадаць жаданне, хоць яно ўжо даўно жыло ў яе свядомасці: каб яе жыццё памянялася ў лепшы бок, каб яно набыло больш сэнсу, нейкай значнасці, вагі, нечага больш рэальнага, чым можна ганарыцца, радавацца, не баяцца заўтрашняга дня...

Нечакана яе роздум парушыла маці, паклікала ў хату. Зіна нехаця пайшла, бо так хацелася пабыць яшчэ адной. У сенях моцна пахла смажаным мясам, заўтрашняю закуссю для гасцей. Але яна не знайшла ў сабе ніякай радасці ці нават задаволенасці, а адчувала стомленасць і нават абыякавасць да таго, што будзе заўтра, — відаць, таму, што шмат пра гэта думала, шмат хвалявалася — загадзя. А трэба хвалявацца тады, калі трэба. Крайняя авечка не хвалюецца — яна не думае, што яна крайняя і яе можа схапіць воўк. Зіна — авечка, Анатоль — воўк? Не, відаць, да іх гэта не падыходзіць, бо тут не будзе ахвяры і злыдня, яны будуць роўныя — перад людзьмі і перад Богам.

Лёгшы ў пасцель, Зіна не магла доўга заснуць. Як ні дакарала сябе, а ўсё роўна думкі круціліся вакол заўтрашняга візіту Анатоля і яго сябра. Яна перабірала розныя варыянты сустрэчы, як яна будзе паводзіць сябе і што гаварыць, каб не паказацца перад Анатолем дурною авечкаю (зноў гэтая авечка, даруй, Божа, грахі нашы!), каб потым яны, два хлопцы, не смяяліся з яе вясковасці, недапечанасці, а папросту — вясковай цемры, «дзеравеншчыны», хоць, калі падумаць, то і яны самі такія ж, як і яна: пасмяяўся кацёл з гаршка!

Пад раніцу Зіне прысніўся сон, што на яе накінуўся невялікі пярэсты сабака і моцна ўкусіў за нагу вышэй калена. Яна ад злосці схапіла нейкую палку, як усё роўна тапарышча, і стукнула яму па галаве, ды так моцна, што ён і лапы выцягнуў. Прачнулася — уся мокрая ад халоднага поту, сэрца аж заходзіцца ў грудзях, а з вачэй цякуць слёзы. Што за дурны сон? Які сабака яе можа ўкусіць? Хіба што свой — Сучка? — падумала сама сабе і ўсміхнулася, маючы на ўвазе айчыма.

Уся раніца прайшла ў клопатах і нейкай няяснай трывозе, яе нешта як турбавала, вярэдзіла душу, нібы чакала не жаданых гасцей, а якіх-небудзь злыдняў. Яна пачала нават злавацца на сябе: гэта ты баішся, што твой каханы можа не прыйсці, перадумае, адрачэцца ад сваіх слоў — і ад цябе таксама? Мо таму і грызе цябе нейкая трывога — як прадчуванне таго, чаго ты не чакаеш? Як прадчуванне нечага такога... Чаго — яна не ведала, бо нельга ведаць таго, што будзе, — нават праз дзень, нават праз гадзіну.

Госці прыйшлі апоўдні. У джынсах, у белых кашулях з закасанымі рукавамі, гладка паголеныя, свежыя, з прыгладжанымі чупрынамі, у Анатоля — святлейшаю, а ў Андрэя — цямнейшаю. Хлопцы былі нават як падобныя адзін да аднаго: глядзі, не зблытай. Анатоль уручыў Зіне букет пунсовых ружаў, а Андрэй адразу перадаў Зінінай маці прыгожую і вялікую каробку цукерак, якую дастаў са спартыўнай сумкі чорнага колеру.

Відаць, ад хвалявання і гаспадары, і госці не ведалі, пра што гаварыць, пра што пытацца, запрашаць у хату ці пабыць на двары або

ў садзе, бо надвор'е было цудоўнае: ціхі ветрык, чыстае, ні воблачка, неба, сонца ў зеніце — не так высока, як летам, але грэе яшчэ няблага.

Нарэшце маці сказала:

— Вы, дзеткі, пабудзьце тут на дварэ, можаце пайсці ў сад, а я са сваім старым пайду ў хату, будзем накрываць на стол. Вы ж з дарогі, трэба і папалуднаваць.

І яна, забраўшы ў дачкі букет ружаў і трымаючы пад пахай каробку цукерак, пакіравала ў хату, а за ёю пайшоў і Міхей, сёння нейкі трохі прынядзелены: у армейскай суконнай гімнасцёрцы з калодкай ордэнскіх адзнак на левай грудзіне, у сініх галіфэ з чырвоным кантам па шве, але не ў ботах, а ў звычайных тапках — скідка на цяпло. Галава ў яго была голая, як бубен, і блішчэла на сонцы, як той месяц, што свеціць першым святлом. Але ён быў па-ранейшаму насуплены, пазіраў з-пад ілба, нібы чакаў, што гэтыя хлопцы могуць зрабіць яму нешта кепскае. Чаго яны да іх прыйшлі, ён не ведаў, але, відаць, здагадваўся. І ў яго галаве ўжо складаўся свой план, хоць яшчэ і цьмяны...

Зіна неяк адразу ажывілася, калі маці з айчымам пайшлі, схінула з сябе разгубленасць, якая ахапіла яе, як толькі яна ўбачыла Анатоля з сябрам.

— Хадзем у сад, там ёсць лавачка, пасядзім, — ветліва запрасіла яна хлопцаў. І пайшла першая, а за ёю Анатоль. Андрэй са сваёю сумкаю ішоў ззаду.

— І чаго я цягну гэтую сумку? — спытаўся Андрэй. — Мо яе трэба было аддаць гаспадыні? Тут сёе-тое можна знайсці.

— Аддасі потым, — супакоіла яго Зіна. — Можа, тут што смачненькае?

— Не так смачненькае, як каларыйненькае, — удакладніў Анатоль. — Знакамітая доктарская кілбаса, ёсць шампанскае, белая...

— Ну навошта вы гэта бралі? Навошта траціліся? — усклікнула Зіна і ажно пляснула рукамі. — Няўжо вы такія ўжо багатыя?

— Мы не надта багатыя, але і не бедныя. Сераднякі, як некалі казалі, — дадаў ён. — Але ў госці ходзім не з пустымі рукамі... Чулі анекдот хто як у госці ходзіць і з чым вяртаецца дадому?

— Не, я не чула, раскажы! — папрасіла яго Зіна.

Яны селі на лаўцы пад яблыняй-антонаўкай, галіны якой аж гнуліся пад цяжарам пладоў: Зіна пасярэдзіне, хлопцы па баках. Анатоль умеў расказваць, і яны шчыра смяяліся, як англічанін ішоў са сваёй годнасцю і вяртаўся з ёю, як француз ішоў з кветкамі, а вяртаўся з гаспадыняю дома, дзе быў; яўрэй ішоў з унучкай, а вяртаўся з унучкай і торцікам для бабулі, а рускі ішоў з паўлітэркам і вяртаўся п'яны і з ліхтаром пад вокам.

— Цікава тое, што не гаворыцца пра немца, — працягваў Анатоль. — З чым ён ішоў бы і з чым вяртаўся б? Я так думаю, што ён ішоў бы з двума бутэрбродамі, а вяртаўся б з адным — і быў бы вельмі задаволены, што не патраціўся канчаткова.

— Ну, цяпер немцы мо ўжо сталі не такія эканомныя, як раней, — заступіўся за немца Андрэй. — Чаму яны цяпер жывуць багацей за нас? Мы пераможцы, а яны пераможаныя!

— Вельмі простая прычына: як пераможаным, ім забаранілі ўзбройвацца, трымаць вялікае войска, на што ідзе палова бюджэту, як

у нас. А мы кляпаем ракеты, танкі і самалёты, каб даканаць капіталізм. Можа, не?

Яны заспрачаліся. Зіна слухала і здзіўлялася, што хлопцы такія заўзятыя палітыкі і, на яе думку, даволі добра «падкаваныя».

Яны пасядзелі ў садзе з паўгадзіны, а можа, трохі больш — Зіна не заўважыла, як праляцеў час, — і маці паклікала іх у хату. Яна была ў белай паркалёвай хустцы, завязанай вузлом на патыліцы, у квяцістай кофце і чорнай плісіраванай спадніцы, выглядала нейкаю памаладзелаю, з прыхаванай радасцю ў вачах.

Стол быў накрыты на пяць персонаў, выглядаў багата: салаты з агародніны, з мясных прысмакаў — паляндвіца, кумпяк, сялянская кілбаса. А ў цэнтры стаяла падагрэтая жароўня з гусаком, ад якое ішоў густы прыемны пах. Побач стаяла вялікая крышталёвая ваза з ружамі.

Андрэй раскрыў сваю сумку, выняў батон доктарскай кілбасы, пляшку гарэлкі і пляшку шампанскага, паставіў на стол.

— Ой, навошта вы траціліся, хіба ў нас тут чаго бракуе? — выгаварыла хлопцам маці. — Дабром не трэба раскідацца.

— А мы і не раскідаемся, мы на стол ставім, — жартам адказаў Андрэй. — Маслам кашы не сапсуеш.

Расселіся так, што з аднаго боку стала былі хлопцы, а з другога — бацькі, Зіне выпала быць у тарцы стала, яна як бы сімвалічна злучала старых і маладых.

Айчым Міхей дрыготкаю рукою стаў наліваць у чаркі гарэлку, але тут устаў Анатоль і са словамі «пачнём з шампанскага» спрытна адкаркаваў бутэльку, стрэліўшы коркам у столь. Віно запенілася, зашыпела, Анатоль разліваў яго ў фужэры, што стаялі супроць кожнага.

— Ты спрытны, як афіцыянт, — пахваліў яго Андрэй. — Калі ты так паспеў набіць руку?

— Толькі не на працы, як ты думаеш. Там я вучыўся класці цагліны — роўненька-роўненька, — сур'ёзна адказаў Анатоль.

— У жыцці і гэта прыдасца, — не пакідаў свайго жартоўнага тону Андрэй. — А цяпер давай тост. Як вы ўсе? — абвёў ён вачыма застолле.

— Мы згодны, — адказала за ўсіх гаспадыня.

Анатоль на хвіліну задумаўся і, стоячы з бакалам у правай руцэ, глянуў на Зіну, усміхнуўся і сказаў:

— Каб я быў паэтам, напісаў бы цэлую оду для гэтага ўрачыстага моманту, якога даўно чакаў. Але, на жаль, не паэт. Таму скажу звычайнымі словамі: я будаўнік. Я хачу збудаваць сабе дом. А ў ім каб была маладая гаспадыня. І каб было шмат дзяцей. Такая вось у мяне мара... Я вось, як бы вам сказаць, хачу знайсці сабе памочніцу, каб гэтую мару спраўдзіць. І мне здаецца, што яе знайшоў. Гэта ваша дачка Зіна, шаноўныя бацькі. Я прыйшоў да вас сёння, каб прасіць у вас, у Зіны — яе рукі і сэрца. Калі вы дасце на гэта згоду, я буду шчаслівы.

Паўза доўжылася хвіліну, не больш, але Зіне яна здалася вельмі доўгай. Яе перапыніла маці, сказаўшы зноў за ўсіх:

— Мы згодны...

Атрымаўшы згоду, Анатоль з палёгкай сказаў:

— Тады я вам дзякую. І за гэта будзе мой тост. Да дна!

Ён асушыў фужэр і сеў на сваё месца.

Зіна была сама не свая: вось той момант, якога яна так чакала і так баялася. Баялася таму, што не верыла ў сваё шчасце. І вось ён прый-

шоў, гэты момант, ад якога залежыць увесь яе далейшы лёс. Няўжо і праўда, што яна стане яго памочніцай, яго жонкай, будзе дапамагаць будаваць іх дом, гадаваць іх дзяцей, якіх будзе многа-многа? Проста не верыцца, што такое можа адбыцца...

Яна выпіла сваё віно і праз кароткі момант адчула, як хмель лёгка кружыць галаву, з яе сэрца нібы скаціўся камень. Цяпер у яе вачах быў адзін Анатоль, які таксама пазіраў на яе, часам усміхаўся, не спяшаючыся закусваў, гаварыў.

Застолле ажывілася, калі перайшлі на гарэлку. Яна ажыўляе апетыт, развязвае языкі, разганяе няёмкасць і скаванасць. Хоць часам гэта вунь як недарэчы. Цвярозы — ціхі, маўклівы, бяскрыўдны чалавек, а вып'е, ды яшчэ перабярэ меру — робіцца зубастым, іклістым монстрам, гатовым перагрызці горла свайму суседу. Не за гэтым сталом будзе сказана... Не за гэтым? Каб жа так...

Зіне было трохі нязвыкла слухаць, як маці хваліць яе, расказвае хлопцам, якая яна працавітая, увішная, усё ўмее рабіць — і сваю, жаночую працу, і нават мужчынскую, бо на мужчын у іх сям'і не шанцавала — рана развітваліся з жыццём... Раней Зіна не чула ад маткі такіх слоў пра сябе і свае здольнасці, больш чула вокрыкі, папрокі, ушчуванні, а сёння яна раптоўна перамянілася: ці яна хоча дагадзіць ёй, сваёй роднай дачцэ, ці паказаць яе гасцям у такім выгадным асвятленні. Яна толькі ўсміхалася, чуючы матчыну гаворку, хоць хацелася перапыніць яе і сказаць пра сябе знарок што-небудзь благое.

І калі маці замоўкла, а мо проста зрабіла перадышку, Зіна не стрымала сябе:

— Ну, не такая я ўжо і ружовенькая, якою тут намалявала мяне мама. У мамаў дочкі заўсёды красуні, працаўніцы, шчырыя, добрыя, ласкавыя. Але як казаў адзін няшчасны муж, адкуль бяруцца дрэнныя жонкі? Хто іх такімі выгадаваў?

Мужчыны, усе трое, што былі за сталом, дружна зарагаталі: хлопцы гучна, на ўсю хату, а Міхей неяк стрымана, нібы ён не ўмеў смяяцца, як усе людзі, нібы яму нешта замінала. За ўвесь гэты час, што яны правялі тут у бяседзе, ён не прамовіў і слова, толькі піў і закусваў, нібы дагэтуль два дні быў не еўшы. І вось, здаецца, ён хоча нешта сказаць: мо дадаць да таго, што гаварыла яго жонка, што сказала падчарка. Дадаць, а можа, не згадзіцца, паспрачацца.

Ён скончыў жаваць, выцер тонкія вусны далонню і глыкнуў некалькі разоў, як бы прабуючы голас і даючы зразумець, што ён збіраецца гаварыць.

З першых яго слоў было відаць, што Міхей моцна ап'янеў, язык трохі заплятаўся, ён пераскокваў з аднаго на другое, і было цяжка зразумець, што хоча сказаць. Урэшце як бы выбіўся на дарогу і паступова пайшоў раўней. Распавёў, што ў яго ў юнацтве была прыгожая дзяўчына, якую ён вельмі кахаў, і яна яго таксама, але знайшоўся шчаслівчык, які адбіў і ажаніўся з ёю. Застаўся ён з разбітым сэрцам на ўсё жыццё. У войску была ў яго дзяўчына-сувязістка, доўга кахаліся, а потым яна прамяняла яго, старшыну, на капітана. Усё жыццё такія вось пакуты.

— А цяпер дык пашэнціла — хоць пад канец... Антаніна яшчэ баба што трэба, хоць і падношаная... А вось яе дачка Зінка — такое спелае яблычка, такое сакаўное...

— Што ты гародзіш, Міхей? Пабойся Бога! — усклікнула гаспадыня.

— Не гараджу, а кажу: спаў з ёю, то і ведаю, — зайшоўся смехамхіхіканнем айчым. — Спытайся ў яе самое... Скажа матцы, не ўтоіць...

Усіх гэтыя яго словы аглушылі, як громам. У хаце запанавала цішыня — пагрозлівая, як перад навальніцай.

У вачах у Зіны пацямнела, яна думала, што страціць прытомнасць, але праз хвілю зрок вярнуўся, яна выскачыла з-за стала і, не памятаючы сябе, кінулася з хаты на двор. Гэта прышлая падлюка Сучка перад чужымі людзьмі абліла яе памыямі, утаптала ў гразь! Такое ганьбы яна не перанясе! «Утаплюся! Утаплюся!» — паўтарала яна сабе, падсвядома кіруючы да студні. І раптам у яе ўяўленні сам сабою ўзнік малюнак: калодка з убітаю ў яе сякераю, тая, што ў садзе, за хлевушком. Яна падбегла туды, вырвала сякеру з калодкі і паволі скіравала да сяней. Не спяшайся, можаш усё сапсаваць. Спакойна!

Яна паціху ўвайшла з сяней у хату. Застолле было як спаралюшанае: хлопцы аслупянела сядзелі, не ведаючы, што рабіць, маці плакала, выціраючы слёзы канцом хусткі, адзін айчым Міхей быў спакойны і дапіваў сваю мінералку. Запіваў перамогу...

Ён не ведаў, што ззаду, за плячыма, у яго стаіць смерць.

Зіна падышла бліжэй да яго, узяла сякеру ў абедзве рукі, узмахнула — і вострае лязо ўвайшло ў айчымаву галаву амаль па абух. Чэрап трэснуў, як какосавы арэх, і айчым паволі, неяк бокам, асунуўся пад стол.

Зіна, нічога не бачачы, як заведзеная цацка, выйшла з хаты на двор, хацела ісці хоць куды, далей ад людзей, але свет неяк нечакана крутнуўся, зямля паехала з-пад ног, і яна ўпала, страціўшы прытомнасць.

* * *

Прайшло тыдні два, і Зіну Саету судзілі ў раёне. Людзей было шмат, у залу ўсе не ўмясціліся. Савецкі суд, самы гуманны ў свеце, як іранічна гаварылі ўсе тыя, хто адчуў на сабе яго «гуманнасць», асудзіў Зіну на дзевяць гадоў пазбаўлення волі.

Як ні даказваў адвакат, што падсудная была ў стане афекту і таму заслугоўвае не такой суровай кары, нічога не дапамагло. Была і медыцынская даведка, што падсудная Зіна Саета не страціла свае дзявочае цноты, а значыць, айчым узвёў на яе грубы паклёп, каб прынізіць у вачах жаніха, і гэтым самым справакаваў сваю падчарку на такі ўчынак. Але і гэта не дапамагло.

Зіна Саета на нешта лепшае не разлічвала. Яна не пакаялася: паклёпнік атрымаў тое, што заслужыў.

Народ падтрымаў дзяўчыну і быў абураны жорсткасцю і несправядлівасцю прысуду. Зіну шкадавалі і спачувалі ёй, бо ведалі, што ўчынкам сваім яна абараняла дзявочы гонар і чалавечую годнасць. Можа, перабрала меру, але паказала характар: малайчына, дзяўчына! Хай дрыжаць паклёпнікі.





**ГЕОРГІЙ МАРЧУК**

# ШЧАСЦЕ ЛІЗЫ І ЯГОРА

## *П'еса*

**Дзейныя асобы:**

Браніслава — 27 гадоў.
Яніна Пілiпаўна — за 50, суседка Браніславы.
Віталь — 28 гадоў, паліцай.
Зіна — 25 гадоў, суседка Браніславы.
Анатоль Міхайлавіч — 35 гадоў, падпольшчык.
Ганс — 30 гадоў, нямецкі салдат.
Маці Лізы — 27 гадоў.
Ліза — 6 гадоў.
Ягорка — 6 гадоў, сын Браніславы.
Ягор Пятровіч — 66 гадоў, выкладчык філасофіі.
Незнаёмая яўрэйка з гета — 30 гадоў.
Месца дзеі — Мінск.
Час дзеі — ліпень-лістапад 1941 года.

**Эпізод першы**

*На задніку сцэны выява разбуранага Мінска.*
*На авансцэне макет трохпавярховага дома.*
*Вокны ў макеце перакрыжаваныя паперай. На чамадане сядзіць* Ягор Пятровіч. *Аднекуль здалёку даносяцца гукі марша. Салют. Дзеці вітаюць салют: «Ура-а-а!» І раптам гудуць самалёты. Ляскат танкаў. Дзіцячы плач. Жаночы крык.*
*Ляцяць на зямлю бомбы. Гукі бадзёрага нямецкага марша. І раптам цішыня... І зноў недзе далёка-далёка б'юць гарматы.*

Ягор Пятровіч (*пачынае ўспаміны*). Як у Бібліі: усё мінае, ды не ўсё забываецца, хоць часам у перажытае і не верыш. Пяцьдзесят гадоў, як я жыву ў абласным горадзе Расіі і выкладаю філасофію, хоць толкам не скажу, у чым сэнс жыцця, дзе шукаць таленту душы і што пасля смерці? Прыязджаю на сваю радзіму зрэдку на Дзень Перамогі, на магілу маці з надзеяй, што, можа, знойдзецца і магіла бацькі. Гэта макет дома, у якім прайшло маё маленства ў час вайны. Самога дома — няма. Макет падараваў мне архітэктар. У чамадане — рэчы тых гадоў (*дастае*) — фота бацькі і маці, фота Лізы, кавалак дроту, якім было абнесена яўрэйскае гета, пласцінка немца Ганса — ён вартаваў гета, сухарык, які мы ашчаджалі на самы-самы чорны дзень, бо многія

былі чорныя дні, але суседка, настаўніца Яніна Піліпаўна, казала, што можа быць самы чорны. Я прывёз з сабой гэтыя рэчы, не ведаю чаму… Можа, перадаць у які школьны музей, ці што?.. Я старэю, я ўжо блытаю часам на лекцыях імёны Філона і Платона. Можа, гэта мой апошні прыезд. Радзіма… сапраўды сэнс яе разумееш удалечыні ад яе. У кожнага свой першы … на танцах, на лузе ў кветках, у кустах бэзу… Мой быў над вешалкаю ў …паліцая, побач стаяла ягоная вінтоўка… непамернае на мяжы жыцця і смерці.

Маці брала мяне з сабой на работу ў сталоўку. Я ёй там дапамагаў. Выносіў смецце, мыў каструлі… Штодня мы хадзілі адной і той жа вуліцаю, на адзін бок якой пачыналася яўрэйскае гета, што было адгароджана колкім дротам.

Неяк я папытаў:

Мама, а ты хто?

Я — беларуска, — адказала маці.

— А суседка Яніна?

— Полька.

— А бацька мой?

— Рускі.

— А суседка Соня?

— Яўрэйка.

— А Божанька хто?

Маці разгубілася, не ведала, што адразу адказаць:

— У целе Божанькі, сынок, усе па кроплі жывуць… Усе мы.

— Божанька над намі начальнік? — пацікавіўся я. — Самы галоўны начальнік. Дык ён злезе з неба і прагоніць немцаў?

— Прагоніць, — адказала маці.

— Я яму буду дапамагаць, — адрэзаў я. — А то тата наш баіцца іх і не вяртаецца да нас.

Мой бацька за дзень да пачатку вайны накіраваўся ў камандзіроўку ў Маскву, а праз тыдзень пасля пачатку вайны немцы прыйшлі ў Мінск. Мы чакалі, калі вернецца бацька. У кароткі час безуладдзя ні мы, ні немцы, ні суседзі не пабеглі рабаваць магазіны і склады. Маці баялася пакідаць мяне аднаго, далей сваёй вуліцы не хадзіла. Тады да нас і завітаў былы супрацоўнік фінаддзела Віталь Цімафеевіч.

*Зацямненне.*

## Эпізод другі

*Гудуць самалёты.*
*На сцэне Віталь, Браніслава, Яніна Піліпаўна.*
*Віталь перавярнуў макет дома і на дзвярах крэйдаю намаляваў яўрэйскую зорку.*

Віталь. Глядзіце, якая сіла прэ на Маскву. Яшчэ дзень-два і рускія будуць уцякаць да Урала.

*Цішыня.*

Немцы нам дапамогуць вырашыць яўрэйскае пытанне, а то дваццаць гадоў ні слова пра іх. Праўда, у нас, у Баранавічах, сакратар Бірштэйн заснаваў атрад самаабароны. Узялі бой разам з беглымі пагранічнікамі. Аднак хутка Бірштэйн зразумеў, што дрэнь справы,

кінуў нас, захварэў на сэрца і ўцёк у Мазыр. А твой камуніст, Браніслава, таксама ўцёк?

Б р а н і с л а в а. Ён у Маскве якраз у камандзіроўцы быў, як пачалося.

В і т а л ь. Схаваўся. Мой брат вазіў нашых начальнікаў, ведаю я іх другое жыццё. Меў і твой палюбоўніцу збоку, не рабі з яго святога. Галаву нам дурылі вучэннем Леніна ды Сталіна. НКУС баяліся, цяпер хачу, каб і мяне баяліся. Бог усё прадугледзеў. Напачатку адны стаяць над другімі, а потым дае зняважаным і рабам стаць над сваімі катамі і начальнікамі. Я да адной падбіваўся сакратаркі, дык яна нос верне. Думала, сучка, што ў палюбоўніцы сакратара ЦК пойдзе. Табе, Браніслава, дапамагу не таму, што бацькі з адной вёскі, а таму, што цябе і мяне падманвалі.

Б р а н і с л а в а. Мой чалавек мяне не падманваў.

В і т а л ь. Няхай так. Ідзі ў сталоўку ў Раманаўскай Слабадзе, там будзе карміцца абслуга таварнай станцыі, можа, і нямецкія афіцэры. Скажы начальніку, што ад мяне. Ён возьме цябе кухаркаю. Хоць дзякуй скажы.

Б р а н і с л а в а. Дзякуй.

Я н і н а. А што з Соняй Гоф, суседкай нашай?..

В і т а л ь. Выконваем распараджэнне да 20 ліпеня: да 12-й гадзіны ўсім яўрэям перабрацца ў гета.

Я н і н а. Яны ж ціха жылі, небагата, нікому зла не рабілі.

В і т а л ь. Гэта ты ў немца спытай. Байка вучыць: «Ты виноват лишь тем, что хочется мне кушать».

*Віталь выходзіць.*

Я н і н а. Цяжка паверыць, які зменлівы чалавек. Я ж была калісь настаўніцай у яго.

Б р а н і с л а в а. Няўжо не пазнаў?

Я н і н а. Не хоча прызнацца. Лішнія клопаты, хоць я паміраць буду, а ў яго нічога не папрашу. Ты з дзіцем, ты ідзі на работу... а я — адзінокая... Сярод падлеткаў ён быў самы дысцыплінаваны, самы адададзены партыі і Сталіну. Я з бедных, і ўсё, чаго я дасягнула, — вывучылася, не памерла ад хваробы сэрца, дзякуючы Савецкай уладзе.

Б р а н і с л а в а. Кажуць, каб не было нашай Савецкай улады, дык, можа, і немец на нас не пайшоў бы.

Я н і н а. Броня, якія словы ты гаворыш? А хіба тыя краіны, якія ён захапіў... хіба там быў сацыялізм? Тыранія ненажэрная, яна крывёю чужых корміцца. Рай — гэта свет, у якім няма войнаў.

Б р а н і с л а в а. Я, калі назіраю за цягнікамі са зброяй, якія ідуць на Усход, губляюся. Духам упала. Такую сілу не адолець. За сына, за Ягорку баюся. Калі той жа Віталь выдасць немцам, што я жонка партыйнага кіраўніка... што тады?

Я н і н а. Пакуль немцы заняты Масквою. Сваіх баяцца трэба. А як хутка Віталь перамяніўся! Штодня выціраў пыл з партрэта Сталіна.

*Уваходзіць Зіна з вядром вады.*

З і н а (*аглядае кватэру*). Маці родная, палац царыцы! Я і не ведала, што ў нас ёсць такія харомы. Да столі каб дацягнуцца, трэба лесвіцу браць. (*Змывае яўрэйскую зорку з дзвярэй.*) Не веру, што гэта

мне такі цуд. Віталік кажа: «Бяры ключ, усё наша». О, а вы суседзі? Добры дзень. Я — Зіна. Ад Віталя. Будзем тут жыць. От спрытныя яўрэі, увесь цэнтр займалі. А мой бацька з Фрунзе Савецкую ўладу будаваў, дык яго на Салаўкі, а нас з мамай у баракі. А тут... печы няма. Паравое ацяпленне. У нас дроў у бараку ніколі да вясны не хапала. А што вы так насцярожыліся? Самі не яўрэі часам?

Браніслава. Не. Я Браніслава. Гэта — Яніна Піліпаўна.

Зіна. Вас таксама перасялілі?

Браніслава. Не. Мы пераехалі перад вайною.

Зіна. А-а... Будзем сябраваць. Я кампанейская, простая. Віталь абяцаў прынесці шампанскага. Яго я адзін раз у жыцці і піла. Што вы напалохаліся, я не кусаюся. Не магу апамятацца ад шчасця.

*Уваходзіць Віталь з двума чамаданамі.*

Віталь. А вось і я... Ды з падарункамі.

Яніна (*да Браніславы*). Па-мойму, гэта чамаданы Соні Гоф.

Браніслава. Яе.

Віталь. Табе, Зіна. На выхад будзе і на кожны дзень.

Зіна (*запляскала ў ладкі*). Брава! Віталік!

Віталь (*адвёў яе ўбок*). Ты на людзях называй мяне Віталь Цімафеевіч.

Зіна. Усё буду рабіць, што загадаеш. Ты мой адзіны гаспадар. Для мяне новае адзенне даражэй за яду.

*Віталь дастае з чамадана капу і хустку.*
*Капу дае Яніне, а хустку Браніславе.*

Віталь. Гэта вам, наш гасцінец. Каб былі добрымі і паслухмянымі суседзямі.

Зіна (*гуклівa*). А калі хто не будзе паслухмяны?

Віталь. Таго прымусім вывучыць байку: «У сильного всегда бессильный виноват»...

*Зіна апранае сукенку.*

Зіна. Хачу быць прыгожай і вясёлай сто гадоў.

Віталь. Каб не вайна, дык і ў крэпдэшыне не хадзіла б.

Зіна. Твая праўда.

Віталь. А вы што набычыліся? Губы надулі. Ну, Сонiны гэта рэчы... і што з таго? Ім там, у гета, не хадзіць у рэстараны. Кожнаму сваё. Як у Бібліі: «Голым прыйдзеш на свет, голым яго і пакінеш».

Браніслава. Няўжо іх заб'юць? Жанчын, дзяцей?

Віталь. Гітлер не цырымоніцца... Хадзем, Зіна, у апартаменты. Там і ванная ёсць.

Зіна. Ванная?

Віталь. Як у байцы: «Где был готов ей стол и дом».

*Зіна і Віталь выходзяць.*

Яніна. Божа літасцівы, я атэістка, але гатова паверыць у Цябе: дай мне зразумець, навошта я, калі ад мяне нічога не залежыць? Адна пакута мяняецца на большую пакуту. Дзе ж тая светлая будучыня? Дзе?

*Зацямненне.*

## Эпізод трэці

*У святле ля чамадана Ягор Пятровіч.*

Ягор Пятровіч. Мая маці не хацела апранаць чужыя рэчы. Аднак, каб не злаваць паліцая, ідучы на работу, часам накідвала на плечы Соніну хустку. Перад тым, як мы пазнаёміліся з Лізаю, я сасніў сон. Нібыта я на стадыёне. У варотах мой бацька, а я рыхтуюся біць пенальці. На трыбунах нашыя ваеннапалонныя і Ліза, якая горача падбадзёрвае мяне. Раптам падыходзіць немец, страляе ў майго бацьку і ставіць мяне ў вароты. Забівае мне гол. Ліза заплакала. Я са слязамі на вачах прачнуўся. Пытаюся: «Мама, тату нашага забілі?» — «Не, — адказвае маці,— у сне забілі, а так ён жывы». Мы насмажылі трохі сала, памакалі ў яго хлеб, выпілі чай і накіраваліся да сталоўкі. Мне знаёмы былі два немцы. Адзін тоўсты і пахмурны быў пры сталоўцы і заўсёды нешта жаваў. Другі Ганс, у акулярах. Ён нёс службу па ахове гета, сядзеў у каравулцы каля варот. Да яго ніколі ніхто не прыходзіў. І ён чамусьці заўсёды ветліва вітаўся з маці: «Гутэн таг, фрау». Можа, яна яму падабалася. Аднойчы даў мне шакаладку. Я не так яго баяўся. Мы не ішлі шпарка, як іншыя, а крочылі ўздоўж калючага дроту не спяшаючыся. І вось аднойчы…

*Зацямненне.*

## Эпізод чацвёрты

*Вуліца ля гета.*
*За калючым дротам стаяць Ліза і яе маці.*

Маці Лізы. Дачушка, Лізачка, я цябе вельмі прашу… ты амаль дарослая… і павінна слухаць мяне. Не падыходзь блізка да дроту і да будачкі вунь таго немца. Гуляй з дзецьмі каля ганка нашага новага дома. Мы тут яшчэ трошкі пажывём і вернемся назад на нашу вуліцу.

*Ліза маўчыць.*
*З'яўляюцца Браніслава і маленькі Ягор.*
*Маці Лізы, як толькі Браніслава апынулася недалёка, гукнула яе.*

Маці Лізы. Жэньшчына! Жэньшчына!

*Браніслава падыходзіць да маці Лізы.*

Маці Лізы. Жанчыначка, дапамажыце. Уратуйце маю дачушку Лізу.

Браніслава. Лёгка сказаць. А як?

Маці Лізы. Не ведаю. Прыдумайце як. Богам прашу — уратуйце! Учора ўначы вывезлі з гета дзве машыны, і больш гэтых людзей ніхто нідзе не бачыў… Нас заб'юць! Я адчуваю. Вы ж маці. Уратуйце маю Лізачку… Прашу.

*Браніслава маўчыць.*
*Потым бярэ Ягорку за руку і яны ідуць далей. Маці Лізы ў адчаі.*
*Ліза па-ранейшаму стаіць ля дроту адна.*
*З каравулкі выходзіць Ганс.*
*Ставіць на табурэтку патэфон і круціць ручку. Гучыць раманс.*
*Уваходзіць Віталь.*

Г а н с. Гэй, паліцай. Ком, біттэ! Аусвайс? Бістро!

*Настаўляе на Віталя свой карабін.*

В і т а л ь *(дастае дакумент).* Я з гарадской паліцыі. Біттэ, калі ласка, вось...

*Ганс вяртае дакумент.*

Г а н с. Вэг! Швайне.
В і т а л ь. Не зразумеў.
Г а н с. Вэг, свіння...

*В і т а л ь знікае.*
*Ганс зноў круціць ручку патэфона. З'яўляецца В і т а л ь.*

В і т а л ь. Вось, біттэ, гер афіцэр. Вам. Прэзент.

*Ганс бярэ пласцінкі.*

Г а н с. О! Гут. Ты карошы паліцай.
В і т а л ь. Грошай не трэба. Прэзент.
Г а н с. Вас?
В і т а л ь. Найн мне маркі... Прэзент.
Г а н с. Я, я... гут.

*Ганс забірае патэфон, пласцінкі і ідзе ў сваю каравулку.*

В і т а л ь. Фу-у... Знайду і да цябе падыход. Няма такога чалавека, якога б я ні раскусіў. Кожны мае слабае месца: бабы, грошы, улада, адзежа, жратва... Да ўсяго можна падабраць ключы, апроч зайздрасці... Да яе няма ключоў.

*В і т а л ь выходзіць.*
*З'яўляецца кухарка Б р а н і с л а в а.*

Б р а н і с л а в а. Хоць бы трохі дажджу. Грыміць ды грыміць... а да нас і не дойдзе.

*Да яе падыходзіць А н а т о л ь.*

А н а т о л ь. Не азірайцеся адразу, Браніслава Іванаўна. Гэта я, Анатоль Міхайлавіч, супрацоўнік вашага мужа.
Б р а н і с л а в а. Астапчук?
А н а т о л ь. Ён.
Б р а н і с л а в а. У вас барада. Вы сачылі за мной?
А н а т о л ь. Таго патрабуюць абставіны.
Б р а н і с л а в а. Слухаю вас. Толькі хуценька... у мяне мала часу.
А н а т о л ь. Тое, што я скажу, — сакрэт. Пакуль нас невялічкая група, але хутка, згодна з распараджэннем Сталіна будзе масавае падполле, якое будзе помсціць ворагу.
Б р а н і с л а в а. Кажуць, сакратар Панамарэнка яшчэ 23 чэрвеня ўцёк у Маскву.
А н а т о л ь. Ёсць каму ўзначальваць. Вы жонка партыйнага кіраўніка... Мы мусім апірацца толькі на сваіх.
Б р а н і с л а в а. Я слухаю.
А н а т о л ь. Трэба вывучыць, калі і колькі прыходзіць немцаў харчавацца... і колькі афіцэраў.
Б р а н і с л а в а. І што?

Анатоль. Ёсць планы атруціць ворагаў тут…

Браніслава. *(напалохалася)*. Не… Не… І яшчэ раз не…

Анатоль. Хто не з намі, той супраць нас.

Браніслава. Я з вамі. Але ж гэта непатрэбна, нерэальна.

Анатоль. Чаму? У іх зямля павінна гарэць пад нагамі.

Браніслава. Ежа тры разы правяраецца… І потым — у мяне малы сын.

Анатоль. Вы толькі нам дадзіце інфармацыю. Нашы людзі дапамогуць.

Браніслава. Не. Усе загінем.

Анатоль. Трэба паказаць, што мы дзейнічаем. Напалохаць ворага.

Браніслава. Гэта ваша прапанова ці камандзіра?

Анатоль. Мая. Але мяне падтрымаюць. Кожны павінен зрабіць выбар: з кім ён.

Браніслава. Мне цяжка… я жанчына… у мяне сын.

Анатоль. У нас і жанчыны ёсць, гатовыя пайсці на смерць.

Браніслава. Я гатова памагчы вам, але толькі не гэта.

Анатоль. Мажліва, у хуткім часе вы сустрэнецеся з адным чалавекам.

Браніслава. З кім?

Анатоль. А калі я скажу, што гэта будзе ваш муж…

Браніслава. Ён у Мінску? Дзе?

Анатоль. Хутка павінен быць тут.

Браніслава. Мне трэба з ім сустрэцца.

Анатоль. Я вам абяцаю сустрэчу. Калі хто спытае пра мяне, скажыце, што чалавек з Грушаўкі пытаўся, ці патрэбны дровы для сталоўкі.

*Анатоль хутка выходзіць.*

*Зацямненне.*

## Эпізод пяты

Ягор Пятровіч. Маці давялося яшчэ двойчы сустракацца з Анатолем Астапчуком. І яна ніколі не была ўпэўнена, хто ён: падпольшчык ці правакатар? Праўда, сярод прозвішчаў членаў мінскага падполля яго прозвішча ёсць. Сумненні не пакідалі маю маці асабліва пасля трагічнай яе сустрэчы з маім бацькам. Яна ўсё жыццё лічыла і сябе вінаватай. Вайна перайначвае жыццё. Не існуе маральных прынцыпаў. Каб застацца жыць, пазбегнуць смерці, людзі часам робяць тое, што лічаць патрэбным. У нейкія моманты чалавечае ўсё ж бярэ сваё. Маці без падказкі і парады Яніны Піліпаўны вырашыла ўратаваць з гета Лізу. Аднойчы яна пакінула мяне на Яніну, а сама паклала на дно сумкі маё адзенне і пайшла на работу без мяне.

*Зацямненне.*

## Эпізод шосты

*Вуліца каля гета. Пахмурны дзень.*
*Каля каравулкі Ганс, Браніслава, Зіна.*

Зіна. Ха, ха, ха… Гут. Алес гут!

Ганс. Данке. Аўфідэрзейн, фрау.

З і н а. Фройляйн.

Г а н с. О, гут. Фройляйн.

З і н а. Аўфідэрзейн, майн лібе афіцэр.

*Г а н с ідзе ў каравулку.*

З і н а. Смешны гэты немец, але не злосны, купляе пласцінкі. Маркі плаціць. Віталь падказаў. У цябе ёсць пласцінкі?

Б р а н і с л а в а. Не.

З і н а. Чула навіну? Арыштавалі студэнтак мединстытута. Яны рабілі ў шпіталі, ну што ў політэхнічным інстытуце... Да чаго дадумаліся... Прыносілі параненым чырвонаармейцам цывільную адзежу, і тыя ўцякалі са шпіталя. Ёсць галава на плячах ці не? Немцы далі работу, дык слухайся. Сёння раніцою іх павесілі на варотах дражджавога завода. Багата хто прыходзіць паглядзець. З імі энкавэдзіста аднаго ўзялі: мо таго, які майго бацьку ў Пячору саслаў. Я б яго, гада, сама павесіла б. Ты на работу?

Б р а н і с л а в а. Так.

З і н а. Малайчына, усё ж пры харчах.

*З і н а сыходзіць.*
*Браніслава адна.*
*Паволі ідзе каля дроту. Да яе падыходзіць маці Лізы.*
*Маці падымае дрот і Л і з а хутка падпаўзае пад яго.*
*Браніслава бярэ яе за руку і вядзе да сталоўкі.*
*Праз нейкі момант выводзіць Лізу ў адзенні Ягоркі.*

М а ц і Л і з ы. Слухайся, дачушка, гэтую цёцю і чакай мяне. Я вам даю і яе фота. На ім напісана прозвішча і дата нараджэння. Бывайце.

*Браніслава вядзе Лізу.*
*Насустрач ім — Г а н с.*

Б р а н і с л а в а. Гутэн таг, Ганс.

Г а н с. Гутен морген. Найн, гутэн таг.

Б р а н і с л а в а. Я, я...

*Ганс прыглядаецца да Лізы-Ягоркі.*
*Ён нічога не гаворыць.*
*Б р а н і с л а в а выводзіць Л і з у.*

*Зацямненне.*

### Э п і з о д с ё м ы

Я г о р П я т р о в і ч. Доўга маці высвятляла: ці пазнаў Лізу Ганс, ці, пазнаўшы, паспачуваў і дазволіў вывесці? Ён не быў антыфашыстам, хутчэй пацыфістам. Ён не рваўся на ўсходні фронт. На другі дзень маці ўзяла мяне з сабой. Прымусіла абуць сандалі Лізы. Я не хацеў іх абуваць. Дзявочыя, чужыя. Угаварылі ўсё ж. Праз пэўны час маці зразумела, што Ганс пазнаў Лізу, але змаўчаў. Больш таго, праз некалькі месяцаў менавіта ён папярэдзіў маці, што ў нашым раёне будзе аблава, чым дапамог ўратаваць Лізу яшчэ раз. Але гэта будзе пасля. Пасля таго, як мы, падлеткі-хлопчыкі, бегалі глядзець на забітых у канаве яўрэяў. З Гансам мы жылі мірна, я баяўся інтуітыўна другога немца, які наглядаў за работай сталоўкі. Мне захацелася прынесці

Лізе падарунак, і я схаваў у кішэню яйка. Фрыц, так мы клікалі за вочы гэтага немца, заўважыў мяне і паклікаў: «Ком»! Я нясмела падышоў. «Вас іст дас?» — ён паказаў на кішэню. Я яе вывернуў, ведаў, што пустая. «Вас іст дас?» — паказаў ён на другую кішэню. Я дастаў яйка. Фрыц узяў яйка, пакруціў у руцэ і нечакана разбіў яго аб мой лоб:

— Красці некорошо!

На другі дзень я паклаў у кішэню камень, падобны на яйка.

— Ком! — строга сустрэў мяне Фрыц.— Вас іст дас?

Я з задавальненнем дастаў камень. Ён узяў яго і злёгку, хоць і балюча, ударыў ім мяне ў лоб.

— Некорошо падманваць!

Я ўзненавідзеў яго. Але мусіў, выносячы смецце, праходзіць міма Фрыца. Ён піў малако, седзячы на ганку.

— Ком! Вас іст дас?

Я вывернуў адну і другую кішэні. Яны былі пустыя. Ён, задаволены, спытаў:

— Гут, кім хочаш быць?

— Чырвонаармейцам, — не раздумваючы, выпаліў я.

Фрыца аж перакрывіла. Ён узяў біклагу з гарэлкаю, наліў паўшклянкі, у якой на дне была рэшта малака, і сілком выліў гарэлку мне ў рот.

*Паўза.*

— Рускі можа быць толькі п'яніцам. Швайн, — грэбліва сказаў ён і выцер рукі.

У сталоўцы мне зрабілася млосна. Маці прынесла мяне дамоў на руках.

*Зацямненне.*

## Эпізод восьмы

*Кватэра Браніславы.*

Яніна *(трымае ў руках слоік з малаком)*. Ну, як ён?

Браніслава *(мочыць у місцы ручнік і дае Лізе)*. Трошкі лепш.

Яніна. Звяры, звяры… Каб ён да заўтра не дажыў.

Браніслава. Не ведаю, колькі ён уліў яму…

Яніна. Мы для іх не людзі. Што яму дзіця зрабіла…

Браніслава. Мы яшчэ глядзімо на неба. А ўчора зноў яўрэяў павезлі да канавы.

Яніна. Такі час… такі лёс.

*Званок.*

Браніслава. Хто гэта можа быць? Дзеці, хуценька пад вешалку.

*Ягорка і Ліза хаваюцца пад паліто, што вісяць на вешалцы. Браніслава ідзе адчыняць і вяртаецца з Віталем.*

Віталь *(да Яніны)*. А ты што тут, бабка, робіш?

Яніна. Я не бабка.

Віталь. Для мяне жанкі пасля пяцідзесяці — усе бабулі. Ідзі да сябе, мне пагаварыць трэба.

*Яніна выходзіць.*

А дзе Ягор?

Б р а н і с л а в а. На вуліцы.

В і т а л ь. Сёння трэба рабіць тое, што падабаецца новай уладзе, і не будзе праблем.

Б р а н і с л а в а. Віталь Цімафеевіч, пра што вы гаворыце, ён жа дзіця.

В і т а л ь. Давай на «ты». Мы з табой сябры і нават трохі больш. Далёкія сваякі. У наступны раз будзь асцярожней. *(Прыслухоўваецца.)* Нешта ў цябе тут заварушылася.

Б р а н і с л а в а. Мыш хіба.

В і т а л ь. Мыш'яку вазьмі. Прынясу. Увесь дзень на нагах. *(Ставіць карабін каля вешалкі, сядае на табурэтку.)* Ты не шкадуй яўрэяў. За кантроль над капіталамі свету трэба дорага плаціць. У нас, калі я працаваў у фінаддзеле, усе начальнікі былі яўрэі. У іх можна павучыцца згуртаванасці. У нас што: рускія недружалюбныя, украінцы пыхлівыя, беларусы зайздросныя. Мы і без яўрэяў знішчым адзін аднаго.

Б р а н і с л а в а. Пачаставаць няма чым, даруй.

В і т а л ь. Я па іншай справе. Мне не шанцуе. Быў жанаты. Так, ціхая знешне, не надта каб акуратная, не сачыла за сваім целам. Я яе вучыў. Знюхалася ціхоня з энкавэдыстам. Я пас. Як супраць іх?.. Цярпі сорам. Ажаніўся ён з ёю. Пашэнціла мне. А так бы гадаваў чужое дзіця. Для мяне ідэя патрыятызму — пусты гук. На маіх вачах багата хто загінуў проста так: за тое, што быў камісарам ці камуністам. За ідэю. Дык, можа, усе ідэі небяспечныя? Для мяне, калі няма побач каханай жанчыны, — няма радзімы. Я бабнік у харошым сэнсе гэтага слова. Зіна падабаецца. У яе розум сякі-такі, хватка, два разы на дзень зубы чысціць. Блыху ўбачыць — крычыць.

Б р а н і с л а в а. Вам пашанцавала знайсці адно аднаго.

В і т а л ь. Грызуць сумненні. Ваша прырода непрадказальная. Вы запланаваны на здраду. На працягу стагоддзяў бізун, кулак і куля для вас не заслона. Кацярына ў «Навальніцы» Астроўскага, што вывучалі ў школе, была прастытуткаю, а нам казалі — вучыцеся: «Прамень святла ў цёмным царстве». Хочацца жыць, калі табе жанчына адданая. Дык вось. Зараз я буду час ад часу і ў ноч хадзіць на дзяжурства. Сачы за Зінкаю. Ці ходзіць яна ў афіцэрскі клуб? Ці наведвае яе хто з немцаў? Я маю звярыную асалоду, калі застукаю яе з кімсьці. Я тады ўзвышаюся над яе подласцю, святкую перамогу за сваё прадбачанне. Ох, якая асалода, калі яна пачынае поўзаць ля ног, кленчыць, стагнаць ад слёз. Ты шапні мне, клікні... каб я яе рылам у дзярмо. Я хацеў наўмысна каго падаслаць, каб яна спакусілася...

Б р а н і с л а в а. Нічога не разумею. Калі не давяраеш, не кахаеш, чакаеш падману... навошта так сябе прыніжаць?

В і т а л ь. Такім урадзіўся. Ты іншая... цябе можна сілаю ўзяць... а дух твой зламаць цяжка. Спадзяюся на цябе. З немцам на кухні будзь асцярожней. Яны пакуль Маскву не ўзялі, злыя.

Б р а н і с л а в а. Не ўзялі ўсё ж?!

В і т а л ь. Нікому пра гэта не кажы.

*В і т а л ь забірае карабін і выходзіць.*

Браніслава. Ліза, Ягорка, выходзьце, дзеткі. Будзем вячэраць.

*Дзеці вылазяць з-пад вешалкі.*
*Браніслава абдымае іх.*

*Зацямненне.*

## Эпізод дзевяты

Ягор Пятровіч. У гэты прыход паліцая… стоячы побач з Лізаю, я… не ведаю як, што паўплывала … адным словам… забыўшыся на небяспеку, я пацалаваў яе ў шчаку. Яна аж войкнула. Але нічога не сказала. Маці апранала Лізу ў адзежу хлопчыка, і мы зрэдку выходзілі ў двор, дзе бляшанкай з-пад кансерваў гулялі ў футбол. Недзе мы пачулі слова «грэх», і Ліза спытала ў маёй маці, што гэта такое? Маці адказала, што грэх — гэта такія стрэлы ад злога чалавека, якія ляцяць у неба, там раняць Божаньку, Божанька збірае стрэлы і ўсе разам потым кідае на зямлю назад. У каго патрапіць страла, таму гора. Аднойчы, калі Ліза засталася ў хаце, я пабег з хлопцамі да канавы, у якой забілі яўрэяў. Калі мы прыбеглі, іх закопвалі, але зямля дыхала, варушылася. У мяне гэты жудасны малюнак і зараз перад вачыма. Было вельмі страшна. Страху дадала і рука, якая тырчэла з-пад зямлі. Калі, шукаючы мяне, туды прыбегла мая маці, яна пазнала руку. Гэта была рука маці Лізы… Дома маці абняла Лізу, прытуліла да сябе і заплакала.

*Зацямненне.*

## Эпізод дзесяты

*Кватэра Браніславы.*
*Яніна і Браніслава стаяць ля акна.*
*Грукоча цягнік. Змяркаецца.*

Яніна. І пруць, і пруць на Маскву.

Браніслава. Відаць, сілы не хапае.

Яніна. Як думаеш, узялі Маскву?

Браніслава. Не аддадуць. Не павінны аддаць… паверыш… у мяне ў крыві сорам за тое, што Напалеону тады аддалі.

Яніна. На, трымай *(падае ёй загорнутую ў кавалак прасціны куру)*.

Браніслава. Што гэта?

Яніна. Курачка.

Браніслава. Вам жа самой трэба. У вас жа язва.

Яніна. Бяры. І ў мяне ёсць. На таварнай загон зрабілі. Навезлі кур, качак, гусей… усё ў Нямеччыну. Я выменяла.

Браніслава. Дзякуй.

Яніна. Што ты з Лізаю будзеш рабіць?

Браніслава. Пакуль з намі будзе жыць. Добрая дзяўчынка, паслухмяная.

Яніна. Яна ведае, што яе маці забілі?

Браніслава. Не.

Яніна. Усе ў дзяцінстве добрыя. І адкуль у чалавеку пачвара прарастае?

Браніслава. Віталь заходзіў. Наказаў сачыць за Зінаю.

Я н і н а. Байкачытальнік. Любіць іншым даваць характарыстыку. А самому: «Когда боится трус кого, то думает, что на того весь свет глядит его глазами».

Б р а н і с л а в а. Не ведаю, што яму казаць. Да Зіны ж ходзіць нямецкі афіцэр.

Я н і н а. Злому праўды не кажы. Гнеў свой на цябе выльe. Лепш маўчы. Пайду, хоць за апошнія два месяцы булёнчыку навару.

Б р а н і с л а в а. Яшчэ раз дзякуй.

*Я н і н а выходзіць.*
*Некаторы час Браніслава адна.*
*Закрывае шторы і запальвае газніцу.*
*Званок.*

Б р а н і с л а в а. Дзеці, дзеці, хавайцеся!

*Ягор і Ліза хаваюцца пад вешалку,*
*Браніслава ідзе адчыняць дзверы і вяртаецца з А н а т о л е м.*

А н а т о л ь. Ты адна?

Б р а н і с л а в а. Адна.

А н а т о л ь. Зараз трэба быць асабліва абачлівай і асцярожнай *(ён прынёс з сабой торбу)*. Вось... гэтая рэч павінна некалькі гадзін захоўвацца ў цябе.

Б р а н і с л а в а. А што ў торбе?

А н а т о л ь. Форма нямецкага афіцэра.

Б р а н і с л а в а. Ты жартуеш?

А н а т о л ь *(сур'ёзна)*. Якія могуць быць жартачкі?

Б р а н і с л а в а. Не... Я баюся. Суседзі... часам заходзіць паліцай, ён жыве з суседкаю Зінаю.

А н а т о л ь. Гэта якраз добра. Менш падазрэння.

Б р а н і с л а в а. Я не магу рызыкаваць. У мяне дзеці... гэта Ягорка.

А н а т о л ь. Заўтра ўвечары я забяру.

Б р а н і с л а в а. А калі не... калі ў цябе не атрымаецца, ну, раптам?

А н а т о л ь. Трэба прадугледзець і такі варыянт. Тады занясеш у Старое Сяло.

Б р а н і с л а в а. Гэта амаль сорак кіламетраў.

А н а т о л ь. На ўсялякі выпадак. Я паміраць не збіраюся. Адрас у вёсцы... першая хата... на пачатку вуліцы. Гаспадар — надзейны чалавек. Кузьма Язэпавіч.

Б р а н і с л а в а. А ў іншага каго схаваць нельга?

А н а т о л ь. Я ж не магу цягацца з торбаю па ўсім горадзе. Ты — надзейны чалавек. І потым... маю для цябе навіну. Муж Пятро Іванавіч у Мінску.

Б р а н і с л а в а. Як? Дзе?

А н а т о л ь. У надзейным месцы.

Б р а н і с л а в а. Божа! Не верыцца.

А н а т о л ь. Прасілі перадаць... цябе будзе чакаць у наступны чацвер на чыгуначным вакзале.

Б р а н і с л а в а. Не веру словам... Праўда?

А н а т о л ь. У такі час не жартуюць. Я забыў, калі ўсміхаўся.

Б р а н і с л а в а. А ён ведае пра торбу?

А н а т о л ь. Яму сёння наш чалавек скажа. Я буду, ну, максімум, праз два дні.

Б р а н і с л а в а. Без вас нікому торбу не аддаваць? Калі хто прыйдзе і спытае?

А н а т о л ь. Нікому. Усё. Мне трэба ісці. Чацвер ад пятай да шостай гадзіны вечара... Вакзал.

Б р а н і с л а в а. Памятаю.

А н а т о л ь. Ну, да сустрэчы.

Б р а н і с л а в а. Каб усё толькі добра было. Бывайце.

*А н а т о л ь выходзіць.*

Дзеці, ідзіце на кухню.

*Я г о р і Л і з а выходзяць.*
*Недзе далёка чутно, як брэшуць сабакі.*
*Уваходзіць Я н і н а.*

Я н і н а. Браніслава, дзе твае дзеці?

Б р а н і с л а в а. У хаце. На кухні.

Я н і н а. Ой... Там на нашай вуліцы знайшлі забітага нямецкага афіцэра.

*Браніслава ад нечаканасці села на табурэтку.*

Гляджу ў акно... бачу — людзі бягом уцякаюць... Я ўніз. Пытаю... аж забілі. Што з табой? Ты збялела ўся.

Б р а н і с л а в а. Бяда, Яніна Піліпаўна, заходзіў пяць хвілін таму саслужывец мужа Анатоль Астапчук... прынёс вось што... пакінуў.

Я н і н а. Што ў ёй?

Б р а н і с л а в а. Баюся і вымавіць. Форма нямецкага афіцэра.

*Паўза.*

Я н і н а. Не... супадзенне. Забіты ляжыць у форме. Ён не голы.

Б р а н і с л а в а. Гатова перахрысціцца... але ж адна трасца, калі вобыск.

Я н і н а. Твая праўда. Што ён... не ведаў, што ў цябе дзеці?

Б р а н і с л а в а. Я так зразумела, яму не было куды дзецца.

Я н і н а. Спяшаўся? Ах, як недарэчы. Вось што... табе рызыкаваць нельга. Давай торбу мне... у мяне ёсць у падвале тайнік. А раптам пашанцуе.

Б р а н і с л а в а. А як жа ты, Яніна Піліпаўна? Можа, выкінуць?

Я н і н а. Не. Тады ўсім пагібель. Давай. Я хуценька схаваю. Давай.

*Амаль сілком забірае торбу.*

Калі ёсць хто там, на небе, а я ўсё больш пачынаю верыць, што нехта ёсць, ён нас уратуе. Мы ж не забівалі нікога.

*Я н і н а выходзіць.*
*Сабакі брэшуць зусім блізка.*

*Зацямненне.*

## Э п і з о д а д з і н а ц ц а т ы

Я г о р П я т р о в і ч. Гэта была, бадай, адна з самых жахлівых начэй. Усіх жыхароў вуліцы, на якой знайшлі забітага афіцэра, арыштавалі за пятнаццаць хвілін. Забралі ў турму. Нас з Лізаю маці замкну-

ла, паспела толькі папярэдзіць: сядзець, лямпу не запальваць, ціха чакаць яе. Мы — дзеці ёсць дзеці — асцярожна выглядвалі ў акно. Усё больш і больш хацелася есці. Спрабавалі нават самі адкрыць бляшанку кансерваў. Не атрымалася. Мы не ведалі, колькі мінула часу. А мінула тры дні. Нарэшце ўсіх жыхароў нашай вуліцы, акрамя Зіны, адпусцілі. Нехта нібыта падказаў немцам, што падпольшчыкі не будуць забіваць афіцэра на сваёй вуліцы. Паколькі да Зіны хадзілі немцы, яе затрымалі. Божа, як мы радаваліся прыходу маці! Ды шчасце было нядоўгім. У чацвер маці выбралася на сустрэчу з бацькам... якога арыштавалі літаральна на яе вачах. Яны не паспелі перамовіцца і словам. Гэта была апошняя сустрэча. Так мы яго і не дачакаліся. Праўда, пасля вайны спрабавалі шукаць. Нехта казаў, што яго забілі разам з многімі каля вёскі Трасцянец. Маці ўсё жыццё дакарала сябе. Думала, што гэта яна вывела немцаў на мужа. Анатоль Міхайлавіч, які вярнуўся па торбу, супакойваў маці, кляўся адпомсціць з сябрамі за свайго кіраўніка падпольнай групы. Ён адну ноч начаваў у нас, другую ў Яніны Піліпаўны. Праз пэўны час знік і ён. Гэта было пазней. А тады замест жыхароў нашай вуліцы ўзялі дзесяць заложнікаў з суседняй вуліцы. Іх расстралялі пры людзях, папярэдзіўшы, што як толькі паўторыцца забойства нямецкага салдата, колькасць заложнікаў будзе даведзена да пяцідзесяці. Лёс Зіны, якая знаходзілася разам з гэтымі дзесяццю, вырашалі гадзіны.

*Зацямненне.*

### Эпізод дванаццаты

*Кватэра Бранісла́вы.*
*Яніна і Браніслава стаяць ля акна на авансцэне.*
*Віталь сядзіць на табурэтцы, п'е чай.*
*Шум цягніка.*
*Далятаюць асобныя словы на нямецкай мове.*

Яніна. Зноў яўрэяў з Еўропы прывезлі. І як там столькі тысячаў — мо аж пяцьдзесят — размесцяць?

Браніслава. Дык паловы нашых даўно няма.

Яніна. А дзе яны?

Браніслава. Вывозяць часткамі да канавы і забіваюць.

Яніна. А дзяцей?

Браніслава. Хутчэй за ўсё забіваюць разам з дарослымі. Садзяць на падводы.

Яніна. Віталь Цімафеевіч, а нашы паліцаі страляюць таксама?

Віталь. Дзякуй за чай. Я люблю з мятаю і з ліпаю. Страляюць немцы, а мы засыпаем зямлёю. Тыдзень былі ў камандзіроўцы ў Ігумене... там стралялі жыдкоў. Аж патронаў не хапіла. Сотні тры паклалі. Добры чай, аж узапрэў. Прыкмета здароўя. Ну, дык аб чым хацела мяне Броня папрасіць, нашто запрашала?

Яніна. Не толькі яна. Мы разам. Я больш прасіла. Нас усіх, калі знайшлі забітага немца, забралі.

Віталь. Калі мы прыехалі, нам казалі пра гэты выпадак. Дурні, чаго гэтым дабіліся?

Браніслава. Нас усіх адпусцілі, а вашу Зіну — не.

В і т а л ь. Ведаю.

Я н і н а. І спакойна пра гэта гаворыце?

Б р а н і с л а в а. Трэба вам пайсці туды, паручыцца за яе і выратаваць .

В і т а л ь. Як?

Я н і н а. Яна ж вам жонка. Вам паверацъ, што яна невінаватая.

Б р а н і с л а в а. Яна была ў кватэры і не выходзіла.

В і т а л ь. Па-першае, яна мне не жонка, па-другое... мне вядома, што да яе прыходзіў немец.

Б р а н і с л а в а. Я не ведала.

В і т а л ь. А ты, бабка, у цябе ж гэта пад носам было, не чула?

Я н і н а. Не прыслухоўвалася.

В і т а л ь. Лжэш. Вы адно кодла.

Б р а н і с л а в а. Віталь Цімафеевіч, яе могуць забіць.

В і т а л ь. Да цябе хадзіць стану! Ты добрая, сціплая, разумная.

Я н і н а. Я лічыла, што каханне даражэй за ўсё.

В і т а л ь. Ёсць рэчы, што даражэй за каханне.

Я н і н а. Напрыклад?

В і т а л ь. Жах смерці. Жах згубіць уласнае жыццё. Я гэта адчуў у акопах пад Баранавічамі... Я мог са сваімі гніць у зямлі. Выжыў. І хачу спатоліцца асалодай жыцця.

Я н і н а. Яна ж бязвінная ахвяра.

В і т а л ь. На вайне няма розніцы, хто бязвінны, хто вінаваты. Гэта дракон, які есць усіх. Выкруціўся з абдымкаў — радуйся. Сказаць, Яніна Піліпаўна, пра што вы зараз думаеце?

Я н і н а. Цікава.

В і т а л ь. Я ж вас пазнаў, але не прызнаўся, што памятаю, як вы вучылі мяне ў сёмым класе. Вы выхоўвалі з мяне ідыёта, маленькага сталініста... Ужо тады я не разумеў: чаму ўсе радуюцца за капітана крэйсера «Вараг»? Утапіўся разам з караблём. Які герой! Бярыце прыклад! Які прыклад? Трэба змагацца за жыццё, плыві, ідзі ў палон, там круціся, думай, як выжыць, а ён, як слуп: глядзіце на мяне, я герой, пайду сам пад ваду. Ніякай волі. Я не пайду рызыкаваць сваім жыццём дзеля Зіны, хоць бы яна была англійскай каралевай. Я яе ад голаду ўратаваў, даў прытулак... усе вы няўдзячныя. Больш просьбаў і пытанняў няма?

*Паўза.*

Б р а н і с л а в а. Няма.

В і т а л ь. Выжывайце, не бярыце прыклад з капітана «Варага». Мне сорамна, што вы былі маёй настаўніцай, у нас розныя погляды на жыццё.

*В і т а л ь выходзіць.*

Я н і н а *(са слязьмі на вачах).* Гэта мне сорамна... што ты паліцаем стаў, што не вытруцілі з тваёй галавы зайздрасць і двурушнасць.

Б р а н і с л а в а. Супакойцеся, Яніна Піліпаўна, не варты ён таго.

Я н і н а. Яго я не шкадую. Ён знойдзе сваю смерць. Зіну шкада.

*Зацямненне.*

## Эпізод трынаццаты

*Вуліца каля гета.*
*Вечар. Цярушыць першы снег.* Браніслава *вядзе за руку* Ягорку. *Ідуць яны на работу.*
Ганс *каля каравулкі.*
*Ён ловіць у далоні першы снег. Заўважае Браніславу і Ягорку.*

Ганс. Ком.
Браніслава. Трэба падысці, сынок.

*Падыходзяць да Ганса.*

Ганс. Рускі зіма... плёхо... холадна.
Браніслава. Гэта яшчэ не зіма. І чаго вас на нашы халады пагналі?
Ганс. Я не люблю зіма. Біттэ *(дастае з кішэні яблык).*
Браніслава. Нам?
Ганс. Йя.
Браніслава. Данке.
Ганс. Плёхо зіма... Ганс плёхо ўмее ваяваць. Я ошень лібе майне муттэр. Там, Дойчланд, муттэр жыве адзін. *(Дастае з кішэні і паказвае фота.)*
Браніслава. Прыгожая. Вельмі прыгожая жанчына.
Ганс *(забірае фота).* Іх бін адзін кіндэр у майнэ муттэр *(хукае на свае рукі, вяртаецца ў каравулку).*

*Браніслава і Ягорка ідуць далей.*
*З імі параўнялася незнаёмая жанчына з гета.*

Незнаёмая. Прашу вас, уратуйце маё дзіця. На вас апошняя надзея. Богам прашу. Мы з Польшчы. Нас падманулі. Сказалі, што пераязджаем у мястэчка Благаў. Маўляў, усё будзе добра. Тут усіх нас чакае смерць... толькі смерць. Прашу ўратаваць маю Хрысцінку. Малю вас, жанчына.

*Брэх сабак. Стрэлы.*

*Зацямненне.*

## Эпізод чатырнаццаты

*У святле на сцэне* Ягор Пятровіч. *У ягоных руках пласцінка.*

Ягор Пятровіч. Часам мне здаецца, а ці не сон то быў... Так далёка ад вайны. Столькі зменаў і ў нас, і ў свеце...

*На экране святкаванне Дня Перамогі.*
*Ідуць калоны. Салют. Гарыць агонь ля помніка.*

Тады... Зіну расстралялі разам з заложнікамі, а ў яе кватэру засяліўся хутка нехта з управы. Паліцай Віталь выжыў, уцёк разам з немцамі перад самым вызваленнем Мінска. У першую зіму забралі на ўсходні фронт Ганса. Ён пакінуў мне гэтую пласцінку. Ехаў неахвотна. Відаць, недзе там, пад Масквой, і забілі. Калі ён паведаміў пра дзень аблавы, маці аднесла Лізу ў Старое Сяло. Ліза плакала, плакаў і я. Мы прывыклі да яе. У Старым Сяле было мірнае гета. Там ратавалі яўрэйскіх дзяцей. Яніна Піліпаўна не дачакалася вызвалення...

яна памерла ад хваробы сэрца на трэцюю зіму вайны. Некалькі разоў да нас прыходзілі незнаёмыя людзі ад Анатоля Міхайлавіча. Пакідалі ў нас на некалькі дзён узрыўчатку. Сёння мне замест нябожчыцы маці ўручылі медаль і пасведчанне «Праведніка свету». Я і не ведаў, што такіх праведнікаў у нас у Беларусі больш за 500 чалавек. Сонца свеціць для ўсіх аднолькава, і яно нясе толькі цяпло. Я разлічваў перадаць гэтыя сціплыя рэчы ў музей школы, у якой вучылася маці. Аднак старой школы няма, знеслі і наш дом. Людзей турбуюць іншыя праблемы. Павязу ўсё з сабой назад. Няхай будзе ўнукам. Міне час, забудуць пра ахвяры гэтай вайны. Хто цяпер узгадвае пра Пелапанескую вайну, пра вайну 1812 года, пра першую сусветную? Ды амаль ніхто. Усё мінае. З трох дзетак, якія мая маці — простая жанчына — уратавала з гета, усе трое засталіся жыць. Мы раз'ехаліся па свеце, ніколі не сустракаліся, не перапісваліся, але я адчуваю, што яны носяць мінулае ў сэрцы і клапоцяцца пра мір і любоў да бліжняга. Зусім нядаўна я знайшоў Лізу... Яна стала знакамітым дзіцячым афтальмолагам. Жыве ў Нямеччыне і ратуе праўнукаў, можа, тых людзей, якія забілі яе бацькоў у гета. Яна ім дорыць зрок, каб глядзелі на гэты прыгожы Божы свет. Шчасце, як казала мая маці — гэта жыць! Я дадам: жыць пад мірным небам (*Ягор Пятровіч складвае макет дома*). Даўно я не магу з блізкімі падзяліцца радасцю і болем... маіх самых блізкіх забрала вайна. Радасць сённяшняга дня прыцішвае маё гора, маю страту. Я ніколі не пакідаў у думках свой Мінск. Таму што радзіма там, дзе пахавана твая маці.

*Гучыць раманс:*

*Я возвращаю вам портрет,*
*Я о любви вас не молю.*
*В моем письме упрека нет:*
*Я вас по-прежнему люблю.*

*Музыка гэтага раманса напаўняе залу.*

*Заслона.*





## ФЕЛІКС БАТОРЫН

### ВАНДРОЎНЫЯ ПРАРОКІ

Калі цяжар жыццёвы плечы гне
І карацеюць і цяжэюць крокі,
Прыходзяць пілігрымы да мяне,
Паломнікі, вандроўныя прарокі.

Вядомы ім сапраўдны кошт шаўкоў,
Сапраўдны кшталт спакуслівых пярынаў,
Сапраўдны смак духмяных кумпякоў,
Сапраўдны горкі хмель салодкіх вінаў.

Іх сэрцаў не спакусяць барышы,
І не падпаляць рукі іх — запалаў.
Яны чытаць умеюць у душы,
Дух уздымаць збалелы й заняпалы.

Яны дапамагаюць мне лягчэй
Усё ў жыцці адолець і агораць,
Цяплом сагрэюць матчыных вачэй
І бацькаваю мудрасцю азораць.

Высакароднай прыгажосці іх
Не дасягнуць прыўкрасамі і грымам.
Так трэба жыць, каб да дзяцей сваіх
Прыходзіць потым гэткім пілігрымам.

### ДЫЯЛОГ

**Рамантык**

Наўпрост, з праменнем зорным у вачах,
Сумленне голым ходзіць па начах,
Наведвае хаціны і палацы
І, гонячы цяпло пяшчотных сноў,
З пярын пуховых, з цвёрдых тапчаноў
Заснулых прымушае паднімацца.

## Цынік

Калі б на свеце гэтак і было,
То кожны горад, кожнае сяло
Да раніцы б натоўпы запаўнялі.
Ад жалю і раскаяння ў слязах,
Кашулі б людзі рвалі на грудзях
І па валоссі выдраным ступалі.

## Рамантык

Хто з працы здабываць свой хлеб прывык,
Атрутай не сцякае чый язык,
Каму агідна махляваць і красці
(Хаця яму парой нялёгка жыць,
Ды па начах заўжды ён моцна спіць),
Сапраўднае таму вядома шчасце.

## Цынік

Няможна чалавеку так пражыць,
Каб на нагу каму не наступіць,
Каб не штурхнуць каго няўзнак плячамі.
Сумленне не дазволіць спаць **такім**,
Але ў каго яго няма зусім,
Таго й няма каму будзіць начамі!

## Аўтар

Калі цьмянее вечар у вакне,
Зноў гэта спрэчка ўспыхвае ўва мне,
Зноў цынік і рамантык прад вачамі.
Абодва маюць рацыю яны,
І пачуццё трывогі ці віны
Мне не дае спакойна спаць начамі.

* * *

У вясновым бураватым лузе
Шамаціць асенняе асцё.
Самая салодкая з ілюзій —
Наша палыновае жыццё.

Самая кароткая з ілюзій
Цягнецца ўсяго няпоўны век.
Леташняй былінкаю на лузе
Дажывае старасць чалавек.

Сон жыцця праз хвілю абарвецца,
Сонца кане ў вечную імглу,
Але ж як ён рады першай кветцы,
Што так вабіць першую пчалу!

* * *

*Л. Дранько-Майсюку*

Скразнячок заблытаўся ў гардзіне.
Пацалунак сонца на сцяне.
Павучок па ценькай павуціне
З поштаю спяшае да мяне.

Выдумляе песеньку гадзіннік,
Адбівае такт. І, нібы ў сне,
У рухомым мроіве гардзінным
Нешта светла трызніцца і мне.

Сярод дзён будзённых, спраў руцінных
Часам незнарок душу кране
Павучок на ценькай павуціне,
Пацалунак сонца на сцяне.

## ПРАВОДЗІНЫ

Трывожна пахне цягнікамі
На размурашаным вакзале.
На развітанне ўсё сказалі
І памахалі мы рукамі.

Ужо свярбяць вагонам колы,
Праваднікоў прыступкі клічуць.
Сцяжкі лісця вятрыска клычыць,
І нецярплівы, і вясёлы.

Так блізка вочы, рукі, плечы,
А ўжо разгледзець мы не ў стане
Праз непазбежнасць развітання
Няпэўнасць будучай сустрэчы.

* * *

Вячэрні змрок пагоркі акружае,
І адплывае горад у смугу,
Чапляючыся шпілямі й крыжамі
За неба стынь і за часоў тугу.

І праступае смутная трывога
Халоднаю расою на ілбе,
Калі сусвету зорная дарога
Палохае і вабіць да сябе.

І на парозе чорнага бязмежжа,
Куды народы і вякі сышлі,
Так хочацца прыпасці, вочы змежыўшы,
Усёй сваёй істотай да зямлі.

## САКАВІК

Са шклянкі на акне выкрэсвае вясёлкі
Пяюн і скамарох гарэза-сакавік.
Аднекуль з іншых дач да нашага пасёлка
Задзёрыста ляціць хрыпаты пеўня крык.

Мясцовы падзішах, грабеністы й чырвоны,
На выклік у адказ абрушыў Ерыхон.
Як выбух, крык яго ільдзінак эшалоны
Са стрэхаў і брылёў спускае пад адхон.

Яліны ўсцяж шашы патрэсваюць рукамі,
Збіваючы з сябе сярэбраную стынь.
І бледны твар зямлі, абмыты раўчукамі,
Прасветлена глядзіць у ясны твар вышынь.

* * *

На могілках гадзіннікі маўчаць.
Час існуе тут па другіх законах.
Тут груз зямны нам трэ з плячэй скідаць
І заставацца ў датах і імёнах.

Усіх нас вечнасць параўняе спрэс.
Папарахнеюць дрэва, плоць, тканіна.
Таму і мае ўсё на свеце сэнс,
Пакуль мы не ляглі ў пясок ці гліну.

* * *

У адной зямлі са здраднікам
спяць нязломныя салдаты.
У адной зямлі з ахвярамі
супакойваюцца каты.
І ляжаць пад абеліскамі
і ўтравелымі грудáмі
Скамянелыя, бязмоўныя
паасобку і радамі.
А над імі птушкі кружацца,
ззяе сонца, сцюжа вые
І ў забойстве вытанчаюцца,
варагуючы, жывыя.

* * *

Я ўсё жыццё жадаў свабоды, нібы раю,
І зразумеў на схіле год: яе няма.
Калі цябе нішто на свеце не трымае,
Дык хіба ж гэта не пякельная турма?

Турма без кратаў, распарадку і аховы.
Як уцячы, калі ні сцен, ні ланцугоў?
Дык блаславі, Гасподзь, трывалыя аковы
Кахання, дружбы, абавязкаў і даўгоў!

* * *

*В. Хлебавец*

Асела вея камякамі
На шыферы, на волкім тынку.
Жабруюць галкі з галубамі
Каля аўтобусных прыпынкаў.

Нядзельны, ціхі, бясклапотны,
Брыдзе па вуліцах заспаных
У коле дзён кругазваротных
Дзень незваротны, дзень нязнаны.

## НА ВУЛІЦЫ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Сутонне. І хаця пакуль відно яшчэ,
Дыханне адчуваецца начы.
На вуліцы Максіма Багдановіча,
Паэтавае слова, прагучы!

Як сок зямлі радзімай, слова сочыцца,
І з ім само жыццё ліецца ў кроў.
Баліць душа, калі спяваць не хочацца
Народу звонкаспеўных песняроў.





**НІНА МАЕЎСКАЯ**

# СПЯКОТНАЯ ВОСЕНЬ

## *Аповесць*

Божа міласэрны, якая спякота! Дзе і як яна ўскочыла ў гэтае полымя? Нутро захлынулася агнём, перацяло дыханне... Дзе яна? Спакойна, толькі спакойна... Яна проста з холаду мінскіх вуліц забегла ў маленькі — дзве стойкі — бар, глынула вострага, як агонь, збіценю. Любіла гэты духмяны, круты напой продкаў, які патыхаў дзічынай і пушчаю і, здаецца, жывіў нутро, абуджаў прытоеныя да часу і думкі, і сілы. Часта па дарозе дадому забягала ў гэты малюсенькі бар, каб глынуць, апякаючыся, гарачага і вабнага, як кроў для вампіра, напою. Які ён гарачы! Яна хапілася за грудзі, але і пад далонню адчула тую ж гарачыню.

Мільганула іншая згадка: гэта — ад агню... Але ж яна толькі крышачку пастаяла каля вогнішча, пагрэла азяблыя рукі. Агонь спрадвеку магічна вабіў да сябе чалавека, а сёння горад нібы правіў свята агню — то тут, то там палаюць вогнішчы, трапечуцца касцяркі, смыляць ці проста ляжаць, як скурчаныя, шэрыя сабакі, — атухлыя цяпельцы. А як жа цёмна ўраз стала ў вачах... Ці агні згаслі ў адначассе, ці яна зрынулася, паляцела ў тартарары, не зразумела. Толькі водар абвялай травы, зёлак, апалага пажухлага лісця нагадваў ёй пахі зямлі. А можа, сама зямля разаслала ёй свае мулкія шаматкія сеннікі. Хацелася піць. Піць... Нясцерпная смага паліла горла, як арэхавую шалупайку, высушыла рот. Такімі ж асмяглымі, сухімі, калянымі зрабіліся вусны. І не даўмецца: дзе яна і што адбываецца наўкола? Вяло голаў. І сама яна, здавалася, хутка-хутка ляцела, круцілася па невядомай арбіце, схопленая загадкавым, дзіўным прыцягненнем. Адно ўсцешвала: адчувала — не адна. У спусцелай, вывветранай галаве была адзіная трымтлівая думка: што, што адбываецца з намі? Не думалася пра сябе, маленькую кроплю ў людскім моры, думалася пра іншых, незнаёмых паплечнікаў. Ведала, адчувала, яны недзе побач — мора выйшла з берагоў, набрыняла бураю. Людское гаманкое, шумнае і нястрымнае мора заліло вуліцы і плошчы... «Не, не ў Мінску... Там такая цішыня... Масква, Масква... Я ж — у мамы».

Яна зноў і зноў траціла прытомнасць і адчуванне рэальнасці. І плыла, плыла ў бязмежным людскім моры, маленькая кропля, якую вынесла выпадкова на самую строму, і яна, забыўшыся на кволасць

і маласць сваю, рабілася настойлівай і ўпартай і верыла, што можа прасвідраваць камень. Зноў затрымцела ўсярэдзіне: «Што з намі? Што будзе з намі?» Яна яшчэ адчувала сябе ў моры, хоць даўно была выплюхнутая на бераг. І гэты пах... Не, яна не забягала ў кавярню, у гэты маленькі бар і не засыпала зёлкі ў гліняны паліваны кубак. Усё гэта цяпер так далёка, як сон. Да шчымотнага болю далёка... А як бы хацелася апынуцца там! Дык што ж гэта, дзе яна? Зямля... Лісцё... Пажухлае, калянае лісцё, пахкі сумёт, на якім, як на шаматкой падушцы, ляжыць яе галава. Яна паспрабавала падняць яе, устаць, але толькі востры боль працяў нерухомае цела, і да знаёмых пахаў восені дамяшаўся незнаёмы — прыкра-салодкі і цёплы, ад якога да горла падкаціўся клубок ванітаў. Гэта быў пах крыві... Ён забіваў дыханне. Ад слабасці і галавакружэння глыбей у кучу паркавай лістоты апала яе безжыццёвае, атручанае жалезістым пахам цела. І зноў яна некуды ляцела, ляцела — не птушкай на лёгкіх крылах, а кулём, ломячы тыя невідочныя крылы. І не было канца таму палёту — яна ляцела ў пустэчу, у невядомасць, дзе наперадзе ні агеньчыка, ні іскрынкі. Чаплялася, хапалася рукамі, але марна. Яе несла, як віхураю, зацягвала ў скразняковы пралёт. І ўспышку свядомасці, якую яна ўсімі сіламі намагалася падтрымліваць, затуляць, як свечачку ад ветру, атушыла здагадка: «Я — паміраю...» Вялікае расчараванне ўмомант паланіла ўсю яе істоту, астудзіла апошнія пачуцці. «Мана... Усё — мана. Няма святла ў канцы тунеля. Цемра... Беспрасветная цемра... Вярнуцца! Вярнуцца назад!» Яна зноў знясілена намагалася за штосьці ўхапіцца, затрымаць, спыніць гэты палёт у тартатары. І такі ўхапілася...

Нейчы чужы голас, далёкі і дрыготкі, можа, ад холаду, які цяпер ахапіў і яе, — біў, калаціў, як былку ў полі, — гэты дрыготкі голас супакойваў: «Пацярпі крышку...Пацярпі». Якая знаёмая фраза: усё жыццё яе заклікалі да цярпення. Цярпі, цярпі, цярпі... Цярпі нястачы, цярпі зняважу, цярпі боль! Не, яна болей не магла трываць. Захацелася закрычаць што ёсць моцы, на ўвесь вялікі свет, без ілжывага сораму, без заўсёднай зацятасці.

Крыку свайго яна не пачула, адно боль разануў, як нажом, бы парвалася нешта ў грудзях. І яна ўся сцялася, здранцвела, захлынулася гэтым пякучым болем. «Яна яшчэ жывая!» — узрушана сцвярджаў той самы голас. Яе ж гэта нібы не тычылася, толькі непрыемна ўразіла шорсткае, шыплівае слова «яшчэ». Не зразумела — чаму яшчэ? Яна ж проста спатыкнулася, спатыкнулася... Вось цяпер яна ведала, што з ёю.

І зноў пад неверагодны грукат і валтузню, пад крык і шум боль панёс яе ў волкую, невядомую цемру, дзе ўсё смярдзела нязнаным дасюль, нячутым брыдкім жалезістым пахам. На імгненне яна зноў ухапілася за нейкі гук, які пастаянна выслізгваў з памяці, за нейчы голас, і — запытала: «Што з намі?» Аднак свайго голасу не пачула, бо нават не варухнуліся вусны. І ўжо іншы, таропкі і цвёрды, голас загадаў: «Гэтую — у аперацыйную!»

І зноў яна ляцела, сцінаючыся ад болю на нейкай нязмазанай, вісклівай калымазе па гулкім доўгім калідоры каменнага сутарэння, пакуль у вочы не лінулася незвычайна зыркае святло. Яна міжволі падумала, што гэта, пэўна, і ёсць канец тунеля. І ўсё знікла.

Нічога навокал не існавала — ні святла, ні гукаў, ні болю.

Яна не ведае, праз колькі часу — ці то прайшлі гадзіны, ці дні мінулі — цягавіты, нудлівы боль пачаў прабівацца праз грудзі, нібы нешта там прарастала. Гэты боль і абудзіў яе. Зярняты якіх пачуццяў засталіся ў грудзях, што, так балюча прарастаючы, вярталі яе ў рэальнасць? Найперш — трывога. Нямая, глухая трывога варушылася ў грудзях, высмоктвала апошнія сілы. А яшчэ — гэтае пытанне, што вярэдзіла душу, шукала адказу.

Вялікім намаганнем волі яна крыху расплюшчыла павекі, расплюшчыла, бы адсунула надмагільную пліту. Не, святло болей не сляпіла вочы. Быў паўзмрок, а можа, туман. І ў ім плавалі, варушыліся размытыя, набрынялыя да хрыпаты волкасцю словы і стогны. Праз шчылінкі вачэй яна разглядала гэты, што адно стагнаў, свет, чуйна прыслухоўвалася, бы патрапіла сюды ўпершыню, адна. Непакоіла думка: «Што са мною, дзе я?» Але чыйсьці блізкі стогн прыглушыў яе. Толькі цяпер яна зразумела, што не адна тут. Ціха і марудліва праз цяжкае намаганне яна запытала: «Што з намі?»

Нічога не пачула, але — ці проста здалося — нехта схіліўся над ёю.

«Яна ачуняла», — пачулася побач. Чыясьці рука дакранулася да яе рукі, лёгенька, бы крадком, сціснула, нібы нехта з ёю знаёміўся ці вітаў з вяртаннем на гэты свет. І яна, захліснутая хваляй невядомасці і кволай надзеі, як тапелец, хапалася за гэтую жывую — адчула, жаночую, хоць і агрубелую, спрацаваную — руку, каб выбрацца з чэпкага, слізкага змроку на святло, верачы, што такая рука не падвядзе, не адпусціць. Але, на жаль, ёй гэта не ўдалося — пакаўзнулася, сарвалася зноў у цемру. Сабраўшы кволыя сілы, паспрабавала зноў. Узіралася з цемры, напінала зрок, і праз туман выявіліся абрысы твару немаладой жанчыны. Яна старалася ўтрымаць яе вобраз перад сабою, але ён чэзнуў, сплываў, як месяц на зыходзе, і няўлоўна раставаў зусім.

«Хто ты? Як прозвішча... імя?» — шапатліва насілася ў паветры, але яна маўчала, нават не разумела, што гэтыя пытанні да яе, што некага можа яна цікавіць: столькі часу да яе не было нікому справы...

«Не трэба яе яшчэ трывожыць».

Голас быў мужчынскі. Яна ажно захвалявалася ад здагадкі:

«Мікола? Міня?» Але толькі адзначыла яго высокую, падобную на слуп, постаць і зноў паглыбілася ў змрок, паплыла мякка і спакойна, як у ціхамірны сон, ведаючы наперад, што прыйдзе, павінна прыйсці — абуджэнне.

І яно прыходзіла. І раз, і другі. Цяпер у яе ніхто не пытаў ні імя, ні прозвішча. Яна сама намагалася ўспомніць. І чамусьці шукала яго ў даўжэзных спісах, змешчаных на сцяне ў шкляным вестыбюлі, можа, інстытуцкім. Мружыла вочы, углядалася, баючыся прапусціць радок у слупках прозвішчаў, што вонкава нагадвалі строфы вершаў. Прозвішчаў было шмат і, здаецца, яшчэ больш людзей, якія шукалі, як і яна, сваё. Яе адціскалі, адштурхоўвалі, і тады яна наогул нічога не бачыла, радкі зліваліся, бляклі. Яна так баялася, што не знойдзе сябе, а гэта для яе ці не галоўнае ў жыцці. І зноў пачынала ўсё спачатку. Перабірала стосік сшыткаў : дзе ж яе, яна сама падпісвала яго, старалася, каб без памылак і прыгожа. І не знаходзіла свайго. І ўжо ў іншым месцы ўзіралася ў вузкія палоскі, чытала кароткія, быццам не звязаныя між сабою словы — мусіць, яна атрымала нейкую тэлеграму,

але не верыць, што гэта ёй, ды і прозвішча не разабраць — відаць, памылка. І — дзякаваць Богу — у якойсьці ведамасці ясна ўбачыла радок, адзначаны птушачкай, ёй адно заставалася распісацца, прачытала — Смірнова... Пакуль чытала прозвішча, не згледзела, за якую суму распісалася. Вось так заўсёды... Але зараз яна неверагодна ўзрадавалася, што ўрэшце знайшла сябе. Знайшла... І гары яна гарам тая сума, толькі б не забыць, не забыць... Боязь была падсвядомая, але чэпкая, неадвязная. Яна паўтарала і паўтарала сваё прозвішча, бы завучвала кожную літару. І калі зноў убачыла нейчы цень над сабою, сабрала ўсю сілу і пракрычала: «Смірнова, Смірнова я!» Крык яе чамусьці гучаў шэптам, ледзь-ледзь чутна. Але ёй раптам стала лёгка і надзіва спакойна, быццам яна зрабіла нешта важнае, можа, нават самае галоўнае, і цяпер можна смела прыняць наканаванае лёсам. Колькі хвілін яна ляжала аціхлая, знямоглая. І раптам аднекуль здалёку, але вельмі знаёма хтосьці аклікнуў: «Смірнова!» Яна міжволі ўздрыгнула: так выклікалі яе ў дзіцячым доме. Там наогул не існавала імёнаў, усе звалі адно аднаго па прозвішчах, і дарослыя, і дзеці. Па прозвішчах або па мянушках. Гэты вокліч быў строгі і незадаволены: яна стаяла перад самою дырэктаркай, тварам да ўсіх, значыць, яе выклікалі «на лінейку». Ад хвалявання і ганьбы яна нічога перад сабою не бачыла, толькі ліхаманкава паўтарала: «Што, што адбылося? Што я нарабіла?» А строгі, халодны голас не сціхаў: «Адказвай, Смірнова! Гавары, як ты дайшла да такога!»

Яна ведала: яны хочуць, каб яна каялася, прызнавала сваю віну, можа, нават, плакала і прасілася, але яна не ведала, не разумела свае віны — о, колькі разоў гэта паўтаралася! — а ў яе толькі ледзянела ў грудзях, ды ў затуманенай галаве агеньчыкам пульсавала думка: «Не, відаць, я не спатыкнулася, не... Відаць, — яе пачало дробна трэсці, і ўзрушанасць накотвалася хвалямі, — відаць, я ўсё ж забіла яго, і ён... — яна нават у думках не называла яго прозвішча, а як усе — Патрон. Ён быў начальнікам у іх калектыве. — Можа, і ён мяне параніў, але як гэта здарылася і калі? — не магла даўмецца сама. «Падумай, Смірнова!» Яна старалася думаць. І паціху (але калдобіна на калдобіне, толькі падаеш і ўстаеш) пачала вяртацца ў той дзень, каб прагледзець яго з самае раніцы, як стары немудрагелісты тэлефільм, у якім і пэўнага сюжэту не было. Так, нанізаныя нейкія назіранні ды цьмяныя ўспаміны. А можа, яна пачала глядзець не спачатку, ці наогул гэта не той дзень? Яны ж усе такія падобныя — доўгія, шэрыя, будзённыя.

* * *

Апошнім часам яна вельмі не падабалася самой сабе. Здавалася, страціла волю і ўжо не валодала сабою, нехта іншы ўкручваў яе ў дробныя, непрыемныя клопаты, у якіх яна блыталася, як рыба, што патрапіла ў цянёты. Так і блытаецца з ранку да вечара, з ранку да вечара. У галаве адно і тое ж: накарміць, — галоўнае, знайсці за што і чым накарміць. Яна, сама таго не жадаючы, ператварылася ў здабытчыцу, уваўчыцу. Як пачувае сябе чалавек, які жыве і саромеецца свайго жыцця? Жыве, як злачынец, якога вось-вось выкрыюць, таму і хавае яго, аздабляе словамі і штучнай весялосцю, аблытвае туманам маўчання. Дзяўчынкай яна наіўна думала, што проста яшчэ не ўзяла лейцы жыцця ў свае рукі, вось-вось усё перайначыцца, скончыць вучобу, за першую

зарплату купіць самы дарагі, самы прыгожы і пышны торт, з'есць яго... Можна, канечне, паклікаць сяброваК, а можа, лепей адной: гэта ж — як варажба, і ўрэшце зацугляе свайго скакуна — жыццё.

Колькі сілы бязглузда і марна паклала, ледзьве не згарэла на рабоце: ніколі не брала бальнічных — хворая ішла, працавала, нават дзіця, прастуджанае, капрызнае і смаркатае, брала з сабою, а потым здзіўлялася сама, чаму яны, ніхто, ні адзін чалавек, не сказаў ёй, маўляў, вам бы лепей пабыць дома, палячыцца альбо палячыць дзіця, — ніхто ні слова. Яна занядбала сябе,ператамілася, і як вынік — нервовы зрыў, тры месяцы на бальнічным ложку і незразумелая агіда да жыцця, якое гняце і гняце яе, зневажае і, як і дзе толькі можа, паказвае свае адваротныя бакі, становіцца бязрадасным і шэрым, а быццё — проста невыносным. І свядомасць саромеецца і ненавідзіць яго, блукаючы ў яго тупіках, у яго цёмных і гразкіх сутарэннях, дзе натыкаешся, калі не на сцяну, дык на востры вугал. І падсвядомасць самавіта і настойліва падказвала, што жыць, саромеючыся свайго жыцця, нельга, што неяк трэба выбірацца на святло, шукаць выйсця. І зноў яна, неразумная, думала, хутчэй пагаджалася з доктаркаю, якая чулліва сказала: «Вам надо сменить обстановку». Яна адразу не зразумела: як гэта? «Новая работа, новыя людзі...» Так, яна пра гэта не думала. «Цяпер псіхолагі раяць нават дадому з работы не хадзіць адною і тою ж дарогаю, патрэбна разнастайнасць: новыя ўражанні, новыя людзі». Новыя людзі... Можа, доктарка сапраўды мае рацыю? З гэтымі яна чамусьці не знаходзіць агульнай мовы. Аднаго баялася, ці адпусціць начальнік. Здавалася, што ён цаніў яе як работніка і не хацелася яго падводзіць. І якім жа горкім было яе расчараванне, калі начальнік задаволена сказаў: «Што ж, незаменных — няма». Нейкі час ёй яшчэ давялося там папрацаваць, і яна бачыла, якое радаснае ажыўленне выклікалі ў начальніка новыя прэтэндэнткі на яе не такое ўжо і зайздроснае месца, дзе, калі сумленна працаваць, работы — галавы не ўзняць, але ўсім гаварылася, што работы, маўляў, асаблівай няма. Усіх прэтэндэнтак накіроўвалі да яе пазнаёміцца са справамі. Яна расказвала ім, што і як рабіць, яны недаверліва пазіралі, крывілі вусны, нават злаваліся на яе, думаючы, відаць, што яна іх пужае. Прыходзілі новыя і новыя. Здавалася, што пачаўся — ні больш ні менш — конкурс прыгажунь. І ўсе яны начальніку падабаліся: каб мог — узяў бы ўсіх. Стыхія пачуццяў захліствала яго, кружыла галаву, і ён страціў пачуццё рэальнасці і нібы зноў апынуўся ў «той канторы» (так пасля выгнання з партыйных органаў ён называў былое месца работы), ды не проста апынуўся, а зноў заняўся сваім улюбёным заняткам — падборам і расстаноўкай кадраў. Здавалася, што начальніка цікавілі толькі гэтыя дзяўчаты, і ў яго быў адзіны клопат, як іх уладкаваць. На абяцанні не скупіўся: маўляў, будзем расшырацца, будзем мяняць работнікаў. Збіралася «тройка» — начальнік, намеснік і сакратар — абмяркоўваліся і ствараліся грандыёзныя планы па «пытаннях кадравай палітыкі», намячалася перастрасанне і вялікія зрухі, каб калектыў жыў на адным дыханні з краінай, як любіў гаварыць начальнік. А краіна жыла вялікімі справамі — будавалася самая вялікая магістраль у свеце, і ніхто канкрэтна не ведаў, што па ёй будуць вазіць.

І мамін голас: «Не што, а каго. Гэтую дарогу трэба было пабудаваць адразу, не гінула б пры перасылцы столькі людзей. Калі нас везлі

на баржы...» — «Не гавары так, гэта не вернецца». — «Дай-то Бог». «Дай-то, Бог, дай-то, Бог, дай... дай, Бог, Бог... Бо-о...» Галасы множыліся і заміралі, бы ападалі долу, у глыбокія лагчыны паабапал дарогі, потым усхопліваліся, дробна і суладна выстуквалі штосьці, быццам колы цягніка, што мчаўся невядома куды. Яна нават не паспявала сачыць за мільганнем брудных вокнаў, спадзеючыся ўгадаць, чые ж гэта вочы так упарта, неадрыўна пазіраюць на яе з начное цемры. Памкнулася бліжэй, стаяла ля самага краю выспы, чамусьці босая на колкім жвіры, у які яе ногі адразу правалiлiся па самыя шчыкалаткі, а цягнік ўсё стукаў і стукаў, як хворая кроў у скронях, шугаў чорным дымам — не відаць не толькі тых вачэй, а і белага свету, і вецер не вецер, а нейкая невідочная, жывая істота хапае яе, падштурхоўвае, цягне пад грымучыя колы, — не ўтрымацца, і яна ўжо крыкам крычыць, апошнім перадсмяротным крыкам. І тут праз мутнае акно ўгледзелатакі чыесьці вочы, размыты — ці дажджом, ці слязьмі — твар. Цягнік нібыта спыніўся, але яшчэ пыхаў у твар ёй жарам, высушыў, як хлебныя скарынкі, і без таго асмяглыя губы.

«У яе гарачка. Бачыце, як мітаецца, можа, даць вады...» Гэты голас нібы пабудзіў яе, а глыток вады, як халаднаваты пацалунак, вярнуў да рэальнасці, і рука, што ўзяла яе руку, здаецца, адвяла ад таго пыхкага цягніка, памкнула за сабою, як тады, калі яна, босая дзетдомаўка — малая яшчэ зусім — збягала на станцыю сустракаць цягнікі. Цяпер жа, ачуняўшы, хацела сказаць, што прыйшла сюды выпадкова, у пошуках таго дня, ды вось блудзіць, як у лесе, ніяк не патрапіць на яго. І толькі той нехта адпусціў яе руку, як зноўку шугануў вецер, яна чула яго шум, які поўніў вушы, а ёй трэба было пачуць, што гаворыць ёй гэты чалавек, быццам бы і знаёмы, і незнаёмы (апошнім часам яны ўсе, гэтыя прывіды, на адзін твар). Нешта з вачыма, з галавою, не — з душою. З душою, канешне. Яна счарсцвела, як акраец хлеба. «Смірнова, я віншую вас з павышэннем. Што ні кажы, а гэта трэцяя прыступка ад верху, ды і грошай на дзесяць ці дваццаць рублёў болей, — голас яго наўмысна вясёлы. — А цяпер мае ўмовы — усё, што адбываецца ў калектыве, усё: хто што гаворыць, нават — што думае, усё я павінен ведаць праз вас. — Мусіць, яго бянтэжыць яе здзіўленне, і ён пачынае дакляраваць. — Паверце, так заўсёды было, ваша папярэдніца заўсёды трымала мяне ў курсе. У мяне на кожнага ёсць дасье», — ён паказвае рукою на сейф. І спружына, моцна сціснутая да пары, раптоўна распростваецца, яна кажа: «Было... А цяпер будзе інакшай, будзем працаваць, а не плёткі зводзіць». Спадзявалася, што абсекла яго, але ён рассмяяўся ёй у твар: «Наіўная ты!»

Нядоўга яна сядзела на той трэцяй прыступцы, толькі нервы сабе спаліла. «Сапсаваны» тэлефон тут працаваў спраўна, і аднойчы яна пачула, як перагаворваліся тыя, хто сядзеў на першай і другой: «Навошта нам гэтая Смірнова. Яна толькі работу нам дае, а трэба, каб прыносіла толькі на подпіс. Як бы мы спакойна жылі, каб не яна. Мы не павінны нічога рабіць, мы ж — кіраўнікі». Яна болей не магла пазіраць на яго, адводзіла свае вочы, каб не сустракацца з ягонымі, вадзяністымі, плыткімі і пустымі. «Мы будзем слухаць вас на партсходзе». Смірнова выдатна ведала, што гэта значыць. Гэта значыла, што ёй трэба будзе мяняць абстаноўку, а яны створаць для гэтага ўмовы, і зноў будзе ажыўленне, уяўнасць работы, яны зоймуцца сваёй адзіна любай спра-

вай: падборам і расстаноўкай кадраў. «Ніякіх прыступак, гэта ўсё падман, гэта не для мяне», — вырашала тады яна.

Зноў яе занесла не туды, залішне далёка. Добра, што ў часе можна лётаць вольна, як птушка ў прасторы неба. Але як падобныя дні, гады. Дні зліваюцца ў адзін шэры, будзённы і доўгі. І толькі зрэдку, калі-нікалі промнік сонца — нечая шчырасць, промнік шчырасці, бо людзі, што насяляюць гэты доўгі, клопатны і змрочны дзень, ніколі не бываюць шчырымі да канца (яна гэта ведала і па сабе). У кожнага ў душы свая патаемная бездань, у якую ён з жахам зазірае і якую чуйна сцеражэ, стоячы на краёчку, каб ніхто іншы, крый Божа, не кінуў туды вокам. Адзін яшчэ паўбяды, а калі яны ўсе рынуцца туды гуртам, як статак у маладое жыта?!

* * *

Смірнова застагнала: ці думкі разварушылі яе боль, ці ажыў ён самастойна, незалежна ад яе думак, каб нагадаць, што дзень той не так далёка, зусім блізка, яшчэ не загаілася яго рана, і не варта далёка хадзіць нават у думках. Адразу некалькі твараў схілілася над ёю, яна адчула дыханне, дотык рук, якія, здаецца, утрымлівалі яе, а боль разрываў грудзі, агаляючы сэрца, і яна баялася, што людзі (а гэта ж былі яны) убачаць тое, што яна дагэтуль таіла пад усмешкай і незалежнасцю, пад жартам і стрыманым жэстам.

Яна навучылася асцерагацца людзей: сама ніколі не ішла на залішнюю адкрытасць і яшчэ больш баялася адкрытасці іншых, ведала — гэта мінутная нечая слабасць, а хутчэй папросту згубленая пільнасць, якая аднойчы, як пярэварацень, пераўтворыцца ў помсту. Людзі, якія б яны ні былі розныя, па адным — нармальныя, з тым-сім можна нават душэўна пагаварыць, і ў нейкае імгненне здаецца, што ён цябе разумее, спачувае табе, калі ўсе збяруцца разам... асабліва на партыйны сход, нібы нейкую частку душы, а можа, і ўсю яе, спалоханую, ачужэлую, пакідаюць дзесьці. У кожнага застаецца адзінае пачуццё — пачуццё самазахавання. Абвостранае, як голка, прытоенае, насцярожанае. «Толькі не мяне!» І не раз яна назірала ў іншых, як расло гэтае пачуццё, мацнела і бязлітасна раніла, слепа кідалася на ахвяру. Яе ж бяда была ў тым, што яна ніколі, нідзе не пакідала сваёй душы: і тая, чулая і спагадлівая, заўсёды была з ёю, безабаронная сама, кідалася абараняць таго, каго выбралі за ахвяру, падстаўляла сябе пад удары распаленай і асепленай гайні. І нічога, апроч болю, не атрымлівала. Яе душа нібы парушала правілы гульні, і ўсе ад абранае ахвяры перакідаліся на яе. А потым усе разыходзіліся, разгубленыя і нават прыніжаныя, пазіраючы адно на аднаго сапраўды сабачымі вачыма, па адным, цішком падыходзілі да былой ахвяры, пацiскалі ёй руку, паляпвалі па плячы — маўляў, трымайся малайцом, або проста разводзілі рукамі ці гаварылі: «Разумееш, так трэба. Сягоння я цябе, заўтра — ты мяне». Ішла вялікая гульня на ўсіх паверхах вялікай будыніны пад назвай Краіна Саветаў. Так бывае з людзьмі, калі яны трацяць раптам розум і твораць самі не ведаюць што.

Дык што ж гэта адбывалася з людзьмі, калі яны збіраліся разам? Можа, іх атручвала атмасфера душнага памяшкання, можа, ім не хапала ў ім кіслароду? Першыя ж маёўкі праходзілі на вольным паветры, дзе-небудзь на жывапіснай палянцы сярод лесу ці каля празрыстага возера.

Памяшканне сапраўды было душным, паветра, можна сабе ўявіць якое, калі насупраць дзверы ў дзверы прыбіральня са старою, можна сказаць, дапатопнаю, сантэхнікаю: заўсёды нешта цякло, цурчэла, капала, залівала калідор, падступаючы пад самыя дзверы кабінетаў. Там, наверсе, калі-нікалі яшчэ рабілі касметычныя рамонты, а тут, на першым паверсе, апошні рамонт быў ці не пасля вайны. І хоць раз-пораз тут хадзілі камісіі, задзіралі галовы, пазіралі на размаляваныя бруднымі плямамі столі, асцерагаліся кропель кандэнсату, што гронкамі вісеў на трубах, круцілі насамі, але было ясна, — рамонт яны вырашаць рабіць хіба што толькі пасля наступнай разбуральнай вайны. Адзінае, што перарабілі на кабінет адзін з туалетаў. Цяпер там сядзіць дырэктар новаспечанай, створанай спецыяльна пад яго ўстановы — Метадычнага цэнтра па ідэалагічных пытаннях. О, не зайздросны лёс — са светлага, сонечнага пакоя Вялікага дома перасесці сюды. Але ж гэта лёс прывілегіраванага, перспектыўнага выгнанніка, якога не забудуць свае, і няхай толькі крышку забудзецца прыкрая, смешная любоўная гісторыя, ён стане Патронам. Гэта ж трэба было надумацца паехаць у санаторый, дзе ведаюць тваю жонку, з палюбоўніцай! Хіба што яна спецыяльна была падаслана некім вышэй, каб нашкодзіць яму, зламаць кар'еру. Смірнова ніколечкі не здзівілася, пачуўшы падобнае пра новага начальніка. Ва ўсіх, спушчаных зверху, амаль што аднолькавыя легенды. Папярэдні яе начальнік таксама пагарэў, звязаўшыся ў «той канторы» — так ён скептычна называў Вялікі дом — з буфетчыцай. І гэты начальнік, як і той, быў аматарам падбору і расстаноўкі кадраў, хаця рабіў гэта больш памяркоўна і, мусіць, прафесіянальна. Працавалі тут адны жанчыны. З іх лягчэй выціскаць сокі, прыніжаць, сутыкаць ілбамі. Генерацыя кіраўнікоў мела штосьці аднолькавае нават у абліччы. Чаго толькі вартыя былі іх вадзяністыя, абыякавыя, сумныя вочы. Яны ведалі, што іхняя праца нікому не патрэбная. Іх радніла мара пра ўтульныя кабінеты і сталы з прыстаўкамі, дзе ты адразу робішся важным і недасягальным. Палову перапобленага з прыбіральні маленькага кабінецика Патрона займаў стол — вялікі, паўкруглы і жоўты — месяц-маладзік ды і толькі. Можа, яго разам са сталом і перакінулі з Вялікага дома. І сядзеў ён за гэтым маладзіком недасягальны і такі далёкі ад усяго, нібы сапраўды быў на месяцы.

У Смірновай жа якраз быў творчы ўздым. Натхнёная, з новымі ідэямі, яна залятала ў яго кабінет, як на крылах, прапаноўвала і тое, і гэта, прыходзіла параіцца, заручыцца яго згодай, разуменнем і падтрымкай, каб дарэмна не траціць часу, не рабіць штосьці марна. Ён вяла выслухоўваў яе, калі і пагаджаўся з чым, то неяк надта скептычна — то была згода і нязгода, маўляў, рабіце, а потым паглядзім, не я адзін вырашаю. І яна пакрыху пачынала разумець, што начальнік — чалавек староннi, сузіральнік, ды не проста сузіральнік — пастух, які не пасвіць статак, а толькі цкуе сабак. Аднойчы, як заўжды перапоўненая ідэямі, яна заскочыла да яго ў кабінет, а ён крыху паслухаў і сказаў: «З усімі прапановамі звяртайцеся да намесніка». Але намеснік, колькі разоў Смірнова да яго ні патыкалася са сваімі прапановамі, адказваў, што гэта не яго кампетэнцыя, няхай вырашае начальнік.

Калі ж намеснік спрабаваў быць з ёю шчыры, яна баялася гэтага, спяшалася перавесці гаворку на іншае, бо была ўпэўнена, што калі-небудзь намеснік можа адпомсціць за сваю адкрытасць.

* * *

Патрон выклікаў усіх да сябе. У кабінеціку было душна, не прадыхнуць. І сам ён — так здалося Смірновай, — гэтым разам быў падобны на пацука, які выгрыз добры кавалак з галоўкі жоўтага сыру, толькі паўкруг застаўся. І ўсе прысутныя нагадвалі мышэй, якія падступаліся да сыру з іншага, процілеглага боку, мітусіліся і пішчалі, але трымаліся на адлегласці і, баючыся пацука, — сыр не чапалі. Можа, гэтае параўнанне з'явілася таму, што яна аднойчы выпадкова ўбачыла, як ён крадком нешта есць, абедае, хаваючыся пад вечкам дыплamaта, які стаяў на стале?

Смірнова не падабалася самой сабе. Апошнім часам пакінула ўсялякія захады і нават думкі перамяніць жыццё, атухла, прыціхла, жыла, як усе. Але менавіта тое, што яна — «як усе», яе і не цешыла. Яна балюча перажывала гэтую вымушаную «статкавасць», якую вельмі ж любяць тыя, хто ўмее прабіцца, праціснуцца дзеля таго, каб апынуцца спераду. У чарадзе тыя, хто ідзе паперадзе, паядаюць самую свежую і сакавітую траву.

У навальнічным паветры маленькага кабінеціка невідочна зяхалі маланкі, не было чым дыхаць, але Патрон не дазваляў адчыняць фортку — ён баяўся скразняку. Ён не толькі баяўся скразняку, а і свежага паветра. Ці мала што яно прынясе. Цяпер, як на паказ, быў выстаўлены сакратар. Прыйшла пара справаздачы.

Смірнова ўбачыла яго вочы, поўныя пакуты і страху, яго нервова-дрыготкія рукі і, забыўшыся на дадзенае сабе слова — не ўступаць, не ўлазіць — у іх свае справы і рахункі, усё ж не вытрымала. Яна пайшла супраць усіх, яна адна бараніла яго, безразважна, толькі таму, што ўбачыла ў яго вачах свой, такі знаёмы, што заўсёды трымаў яе воддаль ад людзей, ад смелых думак і ўчынкаў — страх. Абвінавачванні ў ягоны адрас здаваліся ёй несур'ёзнымі, гэта ўсё можна было паправіць мірам, ладам, яна зразумела галоўнае — яны, звыклыя адымаць і дзяліць, хочуць адабраць яго кавалак хлеба і падзяліць між сабою. Вярхі знесла скразняком з адчыненай форткі Гарбачова. Але тыя, хто прывык рабіць усё па загадзе, хто са страхам укрываўся з галавою, калі ноччу вярэдзіла думка, што трэба прыняць самому нейкае рашэнне і дзейнічаць, усё яшчэ бегалі, паклаўшы паперы ў папачкі, па зацішных паверхах Вялікага дома, тыцкаліся ў зачыненыя дзверы, у пустыя кабінеты. А тым, хто яшчэ затрымаўся, было не да іх, яны нішчылі, рвалі, палілі паперы — плён шматгадовай натхнёнай працы на карысць народа. Не дзіва, што столькі народу працавала за міску баланды на лесапавалах, гэта ж столькі трэба было паперы! Белай, глянцавай, дарагой.

Патрон таксама пабег у Вялікі дом, паклаўшы ў папачку артыкул, які падрыхтавала Смірнова. Вярнуўся разгублены і змрочны: раіцца не было з кім, кожны, нават галоўны ідэолаг, быў заняты працаўладкаваннем, і яму не было цяпер ніякай справы да нейкага артыкула ў нейкім — а ці патрэбным цяпер? — зборніку. Даваць яго ці не — трэба было вырашаць самому Патрону. Яшчэ тады, калі яна заказвала гэты артыкул, ён у роспачы і, як здалося ёй, са страхам сказаў: «Што вы робіце! Ён жа за прыватную ўласнасць! Вы пойдзеце наймацца да прыватніка?» Апошняе было сказана праз зубы, словы ледзьве праціснуліся, зрабіліся вострыя, бы джалы. Смірнова здзівілася: «Мы ж вырашылі гэта на планёрцы... Усе былі згодны. Вось план выпуску».

Ён зірнуў на план, як на нешта агіднае. Смірнова разумела яго прыкрасць: тады, на планёрцы, і пазней ён не надаў гэтаму ўвагі. Спадзяваўся — ці яна сарве заданне, ці гэты дэмакрат не напіша артыкул. Ды так востра. Пра генацыд, пра суверэнітэт, пра гэтую злашчасную прыватную ўласнасць. Як ён супраціўляўся, не хацеў друкаваць гэты артыкул — то казаў скараціць, то прасіў выкінуць тыя ці іншыя словы, накшталт «плюралізму», «суверэнітэту» і г.д. І параіцца ж яму не было з кім, не было ў каго заручыцца падтрымкай. Каменна маўчалі каля ўваходу ў Вялікі дом аслупянелыя Маркс і Энгельс. А жыццё ішло. Рака часу змывала адно і прыносіла іншае. Тачыла берагі і агаляла даўно забытае, прыхаванае. Мяняліся аўтарытэты. І хто б мог падумаць, што замест Маркса — няхай сабе і ва Узбекістане — на мармуровы п'едэстал стане забыты Тамерлан. Хто мог падумаць, што раз'едзецца па швах, як старая адзежына, такая вялікая дзяржава! Мусіць, слабымі, гнілымі ніткамі была сшытая... Жыццё, галоднае, халоднае, бруіла і пенілася. Былыя браты стралялі адзін у аднаго, аддзяляліся калючым дротам, мытнямі і не толькі не клікалі адзін другога ў госці, а гналі гасцей, забыўшыся не тое што на правілы добрага тону, але ж і элементарную прыстойнасць.

А тут, у задушлівых кабінетах Метадычнага цэнтра, ішла свая, прыхаваная і халодная, ідэалагічная вайна, якая, як і раней, называлася расстаноўкай кадраў, але атрымала новую афарбоўку — скарачэнне штатаў. Гэта рабілася проста: Патрона разам з намеснікам (сакратара ўжо не было) выклікалі ў кабінет са сталом — выгрызеным сырам — і абвяшчалі: «У нас скарачэнне штатаў, падавайце заяву па асабістым жаданні». Першымі запрашалі тых, хто меў сваю думку альбо мог калі-нікалі пярэчыць Патрону. Смірнова адчула, што прыйшла яе чарга пасля таго, як аднойчы, прыйшоўшы на работу, заўважыла, што прыбіральшчыца замяла пад яе стол смецце з усяго кабінета.

Смірнова доўга не падавала заяву. Яна была не гатовая да перамен. І тут працаваць болей не магла. Яна была выбіта з каляіны, работа не ішла, яны ж — спяшаліся выжыць яе. Адразу ўсе вакол зрабіліся (яна іх разумела — кожны ж бараніўся) варожымі і чужымі. У адзін з тых дзён, надвячоркам, яна назірала, як зграя варон дабівала ці то хворую, ці ў нечым вінную варону. Яны кружыліся, каціліся чорным клубком над полем, і кожная лічыла сваім абавязкам на ляту дзеўбануць няшчасную, што, роспачна і мітуслівa баронячыся, кідалася з боку ў бок. А потым, выбіўшыся з сіл, упала долу, і яны яе, нямоглую, пікіруючы, з лёту дабівалі на зямлі. І гэта суправаджалася неверагодным крыкам і граем. Гэта ў варон... Што ж гаварыць пра людзей. У іх гэта робіцца больш вытанчана, хітра, без сантыментаў, мэтанакіравана, яны цаляюць проста ў сэрца. Асабліва гэта ўмеюць тыя, чые бацькі працавалі наглядчыкамі ў лагерах, судовымі выканаўцамі і суддзямі. І яны, дзеці іхныя, узялі сабе права судзіць, судзіць жорстка, без развагі і міласці. Часам нават — і як іх вініць, калі гэта ў крыві, у генах? — несвядома, растаптаўшы, як пустую перліну, прэзумпцыю невінаватасці. Бацькі іх некалі так судзілі.

* * *

Смірнова шукала работу, але ўсюды, куды яна звярталася, было нешта падобнае. Пацягнуліся гэтыя жудасныя дні яе прыніжэння, абіван-

ня парогаў, за кожным з якіх ёй гаварылі: не, вы нам не патрэбны. Яна яшчэ болей зняверылася ў жыцці, у людзях. Былі часы крайняга адчаю, і толькі Славік ды хворая маці ўтрымлівалі яе на самым краёчку прорвы, яна не магла здрадзіць ім. І зноў, і зноў шукала тое месца, дзе можна пачаць усё спачатку. Цяпер яна была цвёрда перакананая, што змяняць трэба не абставіны, а самое жыццё. Але як? Яна ніколі не была палітыкам.

Цяпер яна ведала, што спадзявацца няма на каго, няма каму скардзіцца, няма ў каго прасіць дапамогі. Яна сама павінна пастаяць за сябе, каб выжыць, сама сябе абараніць, абараніць ад людзей і самое сябе... Былі страшныя дні. Былі дні, калі яна хацела помсціць, і прага помсты была навязліва неадольнай, як смага ў спёку. Яна, што заўсёды ўсё і ўсім даравала, не памятала зла, дзівілася сама, якія проста-такі фантастычныя варыянты помсты снавалі ў яе галаве. Яна не пазнавала сябе, яна змагалася з сабою, незнаёмаю і жорсткаю. І пакутавала, што ўсё гэта фантазіі, на самой жа справе яна ўсё тая ж безабаронная і слабая жанчына з заціснутым, як застарэлы інфільтрат у лёгкіх, страхам у сэрцы. Ёй так шмат гадоў, а яна не пасталела і заўсёды такое адчуванне, што сядзіць на высокім зэдлі, а ногі не дастаюць да падлогі. Так і сядзіць, баючыся паварушыцца. Але ж трэба было нешта рабіць, нешта змяняць. І жаданы момант надарыўся. Зусім выпадкова. На прэзентацыі новай фірмы, якую адкрываў даўні сябра сям'і Смірновых. Ён, мусіць, выпадкова ўспомніў яе і запрасіў, а можа, памятаў колішнюю сваю дружбу з яе мужам. Гаспадар сядзеў у інваліднай калясцы, як на троне, а вакол мітусіўся народ. Гасцей было шмат, нібы на вясковым вяселлі. Спачатку яна пачувала сябе ніякавата, здранцвела — ніколі не бачыла разам столькі знявечаных, столькі калек: на калясках, на мыліцах, з перакошанымі, бы жудасным болем, тварамі, скурчаных, як старыя дрэвы, з моўнымі дэфектамі... Гэта быў нібы страшны сон. Усе яны ўслаўлялі гаспадара, гаварылі, што менавіта ён даў ім адчуць сябе людзьмі, даў ім работу, вярнуў радасць жыцця. І гэта яны гаварылі чалавеку, які сам сядзеў у інваліднай калясцы, чалавеку з цвёрдым, валявым, нават крыху суровым тварам. У куточках рота ў яго збіраліся строгія складкі — адзнака таго, што яму часта даводзіцца перамагаць боль, а можа, нават адчай. І ёй зрабілася ніякавата ад таго, што яна, не старая яшчэ жанчына, прыгожая і здаровая, так раскісла, разгубілася ў жыцці. Ёй нават здалося, што ён нешта ведаў пра яе ці адчуваў, запрасіў яе сюды не выпадкова, а спецыяльна, маўляў, паглядзі, як трэба жыць, радавацца кожнаму дню. Ён сам пачаў расказваць ёй пра кожнага: у гэтага мільён у рабоце, гэты распачаў сваю справу, адкрыў магазінчык, «камок»...

А потым яе запрасілі на танец. Яна адразу з трывогаю агледзела кавалера. Але, дзякаваць Богу, у яго з нагамі, рукамі — усё было ў парадку. Здаровы, болей таго, моцны — калі ён у танцы туліў яе да сябе, яна адчувала ягоныя налітыя сілаю, бугрыстыя мускулы. «Я так шмат чуў пра вас», — гаварыў ён, адкрыта і шчыра любуючыся ёю. І яна верыла яму. Яна здагадвалася, хто ён. Яны жылі некалі ў невялікім мястэчку, сябравалі, вучыліся ў адным класе. «Вы — Міня?» — папытала яна. «Падпольная клічка», — весела адказаў ён. «Я таксама шмат што пра вас ведаю», — усміхнулася яна ў адказ. Міня быў сябрам дзяцінства гаспадара. Калі ў таго адказалі ногі, а ні каляскі, ні падводы, не гаворачы пра машыну, не было, — Міня ўзваліў яго на плечы, як мяшок, і панёс

у бальніцу. Так і насіў яго штораз. Міня і цяпер жыў у тым самым мястэчку. Але знаёмыя казалі, што хто яго ведае, дзе ён жыў. Здаралася, знікаў на месяцы, а «было дзела» — на гады. Потым з'яўляўся ўсё такі ж вясёлы, крыху хмельны, душа наросхрыст, а выпіўшы добра з сябрам, расказваў яму ўсе свае «гісторыі з геаграфіямі». Гісторый тых хапала на тыдзень, а то і болей, пакуль у абодвух не пусцелі кашалькі, а на кухні выстройвалася армада пустых пляшак. Гэта былі незабыўныя для абодвух сустрэчы. «Вы мне так падабаецеся», — гаварыў Міня і гарнуў яе да сябе. Потым раптам адхінуў, нібы хацеў разгледзець крыху здаля, зазірнуў у вочы. «Вас ніхто не крыўдзіць?» — «Не», — яна пахітала галавою. «Гэта праўда? — дапытваўся ён, спыніўшыся сярод кола танцуючых. — Запомніце, калі вас хто-небудзь крыўдзіць, — скажыце мне. Пазваніце...» Ён некалькі разоў паўтараў нумар тэлефона, каб яна запомніла, прасіў яе паўтарыць. Яна смяялася, не надаючы яго словам значэння, падумаеш, пустая балбатня чалавека на падпітку. Але Міня раптам зрабіўся непазнавальна сур'ёзны, твар — жорсткі, вочы — два прыцэлы. «Я гавару вам свядома. Калі хто-небудзь... Вы скажаце мне? Абяцайце!» Яна ледзьве не здалася, ледзьве не расказала яму ўсё. Проста былі не тыя ўмовы, абставіны, гэтага не скажаш у двух словах, вось так імгненна.

Дома яна зразумела, што сам лёс прапануе ёй два варыянты, два шляхі. Выбірай, Смірнова! Помста ў грудзях яшчэ гарэла — то тлеючы, як цяпельца, то ўспыхваючы полымем. Не раз яна працягвала руку да тэлефона, але потым сама сябе стрымлівала. Яе грэла ўжо адно тое, што яна можа гэта зрабіць, але дае ім, сваім ворагам, шанс.

* * *

«Ах, Смірнова, Смірнова...» Чыйсьці голас дакараў яе, рукі ўтрымлівалі, не давалі падняцца, і роспач разрывала грудзі: як яна магла забыць, чаму не думала пра дзіця сваё, згубіла, згубіла яго. «Славік, Славік, сынок... Даруй мне». Яна цягнулася да яго, шукала, мацала цемру, клікала праз боль у грудзях, а тыя ж рукі ўтрымлівалі яе, не адпускалі. У рэшце рэшт яна зазлавала на іх і на тых, хто наладжвалі розныя палітзаняткі і сходы, калі яе душа рвалася, а вочы не адпускалі гадзіннік: яшчэ пяць хвілін, і трэба бегчы — дзіця, дзіця адно. Цяперашні боль быў падобны на той, які расцінаў яе грудзі, калі даводзілася затрымлівацца, сядзець і слухаць нечыю балбатню ў той час, калі яе чакаў сын, Славік. «Што, што вы зрабілі з жанчынаю, што яна забылася на дзяцей сваіх?!» — «Супакойцеся, супакойцеся... Доктар, яна ўвесь час трызніць — то грозіць некаму, то просіць прабачэння». — «Гэта ачышчаецца падсвядомасць, наслаілася, назапасілася розных перажыванняў... Адно — не давайце ёй уставаць». — «Прыгожая жанчына... І чаго яна пайшла туды?»

* * *

... Горад быў насцярожаны. Трывога на тварах людзей, заклапочаных і раздражнёных, задзірлівых. Дзіва што, зараз сярод белага дня можа раптам знячэўку джыгануць цябе такая аса, што здранцвееш на месцы. Трывога ў голасе вадзіцеля тралейбуса, што без дай прычыны мяняў маршрут: значыць, сапраўды ў цэнтры нешта не так, зноў якія-небудзь шэсці ці барыкады. Раней бы яна такога не падумала, а хутчэй: зноў

прыехаў нейкі высокі госць. Трэба было перасесці ў метро, схавацца пад зямлёю, у глыбокіх яго сутарэннях, схавацца ад усяе гэтае зямное мітусні, але найперш — зайсці ў магазін, яна не можа вярнуцца з пустымі рукамі. У метро, відаць, у гэты час не ўціснуцца ў вагон, але яна пайшла, адразу ўлілася ў маналітную — назад не павернеш — плынь суграмадзян, цяжкую, пахмурную плынь, дзе трэба было маўчаць яе маўчаннем, бо адно слова магло закруціць глыбокі вір. Божа мой, якія сталі людзі! Бэсцяць, ганяць... І ўсё гэта транслiруецца па радыё, паказваецца па тэлебачанні на ўсю, некалі вялікую, разарваную на шматкі, краіну, якія яшчэ трымае разам, як фастрыга, што таксама рвецца, — тэлебачанне. Толькі на экране часам прамільгне мясціна, што была некалі блізкай, а зараз аддалілася на край свету. Але Смірнова апошнім часам не ўключае тэлевізар, не можа чуць пра гэтыя твіксы — салодкія парачкі, пра гэтыя снікерсы і марсы. Яна не можа пазіраць, як рэагуе на іх яе Славік. Славік... У такія часы яна ліхаманкава пачынае думаць, што б яшчэ такое панесці на рынак, можа, прадаць пярсцёнак...

У той вечар яна прабегла паўз да жудасці пустыя прылаўкі магазіна, спынілася ў мясным аддзеле, натрапіла позіркам на ўчарнелыя косткі, нібы ўбачыла іх не ў вітрыне, а ў лясным зарасніку, дзе-небудзь пад елкай, жахнулася: ці не воўк тут загрыз жывёліну? Тут, у пустым магазіне, ёй зрабілася вусцішна, як у цёмным лесе, калі не ведаеш дарогі. Яна разгублена азірнулася, і замігцелі, заззялі штучным срэбрам і пазалотаю, як ёлачныя цацкі, усе гэтыя замежныя ласункі і прысмакі, з «камкоў» яны ўжо запаўзлі ў гастраномы. У Смірновай павяло галаў, можа, таму, што яна сёння не абедала, а можа, ад гэтай стракатасці, якая адбірала вочы. У галаве загучала знаёмая, магчыма, ужо да канца жыцця ў мазгі ўбітая, як іржавы цвік, мелодыя рэкламы, круціліся і круціліся словы: «батончык з густога шакаладу, пражаны арахіс і салодкая карамель» і яшчэ нейкая халера, але замест таго акцёра са знарок выгаленымі, роблена галоднымі вачыма, што шукае «снікерсы», а потым з асалодаю ўгрызаецца «ў тоўсты слой шакаладу», яна ўбачыла, як наяве, сумныя вачаняты Славіка: «Мама, я, калі вырасту, буду прадаваць снікерсы... і есці». У думках яна абняла яго, прыціснула да грудзей, і запякло, зашчаміла там нясцерпна. Яна падышла да прылаўка і купіла — ажно рука ўздрыгнула, адчуўшы яго бязважкасць у параўнанні з цаною, — «батончык з тоўстым-тоўстым слоем шакаладу». Яна не ведала, куды яго пакласці, каб не сапсаваць галоўную яго каштоўнасць — каляровы фанцік, потым закруціла ў поліэтыленавы мяшэчак, паклала ў сумку, падумаўшы, што ў транспарце, каб не заціснулі, будзе трымаць яго над галавою. Божа мой, якое стала ў нас жыццё! Калі б нейкі чалавек у Афрыцы ці Аўстраліі, чалавек, які ніколі не чуў пра нашу краіну, выпадкова злавіў адну з нашых праграм па тэлебачанні, то, пэўна б, падумаў, што тут усе катаюцца на шыкоўных лімузінах, здзяйсняюць цудоўныя круізы і бесперастанку ядуць шакалад. Сапраўды, цудоўная краіна! І вось яна, жыхарка яе, не знайшоўшы нічога дзіцяці на вячэру, купіла шакаладную (а ці ёсць тут кропля натуральнага шакаладу?) цукерку, і нясе, не ведаючы, куды пакласці, нясе, як некалі паэт, чыя любоўная лодка, як і яе, дарэчы, разбілася аб быт, нёс моркаўку любай. Ах, гэты побыт, ён зацягвае, як вір. Трэба быць вельмі спрытным і смелым плыўцом, каб кожны дзень выбірацца з яго плыні, і пачынаць новы дзень з таго ж. «Ён гэтага не змог вытрымаць». Яна схамянулася, што думае пра яго,

былога мужа, так, цяпер былога, давала ж сабе зарок — не думаць, не ўспамінаць, чаму ж? Зноў, мусіць, мільгануў у натоўпе падобны твар, раней ніколі ў галаву не прыходзіла, не заўважала, што на свеце столькі падобных твараў, недзе ходзіць і яе двайнік. «Пры чым тут ён і быт»? — Зноў думала пра яго. — Ён ніколі не датыкаўся ні да чаго ў доме, ні разу не схадзіў у магазін, усюды яна сама. Яму проста пачала замінаць яе маці, якую яна часова забрала да сябе, хворую. Ён страціў камфорт, няньку, бо яна больш хадзіла каля маці. Яшчэ яму здавалася, што ён усіх корміць, нават гультаёў, якія за ўсё жыццё не зарабілі мінімальнай пенсіі. Трэба было пагаварыць з ім шчыра. Але яна не была адкрытай нават з ім. І гэта яе віна. Але можа здарыцца так, што яны сустрэнуцца. Але як сустрэцца, калі жывуць яны цяпер у розных гарадах. Яна, забраўшы Славіка, пераехала да маці ў стары падмаскоўны раён, кватэра невялічкая, але Бог з ім. Трэба ж было мяняць неяк жыццё. Забыць, забыць ранейшае і ўсё нанова, усё спачатку. І ніколі болей ім не сустрэцца. Яна ведала, што Мікалай, былы яе муж, часта бывае ў камандзіроўках у Маскве. Але дзе ты сустрэнешся ў такім натоўпе.

Адчула даўкі камяк і адагнала трывожныя думкі Славікавай радасцю. Так, ён узрадуецца! Цеплыня агарнула сэрца, і яна, мусіць, усміхнулася, бо адчула на сабе здзіўленыя позіркі. Час такі, калі ўсмешлівы чалавек выклікае падазрэнне: ці ў сабе ён? Ды яшчэ ў гэтыя дні, пасля Указу Прэзідэнта аб роспуску парламента, які каторы дзень сядзіць у Белым доме і працягвае ў агоніі сваю работу, цяпер скіраваную, і гэта зразумела, толькі на тое, каб расквітацца. Ходзяць чуткі, што адключылі святло і ваду і да Белага дома нікога не падпускаюць. Смірнова і не імкнулася туды. Над горадам навісла трывога: людзі чакалі развязкі спектакля, які столькі часу глядзеў увесь свет, і вось наступіла кульмінацыя, адчулася, што мірам гэта не скончыцца. Хадзілі чуткі, што ў Белым доме заселі штурмавікі-аўтаматчыкі, што там шмат баявых машын. А ахову спікера і наваяўленага прэзідэнта складаюць адборныя вайскоўцы з ліку чэчэнцаў і прыднястроўцаў, якія прайшлі вывучку ў гарачых кропках былой вялікай краіны. Белы дом ў цэнтры ўвагі ўсяго свету, толькі Смірновай не было да яго ніякай справы. Яна ўпэўнена, што ўсе яны адным мёдам мазаныя і гэта звычайная барацьба за ўладу, як у любым калектыве. Ёй не было ніякай справы да іх, як ім да яе. Між імі і ёю была прорва, якую не пераступіць. Смірнова ўлілася ў людскую плынь, растала, як кропля ў моры, і гэтая плынь нырнула пад зямлю, пацякла, скаваная мармурам і бетонам, як старая Няміга, недзе там, у Мінску, забыўшыся на старажытную славу сваю, цячэ ў поцьмах, мацаючы цвёрдае бетоннае ложа, точыць яго пациху, як нявольніца, што шукае канца пакутам. І тут, у метро, панавала насцярожанае маўчанне, а калі часам і перагаворваліся знаёмыя адно з адным, дык усё пра тое ж, называліся адны і тыя ж імёны, якія былі заўсёды на слыху. Яна не думала пра іх, яна даўно нічога не чакала ад іх. Калі высокія ўлады заняты разборкамі між сабою, унізе пачынаецца начальніцкае бязмежжа (што застаецца мышам, калі грызуцца між сабою каты?). Кожны маленькі чыноўнік імкнецца пад шумок умацавацца, аслабаніцца — ім жа няма каму скардзіцца — ад падазроных, на яго погляд, і ненадзейных, паказаць сваю сілу падначаленым — каб баяліся — знішчыць сапернікаў. Вось яна, прырода ўлады! Нядаўна яна адчула гэта на сабе. І цяпер ёй няма ніякай справы да іх разборак. У галаве яе іншае, яна паўтарае, як закляц-

це, назву фірмы, якая ёй дала ўрэшце работу, яна будзе рэкламаваць яе, гэтую фірму, і тое, што яна вырабляе, як рэкламуюць «снікерсы» і «баўнці», яна можа крычаць на кожным скрыжаванні, як некалі гандляркі пра гарачыя піражкі, крычаць: «Саміт Сістэмс», «Саміт Сістэмс» — гэта вяршыня камп'ютэрнай тэхнікі! Вашы шансы ў «Саміт Сістэмс»! І ад сябе: «Саміт Сістэмс» — гэта маё жыццё з надзеяй наперадзе!»

І ўсё ж трывога была побач, як цень, не адступала ні на крок. Яе не адагналі ні бадзёрыя думкі пра «Саміт Сістэмс», дзе яе несумненна чакала ўдача, так падказвала сэрца, ні Славікава радасць ад «снікерса». Яна была побач, на вуліцах, у сутарэннях метро: на Барыкаднай узгарэлася невялікая завируха накшталт лятучага мітынгу з чырвонымі сцягамі, узрушанымі прамовамі. Гэтымі людзьмі валодала настальгія па старым, няхай сабе шэрым, але бясклапотным (так ім цяпер здавалася) жыцці. Смірнова не стала спыняцца, прыслухоўвацца — хутчэй дадому. Трывога была і дома, у позірку маці, якая раз-пораз уключала тэлевізар, але перадач не было. Яе гэта непакоіла, як чалавека, які толькі і ведае пра жыццё з каляровай скрынкі, амаль не выходзячы з дому, а цяпер абарвалася апошняя нітачка, што звязвала са светам. Маці распытвала дачку, што і як там, каля Белага дома, ці пакінулі яго дэпутаты. Яна прадчувала нядобрае, тым больш, што па вуліцы прайшлі бэтээры. Тут, на ўскраіне горада, хадзілі чуткі, што зусім недалёка стаіць у чаканні танкавая дывізія і вось-вось рушыць у горад. Зайшла суседка, задышлівая ад астмы, яна, як рыбіна, хапала паветра і ўсхвалявана расказвала, што бачыла, як магчыма нейкі крымінальнік стрэліў на вуліцы, на вачах у людзей у такога самавітага, прыстойна апранутага чалавека. «Што ж гэта робіцца, што робіцца?!.» — прыгаворвала, задыхаючыся. І Славік атрымаў «снікерс» з умоваю, што з дому — ні кроку. Славік быў шчаслівы, ён абняў маму з усяе сілы, і яна, аслабаняючыся, усміхнулася, але ўсмешку скавала трывога. Толькі нядаўна яна радавалася: працуе, зноў наладжваецца жыццё, крышку нязвыкла, па-новаму. Памятае, як з'едліва гаварыў ёй Патрон: «Вы пойдзеце наймацца да ўласніка?!» — і вось яна працуе ў прыватнай фірме, што тут благога, затое ведае, што гэтаму ўласніку трэба, і ён не круціць кулаком ля грудзей, не гаворыць ёй: ну, нешта такое, маўляў, «душэўнае», а размаўляе з ёю па-дзелавому і канкрэтна. Толькі вось гэта... Усё так няўстойліва.

«Няўжо гэта пачнецца?» — дадала яшчэ сваёй трывогі маці. Старая, змучаная хваробамі жанчына нібы гаварыла сама з сабою. Яна ўсё ўключала тэлевізар, нервавалася, чакала нейкіх тэрміновых, вельмі важных паведамленняў. «Мне ніколі не падабаўся гэты іншародзец, — гаварыла яна зноў жа толькі сабе. — Кажуць, што ў яго вялікая ахова, цэлы клан, усе суродзічы». Гэта гучала неяк ненатуральна, не па-сучаснаму, а патыхала даўніною, гісторыяй, мусіць, так гаварылі раней пра нейкую асобу, прыбліжаную да цара. Да цяперашніх кіраўнікоў, тым болей да дэмакратаў, гэта неяк не пасавала. Маці з надзеяй зірнула на дачку, шукаючы супакаення, і толькі ўздыхнула, адчуваючы яе абыякавасць да ўсяго, што — яна гэта адчувала — насоўваецца, як хмара, чаго баялася яе чуллівая, змучаная душа. «Госпадзі, ці дадуць гэтаму народу спакойна пажыць? Колькі мучыць яго, выпрабоўваць, — здавалася, яна моліцца. — Дайце волю, ён сам разбярэцца, як жыць». Пасля кароткага маўчання дадала, цяпер ужо звяртаючыся да дачкі: «Я б не хацела, каб

усё вярнулася зноў. Мы гібелі... Вам нічога не далі ў спадчыну, апроч пустых лозунгаў. Мо ўнукі волі пабачаць». Яна разважала, бы была не тут, у гарадской кватэры, а недзе там, за дротам на лесанарыхтоўцы. Дачка сумна-ўсмешліва зірнула на яе і з трывогаю падумала: «Мама так рэдка выходзіць на вуліцу, дык, мусіць, ёй здаецца, што яна ў астрозе. Не, такое, праз што яна прайшла, не забываецца. І за што? За знаёмства з чалавекам, які думаў па-свойму. Адчуваецца, што хочацца ёй пагаварыць, мусіць, нагарнуліся ўспаміны». Не, яна не будзе зараз уступаць з ёю ў гаворку, не будзе ўспамінаць нічога, не будзе растраўляць сабе душу. Урэшце ўсё добра, усё добра... Галоўнае, што яна зноў працуе. Ёй проста пашанцавала ў гэтае абвальнае беспрацоўе. І — ура! Няхай квітнее фірма «Саміт Сістэмс» — вяршыня камп'ютэрнай тэхнікі, няхай думаюць за нас машыны, няхай баляць іх электронныя галовы, а яна пачне ладзіць сваё асабістае жыццё, якое даецца аднойчы, толькі аднойчы. Але чамусьці ніякія падбадзёрванні не цешылі, не адганялі трывогу ад сэрца. Трэба было нешта рабіць, каб пазбыцца благіх думак. У ракавіне яшчэ з ранку ляжаў нямыты посуд. Падумала: «Матуля, відаць, не заходзіла сюды, не абедала, яна б не пакінула посуд не памыўшы. А можа, не было гарачай вады?» Гэта верагодней. Не стала гарачай, можа скончыцца і халодная... Сама таго не заўважаючы, падсвядома і механічна, бы рыхтавалася да нечага благога, пачала набіраць ваду ў шкляныя слоікі, пакуль не вырашыла, што на першы час хопіць. У падсвечнік замацавала свечку і паклала побач карабок запалак — на ўсякі выпадак, калі раптам не дадуць святла. Зазірнула ў хлебніцу: буханка хлеба, гэтага пакуль што дастаткова, а заўтра... Трывога яе здавалася ненатуральнай, цьмянай, для гэтай трывогі як быццам не было падставы. Яна даўно вырашыла: яны — самі па сабе, яна — сама па сабе. Яны змагаюцца за ўладу, ёй трэба думаць пра кавалак хлеба, лекі для хворай маці, у якой яшчэ на лесапавале ў тайзе памерзлі і задзеравянелі ногі і цяпер не могуць адагрэцца і ажыць. Так, яна сама па сабе...

«Таццяна, Таццяна!..» Яе клікала маці. Голас — узрушаны, гучны. «Што з ёю? Заўсёды такая цярплівая, раптам усчала такі крык. Што здарылася?» Яна кінулася ў пакой.

«Прарваліся, — усхвалявана сказала маці. — Яны прарваліся...»

«Хто? Куды?» — яна нічога не разумела.

Маці паказвала на тэлевізар.

Смірнова ўздыхнула з палёгкай. Разумела: тэлевізар для яе — сувязь са светам. Амаль нерухомая, яна бавіць дні каля яго.

«Ты ведаеш, што робіцца? — маці ўтрымала яе каля сябе. — Захапілі Астанкіна! Яны выйшлі ў эфір з іншай студыі».

Захвалявалася, забілася сэрца, заныла, як ад адчування нечага неверагоднага. Выходзіць, яна не сама па сабе, гэта ўсё самападман. Яшчэ гадзіну назад ёй хацелася толькі цішыні і спакою, спадзявалася, што так і будзе зараз, калі яна атрымала пастаянную работу. Як зашчымела сэрца: а яна спадзявалася жыць па-чалавечы, нікога і нічога не баючыся. Што і казаць, раней умелі ствараць няхай сабе ілюзію спакою, няхай сабе знешнюю. Бераглі народ...

Смірнова зірнула на маці, і гэтая думка здалася ёй здзеклівай: бераглі так, што нават родныя дзеці не ведалі, што і дзе рабілі іх бацькі. Абдало холадам успамінаў: пустэльны, пранізаны скразняком калідор, зялёныя сцены ці так зялёна ў яе вачах ад хвалявання:

зусім незнаёмая жанчына, уся ў слязах, абдымае яе, прыціскае да сябе, а ўзрыды ў яе грудзях такія моцныя, здаецца, адштурхоўваюць знутры. І яна мацней прыціскаецца да яе, каб сагрэцца, так ёй шкада і гэтую незнаёмую жанчыну, і сябе, што яна заліваецца горкім плачам. І зноў перад вачыма гэты зялёны скразны калідор. Ён раней вельмі часта сніўся ёй, то яна бегла ў цемры на святло ў канцы, то блукала, абмацваючы яго халодныя, густа фарбаваныя, шурпатыя сцены, якія хавалі выхад.

Яна зноў прымусіла сябе не думаць, таму зноў пайшла шукаць работу рукам: прыбірала, мыла, паласкала і ўсё рабіла ліхаманкава, пахапкам. Нейкае прытоенае чуццё ёй падказвала, што яна павінна зрабіць сёння ўсё, што можна... Нічога не пакідаць на заўтра. Вось, здаецца, ухадзілася, прысела каля тэлевізара. Убачыла знаёмы твар. Наважылася папытаць у маці: што і як там, але тая зрабіла знак маўчаць. Перш чым зразумець, пра што гаворыць прамоўца, яна ўлавіла непадробную трывогу ў яго голасе, у яго словах, якія даляцелі да яе нібы з дзяцінства, з нейкай далёкай, але вельмі знаёмай, сур'ёзнай гульні. Ён ззываў хлапчукоў на апошні няроўны паядынак. І, мусіць, кожны, у чыім сэрцы жыве яшчэ памяць дзяцінства, вернасць дадзенаму слову, гонар і спагада, у чыіх вачах свецяцца водбліскі кастроў і рамантыка — покліч сэрца ў светлую мару і невядомасць, — пачуў яго, запаліўся яго непадробнай трывогай, зразумеў, — вырашаецца штосьці вельмі важнае, жыццядайнае, а сілы няроўныя і адступаць нельга. У памяці ўспыхнулі, як наканаванне лёсу, словы: нам бы дзень прастаяць ды ноч пратрымацца... Сэрца Смірновай успыхнула рашучасцю і адвагай, як, мусіць, тысячы сэрцаў, у якіх не згасла адданасць і вера, вера ў светлую далячынь, няхай сабе ўжо не асвечаную чырванню сцягоў, таму, мусіць, і больш ясную. Маці, што захутаная ў шалік сядзела ў мяккім фатэлі перад тэлевізарам, захвалявалася таксама: яна наогул не ўспрымала ўсур'ёз гэтага пухлагубага «хлапчука». Ён для яе назаўсёды застаўся ўнукам знакамітага пісьменніка (ні больш, ні менш), захопленым гульнёю, некалі прыдуманай ягоным дзедам.

Яе халодная развага брала верх. Яна абуралася яго ўзрушанасцю і сказала яму, гледзячы ў твар на экране: «Хлапчук, ты спужаўся... (Яна заўсёды вось гэтак гаварыла з усімі імі, гаварыла, што думала, — гэтага не выкаранілі нават лагеры, гаварыла на «ты», як з паплечнікамі.) І куды ж ты клічаш іх? Пад кулі... безабаронных... Хлапчук! Запомні, гэта табе не гульня. Глядзі, каб табе потым не прыходзілі яны ў сны, як... Яны ўсе там перапужаліся. І ведалі, ведалі, каму даручыць склікаць дапамогу», — бубнела яна, хоць экран ужо даўно згас, толькі яшчэ ўспыхвалі іскрынкамі на ім хвалі наэлектрызаванага эфіру.

Дачка сабрала вячэру: чай, бутэрброд, варэнне, — падала на падносе маці. Тая яшчэ нешта гаварыла сама з сабою, але дачка адчувала: толькі ацяжэлыя ногі трымаюць яе ў гэтым фатэлі, душою яна далёка. І каб не кволасць у нагах — была б і сама там.

Смірнова не збіралася нікуды ісці. Супакоіла сябе звыклым: у іх сваё жыццё, у яе — сваё. Але на самую навалілася раптам такая згрызота, што не было дзе падзецца, нічога не бралі рукі, нічога не было міла. І гэтая раптоўная адзінота, тая глухая адзінота ў святочны дзень, тое, што яна зведала ўжо не раз у сваім жыцці. Так, гэта

заўсёды здаралася на свята, калі муж яе ішоў на дэманстрацыю, а яна з малым Славікам сядзела дома. Вось тады адзінота і навальвалася ўсім цяжарам на яе, бо ведала, у яго — свята, ён з сябрамі, там яму весела, ён забыўся на іх, і невядома, калі ўспомніць — пасля дэманстрацыі абавязкова гуртам яшчэ да каго-небудзь са сваіх зойдуць і — пайшло, паехала. Прыходзіў ён поначы на добрым падпітку, стомлены, з падазронаю таямніцаю на твары і, нібы яна была ў нечым вінаватая, пераставаў з ёю гаварыць, маўчаў — што яму яе слёзы і папрокі! Вось тады і навальвалася на яе тая святочная адзінота, з-за якой яна загадзя баялася святаў, нібы наперад ведала, што яе чакае самота. Цяпер на яе нагарнуўся той горкі адчай невядомага свята, і ёй хацелася, як тады, калі хадзілі ў святочных калонах, ісці, ісці за людзьмі, разам з людзьмі, каб пазбавіцца гэтага наслання — адзіноты. І яна пачала хуценька апранацца. Маці ажно ўскінулася ў фатэлі, каб магла, заступіла б ёй дарогу, але, зірнуўшы строга, сказала: «Не хадзі, дачушка, там — страляюць, магчыма. Спавясцілі, што ўзялі Астанкіна». Яна не магла ўцяміць, як гэта ўзялі, навошта? «Я не затрымаюся», — супакоіла яна маці. Спусцілася ў пераход да станцыі метро, адвяла плячом цяжкія дзверы, адчула, як разануў у яе скразняк, але толькі сцепанулася. На пероне так-сяк убілася ў паўнюткі вагон. Людзі кіраваліся ў цэнтр, да Белага дома, і яна ўлілася ў гэтую вірлівую і гаманкую плынь, зноў яна кропелька ў бруйлівым людскім моры, там, дзе і павінна быць. Людзі не маўчалі, як раней: то тут, то там збіваліся ў гурткі, групамі, гаварылі, меркавалі, даводзілі адно аднаму свае думкі, пагаджаліся і не пагаджаліся, спрачаліся. Зноў гучалі знаёмыя прозвішчы, высвятляліся пазіцыі, выказваліся меркаванні. Людское мора вірыла, яно выйшла з берагоў, разлілося па плошчах і скверах, і Белы дом — нібы белы карабель, які страціў накірунак і спыніўся. Смірнова цяпер ведала, што гэта варожы карабель і трэба не даць яму высадзіць тут сваю каманду. У яе ж была адна маленькая непрыемнасць — недзе згубіла пальчаткі, добрыя скураныя пальчаткі, якія цяпер ці купіш. Дзённае цяпло змянілася па-асенняму халодным вечарам. І рукі яна мусіла трымаць у кішэнях, хоць сама была гэтаму праціўніца, наказвала, забараняла сыну, ідучы, трымаць рукі ў кішэнях: можна спатыкнуцца і не падстрахаваць сябе пры падзенні. Можа, таму яна і спа-тыкнулася, што трымала рукі ў кішэнях...

* * *

...Смірнова расплюшчыла вочы, цяжкія павекі змыкаліся. Нясцерпна хацелася піць, паліла ў грудзях, пустыня была ў роце, ва ўсім яе целе, яна адчувала гарачае яе дыханне, бы толькі што ішла па распаленым жвіры. Не магла зразумець, што з ёю і дзе яна, у якія тартарары заляцела. Чула стогны і нават нечае нязвязнае трызненне ці маленне побач. Зразумела, што яна не адна, дзесьці тут такія ж бедалагі, як і яна. Іх ужо нехта завёў і пакінуў у гэтай пустыні. У гарачым тумане ўлавіла, як мігценне, нейчы позірк над сабою. Запыталася, маючы на ўвазе і тых, чые стогны і дыханне чула паблізу: «Што з намі?» — «Вы будзеце жыць. Мёртвых надоечы пахавалі». Сказана гэта было разважна, з уздыхам і прагучала як папрок. І Смірнова, здаецца, зразумела ўсё, жахнулася,

ледзь утрымалася на краі свядомасці. Зноў да ванітаў прыкра падкаціў гэты надакучлівы саладжавы пах. Цяпер яна ведала — гэта пах крыві. Яна запомніць яго на ўсё жыццё, пах гэтай восені. Разумела, што мёртвых хаваюць не адразу, значыць, яна тут не першы дзень.

І зноў ад гэтага адкрыцця пачала губляць раўнавагу, захісталася на краёчку прорвы. Намаганнем волі і, здаецца, нечалавечай сілы, утрымліваючыся, каб не абрынуцца ў небыццё, чаплялася думкамі за блізкіх і дарагіх ёй людзей. Тыя, за каго яна чаплялася, былі слабыя — кволы хлопчык, сынок яе, і старая, хворая жанчына — маці. Таму так цяжка ёй было, дакарала сябе: як магла пакінуць іх у той трывожны вечар і пайсці невядома куды, чаму ўцякала, пакінуўшы іх, самых родных, ад прывіднай сваёй адзіноты? Што ж з імі? Як яны, адны? Здрадніца яна, здрадніца... Хацелася ўскочыць і бегчы з усіх ног да іх. Яна б гэтак і зрабіла, каб не боль, што пры кожным парыванні пранізваў яе навылёт, нібы яна была прыкутая да гэтага ложка жалезнымі цвікамі, але не пакідала надзею сарвацца з гэтага ўкрыжавання. Супакоіў яе прывід твару над сабою: то была сястра міласэрнасці ці хто іншы, яна, стомленая парываннямі, не ведала, але, не трацячы сілы на лішнія словы, старанна, як магла ясней — кожнае слова — крок у спякотнай пустыні — назвала сем лічбаў. Сем лічбаў, як разгадку свае тайны. Нехта, мусіць, зразумеў яе. «Ды ўжо спавясцілі, спавясцілі. Вас, Смірновых, у Маскве вунь колькі, а знайшлі... Ах, Смірнова, Смірнова, і прозвішча ў цябе неадпаведнае».

Смірнова нічога не разумела, не хацела разумець і тым больш разважаць пра якуюсьці неадпаведнасць, ціха радавалася: яны ведаюць, дзе яна, не будуць болей хвалявацца. І радасць была цяпер для яе не пушынкай, нават не лёгкім асеннім лістком, што адарваўся ад дрэва і лёг нечакана ёй на плечы, а страшэнна цяжкай ці не каменнай глыбаю, што навалілася на грудзі і не давала дыхаць. Непасільная для яе была нават радасць.

* * *

...Славік прыбег да яе адзін. Не было цярпення чакаць бабулю, у якой так балелі ногі, што яна села перадыхнуць на канапцы ў канцы калідора. Можа, хвалявалася лішне: тады яе ногі зусім адымаюцца, хоць на падлогу садзіся. Славік пашыбаваў хутчэй у палату. Спыніўся ў парозе, шукаючы яе шустрымі вачыма. Яна ўбачыла яго, але цяжкая ноша радасці, што сціскала яе грудзі, перамясцілася за плечы, і гэты важкі хатуль не даваў ёй прыўзняцца і абняць сынка. Яна толькі працягнула слабыя рукі і, калі ён падышоў, адразу пацішэлы і баязлівы, узяла ў свае яго, як заўсёды, ледзяныя ручаняты. Ён моўчкі пазіраў на яе, і, як ёй здалося, без асаблівай радасці, вывучаючы, быццам не верачы, што гэта яна, не пазнаючы яе. «Мама, — сказаў ён, мусіць, першае, што прыйшло яму ў галаву — дзіцячую, наіўную — пазіраючы на яе, спавітую бінтамі, — мама, а Ванька сказаў, што Ельцын тым, у каго хтосьці загінуў, даў па два мільёны». Не, яна не хацела чуць гэтую нотку ў яго голасе, можа, яе і не было, тое ёй здалося. Здалося... Яна каўтанула даўкі, калючы камяк, у які ператварылася раптоўна ў горле мяккая цукровая вата шчасця, і заплюшчыла вочы. Падумала — о, якія кашчунныя думкі прыходзяць, бывае, у галаву — падумалася: «Можа, гэтак было б лепей... Не, не, — запярэчыла сабе, — ён гэтага

не хацеў... Ён жа яшчэ дзіцёнак». Хуценька, як толькі магла, ускінула цяжкія павекі, зірнула на яго затуманенымі, поўнымі слёз вачыма. «Мама, мама, — Славік, плачучы, прыціскаў да грудзей яе рукі. — Ну скажы, скажы, што ты ніколі, ніколі не памрэш. Нам не патрэбны ніякія грошы, у нас ёсць — бабуліна пенсія». У дзвярах стаяла і сама бабуля. Нехта падаў ёй зэдлік, і яна села, хаваючы хваляванне, горыч і радасць іх сустрэчы за поўным жалю падабенствам усмешкі, якою адарыла ўсіх, хто быў тут, — бледны сярпок месяца ўзышоў над ратным полем.

«Дачушка, як ты сябе адчуваеш?» — запыталася, потым пачала абмацваць яе ўсю — рукі, ногі, прыклала далонь да лба. — Гаварыла ж табе, — не ідзі...» — дадала здаўленым шэптам. «Мама, там сапраўды стралялі ў бяззбройных». — «Я ж табе гаварыла». — «Як яны маглі, мама?» — «Ноччу, гавораць, сітуацыя не кантралявалася. Улада валялася пад нагамі...» Яны гаварылі шэптам, як дзве загаворшчыцы. «Ты не паслухала мяне...» — мякка дакарала маці дачку, і тая ўпершыню ўбачыла, як скрывіўся яе, заўсёды, бы застылы, мужны твар, і па шчоках папаўзлі звычайныя жаночыя слёзы. Мусіць, нязвыклыя, нечаканыя для яе самое, бо яна, бы спужалася, хапілася за твар і далонямі сцерла іх, як і не было.

«Хіба яны слухаюць нас, — убілася ў іх гаворку мажная жанчына ў неахайным белым халаце, мусіць, санітарка, аматарка папрысутнічаць пры чужой бядзе. Яна стаяла, абапёршыся на біла ложка ў нагах Смірновай, з цікаўнасцю пазіраючы то на яе, то на маці, маўляў, у нас тут сакрэтаў няма. — І наогул, — разважала яна, — што гэтым людзям трэба, хіба мы дрэнна некалі жылі? Мы з мужам тады на курорты кожны год ездзілі. Ён, праўда, пост меў высокі... А цяпер я гібею тут — пенсіі на жыццё не хапае», — яна пачала злавацца, абурацца.

Смірнова баялася, што маці зараз скажа сваё, накшталт: а мы, мілая, на такіх курортах былі, што... Пра сваю мізэрную пенсію, якую і дабілася з цяжкасцю, бо тыя «курортныя» гады ў рабочы стаж, аказваецца, не залічваюцца. Але, малайчына, маці маўчала, толькі твар яе зрабіўся жорсткі, непранікнёны, як маска. Яна змоўкла, пачакала, пакуль гэтая небарака супакоіцца. Потым сказала дачцэ: «Не хвалюйся за нас. Ты ж ведаеш, калі трэба, я магу сабраць сілы. Цяпер галоўнае — жыць!» Смірнова тарганула павекамі ў знак маўклівай згоды. «Галоўнае — жыць... Так, так, жыць!» І верыла, што болей не сарвецца, не абрынецца, утрымаецца на краі любое прорвы ў гэтую спякотную восень.

«Ледзь не забыла, — раптам сказала маці. — Званіў Мікалай, пытаўся пра цябе. Можа, ён нават прыедзе...»

Размова стаміла яе, і, застаўшыся адна, яна сцішана ляжала з заплюшчанымі вачыма, паглыблялася ў сон і хуценька вярталася, нібы вынырвала з цёмнай глыбіні. І думкі яе былі кароткія, сны перапынялі іх, можа, каб выказаць сваё, падсвядомае. Думала пра Мікалая: чаго ж ён званіў? А ў мроіве сну бачыла Міню. Ён зазіраў ёй у вочы, моцна, да болю туліў яе да сябе і гаварыў: «Вас са мною ніхто болей не пакрыўдзіць. Ніхто...»

*1993*



**УЛАДЗІМІР МАРУК**

# НАМОЎЛЕНАЕ

* * *

Павалока над мамінай хатай,
Дзе і крыўдныя словы —
свае...
Адбалелае лісце пакратай
І ўздыхнеш —
а чаму не пяе?..

Толькі той нездагадлівы певень,
Што ніколі не бачыў мяне,
Перад ганкам,
дзікун,
перастрэне,
Падляціць
і ў шчаку дзеўбане.

Кроў,
бы яркая роспачы пляма,
Скажа столькі,
як навалач слоў...
Зноў мяне дачакаўшыся,
мама,
Адцалуе балючую кроў.

* * *

Я не забыўся, як ставок
Выплёскваў хвалі на далоні —
Бы заняволены
вырок
За воблакаў сівыя скроні.

І думаў я —
чаму мяне

Ён гэтак скрушна выракае,
Нібыта чорны іл на дне,
Які даўно сівець звыкае.

Чаму — мяне?
Я й сам сівы,
Як тыя вольныя аблокі,
Нашмат вышэйшы ад травы,
Але прад небам
невысокі.

Чаму?..
З-пад рэдзенькіх павек
Сляза ўпадзе,
а я спрадбачу:
Ці не таму,
што чалавек —
Я за сябе й аблокі плачу.

* * *

Дзе выгнаннікі з летуценняў,
Што ізгоены
грэшным
мною,
Што з маіх летуценных жменяў
Выпаўзалі заўжды
змяёю?..
Там,
дзе гэтай змяі няўлежна,
Бы ў агорклых маіх далонях...
Бо ўцякае яна ў бязмежжа,
Як і я —
з яе волкага ўлоння.

* * *

Рыпіш?..
Хоць-кольвечы рыпі,
Пакуль нязведаны-нязводны.
Пі — захлынайся...
Раптам — пі,
Бы самы-самы першародны.

А потым —
зноўку,
зноў і зноў
Перацячэ цяплынь у холад,
Ды неспазнанае з высноў
Натоліць
неспатольны голад.

* * *

Лепш не магу расказаць,
як раслі
Кветкі,
якія няможна клясці...
Вунь зааралі той лапік зямлі,
Дзе анічога не хоча расці.

Як ні спрабуюць
цвісці карані,—
Вырасце штось —
не прарок і не хам...
Гэтую праўду як хочаш кляні,—
Тое ж накляцце
пачуеш і сам.

* * *

Як толькі маркоту спаўю сівізною,
Як нельга сабою
ў цішы абазвацца,
Тры калівы цемры
і водбліскі гною
Сплывуць-паплывуць,
каб без Ноя застацца.

У доўгім-таропкім
бязлюддзі-бязглуздзі
Як быў —
і стаю, —
з дзіва-дзіў недарэка...
Калі й прыгадаю,
што вольныя людзі,
Забуду,
як можна спазнаць чалавека.

* * *

А ў рыбнай рэчачцы
не хочацца й купацца,
Бо ў рэчцы гэтай
не стаміліся віры...
Там панна гожая
з зарэчнага палаца
Пайшла купацца —
і няма з тае пары.

Ды век ад веку
зацвіце ў вадзе гарлачык

І спавядаецца
у нязведанай жальбе...
Калі і прыйдзе хто на бераг і заплача,—
Дык ён занудзіцца так шчыра па сабе.

* * *

Ну што там на ўскрайку?..
Жыццё, а ці людзі?
Ну й што там штохвілі —
ці людскае ёсць?
Ці грукні,
ці ляпні
ў нягеглыя грудзі,—
Ну й што?!
Як была —
не забудзецца злосць.

Ну сядзем,
ну ўспомнім
ды вып'ем кілішак
І цвёрдаю моваю скажам:
«Амінь!»
І збудзецца наш непрытульны зацішак,
Ў якім,
як і быў,
застанешся — адзін.

* * *

У кожным горадзе
ёсць вуліцы без нас,
У нашым горадзе
ёсць вуліцы без ценяў,
Дзе аніколі
не кантрасціць кантрабас
Між немузычных дрэў,
тым болей — сценаў.

У гэтым горадзе
я жыў бы,
жыў ды жыў,
Калі б хоць хто азваўся адзінокі
І не паспелі
памяці глыжы
Пацэліць
у намоўленыя крокі.

* * *

*В.*

Шматкроць ненавіджу,
калі не кахаю,
Ды ўсё ж аніколі,
ані не забуду...
Ў жыцці — вечарэе,
а я прывыкаю
Да чараў яе —
што прысуд ад прысуду.

Жыццё выгарае —
як летась і сёння...
Калі ж азірнуся,
дык зводдалі ўбачу:
За полем,
што снілася, —
стомлены хвойнік...
Там могілкі,
дзе па сабе не заплачу.

* * *

Над маім парасонам —
тваімі дажджамі —
Угнявілася неба на тысячу дзён.
А ў стракатым лісці,
бы ў якімсьці бедламе,
Нада мною
ўгары
парасоніцца клён.

І не трэба табе,
як узнёслым мадоннам,
Пазіраць на нябёсы —
кахання чакаць,
Калі грэшна
са мной
пад маім парасонам
І пад клёнавым
моўчкі стаяць і кахаць.

* * *

Вылятае зароніі
шэрая пліска,
Ападае з галіны
паганскі лісток...
Перажытае —
поруч,
задумнае —
блізка:
Перайсці застаецца дзіравы масток.

За якім і сінеча,
і далеч — о Божа! —
І не пліска лятае,
а стомлены крук...
І ад смерці дарога стаміцца не можа,
Як паганскія скроні
ад сённяшніх рук.

* * *

Заснеш.
А як сон не прысніцца —
Дык гэтакім будзеш,
як быў...
А ў лесе
набракла грыбніца
І сніць і пра нашы грыбы...

Нарэжаш крамяных уранку,
Дзе рэха яшчэ не крычыць,
І сонца на маміным ганку
Іх будзе
з табою
лічыць.





**ІВАН СТАДОЛЬНІК**

# ТРЫ АПАВЯДАННІ

## КАСАЧЫ

Калі прыязджаю дамоў у сваю вёску, абавязкова выберу хвілінку, каб наведацца ў бібліятэку. Не так рупіць паглядзець, якія там ёсць кнігі, ці пачытаць свежыя газеты, часопісы, а больш за ўсё цягне мяне само месца, дзе стаіць бібліятэка. Вабіць яно яшчэ з далекаватага пасляваеннага дзяцінства. Як помню сябе, дык не было таго дня, каб я не пабываў тут. На гэтым месцы, дзе цяпер бібліятэка, да вайны стаяла школа. Казалі, прыгожая была — цагляная, двухпавярховая — гонар не толькі нашых вяскоўцаў, але і суседзяў. Школу гэтую будавалі яшчэ пры цары.

Школы я зусім не памятаю. Згарэла ў вайну. Потым, ужо адступаючы, літоўскія ці латышскія легіянеры спалілі і вёску. І пасля вызвалення людзі, будуючыся, разабралі мур згарэлай школы на цэглу для печаў. Таму нам, раўеснікам вайны, на пацеху застаўся толькі высокі падмурак, дзе мы любілі гуляць у хованкі ды шукаць розныя абгарэлыя жалезкі, цвікі і выкалупваць імі з падмурка вапну, якой размалёўвалі ўсё, што трапляла пад рукі.

Але сама больш нам не давалі спакою кветкі. Пагарышча з усіх чатырох бакоў акружалі кусты бэзу, ружаў, шыпшыны. А ў двары, на колішніх клумбах — цяпер кругленькіх утравелых узвышшах — раскашавалі вяргіні і касачы. Касачы цвілі і жоўтымі кветкамі, і сінімі. Можна было толькі дзівіцца, як ацалела ўся гэтая прыгажосць ад пажару.

О, як нам, малым, тады хацелася нарваць лістатых галінак бэзу з белымі, ружаватымі, блакітнымі свечкамі іскрыстых суквеццяў, чырвоных, як жар, з непаўторным, саладзейшым за мядовы, пахам ружаў, каб хоць крыху аблегчыць і голад, і холад!

Але хоць і нічыйнае было гэтае багацце, дарослыя не дазвалялі нам калечыць такую прыгажосць. Казалі, што не мы саджалі, не нам і рваць, што, можа, тут яшчэ пабудуюць школу.

І толькі пасля таго, як у ацалелым ад раскулачвання і вайны асадніцкім маёнтку адкрылася школа, людзі пачалі выкопваць і саджаць каля сваіх хатаў, а то яшчэ і зрубаў — кусцікі бэзу, ружаў, касачы, вяргіні, шаўковую траву. Стараліся адзін перад адным.

Дзіўна, але тады, калі ў многіх не было чаго есці, не было чаго апрануць, калі з-за працы людзі не бачылі белага свету, — усе стараліся пасадзіць каля сваёй хаты кветкі. Асабліва шчыравалі дзеці.

Атожылкаў кветак хапала ўсім, колькі іх ні выкопвалі, на наступны год, глядзіш, яны ўжо зноў ёсць. Мусіць, нейкая спагадлівая, шчадрэйшая, чым дзе, была тут зямля. Неўзабаве ля кожнай хаты з'явіўся свой кветнік, і школьныя клумбы больш ніхто ўжо не ўспорваў — яны дзірванелі, зарасталі травой, і на іх адміралі кветкі. Адны толькі касачы ніяк не хацелі здавацца. Раслі і цвілі яны тады, калі на школьным фундаменце пабудавалі клуб з бібліятэкай. Ледзь не кожны дзень у клубе ладзіліся танцы, бо нас, моладзі, тады яшчэ многа было ў вёсцы. І вельмі шмат чаго яшчэ нам хацелася: і лепш паесці, і лепш адзецца, але, пэўна, сама больш павесяліцца.

Калі выраслі, раз'ехаліся хто куды і мае аднагодкі, і старэйшыя за мяне, і маладзейшыя — адпала патрэба ў клубе, і ўвесь будынак сам па сабе адышоў пад бібліятэку. Цяпер да яе з вуліцы вядзе вузенькая сцяжынка. А ў двары расце высокая і густая трава, якая ніколі не расла такой у гады майго маленства. Даўно ўжо не бачна на былых клумбах і мужных касачоў. Усё-ткі не ўстаялі, і іх заглушыла трава. Толькі дзе-нідзе месцамі з-за бяроз можна ўбачыць куст здзічэлага бэзу.

Зусім нядаўна, па прыездзе ў родную вёску, мне зноў захацелася пахадзіць па бібліятэчным двары, сам-насам пабыць са сваім далёкім, але па-свойму мілым дзяцінствам. Здавалася, у ім ніколі не было ні голаду, ні холаду, ні роспачных крыўдаў, а былі адны толькі прыгожыя кветкі, якія раслі тут.

Калі падышоў да бібліятэкі, у нерашучасці спыніўся на дарожцы і, сам не ведаючы чаго, пачаў азіраць бібліятэчны двор, здалося, быццам нехта глядзіць на мяне. Мой погляд запыніўся , як усё роўна зачапіўся за высокую стройную бярозу, адну з тых, якія мы саджалі школьнікамі і нямногія з якіх ацалелі, дараслі да бяспечнага сталага ўзросту. Мне заўсёды здавалася, што з усіх гэтых бяроз хоць адна абавязкова павінна быць пасаджаная мною, але ўвесь час губляўся, баяўся памыліцца, каб не прысвоіць сабе чужое. Чамусьці цяпер у мяне з'явілася ўпэўненасць, што гэта бяроза мая, і мне стала яшчэ больш ніякавата, што яна вырасла без майго дагляду.

Раптам захацелася падбегчы да бярозы, прытуліцца да яе ўжо састарэлай шурпатай кары, сказаць нешта, выгаварыцца. Але я стаяў і глядзеў на бярозу, і яна мне бы ў знак удзячнасці ледзь улоўна ківала кронай, памахвала шапаткімі зялёнымі галінкамі, і мне ўсё лягчэй і лягчэй рабілася на душы, находзіла ціхая радасць, зразумелая толькі чалавеку ў такім душэўным стане. Пачаў я глядзець і на іншыя бярозкі, на таполю, што стаяла крыху воддаль. І тыя бярозы, і таполя таксама неяк урачыста і радасна заківалі мне кронамі, быццам і іх пасадзіў і сагрэў я некалі сваімі рукамі, каб яны красаваліся тут, на вачах у людзей.

Цяпер я ўжо з лёгкай душой збочыў з дарожкі ў густую траву, абышоў бярозкі і прыпыніўся на ўтравелым пляцы, дзе некалі былі клумбы, на якіх раскашавалі касачы і вяргіні. Цяпер тут цвілі іншыя кветкі, польныя — рамонкі, падбел, зязюльчыны слёзкі і шмат яшчэ якія, вядомыя мне і невядомыя.

І тут я прыгадаў, што заўсёды, калі іду вуліцай, прыглядаюся да агародчыкаў каля некаторых хатаў, але ні разу не бачыў у іх кветак. Усюды — толькі клубніцы, агрэст, парэчкі, усякая агародніна, пра якую раней ніхто не чуў. Толькі ў гародчыку прыезджай аднекуль Зосі Дамаскінай бачыў цюльпаны, півоні, гваздзікі і яшчэ нейкія. Такія ж кветкі раслі і каля яшчэ адной хаты, але там жылі таксама прыезджыя, якіх я нават і не ведаю.

Ад гэтых думак у мяне нечакана сціснулася сэрца, быццам я зусім нядаўна ўчыніў нейкую правіннасць, і цяпер гэта дайшло да маёй свядомасці. І раптам падалося, што ў траве нешта засінела, як усё роўна бліснуў недзе агеньчык электразваркі. Я падумаў спачатку, што гэта кінутая некім сіняя абгортка ад цукеркі ці так якая паперка, а мо і дзікая віка аблюбавала месца ў гэтай глушэчы. Расхінуў траву — і аж пацямнела ўваччу: гэта сапраўды была кветачка, хоць і слаба сіняя, як вылінялая ўсё роўна, а паабапал яе, як вартавыя, стаялі два пругкія шаблепадобныя лісточкі. Касач!.. Выжыў. Столькі гадоў мінула, трава заглушыла, а ён здужаў, выжыў і не здічэў!..

Я ўжо і рад і не рад быў свайму адкрыццю: не ведаў, што рабіць з ім. Мне здавалася, што цяпер касача можа знайсці любы, сарваць проста так, як бывае, дзеля забавы. І, нічога не прыдумаўшы лепшага, пачаў яшчэ больш ахінаць травой, маскіраваць кветку.

— Што вы там знайшлі такое цікавае? — раптам пачуў я за сабой знаёмы голас.

Павярнуўся і ўбачыў: абапёршыся аберуч на плот, за мной сочыць Зося Дамаскіна.

— Ды вось касача знайшоў, — прастадушна прызнаўся я.

— Касача? Якога? — яшчэ больш зацікавілася Зося.

— Ды кветкі такія ёсць.

— Касачы? Тут? У гэтай траве? — здзівілася яшчэ больш Зося.

— Іх тут некалі было многа. Дык вось адна кветачка выжыла, засталася.

— Ой, я ж так хацела, так хацела завесці сабе касачоў, ды так нідзе і не натрапіла, — успляснуўшы рукамі, забедавала Зося. — Вы б, можа, аддалі гэты касач мне, я перасаджу ў свой гародчык, завяду, а потым і вам дам на развод. У мяне якраз і месца ёсць у гародчыку.

— Дык ці прымецца ён, выкапаны сярод лета, — засумняваўся я.

— А я яго прама з зямлёй выкапаю, паліваць буду, дык абавязкова прыжывецца. Я ўжо не раз так рабіла.

Я з радасцю дапамог Зосі выкапаць і пасадзіць касач, і адразу на душы ў мяне стала лёгка і спакойна, быццам зрабіў самую важную ў сваім жыцці справу.

## ШЧАСЛІВАЯ

У электрычку Мінск—Маладзечна было не ўбіцца. Але Халімону Стаенніку пашанцавала. Можа, ён спантанна разлічыў, а можа, і так проста пашчасціла на гэты раз апынуцца каля першых дзвярэй першага вагона.

І вось невыносна марудна вылазіць, выпаўзае апошні чалавек, стары-стары дзядуля, і тут жа натоўп маладых дзецюкоў і дзяўчат, якія,

па ўсім было відаць, ехалі бавіцца на Мінскае мора, прыціснуў, літаральна прыляпіў Халімона да краю дзвярэй так, што ледзь не затрашчэлі рэбры, але дзіва, ён, Халімон, інвалід другой групы, нейкім неймаверным намаганнем дапамог маладой жанчыне з гадавалым дзіцем уварвацца ў вагон і тым самым пазбегнуць магчымага лёсу тых пяцідзесяці трох маладых чалавек на станцыі метро «Няміга». Праўда, цяпер не было навальніцы, дажджу і граду. Вясёлае чэрвеньскае сонейка так ззяла, так весялілася, нават здавалася, што аж танцавала.

Чарговая хваля маладой сілы нейкім чынам унесла, ўштурхнула ў вагон і Халімона.

І вось ён, абштурханы з усіх бакоў, стараецца прабрацца ўглыб вагона, дзе можна трохі вальней дыхнуць. І раптам чуе блізкі жаночы голас:

— Мужчынка, працiскайцеся сюды! Я заняла на вас месца...

— Халімон азірнуўся на голас і ўбачыў, што ледзь не побач сядзіць на лаўцы тая самая жанчына са сваёй гадавалай дачкой, якую зусім нядаўна ён, можа, выратаваў ад магчымай небяспекі.

... Роўна за хвіліну да ад'езду электрычкі да лаўкі, дзе сядзеў Халімон з маладой жанчынай і яе малой, літаральна на руках і на нагах прыпаўзла, валочачы за сабой вялікі, але, відаць было, амаль пусты чорны цэлафанавы пакет, худзенькая-худзенькая бабулька. Твар яе быў бледны, з глыбока запалымі шчокамі...

Бабулька крышачку перадыхнула і праз які момант пачала шкрэбаць па спінцы пальцамі правай рукі, спрабуючы ўстаць. Халімон з нейкім жахам глядзеў на пакручаныя сухія пальцы, думаючы, што яны не бабуліны, а нейкай пачварнай здані. Але тут жа бабулька-здань прапішчала гугнявым чалавечым голасам:

— Дапамажыце! Людцы!..

Два маладыя хлопцы з масіўнымі шыямі і коратка стрыжаныя, як па камандзе, зарагаталі. Халімона ад гэтага іхняга ржання ахапіла злосць. Ён кульгавы, маючы пад семдзесят гадоў, ледь устрымаўся, каб воўкам не накінуцца на іх. Скрыпнуўшы ўстаўнымі зубамі, ён дапамог бабулі-прывіду падняцца. І тут жа хацеў саступіць ей сваё месца, але сам не мог доўга стаяць, бо надта балелі ногі. Ён папрасіў жанчыну-суседку, каб тая ўзяла малую на рукі і вызваліла для старой месца. Жанчына з неахвотай, але згадзілася.

Бабуля-прывід уселася на лаўку, зручней уладкаваўшы на каленях свой пакет. Потым спытала ў Халімона, куды ён едзе.

— На лецішча, — адказау Халімон.

— А куды? У якое месца? — працягвала дапытвацца прывід-бабуля.

— У Зялёнае.

— Ой! — узрадавана ўсклікнула старая. — А я ж на адну станцыю бліжэй, у Крыжоўку.

Халімон, як былы ўрач, не мог адарваць позірку ад пачварна пакручаных сухіх пальцаў бабулі і ўрэшцэ не вытрымаў, запытаў, дзе яна працавала.

— Як дзе? У калхозі, а потым на заводзі, у інтрэнаце, — ганарова хітнуўшы галавой, адказала бабуля-прывід.

І ў гэты час Халімону падалося, што на нейкае імгненне выпрамілася бабуліна крук-спіна і бледны-бледны твар асвяціла ружавата-жоўтая ўсмешка. І раптам ні з таго ні з сяго неяк па-маладому і быццам бы гарэзліва старая запыталася:

— А ўгадай, колькі мне гадоў?

Халімон нават неяк машынальна падсунуўся бліжэй да жанчыны з дзіцем, разгублена кумекаючы, што і як адказаць на гэтую недарэчнасць, бо бабуля-прывід выглядала на цэлых сто пяцьдзесят гадоў, але раптам вырашыў падзяліць гэтую колькасць напалам і, як бы ўзбадзёраны, сказаў:

— Семдзесят пяць.

— А вось і не ўгадаў! — жвава крутануўшыся да Халімона, выкрыкнула бабуля. — Восемдзесят пяць!

Халімон раптам адчуў, што ў яго ў сэрцы знік нейкі незразумелы гнятлівы груз, можа, ад таго, што ў рэшце рэшт хоць нечым суцешыў гэтую няшчасную старую. Ужо з нейкай цікаўнасцю запытаўся ў яе:

— А вы тут, у Мінску, жывяце?

— А дзе ж яшчэ? Толькі ў Мінску!

— А якая ў вас кватэра?

— А нашто мне тая кватэра. За яе многа плаціць трэба, ды і прыбіраць, а так я жыву ў завадскім інтэрнаце, дзе рабіла некалі вартаўніком. Ніякіх клопатаў. Тыя, хто глядзяць за інтэрнатам, цудоўныя людзі: і пасцель ў тэрмін памяняюць, і нават падлогу памыюць. Праўда, жывём мы ў пакоі ўчатырох, дык крыху цеснавата. Але нядаўна адну з нас забралі ў бальніцу, надта ж дужа захварэла, кажуць, ці не памрэ толькі. Дык тады будзе вальней.

— А сям'я ў вас была ці ёсць? Муж, дзеці, унукі? — Сам Халімон меў жонку, дзвюх цудоўных дачок, зяцёў і трох унукаў.

— А нашто мне тая сям'я, на што мне той муж, дзеці і ўнукі. Іх жа і карміць, і глядзець, і абмываць трэба. А так я сама па сабе. Як кажуць — вольнаму воля. А ведаеш, колькі я класаў скончыла? Усяго чатыры. А колькі я кніжак прачытала? Можа, у сто разоў болей за цябе.

Халімон спрабаваў растлумачыць старой, што чалавек на гэтай зямлі павінен мець нашчадкаў, каб прадоўжыць свой род, каб яны, нашчадкі, прыходзілі на магілку.

— Ха! — Шырока разявіла бяззубы рот бабуля і пакруціла каля скроні пальцам. — Ты ні таго! Думаеш, што будзе доўга, як ты кажаш, помніць цябе нехта з нашчадкаў? Ахламонія ўсё гэта. Я во, даўно не ведаю, як знайсці магілы бабулі і дзядулі, нават мацеры, як зваць іх забылася. Крыжы на іх магілах яшчэ паўвеку таму пазгнівалі, усе зарасло травой і кустоўем. Колькі ні шукай — не знойдзеш.

У Халімона аж мурашкі пабеглі па целе. На гэты раз бабуля сказала балючую праўду. Некалі яму маці, цяпер ужо нябожчыца, паказвала магілкі яго дзядулі, бабулі і маленькага старэйшага брацiка Пецькі. А ён, Халімон, ушчэнт пра ўсё забыўся і не можа ўспомніць, у якім месцы могільніка яны знаходзяцца. Людзей паміpae цяпер даволі шмат, дык на могілках, дзе хаваюць яго вяскоўцаў, свободнай зямлі для спачыну землякоў-нябожчыкаў амаль няма. Нярэдка хаваюць у старыя магілы. Пэўна, падзахавалі ўжо і ў дзядулеву, бабуліну і брацікаву магілкі.

— А ў вас, у Крыжоўцы, лецішча ёсць? І хатка, пэўна, нейкая? — каб перавесці гутарку запытаўся Халімон.

— А нашто мне тая твая хатка. У дождж я вось гэтым пакетам накрываюся ці пад суседавай страхой пастаю. У мяне ёсць чатыры соткі.

Саджу крыху бульбы. Праўда, яна нешта не родзіць. Затое крапіва, лебяда шугаюць во дакуль.

І старая правяла пакурчанымі пальцамі па высахлых упалых грудзях. Потым працягвала:

— На ўсю вясну, лета і восень хапае аж па горла. А яшчэ насушу той лябёдкі, крапівы, дык зімой жыву прыпяваючы.

— А буракоў, агуркоў, памідораў, фасолі не садзіце?

— А нашто яны мне? — Зноў як абурылася старая і, крыху памаўчаўшы, дадала. — Вось я ў маладосці ў калхозі рабіла, па сто грамаў паўмякіны на працадзень атрымлівала. Якое было гэта шчасце!..

— А як у Мінск трапіла? — бачачы, што бабуля збіраецца ўжо да выхаду, запытаўся Халімон.

— У нянькі знаёмыя забралі. Кармілі. Потым у завадскі інтэрнат уладкавалі.

Халімон хацеў бачыць у гэтай дзіўнай бабулі вар'ятку. Але нешта не атрымоўвалася.

— Вым пенсію даюць? — яшчэ спытаў ён.

— А як жа!

— І колькі?

— Вялікую! — адказала старая-прывід. — Аж шэсцьдзесят тысяч. Халімон ад гэтага прызнання ледзь не страціў прытомнасць, бо сам ён атрымліваў пенсію ледзь не ўтрая большую за бабуліну.

— А чаму такая малая? Мажа, стажу не хапае?

— Як не хапае? Семдзесят пяць гадоў! — з гонарам адказала бабуля.

— У якой іншай краіне з такім стажам вы маглі б мець кватэру, машыну і больш-менш прыстойную дачу, — зазначыў скорагаворкай Халімон.

— А нашто мне тая краіна! Я самая шчаслівая. А на цябе і твае краіны болт клала.

Ледзь не з паўвагона пасажыраў падтрымалі бабулю, якая пачала прабірацца да выхаду.

— Правільна адбрыла ты яго. Хай едзе туды, дзе дадуць яму кватэру і машыну. А нам і так добра.

Бабуля доўгі час спрабавала рассунуць дзверы ў тамбур, але колькі ні намагалася, не змагла. Тады падышоў Халімон і дапамог.

— Дзякуй, дзетачка, дзякуй, — з нейкім святлом у вачах паглядзела на яго старая.

Але гэтага незвычайнага сонечнага позірку ніхто з пасажыраў не бачыў.

Электрычка спынілася на станцыі «Крыжоўка», наступная «Зялёнае». І калі Халімон дапамог бабулі выйсці з вагона, яна зноў такімі шчаслівымі вачыма паглядзела на яго...

І раптам у галаве Халімона, як нечаканы водбліск маланкі, мільганула думка, што гэтая бабуля-прывід сапраўды шчаслівая!

Няўжо тое, што ён мае выдатную кватэру, машыну і сям'ю, прыстойную пенсію, не ёсць нейкае сапраўднае шчасце, як у гэтай бабулі?

Другая думка была яшчэ больш дзіўная. А што, калі чалавецтва, каб выжыць, некалі зможа адмовіцца ад палацаў, машын, азартных відовішчаў, адурманьваючых тэлегульняў і саміх тэлевізараў, і зажыве іншым жыццём, як гэта бабуля-прывід? Толькі б хапіла на ўсіх лебяды, крапівы, грыбоў і іншых розных зямных прысмакаў. Толькі каб людзі не знішчылі ўсяго гэтага.

# ПАЧАКАЙ, ПРЫГАЖУНЬКА!..

Заўтра Аляксею Смольчыку будуць рабіць аперацыю. Як колішні доктар, ён добра ведае, што аперацыя будзе доўжыцца гадзін пяць-шэсць, а то і болей. Надта ж ужо складаная і даволі небяспечная. У яго рак. Рак дна рота з пераходам на цела языка. Ён сам паставіў гэты дыягназ яшчэ на першай стадыі, калі даўгавата не зажывала невялічкая язва на языку. Тады, на першым часе, можна было б абысціся і без аперацыі. Хапіла б і аднаго апраменьвання. Але, як гэта часта бывае з нашымі дактарамі, ягоным меркаваннем яны не прыдалі ніякага значэння: некалькі тыдняў ганялі здаваць розныя аналізы, прапісвалі пілюлі, паласканні, якія ніколечкі не дапамагалі, але накіравання ў анкалагічны дыспансер не давалі. Пэўна, на ўсялякі выпадак баяліся даць маху. А ў анкалагічным дыспансеры без таго злашчаснага накіравання, колькі Аляксей ні звяртаўся, не прымалі.

Нарэшце ён набраўся рашучасці, мінуўшы бюракратычную рэгістратуру, прыйшоў у кабінет да ўрача. Пажылая жанчына-ўрач уважыла яго як былога калегу, прыняла, папярэдне праз медсястру загадаўшы супрацоўнікам рэгістратуры, каб тыя завялі картку.

Урач узяла пробы на біяпсію з язвы на языку і сказала, каб ён, Аляксей, прыйшоў на прыём да яе праз тыдзень.

Калі праз тыдзень у прызначаны час Аляксей зноў заявіўся да доктаркі, тая, неяк вінавата апусціўшы вочы, сказала:

— У вас пухліна.

Дзіўна, што пасля гэтага для многіх страшэннага паведамлення ён ніколечкі не ўстрывожыўся, нават не занепакоіўся, а чамусьці як бы з бравадай спытаў:

— Якой стадыі?

— Другой. Трэба неадкладна класціся ў нас пакуль што на апраменьванне.

— Аперацыя будзе? — не сумняваючыся ў гэтым, неяк машынальна спытаў Аляксей.

— Будзе, — адказала доктарка, — але ў Бараўлянах, у даследчым інстытуце анкалогіі, бо ў нас такія складаныя аперацыі не робяць.

Пасля дваццаці дзевяці сеансаў апраменьвання Смольчык не знаходзіў сабе месца. У роце ўсё было як абварана кіпенем. Есці было немагчыма, і таму ён стараўся ліхаманкава глытаць страву, часта папярхаючыся, аж захлынаючыся.

Далі месяц пабыць дома, набрацца сілы.

І ўрэшце рэшт ён ужо ў Бараўлянах, у інстытуце анкалогіі. Прайшоў усе неабходныя працэдуры, здаў аналізы. Там і палячылі язву страўніка, каб пры наркозе не было прабадзення.

І вось яна, аперацыя, прызначана на дзесятага мая.

Аляксей і да цяперашняга часу ніяк не можа зразумець, чаму тады на яго найшлі нейкі спакой, абыякавасць і нават эйфарыя. Ды ў дадатак яшчэ ахоплівала незразумелая, як усё роўна вар'яцкая, радасць. Такую апантаную радасць ён адчуваў некалі ў далекім-далёкім ужо дзяцінстве на Вялікдзень, калі апранаў новыя чорныя картовыя штаны, пашытыя матчынымі рукамі, памыўшыся ў вадзе, куды мама клала яйка і дабаўляла свянцонай вады. Пачыналі гавецца, а потым

бегалі да радні, бліжэйшых суседзяў па яйкі, а ў каго нават удавалася пачаставацца і нечым смачнейшым.

А тут, у бальніцы, ён ледзь стрымліваў гэтую даўнішнюю дзіцячую эйфарыю. Сапраўды, невядома чаму яна цяпер на яго находзіла. Ён і да сённяшняга часу не можа ўцяміць. Хіба, можа, была адна хоць і неяк апраўдальная прычына. У заўтрашнім дні яму мроіўся нейкі рэальны канец ягоным пакутам. Гэтым па-дзівацкаму прыўзнятым настроем пачалі нават абурацца суседзі па палаце, а былы палкоўнік ледзь не накінуўся на яго, Аляксея, з кулакамі.

— Вам плакаць трэба, а не радавацца, — зыркнуўшы блішчастымі ад гневу вачыма, прашыпеў ён скрозь сцятыя зубы.

Але Смольчык быццам нічога не чуў і не бачыў навокал, па-ранейшаму адчуваў сябе ў нейкім незвычайным свеце. Урэшце ён схамянуўся — з ім творыцца нешта няладнае — і машынальна пачаў укладвацца спаць. Не думалася ні пра дом, ні пра дзяцей, ні пра унукаў, ні пра нейкія там неадкладныя справы. Хаця б нават мільганула думка пра будучую аперацыю, пра тое, што пасля яе будзе страшэнны боль, што, можа, і ўвогуле не прачнецца пасля наркозу.

Ён добра ведаў, што будзе ампутавана, як мінімум, палова языка, і што пасля аперацыі, калі абыдзецца ўсё, ён будзе моцна картавіць, і таму старэйшая дачка Аэлітачка запісала на магнітафон аж шэсць касетаў іх размовы: ён падрабязна, ледзь не да пятага калена ўспамінаў свой радавод, розныя гісторыі з дзяцінства, час вучобы ў медвучылішчы, ва універсітэце, чытаў шмат вершаў, пакуль аж не змогся.

Аляксей усведамляў, што ў ягоным становішчы гэта самы лепшы зыход, калі ампутуюць толькі палову языка. А калі ўвесь?.. Тады ён не толькі зусім не зможа размаўляць, але і есці ротам. Будзе жыць з прывязанай да вушэй і галавы жоўтай гумовай трубкай, праведзенай праз нос у страўнік. Праз яе вялікім, ледзь не паўлітровым шпрыцам уводзяцца ежа і піццё. Але страшней за усё тое, што гэта нявечыць, робіць да агіднасці брыдкім чалавечы выгляд, не дае спакойна з'яўляцца на людзях.

Але чамусьці і гэта не палохала, нават не хвалявала Смольчыка.

Заснуў ён надзіва хутка, ледзь не адразу, чаго з ім у апошнія гады амаль не здаралася, а назаўтра, у дзень аперацыі, прачнуўся намнога раней звычайнага, быў бадзёры, рахманы, быццам і не чакала яго цяжкае і небяспечна смяртэльнае выпрабаванне. Нават не заўважаў, як пячэ, смаліць у роце. Быццам нічога вакол яго не існавала: ні палаты, ні хворых, не было аніякіх думак. Толькі нейкае шчымлівае пачуццё няўцерпнага чакання таго моманту, калі яго паклічуць на аперацыю.

Суседзі па палаце пачалі рыхтавацца да сняданку: даставалі з тумбачак прывезеныя з дому міскі, лыжкі, кубкі, бо ўсяго гэтага ў бальніцах ужо не давалі. Дзіўна, але яму, Аляксею, ніколечкі не хацелася есці. Яшчэ ўчора ён вельмі лёгенька паабедаў, але зусім не вячэраў, як і належыць перад аперацыяй.

Аляксей і не прыкмеціў, як у палату ўвайшоў, бы раптоўна аднекуль выплыў, незнаёмы доктар, паўнаваты, невысокі, і прыглушаным, крыху асіплым голасам запытаўся хто тут будзе Смольчык. Аляксей, цяпер ужо прыкметна зніякавеўшы, таксама прыглушаным голасам адказаў, што гэта ён. Доктар падышоў да Аляксея, які так і застаўся сядзець на ложку, і, не назваўшы сябе і свайго ўрачэбнага профілю,

папытаўся, як ён, Смольчык, пераносіць лекі, асабліва, антыбіётыкі. Пачуўшы ў адказ, што добра, доктар папрасіў нікуды не адлучацца, бо па яго хутка прыйдуць.

Смольчык падумаў, што гэты мужчына — хірург, і спытаўся ў яго, ці доўгай будзе аперацыя. Доктар сказаў, што ён анестэзіёлаг, а не хірург, і колькі будзе доўжыцца аперацыя, не ведае. Усё залежыць ад абставінаў.

Неўзабаве, праз якіх пяць хвілін, па яго прыйшла медсястра і павяла ў ваннае адзяленне, дзе Аляксей скінуў сваю адзежу і апрануў белыя бальнічныя сподні. Потым яны пайшлі на другі паверх у аперацыйны пакой, дзе ўжо чакалі той самы знаёмы доктар-анестэзіёлаг і дзве жанчыны ў бела-блакітных халатах, мусіць, медсястра і асістэнт хірурга, якога чамусьці яшчэ не было (Аляксей ведаў, што аперацыю будзе рабіць мужчына.) Адна жанчына стаяла па адзін бок аперацыйнага стала, другая — па другі, а ўжо знаёмы доктар быў у тарцы. Ён адразу загадаў Аляксею класціся галавой да яго. Аляксей хуценька перажагнаўся і, невядома чаму, таксама паспешліва праспяваў: «А ну, красівая, паехалі катацца» і, як які маладзён, ускочыў на стол.

Яму тут жа прывязалі да стала ногі і правую руку, а ў вену левай медсястра пачала ўводзіць лекі для наркозу.

Аляксей заснуў раптоўна, быццам ураз праваліўся ў нейкую прорву.

Аперацыя доўжылася аж шэсць гадзін з гакам, а Аляксею здалося, што прайшло ўсяго нейкае імгненне. Як толькі прачнуўся, пачуў глухі, быццам бы з ямы, трывожны мужчынскі голас:

— Расплюшчыце вочы, расплюшчыце вочы!

Аляксей спачатку і не ўцяміў, што гэта тычылася яго, і здагадаўся толькі тады, калі адчуў на левай шчацэ лёгкае паляпванне нечай рукі. А ў вушах то ўзнікаў, то знікаў глухаваты і нейкі далёкі, незвычайны, як у сне, мужчынскі голас:

— Расплюшчыце вочы, расплюшчыце вочы!..

Нарэшце ў паўсне ён зразумеў, што ў цяперашнім ягоным становішчы вельмі важна расплюшчыць хоць адно вока, бо ад гэтага залежыць яго лёс, і пачаў напружвацца да болю ў пупку, да іскраў у вачах. Аднак колькі ні намагаўся, колькі ні выжыльваўся, адчуваў, што яму не ўдалося не толькі расплюшчыць хоць адно вока, але нават хоць ледзь-ледзь паварушыць вейкам, а ў вушах чуўся ўсё больш трывожны мужчынскі голас:

— Расплюшчыце вочы, расплюшчыце вочы!..

І раптам аднекуль здалёку-здалёку, як усё роўна з космасу, у трывожны мужчынскі голас уварваўся роспачны жаночы:

— Мы яго губляем!.. Мы яго губляем!..

Смольчыку ў імгненне стала лёгка-лёгка ва ўсім целе, быццам яно ўжо не існавала, правалілася ў нейкую прорву, у бязважкасць, дзе няма ні самаадчування, ні зусім нічога-нічога навокал. Толькі як бы ў гэтай бязмежнай і бязважкай прасторы яго некуды нешта шалёна-шалёна нясе. І раптам недзе далёка-далёка з паўблакітнай цемені пачала вымалёўвацца постаць маладзенькай-маладзенькай прыгажунькі дзяўчыны з нейкім блакітнаватым, як экран тэлевізара, тварам, такога ж колеру доўгімі распушчанымі валасамі і ў блакітна-белай сукенцы.

Аляксей паспеў разгледзець, што вочы ў дзяўчыны жоўта-залацістыя, і мігаюць, як дзве далёкія-далёкія зорачкі.

Дзяўчына імчалася яму насустрач з неверагоднай хуткасцю і ў якое імгненне апынулася за некалькі метраў ад яго. Але цяпер чамусьці сама ўся не была бачная: перад вачыма Аляксея красаваўся толькі яе асляпляльна прыгожы твар ды палонячыя, уладныя, пранізваючыя ўсяго яго нейкім незвычайным святлом і цяплом цуда-зорачкі — вочы. Ледзь-ледзь варушыліся, як ад лёгенькага ветрыку, блакітныя дзіва-валасы. Аляксей, як без памяці, гатовы быў вось-вось кінуцца да прыгажуні, прытуліць да грудзей, пацалаваць у бясконца вабныя бла-кітныя вусны, але дзяўчына пачала імгненна аддаляцца, неяк як бы здзекліва ўсміхаючыся яму. І ён не бяжыць, не ляціць, а нейкая невядомая сіла, як быццам шалёны вецер ці нават віхура, нясуць яго. Калі ўдаецца хоць крышачку наблізіцца да дзяўчыны, ён пачынае задыхацца ад шчасця, што вось-вось можа дагнаць і прыгалубіць цуда-прыгажуньку. Але цуда-прыгажунька недасягальная.

Ён у страшэннай роспачы пачынае крычаць ёй наўздагон на ўсю бязмежную прастору:

— Прыгажунька, пачакай! Прыгажунька!..

Але прыгажунька з неймавернай хуткасцю аддалялася, вабна ўсміхаючыся і какетліва-ласкава памахваючы рукой.

Хоць прайшло з той пары ўжо цэлых чатыры гады, але Смольчык і цяпер калі-нікалі, як усё роўна ў сне, чуе далёкі-далёкі пявучы, ласкава-тонкі, як гук туга нацянутай струны, голас цуда-дзяўчыны:

— Ты яшчэ не мой! Ты яшчэ не мой! Ты яшчэ...

Не паспеў ён да канца дакрычацца, як яго аглушыў нейкі моцнымоцны стрэл і аднекуль здалёку пачуўся ранейшы жаночы голас:

— Ёсць пульс! Ёсць пульс!

Аляксей раптам адчуў страшэнны боль у носе. Нешта халоднае і тоўстае ледзь не разрывала ноздры. Чулася шыпенне, падобнае да шыпення паветра з праколатай шыны аўтамабіля. Нарэшце да яго дайшло, што гэта вакуумная помпа-пісталет высмоктвае кроў з затопленых бронхаў. Ён ужо чуе, як вылятаюць у помпу згусткі запечанай крыві.

І зноў пачуўся знаёмы мужчынскі голас:

— Расплюшчыце вочы! Расплюшчыце вочы!

Смольчык ужо з нейкім адчаем, як сабраўшы сапраўды апошнія сілы, паспрабаваў расплюшчыць хоць адно вока, бо добра ведаў, што калі гэтага не зробіць, то яго павязуць не ў рэанімацыю, а ў морг.

І, о — цуд! Сутаргава кранаецца века левага вока, ледзь-ледзь падымаецца і... зноў бяссільна ападае.

— Будзе жыць! Будзе жыць! — чуецца як бы ўрачысты знаёмы мужчынскі голас. — У рэанімацыю!

І Аляксей зноў імгненна засынае ўжо без наркозу, каб потым зноў прачнуцца і пражыць столькі часу, колькі адпусціў яму Бог.





# НА ПАВЕРЦЫ — ІМЁНЫ

## АНДРЭЙ УШАКОЎ

У 1935 годзе Андрэй Ушакоў напіша невялічкі верш «Многаму ім ты ў жыцці абавязан», які і сёння змушае ўсхвалявана біцца сэрца, згадваць шматлікія імёны тых сяброў і паплечнікаў паэта, і не толькі іх, а і ўсіх астатніх, хто не шкадаваў жыцця дзеля нашай Перамогі, хто ніколі не траціў веры ў яе, ідучы з баямі па нялёгкіх вогненных дарогах. А пісаў тады малады паэт, схіляючы галаву перад брацкай магілай партызан, зусім не ведаючы, што радкі стануць памяццю крыху пазнейшым, не менш трагічным падзеям:

Навекі, як вобраз бацькоў сваіх,
Імёны іх прачытай і запомні.
Ты пройдзеш па полі, па сцежках лясных,
Праз ціхі вечар і ясныя промні.

Каб даць спакой здранцвелым нагам,
Прысядзеш спачыць у цяньку пад вязам.
І, можа, будзе зусім няўцям,
Як многаму ім ты ў жыцці абавязан.

Гэтыя радкі і сапраўды, як зазначыў калісьці Анатоль Вялюгін, можна было б паставіць эпіграфам да жыцця і творчасці ўсіх беларускіх паэтаў, якія загінулі смерцю харобрых у баях за Радзіму. Гэта мы «многаму абавязаны ў жыцці» ім, чые імёны сёння выклікаем на паэтычную паверку.

Нарадзіўся Андрэй Ушакоў у 1912 годзе ў Чавускім раёне Магілёўскай вобласці ў сям'і селяніна. Нейкі час пасля школы працаваў на заводзе імя Кірава ў Віцебску. І хоць быў па натуры лірыкам, тонка адчуваў прыроду, ужо на пачатку творчага шляху стаў песняром рабочых будняў. Тэма для таго часу і надта зваблівая. Адна з кніг маладога паэта так і называецца «Зарыва вагранак» (1933).

Працуючы на заводзе, А. Ушакоў не забываецца і пра вучобу, адначасова займаецца і на сцэнарным сектары Віцебскага кінатэхнікума. У 1939 годзе скончыў літаратурны факультэт Маскоўскага інстытута гісторыі, філасофіі і літаратуры.

Андрэя Ушакова з поўным правам можна назваць паэтам, які ледзь не ў кожным творы «абдумвае жыццё» (Ул. Маякоўскі). Хоць

для яго яно — яшчэ толькі светлы пачатак, аднак вось што хвалюе аўтара:

Каб не мучыў сорам перад тым,
Як апошняя часіна прыйдзе,
Што ты век пражыў жыццё пустым,
Што нашчадкі на цябе у крыўдзе.

Але кропку ўсяму паставіць вайна. З першых дзён яе Андрэй Ушакоў на фронце. Скупы біяграфічны радок засведчыць: «Загінуў у баях, абараняючы Беларусь, у 1941 годзе». Так, іх франтавыя вёрсты былі нядоўгімі. Яны першымі сустрэлі ворага і першымі палі смерцю харобрых на полі бітвы. І поле тое было тут, у родным краі, які яны баранілі.

Яшчэ і сёння ў многіх кутках Беларусі светлым і мілагучным акордам гучаць вяснова-ўзнёслыя радкі паэтавай песні:

Дзе ж ты, чарнавокая,
Блізкая, далёкая,
Светлая, падобная вясне?

Здаецца, і музыка не патрэбна для гэтых радкоў. Яны самі ліюцца з вуснаў лёгкай і нязмушанай мелодыяй.

Творы Андрэя Ушакова і сёння хвалююць глыбінёй думкі, яркай вобразнасцю, свежасцю паэтычнага зроку. Яны — яшчэ адно сцверджанне таго, што сапраўдная паэзія ніколі не бывае часовай.

***Казімір Камейша***

## РАДАСЛОЎНАЯ

Прасачы ад малпы ці Адама
Продкаў паважаных развіццё.
Быццам за замкамі, за гадамі
Захавана іхняе жыццё.

Рослы селянін з-пад Магілёва,
Жыў мой прадзед у глухім сяле.
Жыў на месцы ўсё жыццё, як дрэва,
Ў цемры, як кажан жыве ў дупле.

Свет не бачачы далей мястэчка,
Працаваў з зары і да зары,
Гнуў спіну ў абшарніцкім двары
І сатлеў пакорна, быццам свечка.

На паглум аддай жыццё ў салдаты!
Дзед, хоць быў і смелы чалавек,
Каб не скласці косці на Карпатах,
Палец на руцэ адсек.

Сорак сутак насустрэчу сонцу
Бацька ехаў у чужую даль
Шапкамі перамагаць японца
І прывёз кастыль, а не медаль.

Каля Віслы брат памёр ад газаў,
Роднай не пабачыўшы зямлі.

І нарэшце — камбайнер калгаса —
Я апошні з нашае сям'і.

За гадамі, за глухой заслонай
Бачу продкаў невясёлы век.
Я з свае вялікай радаслоўнай —
Самы найшчаслівы чалавек!

*1936 г.*

* * *

Дзе ты, чарнавокая,
Блізкая, далёкая,
Светлая, падобная вясне?
Можа ў гэты вечар
Ты чакаеш стрэчы
І таксама марыш пра мяне?!

Каля воднай станцыі
З песнямі і танцамі
Моладзь весялілася гурбой.
За цяністым паркам,
Дзе прастор байдаркам,
Там я пазнаёміўся з табой.

Кожнай сваёй рыскаю
Ты мне стала блізкаю,
Нібы сябравалі многа год.
Над ракой блукалі,
Песенькі спявалі,
Разам сустракалі сонца ўсход.

Птушкі чулі-бачылі,
Стрэчу як прызначылі,
Дзе дубы над возерам раслі.
Час быў нешчаслівы —
Трохгадзінны лівень
Нашу дружбу цёплую разліў.

З той пары прыходжу я
Ў парк, цябе, прыгожая,
Поглядам шукаю між дзяўчат.
Колькі ні ўглядаўся,
А цябе няма ўсё, —
Сумны я вяртаюся назад.

Дзе ж ты, чарнавокая,
Блізкая, далёкая,
Светлая, падобная вясне?
Можа ў гэты вечар
Ты чакаеш стрэчы
І таксама марыш пра мяне?

*1937 г.*

## МУЖНАСЦЬ

Плынь серабрыстая ракі
Фронт напал падзяліла.
Стаяць на берагах палкі —
Два ворагі, дзве сілы.

Асеннім вее халадком,
Пакрыта даль імглою;
Як пругкі тыгр перад скачком,
Мост выгнуўся дугою.

Спяць насцярожана палі,
І ў цішыні магільнай
Стаяць на варце патрулі,
За мостам сочаць пільна.

Байцоў склікае камандзір —
У голасе трывога:
— З Мадрыда к нам праз сем гадзін
Прыбудзе дапамога.

Ды будзе позна. Сонца рос
Яшчэ не вып'е — Франка
Без перашкоды цераз мост
Натоўпам пусціць танкі.

І танкі рушаць на Мадрыд,
Гармат узняўшы спіны.
Іх толькі грозны дынаміт,
Мост узарваўшы, спыніць.

Ці знойдзецца такі смяльчак,
Хто смерць сустрэць гатовы?..
Рашуча падышоў юнак,
Мартынес з-пад Кардовы.

— Чужы збіраў я вінаград,
Касіў чужыя травы,
І я сягоння буду рад
Сваю выконваць справу!

Прасцяг быў цемнатой спавіт,
Стаяў атрад маўкліва.
Узяў Мартынес дынаміт
І ў ноч пайшоў імкліва.

Пражэктар гнаўся ўслед за ім,
Змардаваным і потным.
І кулямёт праз едкі дым
Закашляў, як сухотны.

Замітусіўся рой салдат,
Як раздражнёны вулей.
— Уперад! Выканаць загад
Раней, чым скосіць куля!

Ён падае і зноў паўзе
Праз лужы, праз канавы,
І па пяску, і па расе —
Істужкай след крывавы.

А вось і мост. На дынаміт
Кладзі гранату...
Ранкам
Тут з дзікім гулам на Мадрыд
Не праімчацца танкі.

Над чорнай стромаю ракі,
Як дрэва, выбух вырас.
І песня скончана. Такім
Героем быў Мартынес.

*1938 г.*





ІГНАТ ДУБРОЎСКІ

# СПАРЫШЫ

*З сямейнай хронікі*

Васіль абышоў будынкі і трапіў на гаспадарчы двор, убіты нагамі людзей і жывёлы, заезджаны коламі. У кутку двара, ля паветкі, двое мужчын падмазвалі калёсы. Васіль спытаў у іх, калі можна ўбачыць пана.

— Чакай ля таго ганка, вунь там, дзе лаўка стаіць, — адказаў мужчына.

Васіль падаўся да ганка, зняў з плячэй рэчавы мяшок, сеў на лаўку і стаў чакаць.

На ганак выйшаў малады хлопец, служка пана, з парожнім вядром у руках. Убачыўшы барадатага салдата, спытаў, чаго ён хоча.

— Хачу прасіць зямлі ў пана, — адказаў Васіль.

— Тады чакай. Зараз пан снедае. Паснедае — выйдзе, — хлопец пайшоў да студні, размахваючы парожнім вядром.

Чакаць давялося больш за гадзіну. Нарэшце пан з'явіўся на ганку. Васіль усхапіўся з лаўкі і заміргаў вачыма. Ён быў здзіўлены. Чакаў, што выйдзе пан Вінцэнт Календа, з азызлым тварам, тлустым падбародкам і закручанымі ўгору таўстымі вусамі, з вялікім жыватом. А перад ім стаяў рослы, хударлявы, у даўгім карычневым халаце мужчына сярэдніх гадоў. Русыя вусы ад куткоў рота пераходзілі ў бакенбарды, якія звісалі абапал вострага падбародка, як вавёрчыны хвосцікі.

Васіль здагадаўся, што гэта сын Вінцэнта Календы — Канстанцы. Ён падобны да сваёй маці, пані Камеліі. Каб Васіль спаткаў Канстанцыя дзе-небудзь не ў сваім двары, то нізавошта не пазнаў бы.

— О-о-о, то жолнеж! — убачыўшы Васіля, выгукнуў Канстанцы. — То хто ты такі ест і чэго хцэш? — спытаў Канстанцы па-польску, хоць добра ведаў беларускую мову.

— Я — Васіль, сын Макара з Чарняўкі. Звольніўся з вайсковай службы. Прашу, паночку, зямлі кавалак, — і Васіль схіліў галаву ў паклоне.

— Дзе служыў? У якім войску? — дапытваўся Канстанцы Календа.

— У Курску, у артылерыі, — пакорліва адказаў Васіль.

— А паперы аб звальненні з войска маеш?

---

Заканчэнне. Пачатак у № 5, 2004.

Васіль дастаў паперы і падаў Канстанцыю. Календа прачытаў іх і сунуў у кішэню халата.

— А ці помніш ты мяне? — пацікавіўся Канстанцы.

— Помню, а як жа! Я ж у атрадзе разам з вамі быў. Пана Вінцэнта Календу таксама помню.

— Так, так, разам з французамі ваявалі. А старога пана Вінцэнта няма. Ён — там... — узмахнуў рукой у неба Канстанцы. — Просіш зямлі? А ці ўмееш ты араць, сеяць, касіць? Наогул, рабіць усе сялянскія работы? З маладых гадоў ты ў войску. Можа, табе даць якую другую работу? Давай пабачым, які з цябе салдат, — сказаў Канстанцы і скамандваў:

— Зважай!

Васіль выцягнуўся ў струнку, ляснуў абцасамі ботаў і ўскінуў галаву.

— Левае плячо наперад — арш! Правае плячо наперад — арш! — каманду за камандай падаваў Календа.

Васіль акуратна іх выконваў.

— Маршыруеш ты хвацка, па-салдацку, — пахваліў яго пан Календа. — Пабачым, як ты страляеш, — і ён звярнуўся да свайго служкі: — Прынясі фузію і гліняную талерку.

Хлопец у адно імгненне прынёс паляўнічую стрэльбу і гліняную талерку. Канстанцы аддаў стрэльбу Васілю, а сам адышоўся на сярэдзіну двара і паказаў, дзе стаяць стралку.

— Я падкіну гэтую талерку, а ты павінен стрэлам разбіць яе. Разумееш?

Васіль узвёў курок і стаў напагатове. Календа пагушкаў, пагушкаў талерку ў руцэ і падкінуў яе ўгору. Раздаўся стрэл. Ад талеркі ва ўсе бакі пырснулі аскепкі і пасыпаліся на дол.

— Добра! — Заўтра скажу табе сваё рашэнне. А зараз мой слуга адвядзе цябе ў дом чэлядзі. Ідзі паснедай і адпачывай.

Канстанцы Календа быў вялікі ласун да дзічыны, прынамсі птушкі — качак, цецерукоў, глушцоў, дупялёў, курапатак. Асабліва любіў ён амялушак, маленькіх стракаценькіх птушачак, якія чародамі густа садзіліся на рабіны. Толькі на гэтых птушачак і мог паляваць блізарукі Канстанцы. Тут цэліцца не трэба. Смалі ў крону рабіны, што-небудзь ды падаб'еш. Не грэбаваў ён і дзіком, казуляй, і нават палявым зайцам.

Канстанцы Календа шукаў такога чалавека, якога можна было б паставіць падлоўчым — памочнікам ляснічага, але разам з гэтым каб той чалавек быў і добры паляўнічы. Дэмабілізаваны салдат, яго прыгонны Васіль, адпавядаў гэтым патрабаванням. Але прызначыць былога салдата падлоўчым, не параіўшыся з ляснічым, ён не хацеў. Таму адклаў сваё рашэнне на заўтра.

Паснедаўшы, Васіль рашыў крыху адпачыць ды ісці па вёсках шукаць сваіх родных. Але пасля доўгай шматтыднёвай дарогі так моцна заснуў, што прачнуўся пад поўнач, забыўшыся нават пра вячэру.

Назаўтра Васіль пастараўся хутчэй паснедаць і чакаў пана, каб даведацца пра рашэнне.

З дому выйшаў Канстанцы Календа ў тым жа паласатым халаце, як і ўчора. Разам з ім выйшаў малады чалавек гадоў трыццаці. Ён быў у сінім гарнітуры з зялёнымі пятліцамі на каўняры, у фуражцы з вялікім сінім аколышам і зялёнай абячэйкай, на якой была бронзавая цэшка

ў форме дубовага лістка. За плячыма ў яго вісела стрэльба, а з левага боку сумка-патранташ.

Калі яны наблізіліся, Васіль прывітаўся з імі па-цывільнаму: зняў з галавы салдацкую бесказырку і нізка пакланіўся.

— Прызначаю цябе, Васіль, падлоўчым, значыць, памочнікам ляснічага. А гэта, — паказаў Календа на маладога чалавека, — мой ляснічы. Знаёмцеся.

— Мяне завуць Браніслаў Чахоўскі, сын Станіслава Чахоўскага. А цябе? — спытаў ляснічы.

— Васіль Чарняўскі, сын Макара з Чарняўкі, якой цяпер ужо няма. Быў у салдатах дваццаць гадоў. Вось і ўсё.

— Едзьце! — скамандаваў Календа.

— Паночку, а як жа з зямлёй? — прыглушаным голасам спытаў Васіль.

—З зямлёй?! Ты на надзел панскай зямлі не маеш права. У цябе няма сям'і. Ты — бабыль. А бабылям надзелаў не даюць. Але паколькі ты адбухаў у арміі дваццаць гадоў, зробім для цябе выключэнне. Даю табе дзве дзесяціны зямлі.

Васіля маленькі надзел зямлі не вельмі абрадаваў, але ён не стаў пярэчыць.

Календа паклікаў хлопца, які стаяў ля ганка са стрэльбай. Ён узяў у яго стрэльбу і перадаў Васілю.

— Вось табе стрэльба на ўсю тваю службу падлоўчым. Пра абавязкі падлоўчага табе раскажа пан ляснічы. А цяпер сядлайце коней — і ў лес, — Календа павярнуўся і пакрочыў да высокага ганка.

Конюхі вывелі з канюшні двух коней і асядлалі іх. Ляснічы і Васіль праверылі, ці добра яны асядланыя, селі ў сёдлы і паехалі за вароты.

Да лесу ехалі вузкай палявой дарогай. Абапал яе зялёным дыванам кусцілася рунь. Быў цёплы кастрычніцкі дзень, якія ў гэтую пару часта бываюць на Беларусі.

У лес яны ўехалі якраз там, дзе некалі была Чарняўка. Васіль спыніў каня і сказаў ляснічаму, што тут, на месцы гэтага маладога бярэзніку, стаяла некалі іхняя вёска Чарняўка.

— Ведаю, — адказаў ляснічы. — Ведаю, што французы яе спалілі. Адзін мудры чалавек сказаў, што прырода не церпіць пустаты. Знікла Чарняўка — на яе месцы прырода выгнала з зямлі вунь якія прыгожыя бярозкі. Ад Чарняўкі і следу не засталося. — Запомні, Васіль, калі за гэтым бярэзнікам не наглядаць, яго знішчаць на венікі. Вяршынькі пазразаюць на мётлы. Псуюць і хвойнік, выкопваюць карані на кошыкі, зразаюць арэхавыя дубцы на розныя карабы. — Лес — не толькі дровы. Лес — гэта ягады, грыбы, арэхі. На лясное багацце ёсць шмат ахвотнікаў. Твая галоўная задача, Васіль, не пускаць у лес без панскага дазволу розных самавольнікаў. Такое багацце, як грыбы, ягады, арэхі, збірае моладзь пад наглядам гайдукоў.

— Ведаю, — адказаў Васіль. — Я сам падлеткам рабіў гэта.

— Сёлета пара збору гэтагаляснога багацця мінула. Але ведаць парадак ты павінен, — папярэдзіў ляснічы Васіля. — Яшчэ ёсць адно даручэнне пана Календы табе — здабываць дзічыну да яго стала.

Васіль слухаў і панура ківаў галавой.

— Ну што, паехалі далей, — і ляснічы пацягнуў за павады.

Васіль прапанаваў паглядзець зямлянку, у якой іхняя сям'я жыла пасля пажару.

Пад'ехалі да мясціны, дзе была зямлянка. Ад яе засталася толькі глыбокая яма, зарослая хмызняком і дзікай травой.

— З гэтай зямлянкі мяне забралі ў салдаты па загадзе старога Календы, —сумна прамовіў Васіль.

— А чаму пан Вінцэнт Календа здаў цябе ў салдаты? Чым ты ўгнявіў пана? — дапытваў ляснічы ў Васіля.

— Не ведаю, за што разгневаўся на мяне пан. Я сам пра гэта часта думаў.

Васіль і сапраўды не ведаў, што прычынай здачы яго ў салдаты была дзяўчына, якую звалі Арынай, дачка Рамана з Карпілаўкі.

— Ну што ж, таго, што здарылася, назад не вернеш. Трэба неяк жыць, — спачувальна прамовіў ляснічы. — Работа ў цябе добрая, сталая і спакойная. Толькі ты не падводзь пана Канстанцыя. Ён не вінаваты ў тым, што рабіў яго бацька.

Лес дзяліўся прасекамі на дзялянкі. Яны праехалі ўсімі прасекамі. Ляснічы паказваў Васілю, дзе найгусцей расце маліннік, дзе — ажыны, мясціны, багата зарослыя чарнічнікам, брусонічнікам, дзе і якія растуць грыбы.

Васіль сам добра ведаў гэтыя мясціны. Ён ехаў ззаду і адчуваў, што вярнуўся ў сваё юнацтва. Яму здавалася, што зараз з-за куста арэшніку выскачыць весялуха Арына... Ён увесь час думаў пра яе. Што з ёй? Жывая ці не?

## 11

Вярнуўшыся з лесу, паабедаўшы, Васіль пайшоў шукаць сваіх родных. Бліжэйшай была вёска Карпілаўка. З яе ён і пачаў пошукі. У гэтай жа вёсцы жыла і Арына са сваёй маці ў той час, калі яго забіралі ў салдаты.

Падышоўшы да першага двара ў Карпілаўцы, Васіль паспрабаваў адчыніць веснічкі, але яны былі зачыненыя на засоўку.

У двары насупраць ён убачыў, як сярэдніх гадоў барадаты мужчына, з калматай галавой, у ніжняй зрэбнай кашулі, расхрыстанай на худых грудзях, у падкасаных штанах, мясіў таўкачом гліну ў шырокай балеі.

Мужчына спыніў сваю работу і ўставіўся на салдата з рыжаватай барадой.

— Сцяпан?! — дрыжачым голасам прамовіў Васіль.

— Васіль! — Сцяпан кінуў таўкач і абняў брата. — Ты як, назусім? — выціраючы слёзы, пытаўся Сцяпан.

Васіль таксама плакаў. Яго ахапіла дрыготка. Сцяпан пайшоў да студні і прынёс конаўку халоднай вады. Васіль прагна выпіў яе. Гэтая смачная вада з родных крыніц была першым пачастункам пасля доўгіх гадоў разлукі.

— Ты як, назусім? — зноў перапытаў Сцяпан. — Па нашых разліках, табе яшчэ пяць гадоў служыць.

— Назусім, — адказаў Васіль, — цяпер службу ў салдатах скарацілі на пяць гадоў.

— Ну і добра. Мы цябе, Васіль, помнілі і чакалі.

— Ці жывуць тата і мама? Дзе Міхась? Дзе сястра? — распытваў Васіль.

— Тата і мама даўно ўжо памерлі. Дар'я замужам. Брат Міхась з жонкай Грыпінай сёння ў полі на бульбе. Жыве Міхась са сваёй сям'ёй у гэтым жа доме. Ён займае адну палавіну дома, я — другую. Не дзяліліся мы. Як выраслі і пажаніліся, бацька наказаў нам жыць разам, каб пазбегнуць галечы і голаду.

Сцяпан расказаў Васілю, што зямлі ў іх дванаццаць дзесяцін. Па тры дзесяціны на брата. На трох дзесяцінах сям'ю, каня і каровы не ўтрымаеш. А на шасці дзесяцінах нават двум сем'ям так-сяк пракідацца можна. Яны з братам трымаюць аднаго каня і адну карову. Малако дзеляць папалам. Маюць агульныя земляробчыя прылады: драўляную саху і драўляную барану, вілы і граблі і ўсё іншае.

— Разумна, разумна, — ухваліў Васіль. —Талковы быў чалавек наш бацька.

— Галеча прымушае, — уздыхнуў Сцяпан. Ён павярнуўся да хаты і гукнуў: — Дарота! Дарота, ідзі сюды! Пабач, хто да нас прыйшоў.

З-за хаты, з агарода, выйшла Дарота з высока падаткнутым падалом. Там яна са старэйшымі дзецьмі выкопвала апошнія бручку, буракі, моркву і рэдзьку. Рукі яе былі ў зямлі. Убачыўшы чужога мужчыну, яна таропка абцягнула падол спадніцы. Дарота ніколі раней не бачыла Васіля. Ведала толькі, што старэйшы Сцяпанаў брат служыць у войску.

— Бож-жа ж ты мой, ці не Васіль гэта?! — здагадліва прамовіла яна.

— Так, так, я — Васіль, Сцяпанаў брат...

Дарота паглядзела на свае брудныя рукі, схавала іх за спіну, падышла да Васіля, выцягнулася на пальчыках і пацалавала яго ў калматую шчаку.

Прыйшоў з работы Міхась з жонкай Грыпінай. Міхась адразу пазнаў Васіля. Браты абняліся і расцалаваліся.

Гаспадыні пачалі рыхтаваць вячэру. Сцяпан узяўся даглядаць жывёлу, якая прыйшла з пашы, а Міхась з Васілём уселіся на прызбе і гаманілі пра былое.

Колішнія адносіны ў Васіля з Міхасём былі больш прыязныя, чым са Сцяпанам. Таму ён і адважыўся спытаць у яго, ці жыве Арына і дзе яна цяпер.

— Жыве, — радасна адказаў Міхась. — Жыве тут. У Карпілаўцы, у хатцы на тым канцы вёскі. У той самай, у якой жыла са сваёй маці дваццаць гадоў назад. Маці яе памёрла. Арына часта ў мяне пытала, ці жывы ты і дзе?

— Я хачу да яе наведацца. А замуж яна не выходзіла?

— Не, не выходзіла. Сваталіся да яе жаніхі, але яна адмовіла.

Міхась расказаў Васілю пра тое, што здарылася з Арынай і нябожчыкам Вінцэнтам Календам, калі была ў яго пакаёўкай, як яна расквасіла пану таўстую морду, а сама выкінулася праз акно з другога паверха і пакалечылася.

— Пайду да яе, зараз жа пайду, — усхвалявана сказаў Васіль. — Можа, там і застануся.

— Паслухай мяне, Васіль, не рабі глупства. Зараз будзем вячэраць, ды ўжо і позна. Гэта адно. А другое — застанешся з ёю жыць без вянчання, ад вас адвернуцца людзі. Пойдуць у вас дзеці, і ім дадуць ганебную мянушку — бансюкі. Трэба рабіць, як у людзей. Схадзі, каб веда-

ла, што ты з'явіўся. Калі паладзіш з ёй, дамоўся паслаць сватоў. З'ездзіце на вянчанне ў царкву, у Астрашыцкі Гарадок, згуляеце якое-ніякое вяселле. І людзі вас паважаць будуць. І яшчэ адно. Давай, Ва-сіль, я цябе падстрыгу, падпраўлю тваю бараду і вусы. Навошта табе паказвацца ёй такім калматым.

— Згодзен з табой, так я і зраблю, — паабяцаў Васіль брату.

З хаты выйшла Дарота і паклікала мужчын на вячэру.

Вячэраючы, Васіль сказаў братам, што малады пан Канстанцы Календа прызначыў яго падлоўчым. Браты не ўхвалілі Васіля, што даў згоду на тое.

— Ганяцца за людзьмі, адбіраць кошыкі, зрываць у кабет хусткі з галоў, — зморшчыўся Сцяпан.

— А ты, Сцяпан, думаеш, што мне такая пасада падабаецца? Я баяўся ўгнявіць пана, я прасіў у яго зямлі. Ён абяцаў даць дзве дзесяціны.

— Вось гэта добра! — ухваліў Міхась. — Прасі, каб ён даў табе зямлі побач з нашай. Там ляжыць вялікі дзірван.

— З дзірваном я не ўпраўлюся, — сказаў Васіль.

— Усе разам управімся.

Васіль сказаў братам, што галоўным абавязкам яго будзе паляванне дзічыны да панскага стала. А зрываць хусткі з галоў, адбіраць кошыкі ён не будзе.

Назаўтра Міхась падстрыг Васіля, акругліў і паменшыў бараду, падстрыг вусы. Васіль адразу памаладзеў гадоў на дзесяць.

У той жа дзень ён пайшоў да Арыны.

Яна сядзела за невялічкім столікам і спакойна вязала кручком рукавіцу. На століку ляжаў клубок шэрых ваўняных нітак. Нечакана адчыніліся дзверы і на парозе з'явіўся мужчына. Убачыўшы чалавека ў салдацкім адзенні, Арына пужліва адхіснулася. Рукавічка выпала з рук, клубочак упаў са стала і пакаціўся па глінянай падлозе. Яна выставіла наперад рукі, як бы баронячыся, і выгукнула:

— Няўжо… Няўжо гэта ты, Васіль… Не, не!.. — І яна стала хіліцца набок і падаць з лаўкі. Твар яе зрабіўся змярцвела-бледны, вочы закаціліся пад лоб. Васіль падбег, падхапіў яе на рукі і паклаў на скрыпучы ложак. Прынёс конаўку вады, змачыў ёй скроні і даў напіцца. У яе павольна сталі ўздымацца павекі.

— Васіль... няўжо гэта ты?! Ці мне здаецца…

— Гэта я, Арына, я — Васіль. Я вярнуўся з салдатаў і прыйшоў да цябе. Я ўсе гэтыя гады думаў пра цябе.

— І я цябе не забывала. Колькі начэй я прастаяла на каленях перад абразікам Маці Боскай, молячыся ёй, каб вярнула цябе з салдатаў. Але ж у мяне, Васіль, ёсць загана — я кульгавая.

— Усё ведаю, Арына. Мне расказаў пра гэта брат Міхась. Малайчына ты, Арына, малайчына.

— Гэта ты, Васіль, памог мне выратавацца ад панскага здзеку. Я разбіла яму нос, сарвала з галавы парык. Дурніца, я думала, што сарвала валасы са скураю. Ад жаху я выкінулася праз акно з другога паверха.

— Добра, што засталася жывая. Цяпер не будзем разлучацца. Давай, Арына, справім вяселле. Я прышлю да цябе сватоў.

— Якое ўжо ў нас будзе вяселле... Ні ў цябе нічога, ні ў мяне... Хіба што з'ездзім у Астрашыцкі Гарадок у царкву, павянчаемся, каб не грашыць Богу.

— Ніякіх гуляў мы спраўляць не будзем. А на абед пасля вянчання я сёе-тое збяру, — паабяцаў Васіль і расказаў Арыне, што Канстанцы Календа прызначыў яго падлоўчым і даў стрэльбу, каб ён здабываў дзічыну да панскага стала.

— Навошта табе, Васіль, з людзьмі апастыляцца?!.

— Супакойся, Арына. Я сам ведаю, што ніякі з мяне падлоўчы не выйдзе. Я не хацеў пану пярэчыць. Прасіў у яго кавалак зямлі, і пан абяцаў даць дзве дзесяціны. Наперадзе зіма, і мне застаецца толькі паляванне дзічыны да панскага стала. А вясной — Бог бацька. Буду прасіць пана, каб зямлю даў цяпер. Я ўвосень ускапаў бы яе рыдлёўкай.

Вяртаючыся ад Арыны ўжо зацемна, Васіль убачыў чалавека, які ішоў насустрач. Параўняўшыся з ім, чалавек спыніўся і спытаў:

— Васіль, гэта ты?

— Я. А што? — не зразумеў Васіль.

— Вася! Васіль! Я рад, што сустрэў цябе, — прамовіў чалавек. Кінуўся да Васіля і сціснуў яго ў абдымках, цалуючы то ў адну, то ў другую шчаку. — Ці помніш ты Алёшку Данілавага?

— О-о-о, дык гэта ты, Алёшка! Ніколі цябе не забываў, — адказаў Васіль, цяпер ён сціснуў сябра юнацкіх гадоў, цалаваў яго ў касматыя шчокі.

— Ці ўладкаваўся ты, Васіль, як і дзе жыць?

Васіль расказаў Аляксею пра сваю пасаду, пра паляўнічыя абавязкі перад панам, пра абяцаннне пана даць яму кавалак зямлі.

— Чаго мы тут упоцемках стаім? Хадзем да мяне. Праз адзін двор мая хата.

Яны зайшлі ў хату. Каля печы ў святле лучыны корпалася жонка Аляксея Ганна.

— Ганна, паглядзі, якога нам госця паслаў Бог. Гэта — Васіль з Чарняўкі. Памятаеш? — Ён шмат расказваў ёй пра свайго сябра Васіля, як яго стары пан Календа здаў у салдаты.

Ганна, убачыўшы незнаёмага ёй чалавека, трошкі збянтэжылася. Стаяла перад ім з вехцем у мокрых руках і кланялася.

Пакланіўся ёй і Васіль.

Аляксей падышоў да стала, узяў васковую свечку ў падсвечніку і запаліў яе ад лучыны ля прыпечка.

— Праходзь, Васіль,садзіся.

Ганна выцерла рукі хвастачом і ўзялася пячы дранікі.

За вячэрай Васіль прызнаўся, што яны з Арынай дамовіліся справіць вяселле.

— Па праўдзе кажучы, якое там вяселле. За голы стол гасцей не пасадзіш, нам павянчацца і то справа нялёгкая...

Цяжкасць з вянчаннем Васіль бачыў у тым, што на тэрыторыі Халяўшчыны не было праваслаўнай царквы. Быў толькі касцёл. Будаваць праваслаўную царкву Вінцэнт Календа не дазваляў.

— Вырашылі так: мы з Арынай паедзем на фурманцы маіх братоў, а ўсе астатнія пойдуць пешкі ў Астрашыцкі Гарадок.

— А Божа ж ты мой! — пляснула рукамі Ганна. — Хіба ж можна так, каб жаніх з нявестай ехалі да вянчання ў адной фурманцы?! І смех, і грэх...

— У нас адна фурманка на ўсіх трох братоў, — апраўдаваўся Васіль.

— Паслухай мяне, Васіль. Якім быць твайму вяселлю, вырашаць вам з Арынай, але чуеш, што сказала Ганна? На адной фурманцы жаніх і нявеста да вянца не едуць. Гэта ў доказ таго, што яны яшчэ не зблізіліся як муж і жонка. А калі будзеце ехаць да вянца ў адной фурманцы — людзі зразумеюць гэта па-свойму. Адвернуцца ад вас. Ад вянца едуць разам, на адной фурманцы. Яны ўжо муж і жонка.

— Праўда ваша. Ну, а што ж рабіць? Наняць яшчэ адну фурманку? — разважаў Васіль.

— Ніякіх фурманак нанімаць не трэба. Табе ж вядома, Васіль, пра вясковую талаку. Задумае хто дом новы будаваць, яму аднаму і за пяць гадоў дом той не паставіць. Збіраюцца вяскоўцы і талакой будуюць яму дом. Да восені гатовы. Перасяляйся і жыві. Вось такую талаку я наладжу на тваю паездку да вянчання.

Пра вясковую талаку Васіль добра ведаў. Яго бацька, Макар, неаднойчы працаваў у талацэ. Але то была талака па будаўніцтве. А тут — паездка да вянчання. Крыху незвычайна.

— Добра, Алёшка, пагавару з Арынай, як яна.

У наступную суботу да Арыны пайшлі жонкі Васілёвых братоў — Дарота з Грыпінай і галоўны сват Аляксей.

Згоду Арыны на вяселле з Васілём сваты атрымалі адразу.

Аляксей расказаў Арыне і пра наладжванне ім талакі для паездкі ў царкву. І тут Арына не пярэчыла.

— Рабіце, каб было так, як у людзей, — прасіла Арына. — У нас з пачастункам будзе бедна. Але тут мы нічога прыдумаць не зможам. Прыедзем ад вянчання і ўсе разам паабедаем... чым Бог пашле.

— І добра! — ухваліў Аляксей. — Больш нічога і не трэба.

За два дні перад вяселлем Васіль прынёс у панскі двор напаляваную ім дзічыну. Прымала сама пані Люцыя. Яна ўзяла сумку ў Васіля і сказала:

— Я ведаю, што ў цябе праз дзень вяселле. Дару табе гэтыя лясныя здабыткі на яго.

У Васіля сціснулася сэрца, закалола ў носе, павільгатнелі вочы.

— Шчыра дзякую вам, пані, — сказаў ён.

Ахмістрыня Юля падрабязна расказала Люцыі пра здарэнне з Арынай, як яна выкінулася праз акно, зламала сабе нагу, за што Васіля пан Вінцэнт Календа здаў у салдаты на дваццаць гадоў.

Пра ўсё пачутае Люцыя расказала мужу, свайму, як яна яго звала, міламу Консці. Канстанцы ведаў, што Арына выкінулася праз акно, але не ведаў сапраўднай прычыны. Ён думаў, што яго бацька, злосны па натуры чалавек, хацеў правучыць пакаёўку за непакорнасць, а яна ад страху кінулася ў акно.

Выслухаўшы Люцыю, Канстанцы заўважыў:

— Тады гэта было зазвычай. Тады ў памешчыкаў было права першай ночы на прыгонных дзяўчат, якія выходзілі замуж. Не прыдавай гэтаму значэння, Люцыя.

— Было, ды не сплыло. Яны, просты люд, лепшыя за нас. Яны больш душэўныя. А мы абзываем іх быдлам. Сярод нас яшчэ больш быдла, чым сярод іх...

Да вяселля Васіля з Арынай усё складвалася найлепшым чынам. У суботу Дарота з Грыпінай і Аляксеем пайшлі на заручыны да Арыны.

Арына сустрэла сватоў ля свайго парога:

— Заходзьце, дарагія сваты, заходзьце. Але мы з Васілём ужо сасваталіся.

— Ну, то і добра, — адказаў Аляксей.

—Але ж пра вяселле пагаварыць трэба.

Усё было вырашана. Аляксей стварыў талаку з шасці фурманак. Можна было набраць у Карпілаўцы яшчэ столькі ж фурманак. Але не было такой патрэбы. Аляксей выбіраў такіх гаспадароў у фурманы, у якіх былі добрыя выезды — брычкі або новыя калёсы і прыстойная збруя. У людзей нават знайшліся званочкі на дугі.

У двары Васілёвых братоў і на вуліцы сабралася ледзь не ўся Карпілаўка. Было і трое музыкаў — з гармонікам, скрыпкай і бубнам.

Пад марш фурманкі выцягваліся адна за адной з двара. У варотах стаяла Дарота з ячменем, брала жменяй зярняты і абсыпала маладую і маладога, прыгаворваючы:

— Дарагія Арына і Васілёк, жадаю вам ураджаю на дзетак-кветак і шчасця палетак!

Вяртаючыся з Астрашыцкага Гарадка пасля вянчання, Арына, седзячы побач з Васілём, нахілілася да яго і прашаптала:

— Вася, зараз я табе нешта пакажу.

Яна пакорпалася пальцамі за вухам пад касой і выцягнула адтуль каласкі-спарышы.

— Спарышы?! Ты іх зберагла? — ён абняў Арыну і пацалаваў у скроню. — Сённяшні дзень у маім жыцці самы шчаслівы.

Вяселле гулялі ўсю ноч. Мяняліся за сталом госці, грала музыка, гучалі песні.

На ўсходзе сонца Арына з Васілём вярталіся з дома яго братоў, дзе адбывалася вяселле, у сваю невялічкую халупу на ўскраіне вёскі. Сонца толькі што ўзнялося над зямлёй. З яго, здавалася, капала золата, дакляруючы ім цяпло і шчасце.

— Вася, пабач, які цудоўны пачынаецца першы дзень нашага сумеснага жыцця, якое шчасце нам абяцае сонца! — тулячыся да яго, прамовіла Арына.

Жылі яны дружна, згодна, але бедна. Праз год у іх нарадзіўся сын, якога назвалі Андрэйкам. Было ў іх яшчэ двое дзяцей — хлопчык Антон і дзяўчынка Зося. Але яны памерлі ад хвароб і нястачы.

## 12

Сваёй пасадай падлоўчага Васіль быў вельмі незадаволены. Ганяцца, бегаць за людзьмі, лавіць іх, здзіраць у жанчын хусткі з галоў, адбіраць кошыкі — абрыдаеш людзям. Ён не мог гэтага рабіць па сваёй натуры. Адно супакойвала, што наставала зіма, у лесе ўжо не было ні грыбоў, ні ягад, скончыліся і арэхі. На зіму ў Васіля застаўся адзін абавязак — паляваць.

Васіль хадзіў на паляванне тры разы на тыдзень і прыносіў пану некалькі птушак, або зайца, або маладую козачку. Перападала тое-сёе і сабе.

Але зіма скончылася, настала пара лясных ягад і грыбоў. У панскі лес крадком сталі хадзіць людзі. Васіль стараўся іх не заўважаць, а калі і натыкаўся на каго, то паварочваў у другі бок.

Пра яго адносіны да самавольных грыбнікоў і ягаднікаў даведаўся пан Канстанцы. У саматужны цэх на перапрацоўку амаль не пасту-

палі лясныя дары. Ад аканома Юзафа Бржазоўскага Календа даведаўся, што мала хто з сялян бярэ цэтлікі на дазвол.

Пан Канстанцы Календа выклікаў да сябе ляснічага Браніслава Чахоўскага і падлоўчага Васіля Чарняўскага і спытаў у іх, чаму людзі не бяруць цэтлікі. Чаму цэх па пераапрацоўцы пустуе? Чаму падлоўчы не затрымаў ніводнага самавольшчыка ў панскім лесе?

Васіль сказаў, што не вінаваты. Нікога ў лесе ён не бачыў. Лес жа вялікі і густы, а ён адзін. Дзе ж ты іх зловіш.

Пан Канстанцы разгневаўся і загадаў ляснічаму, каб ён разам з Васілём на працягу тыдня хадзіў у лес і правяраў, як выконвае свае абавязкі падлоўчы.

Назаўтра ляснічы з Васілём з самага ранку пайшлі ў лес. Блукалі па лесе гадзіны дзве, нарэшце ўбачылі, як між камлямі дрэваў замітусіліся тры жаночыя постаці з кошыкамі. Жанчыны, убачыўшы ляснічага і падлоўчага, кінуліся наўцёкі.

— Стойце, а то страляць буду! — закрычаў ляснічы.

Але жанчыны ўцякалі, не зважаючы на пагрозу. Адна жанчына зачапілася за ламачыну і ўпала. Ляснічы падбег да яе, памог устаць.

Падышоў Васіль. Убачыўшы жанчыну, ён аслупянеў. І жанчына спужана ахнула, твар яе зморшчыўся.

— Зрывай з яе хустку! — загадаў ляснічы Васілю. — І забірай кош!

— Не буду. Не магу, — адказаў Васіль. — Гэта мая братавая Дарота. У яе чацвёра дзяцей пухнуць з голаду. Ад Каляд крошкі хлеба ў хаце не было...

— Вось як! Тады няхай пан Календа разбіраецца з табой і з тваёй раднёй, — злосна сказаў ляснічы, павярнуўся і пайшоў.

Ён адразу накіраваўся да пана Календы і расказаў яму пра здарэнне ў лесе.

— Я так і ведаў, што Чарняўскі не хоча выконваць сваіх абавязкаў. Таму і цэх пустуе. Я звольню яго з пасады падлоўчага. Адбяру зямлю і выганю вон за вароты маёнтка. Няхай ідзе ў чыстае поле і шукае сабе месца, — і Календа злосна стукнуў кулаком аб стол.

— Не трэба так, Консці, — умольна сказала Люцыя, паклаўшы рукі яму на плечы.

— Пан Календа, пані Люцыя мае рацыю. Не варта так крута абыходзіцца з прыгоннымі, як тое, прабачце, рабіў ваш бацька. Змяняецца час, змяняюцца і паводзіны людзей. Спадзяюся, вам, пан Календа, знаёма патрабаванне афіцэраў-дзекабрыстаў пра адмену прыгоннага права.

Ляснічы Чахоўскі нагадаў Календу, што пад уплывам дзекабрыстаў прыгонныя сталі дрэнна працаваць, не выходзіць на паншчыну. Усё часцей і часцей падпускаюць «чырвонага пеўня» пад панскія двары.

— Усё гэта мне вядома, пан Браніслаў. Дык што ж, рукі перад імі апусціць? — гнеўна наморшчыў лоб Календа.

— Майце на ўвазе, пан Календа, што Васіль Чарняўскі — салдат. Дваццаць гадоў яго муштравалі, вучылі забіваць людзей, разбураць, знішчаць усё жывое... Якая ў яго можа быць натура?

— А што мне з ім рабіць, калі з яго падлоўчы ніякі? — шырока развёў рукамі Календа.

— Звальняйце яго з пасады падлоўчага. Няхай адрабляе паншчыну, як і ўсе прыгонныя, і жыве, як хоча.

— Разбяруся сам, — адказаў Календа.

Ляснічы пакланіўся і выйшаў. Люцыя звярнулася да мужа з просьбай пакінуць Васіля дворным паляўнічым, звольніць толькі з пасады падлоўчага.

— Мой імператар, — так яна клікала мужа за яго доўгія вусы і пышныя бакенбарды, якія звісалі абапал паголенага падбародка, як у імператараў. — Мой імператар, пакінь Васіля пры двары паляўнічым. З пасады падлоўчага можаш звальняць. Ты ж, Консці, сам ведаеш, колькі дзічыны ён здабывае. Без яе збяднее наш стол.

Надвечар Канстанцы Календа паклікаў да сябе Васіля.

— Што ты натварыў у лесе? Ты стаў гаспадаром майго дабра? — злосна крычаў Календа. — Запомні: ні брат, ні сват, ні братавая, а я першая асоба над табой, а пасля мяне — Бог, — амаль слова ў слова ён паўтарыў бацьку, які любіў нагадваць прыгонным, што ён над імі і цар, і Бог, і воінскі начальнік. — Пакуль мы на зямлі, я вышэй за Бога. Толькі, калі мы апынёмся на небе, Бог будзе першым над табой і мной. Перад ім, перад Богам, ты адкажаш за ўсе твае ўчынкі. Ты вінаваты, што мая саматужня пустуе. Ні грыбоў, ні ягад.

Васіль стаяў зніякавелы і прыгнечана маўчаў. Страх панскага прысуду навіс над ім пагрозай, ён баяўся, што пан прагоніць яго са свайго маёнтка. Куды тады ісці? Куды падацца?

Пан памаўчаў, грозна гледзячы на Васіля, і абвясціў свой вырак:

— Звальняю цябе з пасады падлоўчага. Ты заслужыў таго, каб я адчыніў вароты і выгнаў цябе ў свет Божы. Ідзі, куды хочаш. Але... зважаючы на тое, што ты дваццаць гадоў праслужыў у войску, пакідаю цябе прыдворным паляўнічым. А за зямлю, якую я табе даў, будзеш адрабляць паншчыну. Усё! Можаш ісці.

Толькі пераступіўшы падваротню панскага двара, Васіль адчуў палёгку, нават радасць, што пазбавіўся пасады падлоўчага.

Дома яго чакала Арына. Убачыўшы Васіля, яна спытала, што было ў пана, навошта ён выклікаў яго. Васіль расказаў, як бэсціў яго пан за нядбайную службу ў лесе, што пазбавіў яго пасады падлоўчага і пакінуў паляўнічым пры панскім двары.

— Ну і то добра, — абрадавалася Арына. — А зямлі, зямлі не адабраў?

— Не. Пакінуў тыя ж дзве дзесяціны.

— Ат, не хвалюйся. Неяк жа пракідаемся, — супакойвала яна Васіля.

## 13

Побач з дваром Васіля і Арыны жыла маладая пара — Кастусь, сын Купрыяна, і яго жонка Тадора. Яны сябравалі, хоць Васіль нашмат быў старэйшы за Кастуся, а Арына за Тадору. Калі Арына жыла адна, да вяртання Васіля з войска, Кастусь і Тадора шмат у чым памагалі адзінокай Арыне.

У Кастуся і Тадоры было адно дзіця — дзяўчынка Паланейка. Калі памёрла Кастусёва маці Марыля, Паланейцы было тры гады. Кастусёў бацька памёр раней ад сухотаў.

Кастусю і Тадоры трэба было хадзіць у панскі двор адбываць паншчыну. Ім не было з кім пакідаць маленькую. Яны папрасілі Ары-

ну даглядаць іхнюю дачку. Арына ахвотна згадзілася. Яна, з прычыны свайго калецтва, на паншчыну не хадзіла.

Паланейка адбірала ў Арыны мала часу, яна любіла гуляць з Андрэйкам. Яна так прывыкла да Андрэйкі, што нават у тыя дні, калі яе бацькі не ішлі на паншчыну, прыбягала гуляць да яго. Так пачалося дзіцячае сяброўства трохгадовай Паланейкі з пяцігадовым Андрэйкам.

Найбольш яны гулялі на двары ці на вуліцы. Будавалі домікі з пяску, збіралі кветкі, лавілі матылькоў. Гулялі разам і з другімі дзецьмі, але заўсёды трымаліся побач.

З узростам дзіцячыя гульні сталі падзяляцца на гульні дзяўчынак і хлопчыкаў. Дзяўчынкі любілі рабіць тое, што рабілі іхнія мамы: пячы аладкі, толькі не з бульбы, а з гліны. Рабіць лялек з рознага рыззя, гушкаць іх на руках, спяваць ім песні. А хлопчыкі гулялі ў свае гульні: ганялі па вуліцы кацелку, дужаліся, бегалі навыперадкі, лазілі па дрэвах.

Але як толькі канчаліся гульні, Андрэйка бег да сваёй Паланейкі.

Хлопец рос здаровы, рухавы і кемлівы, радаваў бацькоў. Васіля трохі непакоіла захапленне сына дзіцячымі гульнямі. Гульні — гульнямі, няхай гуляе, але трэба прывучаць і да працы. У час жніва Андрэю даручалася абысці зжатае поле з кошыкам і сабраць усе да аднаго каласкі. У час сенакосу варушыць сена граблямі. Капаць рыдлёўкай бульбу... У працы Андрэй выказваў сябе здатным і акуратным, як і ў дзіцячых гульнях.

Быў яшчэ адзін клопат у Васіля пра сына — навучыць яго чытаць і пісаць. Сам Васіль чытаць умеў добра, а правілы пісання ведаў слаба.

А потым — як вучыць Андрэя пісьменству? Наняць, як тады казалі, «дарэктара»? Дык не было чым карміць і плаціць. Самі жылі нішчымна. А па-другое, дзе знайсці таго «дарэктара». Заставалася адно — самаму ўзяцца за навучанне сына. А што значыла самому ўзяцца за навучанне, калі ў хаце не было нават маленькага шматка паперы з надрукаванымі літарамі, не тое, што кнігі ці таго ж буквара. І ўсё ж такі выйсце знайшлося.

Васіль начамі хадзіў на рэчку Дуброўку і лавіў ракаў, падсвечваючы ваду ашчэпкамі смаляных карчоў. Арына сабрала два дзесяткі яек. Гэты тавар Васіль панёс у Астрашыцкі Гарадок у піўную Баруха Цыркіна. За атрыманыя грошы ён купіў буквар і некалькі сшыткаў, ручку з пер'ямі і адзін аловак. Але буквар быў на рускай мове. На роднай, беларускай мове ні буквароў, ні іншых падручнікаў у той час не было. Наогул, беларуская мова ў друку была забаронена царскім урадам. Васілю, разам з навучаннем Андрэя чытаць і пісаць, давялося быць яшчэ і перакладчыкам. За доўгія гады службы ў расійскай арміі ён так-сяк вывучыў рускую мову, але гаварыў на ёй па-беларуску. Слова «рядом» у яго вымаўленні гучала «радам», слова «ещё» вымаў-лялася ім «яш-чо». І падобна вымаўляліся многія іншыя словы.

Андрэй, вядома ж, зусім не ведаў рускай мовы, не чуў нават гаворкі на ёй. Яму з прачытанага ў буквары шмат што было незразумелым, і ён звяртаўся да бацькі з просьбай растлумачыць тое ці іншае слова.

— Тата, а што такое «туча»?

— «Туча» па-нашаму «хмара», — адказваў бацька.

Іншы раз Андрэй сам здагадваўся, як разумець тое ці іншае рускае слова. Напрыклад, — «ночь была светлая, ярко светила луна».

— Тата, «лу́на» — гэта месяц?

— Правільна. Толькі не «луна», а «луна́», — папраўляў бацька.

Андрэй пытаўся ў бацькі, што такое «лицо», «глаза», «жажда», «кнут» і шмат іншых слоў. Хлопчык прабіраўся да сэнсу напісанага, як праз лясны гушчар да яснай паляны.

Але Андрэй — хлопец учэпісты. Як ні цяжка было авалодаць пісьменнасцю на рускай мове, ён за зіму адужаў буквар. А як вучыцца далей? Галоўнае — як здабыць патрэбныя кнігі?

З цягам часу хлопчык па прыкладзе бацькі стаў начамі хадзіць на раку лавіць ракаў і насіць іх у піўную таму ж Баруху Цыркіну. За атрыманыя грошы Андрэй купляў кнігі. Так ён набыў падручнік правапісу, задачнік і кнігі для чытання. Асабліва яму спадабаўся зборнік народных казак. Казкамі вельмі захапілася Паланея. Андрэй некалькі разоў прачытаў ёй уголас усе казкі.

Андрэй вырас. Яму ішоў ужо дваццаты год. Ростам ён быў не дужа высокі, але з добрай мужчынскай сілай. На верхняй губе сталі высядаць вусы. На падбародку і шчоках з'явіліся рэдкія валаскі будучай барады.

Ён ужо замяніў бацьку на гаспадарцы. Рыдлёўкай ускопваў маленькі агародзік, рабіў градкі. Маці навучыла яго сеяць моркву, бручку, буракі, агуркі, саджаць капусту. Для ўзорвання свайго дзвухдзесяціннага палетка Андрэй браў у дзядзькоў, Сцяпана і Міхася, каня і саху.

Васіль ужо нічога не мог рабіць на сваёй маленькай гаспадарцы. Яму пераваліла за шэсцьдзесят, і ён хварэў на раматус. Гадоў пятнаццаць ён прахадзіў як паляўнічы па мокрым лесе ў лапцях. Застудзіў ногі і захварэў. Раматус раз'еў каленныя суставы. Наглядаючы за работай Андрэя, Васіль цешыў сябе тым, што з сына выйдзе дбайны гаспадар. Але які б ты ні быў гаспадар, на двух дзесяцінах ворнай зямлі не надта разгонішся. Ні каня, ні вала трымаць не зможаш. А рыдлёўкай і матыкай вялікіх ураджаяў не здабудзеш.

Васіль шчыра паверыў у словы дзекабрыста Філюціна, што недалёкі той час, калі прыгоннае права будзе скасавана, і ён, Васіль Чарняўскі, атрымае ладны надзел зямлі і стане вольным гаспадаром. Ён верыў у гэта, як верыў і ў царства Боскае на тым свеце пасля смерці.

Верыў, а гады ішлі, не прыносячы ніякіх змен у жыцці. А спадзяванні былі вялікія. Яшчэ будучы панскім паляўнічым, калі ногі былі здаровыя, і ён паляваў на перапёлак, прыкідваў, дзе б хацеў атрымаць надзел зямлі, дзесяцін хоць бы шэсць. Уяўляў, якая будзе ў яго гаспадарка са сваім канём, сваёю сахой і іншымі прыладамі.

Хваробы і старасць пераносілі гэтыя надзеі на сына. Каб быць самастойным гаспадаром, трэба мець сям'ю. Так Васіль прыйшоў да думкі ажаніць Андрэя.

Надвечар майскага дня Васіль з Арынаю сядзелі на прызбе сваёй халупкі і наглядалі, як Андрэй, прымасціўшыся на лаўцы ля жардзяных варот, плёў сабе лыкавыя лапці на зіму. Улетку ён хадзіў босы.

— Гляджу я на нашага Андрэйку і дзіву даюся. За што ні возьмецца, усё ў яго ўдаецца. Дзе ён вучыўся лапці плесці? Ты яго вучыў ці я?

Убачыў недзе, як плятуць, і на табе, сам узяўся, — усцешна сказала Арына.

— Што там казаць, сын добры. А я вось думаю, ці не пара нам яго ажаніць. Гаспадар без сям'і не гаспадар, — нечакана для Арыны прамовіў Васіль. — Як ты думаеш?

— Во-о! Як бы я хацела ўнукаў няньчыць, — уздыхнула Арына. — І ля печы упраўляцца мне ўжо цяжка. Пагавары ты з ім.

— А ты? Жаніцьба дзяцей то ўжо больш жаночая справа, чым мужчынская.

— Я не ўмею. Нічога ў мяне не выйдзе, — апраўдавалася Арына.

У той жа дзень за вячэраю Васіль выказаў Андрэю сваё і Арыніна жаданне:

— Паслухай, што я табе скажу, Андрэй. Ты ўжо стаў гаспадаром і радуеш мяне і маці сваёй руплівасцю. Але ці можна быць сапраўдным гаспадаром без гаспадыні? Пара табе, Андрэй, жаніцца.

У таго ад нечаканасці акругліліся вочы, ён пачырванеў і паклаў лыжку на стол. Ці не канец гэта яго сяброўству з Паланеяй?

— А з кім жа вы будзеце мяне жаніць? — ледзь вымавіў асеўшым голасам.

— З кім жаніцца, гэта ўжо твая справа, — адказаў бацька, добра ведаючы, хто будзе іхняй нявесткай.

— Не грашы Богу, Андрэйка, ёсць у цябе добрая нявеста — Паланейка. І прыгожая, і ўвішная, і такая душэўная дзяўчына, — сказала Арына, як бы даўшы сваё благаславенне.

Андрэй супакоіўся. Ён прызнаўся бацькам, што яны — ён і Паланейка — дамовіліся жаніцца, але калі — не ведаюць самі. Не ведаюць, дзе ім жыць, калі пажэняцца.

І сапраўды, у маленькай халупцы, у якой жыла сям'я Васіля, нельга было размясціцца чатыром чалавекам. У парозе стаяла печ. Ад печы да сцяны — палок, на якім спалі Васіль з Арынай. Палок быў вузенькі, двaім побач не ўлегчыся. І Васіль з Арынай спалі ўмітуські або, як кажуць, валецікам: галовамі ў розныя канцы. Андрэй спаў на лаве. Чацвёртаму месца не было.

Бацька сказаў, што і ён пра гэта падумаў. Нельга жыць маладым жанатым людзям у адным пакоі з другімі, хоць сабе і з бацькамі. Ён, Васіль, раіўся са сваім братам Сцяпанам, а той — цясляр добрай рукі — параіў яму прыбудаваць да халупы яшчэ адзін пакой. Задняя частка печы будзе выходзіць у прыбудоўку і ацяпляць яе. Уваход будзе з сенцаў.

Іншага выйсця і прыдумаць нельга было.

Аляксей, сябра Васілёвага дзяцінства, быў у добрых адносінах з аканомам Юзафам Бржазоўскім. Ён, Алёшка, паабяцаў выпрасіць бярвення і дошак на прыбудоўку. Аканом задаволіў яго просьбу. Прыбудоўку ставілі талакой. Да канца лета яна была скончана.

А ўвосень адбылося вяселле Андрэя з Паланеяй.

## 14

Пасля смерці Вінцэнта Календы яго жонка Камелія Календа заявіла свайму сыну Канстанцыю, што гаспадаркай будзе камандаваць яна сама. А ён, Канстанцы, па-ранейшаму будзе намеснікам аканома. Першае, што яна хоча зрабіць, гэта перавесці гаспадарку з прыгонных

адработак на выплату чыншу за карыстанне зямлёй — адной трэцяй часткі ўраджаю, атрыманага з надзелаў. Дзве трэція часткі давядзецца аддаць сялянам на надзелы.

— Дык што ты, Консці, маўчыш, звесіўшы галаву? — спытала маці.

— Я не згоден з табою, мамуся. Навошта разбураць такую гаспадарку, як наша?! Бацька быў разумны гаспадар, ён быў катэгарычна супроць чыншу, — не пагадзіўся Канстанцы з маці.

— Разумны гаспадар... Разумны, а гаспадарку выцягнуць з заняпаду не змог. А Кульбаноўскі перайшоў ад паншчыны да чыншу і прыбыткі падвоіліся.

— Кульбаноўскі... Што Кульбаноўскі? Кульбаноўскі, ды яшчэ адзін дзівак. Чынш гэты скончыцца, як толькі сяляне выкупяць свае надзелы. Тады табе ні чыншу, ні зямлі. Вешай торбу на плечы, бяры катрынку ў рукі і жабруй... Гаспадарка заняпала... Ну і што ж? Не адна наша заняпала. Час такі. Крызіс. Мінецца крызіс, і гаспадарка пойдзе ўгору.

Так яны на гэты раз ні аб чым не дамовіліся.

Пані Камелія не ведала, што занепадае не толькі іхняя Халяўшчына, занепадае, адстае ў сваім развіцці ўся Расійская імперыя.

Не толькі нябожчык Календа думаў, як узняць сваю гаспадарку. Думаў і сам цар, і яго ўрад, як узняць Расію. І прыдумалі — адмяніць прыгоннае права, раздаць памешчыцкія землі сялянам.

Як гэта зрабіць, цар думаць не хацеў, а можа, і не мог. Ён даручыў вырашаць гэту справу самім памешчыкам. Для падрыхтоўкі адмены прыгоннага права былі створаны дваранскія камітэты па рэформе прыгоннага права. Гэтыя памешчыцкія камітэты параілі цару вызваліць сялян ад прыгоннага права без надзелаў зямлі. Сяляне маглі выкупіць у памешчыка па дарагой цане толькі шматкі зямлі, занятыя сядзібнай пабудовай.

З палявых участкаў сялянам пакідалася зямлі столькі, каб магла пражыць сям'я. Была праведзена абрэзка зямельных участкаў у прыгонных сялян. У Сцяпана і Міхася Чарняўскіх было па пяць дзесяцін зямлі, абрэзалі ў карысць памешчыка па адной дзесяціне. У Васіля з двух дзесяцін абрэзалі паўдзесяціны.

Сяляне былі абураны такой рэформай. Пачаліся сялянскія бунты. Усё часцей і часцей сяляне падпускалі чырвонага пеўня пад панскія сядзібы. Усё часцей начное неба палыхала водблескамі пажараў.

Гарачым ліпеньскім днём Сцяпан Чарняўскі з дарослым сынам Пятром вёз воз сена палявой дарогай між жытоў. Насустрач ім ехалі ў лёгкай двухколцы два даўгавалосыя панічы. Адзін рыжаваты, другі светлавалосы. Размінаючыся, рыжаваты спытаў у Сцяпана:

— Сабе сена вязеш? Пасля рэформы зямлі прыбавілася?

— Дзе там! Дзесяціну абрэзалі, — тонам скаргі адказаў Сцяпан.

— А ты чытаць умееш? — спытаў у яго светлавалосы.

— Не. Ні я, ні ён, — кіўнуў Сцяпан на сына. — У нас няма школы. На ўсе вёскі нашага пана адзін пісьменны. Гэта мой брат. Ён навучыўся чытаць, калі быў у войску.

— Тата, а Андрэй? — нагадаў Пятро бацьку.

— Ага, і сын яго Андрэй. Ён сам навучыў чытаць свайго сына.

— Вазьміце гэту залётку і перадайце вашаму брату, няхай ён прачытае яе ўсей вёсцы. Калі хто спытае, дзе вы ўзялі гэту залётку, скажыце, што сарока на хвасце прынесла.

Голагаловыя, доўгавалосыя панічы пакланіліся і паехалі далей.

Чутка, што Сцяпан Чарняўскі знайшоў на дарозе нейкую залётку і яе ўвечары будзе чытаць Васіль Чарняўскі, разнеслася па ўсёй Карпілаўцы. Увечары каля дома Сцяпана і Міхася сабралася ледзь не ўся вёска.

Чытаць залётку Васіль не змог. Дрэнна бачылі вочы, а надрукавана яна была дробнымі літарамі. Чытаў яе яго сын Андрэй. Ён умеў чытаць выразна, з пачуццём, націскаючы на больш важныя словы.

У той залётцы паведамлялася, што памешчыкі і цар, які сам з'яўляецца буйным памешчыкам, падманулі прыгонных сялян. Яны выдалі закон пра адмену прыгоннага права без надзелу сялян зямлёй. Усе землі застаюцца ўласнасцю памешчыкаў.

Абураныя падманам сяляне, гаварылася ў залётцы, арганізавалі паўстанне. Яно ахапіла Літву і Польшчу, перакінулася і ў Беларусь. Атрады паўстанцаў вядуць баі на Гродзеншчыне, Берасцейшчыне, Віцебшчыне і Міншчыне. Неспакойна і ў Расіі. Хутка паўстанне дакоціцца да ўсіх вёсак.

Але паўстанне не дакацілася да маёнтка Халяўшчына. Яно было задушана царскім войскам.

Усё ж паўстанне напужала цара і ўрад. Яны добра памяталі разінскія і пугачоўскія бунты. Цар змяніў умовы рэформы ў беларускіх губернях. Прыгонныя сяляне вызваляліся ад абавязковых адработак памешчыкам за карыстанне зямлёй. Права прыватнай уласнасці памешчыкаў на прыгонных сялян спынялася, прыгонных сяляне пераводзіліся ў разрад прыватных уласнікаў. Ім былі вернуты абрэзкі іхніх надзелаў. Зямля выдзялялася сялянам без згоды памешчыкаў за выкуп. Выкупная цана была зніжана на 20 працэнтаў. Надзелы палявых зямель павялічыліся да 6 гектараў на рэвізскую душу.

Але не так проста было вырваць з рук Канстанцыя Календы зямлю. Цяпер, калі гаспадарку павінны расшматаць на сялянскія надзелы, прымірыліся і маці з сынам. Пані Камелія і яе сын Канстанцы мелі права пакінуць сабе адну трэцюю частку зямлі, а дзве трэція аддаць на сялянскія надзелы.

Канстанцы Календа не стаў чакаць, калі прыедзе начальства. Ён сам узяўся адводзіць сабе адну трэцюю частку лепшай зямлі. У красавіцкую раніцу, калі ўжо зямля прасохла і можна было выходзіць у поле з сахой, за агародамі вёскі Карпілаўкі з'явіліся валасны каморнік і два яго памочнікі, якія неслі астралябію і мерную металічную стужку. Чатыры цівуны прывезлі сюды воз тычак — лазовых дубцоў з галінкамі, скручанымі ў вянок, і прыгналі каня, запрэжанага ў саху. Следам за імі прыехаў сюды і Канстанцы Календа ў лёгкай каламажцы ў суправаджэнні коннага цівуна.

Каморнік расставіў свае прылады і пачаў вызначаць мяжу. Памочнікі каморніка цягнулі мерную стужку і ставілі тычкі. Араты следам гнаў сахой баразну, якая і служыла мяжой.

Мужчыны, жанчыны, падлеткі высыпалі на свае задворкі, каб даведацца, што там робіцца.

Васіль Чарняўскі, убачыўшы, што баразной адрэзалі ледзь не палавіну яго ўчастка, узняў крык:

— Людзі добрыя, суседзі, пабачце, што яны робяць! — і стаў вырываць тычкі, ламаць іх і адкідваць убок. Ён адштурхнуў цівуна, які гнаў межавую баразну, выпраг каня з сахі, закінуў пастромкі яму на спіну і пусціў на поле.

Калі Календа ўбачыў, што Васіль выпраг каня з сахі, ён загадаў цівунам разагнаць сялян і схапіць галоўнага бунтаўшчыка — Васіля. Але праз хвілін колькі бізуны апынуліся ў руках сялян, а цівуны разбегліся па полі.

Адзін з іх ускочыў на каня і галопам панёсся ў напрамку Астрашыцкага Гарадка.

— Ратуйся, Васіль, хавайся дзе-небудзь! — раіў Васілю брат Сцяпан.

— Не буду я хавацца! Наша праўда!

Мужчыны ўзяліся збіраць каморніцкія прылады, вырываць і ламаць тычкі. Канстанцы Календа сядзеў у сваёй каламажцы і моўчкі наглядаў за мітуснёй сялян па полі. Відавочна было — ён нечага чакаў.

Праз нейкую гадзіну на конях прымчаліся чатыры стражнікі.

— Разыдзіся, а то страляць будзем! — закрычаў вусаты стражнік.

Мужчыны пацiснуліся да плота, але забралі з сабой і каморніцкія прылады. Яны абступілі Васіля кругам, каб не даць яго стражнікам.

— Васіль Чарняўскі, выйсці наперад! — скамандаваў вусаты стражнік.

— Не выйду! Маленькі шматок зямлі зарабіў у цара за дваццаць гадоў!.. І тую адбіраюць! — крычаў Васіль.

Пачалася валтузня, засвісталі бізуны цівуноў. Васіля збілі з ног. Стражнікі схапілі яго падпахі і павалаклі да калёсаў, на якіх прывозілі тычкі. Звязалі рукі, ускінулі на калёсы і павезлі ў напрамку Астрашыцкага Гарадка. Следам за імі паехаў і Канстанцы Календа.

Як толькі канвой з Васілём і Календам у двухколцы схаваліся за ўзгоркам, мужчыны зноў вярнуліся да каморніка.

—У нас, пан каморнік, такая да вас просьба: падзяліць зямлю між сялянамі і памешчыкам па закону.

— Не магу я гэтага зрабіць, не маю права. Як дзяліць зямлю, дзе даваць вам надзелы, вырашае валаснное начальства. Калі я пайду супраць — мяне за каўнер і ў каталажку.

— Дзядзька Сцяпан, тады давайце мы самі пойдзем у воласць, дабівацца, каб вызвалілі тату і па справядлівасці далі нам надзелы, — прапанаваў Андрэй.

— Не раю вам ісці ў воласць. Валаснае начальства не захоча мяняць сваё рашэнне. Трэба звяртацца ў павятовае зямельнае ўпраўленне, у Мінск, — сказаў каморнік.

Не трацячы часу, у той жа дзень Сцяпан, Аляксей і Андрэй выехалі ў Мінск.

Назаўтра раніцай яны былі ўжо ў кабінеце начальніка павятовай земскай управы. За вялікім сталом, заваленым стосамі папер, сядзеў пажылы, распаўнелы чалавек у расхрыстаным пінжаку. На грудзях, ад падбародка да поўнага жывата, збягаў ланцужком радок маленькіх гузічкаў. У руцэ ў яго была люлька з доўгім цыбуком, якую ён часта пасмоктваў.

— Што ў вас? — спытаў начальнік у мужчын.

— Пане...пан-ноч-ку начальнік, пан памешчык, ну гэты самы Календа, нас, былых яго прыгонных, пакрыўдзіў, — заікаючыся ад хвалявання, пачаў Сцяпан.

— Чым жа ён вас пакрыўдзіў? — разгладжваючы густыя пракураныя вусы цыбуком люлькі, спытаў начальнік.

— Ну, я ж кажу: зямлю у нас лепшую забірае, а нам пакідае горшую, —удакладніў Аляксей.

— Я так разумею: вы, былыя прыгонныя сяляне, хочаце лепшай зямлі і былы ваш памешчык хоча лепшай зямлі. Але ж на ўсіх лепшай зямлі не хапае. Як вас прымірыць з памешчыкам, не наша справа. Ёсць закон пра адмену прыгоннага права. Калі памешчык парушае гэты закон, падайце на яго ў суд. У вас усё? — спытаў начальнік. — Можаце ісці.

— Не, не ўсё, — сказаў Андрэй і выступіў наперад. — Пан начальнік, майго бацьку, Васіля Чарняўскага, арыштавалі стражнікі і пасадзілі ў халодную. Прашу вас, пан начальнік, вызваліць яго з-пад арышту. Ён стары і хворы чалавек, дваццаць гадоў служыў у царскім войску.

— А за што яго арыштавалі? — спытаў начальнік.

— А проста так, ні за што. Сяляне прыйшлі на поле, дзе каморнік адмяраў зямлю памешчыку, і прасілі яго спыніць адвод зямлі, пакуль начальства не разбярэцца ў скаргах сялян, — спакойна адказаў Андрэй.

— Можа, сяляне хацелі прагнаць каморніка з поля? Можа, твой бацька быў завадатарам? — распытваў начальнік Андрэя.

— Ды не. Каморнік — памяркоўны чалавек, нават паспачуваў сялянам, раіў, як дабіцца справядлівасці, — адказаў Андрэй.

— Як там ні было на полі з каморнікам, але гэта справа не наша, гэта справа крымінальная. І табе, каб вызваліць бацьку, трэба звярнуцца ў жандармскае ўпраўленне. Усё! Больш я вам нічога параіць не магу, — і начальнік зноў запыхкаў сваёй люлькай.

Так, ні з чым, познім вечарам вярнуліся пасланцы ў сваю вёску. На вуліцы іх чакалі ўсе мужчыны. Убачыўшы фурманку, у якой ехалі пасланцы, кінуліся ім насустрач.

— Ну, што? Ну, як? Ці дабіліся чаго? Ці пакінуць нам нашы надзелы?

— Не вельмі нас там чакалі. Начальнік земскай управы параіў падаць у суд на памешчыка. Вось так, — адказаў Сцяпан і злез з калёсаў.

— Судзіцца з панам?! Той суд можа цягнуцца ўсё лета, а сеяць хоць заўтра пачынай! — абурaўся Міхась Чарняўскі. — Не засеем зямлю — ногі працягнем з голаду.

— Трэба папрасіць каморніка, каб ён адвёў нам надзелы, — прапаноўваў дзед Аляксей.

— А што той каморнік?! Ён жа ніякі не начальнік, што скажуць, тое і будзе рабіць. Кожны ведае, дзе быў яго надзел пры прыгоне, няхай кожны і засявае свой участак, — прапанаваў Міхась.

— Правільна! Правільна! — загучалі галасы ў падтрымку.

На тым начным вулічным мітынгу успомнілі і Васіля Чарняўскага.

— А што з тваім бацькам? Адпусцілі ці не? — спытаў хтось у Андрэя.

— Не, не адпусцілі. Начальнік сказаў, што гэта не іхняя справа. Наконт гэтага трэба звяртацца у валасное жандарскае аддзяленне. Заўтра пайду ў Астрашыцкі Гарадок, — адказаў Андрэй.

Назаўтра Андрэй пабываў у валасным жандарскім аддзяленні. Сустрэцца з бацькам яму не дазволілі. Сказалі, што яго бацька, Васіль Чарняўскі, знаходзіцца ў следчым ізалятары. Пакуль вядзецца следства, усякія сустрэчы з роднымі і знаёмымі забаронены.

Андрэя ў жандармерыі падманулі. У следчым ізалятары Васіль не сядзеў, ніякае следства не вялося. Калі яго прывялі ў жандарскае аддзяленне, начальнік накінуўся з крыкам:

— Бунтуеш! Падбіваеш людзей на паўстанне! Мы ведаем, што ты ў мінулым годзе арганізаваў атрад і хацеў далучыцца да паўстанцаў! Цяпер ты падбіваеш народ супроць зямельнай рэформы! Супроць царскіх указаў! На два тыдні ў карцэр! — скамандваў начальнік.

— Пан начальнік, я не вінаваты... Гэта пан Календа адабраў палавіну майго надзелу... Гэта ён, а не я ганьбуе царскія...

— Замаўчаць! А ну выдаліць яго адсюль! — скамандаваў начальнік.

Два стражнікі адабралі ў Васіля мыліцы, падхапілі пад рукі і павалаклі за дзверы.

Начальнік не збіраўся аддаваць Васіля пад суд, бо ведаў, што суд не будзе яго судзіць — няма за што. Ён вырашыў пастрашыць Васіля карцэрам, а тым самым і іншых неўтаймоўных сялян.

Карцэр мясціўся ў двары жандармерыі, у канцы канюшні ў маленькай зямлянцы ці, праўдзівей, у склепе. Падлога была гліняная. Высока пад столлю было маленькае акенца. Ложка не было. У кутку ляжаў ахапак змятай саломы. Стаяла толькі адна расхістаная табурэтка, на якую ставілі посуд са страваю, ды яшчэ ў парозе стаяла параша. У гэтым склепе было змрочна, як у сутонні, і сыра.

Васіля ахапіў жах. Ён адчуваў сябе тут, як у магіле. Назаўтра пайшоў дождж, са столі пачала капаць вада. На глінянай падлозе ўтварыліся маленькія лужынкі. У Васіля нылі ногі. Ад холаду яго трэсла дрыготка. Ён падкурчыў калені пад бараду, ашчапіў іх рукамі, скруціўся ў клубок, як вожык, і стагнаў.

Турэмны наглядчык прынёс яму баланду. Убачыўшы скручанага вязня, які дрыжэў і стагнаў, ён зразумеў, што зняволены захварэў. Ён прыклаў далонь да яго лба. Лоб быў гарачы. Наглядчык хацеў пакарміць яго, але Васіль адмовіўся.

Наглядчык паставіў чарапку з баландой на табурэтку, замкнуў дзверы ў карцэр і пайшоў дакладваць начальніку, што яго паддоследны цяжка захварэў. Начальнік кінуў свае паперы і пайшоў у карцэр.

Як ні тармасіў начальнік Васіля, той не адзываўся.

Начальнік устрывожыўся. Ён загадаў двум стражнікам узяць насілкі і занесці вязня ў валасную бальніцу.

— Не хапала яшчэ, каб ён у карцэры працягнуў ногі, — злосна вылаяўся начальнік.

— А варту да яго ў бальніцы паставіць? — спытаў адзін са стражнікаў у начальніка.

— Ніякай варты! Скажыце галоўнаму ўрачу, што ён можа аддаць хворага яго родным, калі тыя захочуць яго забраць, — адказаў начальнік.

У той жа дзень у адведзіны да бацькі прыйшоў Андрэй. На гэты раз дзяжурны паліцэйскага ўчастка быў больш ветлівы.

— Ваш бацька знаходзіцца ў бальніцы, ён захварэў. Наведаць яго ў валасной бальніцы дазволу не трэба. Калі хочаце, можаце забраць яго дамоў.

Андрэй адразу ж кінуўся ў бальніцу. У першай міласэрднай сястры спытаў, ці ляжыць у іхняй бальніцы хворы Васіль Чарняўскі.

— Ляжыць, — адказала сястра.

— Я — яго сын. Хацеў бы ўбачыцца з ім.

— Толькі з дазволу галоўнага ўрача. Вунь, у канцы калідора направа дзверы яго кабінета, — паказала сястра.

Андрэй накіраваўся да галоўнага ўрача. У кабінеце, у які ён увайшоў, за вялікім белым сталом, устаўленым прабіркамі, колбамі, рознымі медыцынскімі прыладамі, сядзеў пажылы чалавек у белым каўпаку на галаве, з-пад якога выбіваліся пасмы пасівелых валасоў.

— Што вы хацелі? Чаму адразу да мяне, а не ў рэгістратуру? — спытаў ён у Андрэя.

— Я прыйшоў адведаць свайго бацьку, Васіля Чарняўскага, — адказаў Андрэй.

— Ёсць у нас такі. А за што ён трапіў у турму?

Андрэй расказаў пра тое, што здарылася на полі. Папрасіў пабачыцца з бацькам.

— Ні ў якім разе! — рашуча заявіў галоўны ўрач. — Ён прастудзіўся, у яго ўзмацніўся раматус ног і ўспыхнула двухбаковае запаленне лёгкіх. Ён знаходзіцца ў крызісным стане. Адкладзіце свой візіт хаця б на тыдзень.

— А ці доўга ён у вас праляжыць? — пацікавіўся Андрэй.

— Думаю, што з месяц, — адказаў галоўны ўрач.

Так яно і сталася.

## 15

Васіль праляжаў у бальніцы тры тыдні. Балелі грудзі, адольвалі хрыпата, кашаль і задышка так, што не давалі вымавіць і слова. Ён амаль не мог гаварыць. Узмацніўся раматус ног. Урачам ніяк не ўдавалася збіць высокую тэмпературу. Нікога з родных і блізкіх да яго не дапускалі.

Арына вельмі непакоілася за жыццё Васіля і ледзь не кожны дзень прымушала Андрэя ісці ў бальніцу, даведацца, ці не палепшала бацьку.

Здароўе бацькі вельмі трывожыла і Андрэя. Якраз у час хваробы Васіля пачалася нарэзка зямельных участкаў былым прыгонным сялянам. Андрэй баяўся, што без бацькі яго могуць абдзяліць зямлёй. Але ўсё абышлося. Сялянам вярнулі абрэзкі і далі пабольшаныя надзелы зямлі.

Пан Канстанцы Календа, хоць і адступіўся ад агародных зямель сялян, усё ж такі захапіў сабе лепшыя ўчасткі і амаль усе сенажаці. Цяпер сялянам, каб праехаць на свае ўчасткі ці прагнаць жывёлу на выпасы, трэба прабівацца палявымі дарогамі цераз панскае поле. А за гэта — адпрацоўваць пану на палявых работах. Зноў застаюцца тыя ж адпрацоўкі.

Сям’я Васіля Чарняўскага, у якой было пяць мужчын, — ён сам, Васіль, яго сын Андрэй і тры ўнукі, сыны Андрэя — шасцігадовы Міхал, чатырохгадовы Алесь і двухгадовы Лукаш — атрымала надзел

у 28 дзесяцін. З іх 23 дзесяціны ворнай або прыгоднай пад ворыва, 3 дзесяціны забалочанай сенажаці і 2 дзесяціны дробналесся, якое грыўкай цягнулася па ўзвышшы ўскрай надзела.

Зямлі была выдзелена ва ўрочышчы Дзянаўшчына, воддаль ад маёнтка Календы. Васілю і Андрэю не падабалася будаўніцтва сядзібы і жыццё на адзіноце. Ні табе блізкіх, ні суседзяў. Пужала Андрэя і вялікая плошча зямельнага ўчастка. З пяці мужчын іхняй сям'і толькі ён, Андрэй, можа выконваць палявыя работы. Аднаму яму не ўправіцца. Столькі зямлі — і голыя рукі... Ні каня, ні вала...

Калі Васіль стаў папраўляцца і Андрэя дапусцілі да яго, сын расказаў бацьку, колькі далі ім зямлі. Нечакана для Андрэя бацька ўзрадаваўся.

— Улічы, сынок, што зямлю далі не толькі нам з табой, але і нашым нашчадкам — унукам і праўнукам. У цябе ўжо тры сыны, а іх можа быць і шэсць, і восем. А ў іхніх сыноў яшчэ сыны. Падзялі наш участак на іхнія сем'і, што атрымаецца? Жабракі. Адно — кій у рукі, торбу за плечы і...

— Але што рабіць сёння? — не зусім пагадзіўся Андрэй з бацькам. Ён пераказаў параду дзядзькі Сцяпана, які раіць залажыць надзел у зямельны банк, узяць крэдыт, купіць каня, карову, адбудаваць сядзібу.

— Ні ў якім разе! — запярэчыў Васіль сыну. — Чым ты будзеш выплачваць працэнты банку за ўзятыя грошы? Зямлёй. Кожны год частка зямлі будзе пераходзіць ва ўласнасць банка. За працэнты. Так дойдзе да апошняй дзесяціны. Колькі той банк жабракоў па свеце пусціў... Няхай лепш зямля дзірваном ляжыць, пакуль твае сыны падрастуць. А цяпер урабляй, колькі тваёй сілы будзе хапаць.

Васіль параіў сыну Андрэю не дзяліць зямлю паміж сынамі, калі яны вырастуць і будуць мець свае сем'і. Няхай апрацоўваюць зямлю ўсе разам, сямейнай талакой. Кожная сям'я павінна мець свой дом, харчавацца асобна, атрымліваючы прадукты харчавання ад агульнай гаспадаркі.

— Гэты запавет даў мне і маім братам, Сцяпану і Міхасю, мой бацька, Макар з Чарнушак. Так мы і не дзяліліся, працуем разам, але кожная сям'я жыве сама сабой. Мяне аддзяліла ад братоў салдатчына, а так і мой дом стаяў бы побач з братнімі. У такой гаспадарцы павінны быць свае кавалі, бондары, цесляры, сталяры.

Стары Васіль вёў гутарку пра патрыярхальны лад гаспадаркі, хоць ні Васіль, ні Андрэй і не чулі такіх слоў — патрыярхальная гаспадарка. Макар, бацька Васіля, разумеў, што падзел гаспадаркі, драбленне яе вядзе да беднасці, да жабрацтва. Разумеў гэта і малады гаспадар Андрэй, ён быў згодзен з бацькам.

Усё ж яго больш непакоіла думка, як цяпер управіцца з зямлёй, як пабудаваць сядзібу.

Вяртаючыся з бальніцы дамоў, Андрэй па дарозе зайшоў на сваю Дзянаўшчыну.

Побач з участкам Андрэя быў невялікі фальварак. Ён вырашыў зайсці туды, пазнаёміцца з суседам. Гаспадара фальварка Андрэй застаў на двары. Ён шчапаў смольны корч. Андрэй сказаў, што яго ўчастак мяжуе з зямлёй фальварка. Найбольш яго цікавіць забудова сядзібы.

Гаспадар фальварка назваў сябе Томашам Дэмбіцкім. Разгаварыліся. Андрэй расказаў пра свае цяжкасці ў закладзінах гаспадаркі.

— Фу, усё можна вырашыць проста: здавайце зямлю ў арэнду. Я мог бы заарэндаваць увесь ваш участак. Фальварак у мяне невялікі. Хацеў бы пашырыць, віць выйграць, віць прайграць, — паўтарыў ён сваю дзіўную прымаўку, якая значыла, што ўсё звязана з рызыкай.

Андрэй ледзь стрымаў радасць ад такога неспадзяванага і простага вырашэння сваёй гаспадарчай справы. Адно стрымлівала яго: ці згодзен будзе бацька? І ён сказаў Дэмбіцкаму, што згодзен з яго прапановай, але не можа даць згоды на арэнду таму, што зямля запісана за бацькам.

Андрэй, выйшаўшы за вароты фальварка, павярнуў назад, у Астрашыцкі Гарадок, у валасную бальніцу.

Васіль, калі ўбачыў на парозе бальнічнай палаты сына, усхапіўся і сеў на пасцелі.

— Што здарылася, Андрэйка? Можа, што нядобрае з маці?

— Я дома не быў, але спадзяюся, там усё ў парадку, — і Андрэй расказаў пра сваё знаёмства з суседам Томашам Дэмбіцкім, пра яго прапанову. Ён прызнаўся бацьку, што згодзен здаць зямлю ў арэнду. Але не ўсю, а частку. А за арэндныя грошы пабудаваць сядзібу і набыць усё неабходнае для вядзення гаспадаркі.

Васіль прамовіў:

— Сынок, мяне радуе, што ты будзеш дбайным гаспадаром, — прыцягнуў да сабе Андрэя і абняў яго.

Праз тыдзень у натарыуса было падпісана пагадненне паміж Андрэем Чарняўскім з аднаго боку і Томашам Дэмбіцкім — з другога пра здачу ў арэнду 10 дзесяцін зямлі на 10 гадоў. Андрэй атрымаў ад Дэмбіцкага салідны задатак.

Першае з таго, што патрэбна для вядзення сельскай гаспадаркі, гэта конь або вол, калёсы, саха, барана-смык. Маючы грошы, усё не так цяжка здабыць.

Андрэй са сваім дзядзькам Міхасём паехалі ў Мінск на вядомы базар да Траецкай Гары. У паўднёвай частцы гэтага базару прадавалася жывёла, прылады сельскай гаспадаркі, нават коні са збруяй і калёскамі ці санямі. Прадавалі сяляне, якія збіраліся пакінуць Беларусь, каб ехаць у Сібір або ў Амерыку ці Канаду. І ўсё дзеля кавалка хлеба...

Андрэй з дзядзькам Міхасём купілі на тым базары каня з калёсамі і збруяй, саху і барану.

Закладзіны гаспадаркі былі зроблены, ёсць чым пачынаць апрацоўку зямлі. Але ж для сапраўднай гаспадаркі не хапала яшчэ шмат чаго, найперш — сядзібы. У Андрэя была ўпэўненасць, што і сядзіба будзе.

Пачуўшы ад Андрэя пра куплю каня і земляробчых прыладаў, Васіль ажывіўся. Гэтая радасная навіна паспрыяла яму перамагчы хваробу хутчэй, чым бальнічныя лекі. Хутка Васіль выпісаўся з бальніцы. Ён ужо добра, упэўнена хадзіў на мыліцах.

Была сярэдзіна лета. Скончыўся сенакос, настала пара араць папары. Рыхтаваўся і Андрэй да гэтага першага ў іхняй гаспадарцы ворыва.

І вось конь запрэжаны ў саху. Андрэй звярнуўся да бацькавых братоў, Сцяпана і Міхася, з прапановай, каб першую баразну прагнаў яго бацька. Браты згадзіліся.

Васіль на мыліцах падышоў да сахі, зняў шапку, хацеў нешта сказаць, але не змог. З вачэй на бараду і вусы пырснулі буйныя слёзы. Ён шапкай выцер твар, перахрысціўся, пакланіўся на ўсход і на захад, адкінуў мыліцы і ўзяўся за ручкі сахі, лейцамі панукнуў каня. Конь рушыў. Следам за ім — араты, пакідаючы за сабой радок рыхлай зямлі. Андрэй пайшоў побач з бацькам.

Адразу было відаць, што Васіль не зможа прагнаць першую баразну. Рукі яго дрыжэлі, вось-вось сарвуцца з сахі. Андрэй убачыў гэта і спыніў каня. Ён аддаў мыліцы бацьку, сам узяўся за ручкі сахі і пачаў першую баразну.

— Зямля сама выбірае гаспадара, — прамовіў Васіль і пакульгаў да воза.

— Як бы я хацеў у гэту хвіліну абняць свайго былога камандзіра Максіма Іванавіча Філюціна... Можа, ён за гэтую зямлю, за тое, каб мы былі вольнымі, а зямля — наша ўласная, сваё жыццё аддаў, — і Васіль сумна ўздыхнуў.

У той год на сваёй Новай Зямлі Андрэй пасеяў тры дзесяціны жыта. Можна было спадзявацца на хлеб у наступным годзе.

З надыходам восені, з пахаладаннем у Васіля зноў узмацніўся раматус. Ступні былі халодныя, як ледзякі. Холад паступова ўздымаўся ўсё вышэй і вышэй. Паланея, Андрэева жонка, разагравала на печы ўсё, што можна было знайсці са старога адзення, і захутвала яго ногі. Але і гэта не памагала. Холад узняўся да паясніцы, ногі зусім амярцвелі.

Аднае раніцы Васіль доўга не прачынаўся. Андрэй пайшоў капаць бульбу, а Паланея панесла на рэчку паласкаць бялізну. Дома засталася адна Арына. Не дачакаўшыся, калі прачнецца Васіль, пайшла будзіць яго, але... не дабудзілася... Холад замарозіў яго сэрца, і яно спынілася.

Вясной, калі ўсё квітнела, аддала Богу душу і Арына.

Пасля смерці бацькоў Андрэй і Паланея спадзяваліся, што будуць вольна гаспадарыць на вольнай зямлі. Але гэта было толькі спадзяванкай. Пасля адмены прыгоннага права свая вольная зямля зноў стала крыніцай прыбыткаў пана Календы. Засталіся ранейшыя адпрацоўкі. Да адпрацовак яшчэ дадаваўся выкуп надзелаў сялянамі ў памешчыкаў. Былыя прыгонныя павінны былі на працягу 49 гадоў выкупіць у памешчыкаў надзельныя землі. Праўда, рэвалюцыя 1905 года, у якой актыўны ўдзел прымала і сялянства, змусіла царскі ўрад спыніць выкуп надзельных зямель сялянамі ў памешчыкаў.

Вялікая надзея была наперадзе.

*Публікацыя і ўступнае слова Т. Чарняўскай.*



ПУБЛІЦЫСТЫКА

ГЕНАДЗЬ ЖЫЛІНСКІ

# НАРОДНАЕ АПАЛЧЭННЕ Ў 1941 ГОДЗЕ

Адным з самых выдатных прыкладаў гераічнай барацьбы савецкага народа супраць нямецка-фашысцкіх агрэсараў у пачатку Вялікай Айчыннай вайны з'яўляецца масавы рух па фарміраванні добраахвотнага народнага апалчэння.

Слова «апалчэнне» было вядома ўжо ў славянскай Русі. Ваенныя дружыны сумесна з апалчэнцамі на чале з А. Неўскім яшчэ ў XIII стагоддзі білі нямецкіх рыцараў на Чудскім возеры. У XIV стагоддзі на Куліковым полі народнае апалчэнне ўдзельнічала ў разгроме мангола-татар. У 1410 годзе пад Грунвальдам апалчэнцы сумесна з палкамі кованай раці зламалі хрыбетнік крыжакам. На Чырвонай плошчы ў Маскве стаіць помнік К. Мініну і Дз. Пажарскаму, якія ўзначалілі апалчэнне ў Ніжнім Ноўгарадзе ў пачатку XVI стагоддзя. У 1812 годзе апалчэнцы дапамаглі М. Кутузаву разбіць і прагнаць Напалеона. Дзесяткі тысяч рабочых і сялян добраахвотна падняліся на вайну з Антантай і «белай гвардыяй» у 1918—20 гадах.

Але такога размаху, як у першыя дні і месяцы Вялікай Айчыннай вайны, рух народнага апалчэння ніколі не ведаў. Ні ў гісторыі, ні ў свеце. У чэрвені-ліпені 1941 года ў дапамогу Чырвонай Арміі было сфарміравана з добраахвотнікаў 1755 знішчальных батальёнаў агульнай колькасцю 328450 чалавек, дывізіі, палкі, батальёны, другія ўзброеныя часці народнага апалчэння. У будаўніцтве абаронных рубяжоў, умацаванняў прыняло ўдзел каля 12 млн. чалавек, сярод якіх большую частку складалі жанчыны.

На Беларусі рух народнага апалчэння пачаўся ў першыя дні вайны. Ужо к вечару 22 чэрвеня 1941 года, у дзень вераломнага нападу гітлераўскай Германіі на СССР, загадчык сектара Пінскага абкама КПБ В. З. Корж атрымаў 18 вінтовак, патроны, гранаты і сфарміраваў атрад народнага апалчэння, які стаў ядром першага партызанскага атрада, а потым Пінскага партызанскага злучэння. У гэтыя дні апалчэнскі партызанскі атрад «Красный Октябрь» быў створаны ў Кастрычніцкім раёне Палескай вобласці Ч. П. Бумажковым і Ф. І. Паўлоўскім. У канцы чэрвеня-пачатку ліпеня байцы атрадаў правялі каля 20 паспяховых баёў з непрыяцелем, спалілі і пашкодзілі 26 нямецкіх танкаў і бронемашын, узарвалі 6 чыгуначных і шасейных мастоў, забілі і паранілі больш за 100 салдат і афіцэраў, захапілі і пераправілі за лінію фронту важныя штабныя дакументы.

У кароткія тэрміны ва ўсходніх абласцях Беларусі было створана больш за 200 апалчэнцкіх часцей з людзей, якія не прызываліся на ваенную службу.

Паводле дырэктывы СНЕ і ЦК КПБ ад 23.6.1941 г. разгарнулася фарміраванне 78 добраахвотных знішчальных батальёнаў агульнай колькасцю больш за 13 тысяч чалавек. Яны накіроўваліся на барацьбу з нямецкімі дыверсантамі. У дапамогу Чырвонай Арміі да сярэдзіны ліпеня былі створаны атрады і палкі народнага апалчэння Віцебска, Магілёва і Гомеля. У сваіх радах яны налічвалі 33 тысячы чалавек.

Народнымі апалчэнцамі Магілёўскай вобласці (каля 12 тысяч чалавек) камандаваў ваенны камісар І. П. Ваяводзін. Апалчэнцы вялі барацьбу з нямецкімі дыверсантамі, шпіёнамі, ахоўвалі лініі сувязі, прамысловыя аб'екты, удзельнічалі ў эвакуацыі прадпрыемстваў, стварэнні абарончых рубяжоў. У раёне вёскі Пашкова і пасёлка Гаі батальён народных апалчэнцаў пад камандаваннем капітана К. Р. Уладзімірава 1—3 ліпеня вёў жорсткія баі з гітлераўцамі, адбіваючы іх шалёныя атакі і пераходзячы ў контратакі. Тут за трое сутак загінула 236 апалчэнцаў, у тым ліку і камандзір. Але вораг панёс яшчэ большыя страты.

Чатыры пяхотныя дывізіі, танкавая дывізія, адборны полк СС «Вялікая Германія» і шэраг іншых нямецкіх часцей наступалі на Магілёў. Злучэнні 13-й арміі, што абаранялі подступы да горада, сцякаючы крывёю, адступалі. Каля 45 тысяч жыхароў Магілёва выйшлі на будаўніцтва абарончых рубяжоў. З 3-га па 26 ліпеня народныя апалчэнцы сумесна з воінамі 172-й стралковай дывізіі генерал-маёра М. Ц. Раманава абаранялі акружаны трыма танкавымі і пяхотнымі дывізіямі горад. Яны скавалі значную частку сіл 2-й нямецкай танкавай групы, нанеслі ім значны ўрон і прыпынілі іх рух на Смаленск. Апалчэнцы трубаліцейнага завода стрымлівалі нямецкія танкі ў раёне Машакоўкі, станцыі Магілёў-2 і мясакамбіната. Атрады пад камандаваннем камісара П. Е. Цярэнцьева 10-га і 11 ліпеня не давалі магчымасці нямецкай пяхоце фарсіраваць Дняпро і захапіць мост праз яго.

Выкарыстаўшы вялізную перавагу ў сілах, пры падтрымцы авіяцыі і артылерыі нямецкія танкі 26 ліпеня ўварваліся ў горад. У ноч з 26-га на 27 ліпеня, калі скончыліся боепрыпасы, абаронцы пакінулі горад. Тыя, хто застаўся ў жывых, уліліся ў Чырвоную Армію, а многія засталіся наладжваць барацьбу ў падполлі і партызанскіх атрадах.

Гомельскі гарадскі полк народнага апалчэння быў сфарміраваны 9 — 12 ліпеня 1941 года ў складзе трох батальёнаў (2300 чалавек). З 13-га па 19 жніўня разам з войскамі Чырвонай Арміі полк пад камандаваннем камісара Ф. Я. Уткіна (загінуў) трымаў абарону на паўночных подступах да горада на рубяжы вёскі Сямёнаўка-пасёлак Гудок — чыгуначная станцыя Уза, перакрыў шашу Магілёў—Гомель і вёў цяжкія баі з наступаючымі войскамі праціўніка. Вёскі Сямёнаўка і Пакаловічы па некалькі разоў пераходзілі з рук у рукі. 14 жніўня немцы спынілі наступленне з поўначы і перанеслі галоўны ўдар з поўдня. Пры падтрымцы самалётаў, танкаў і артылерыі 19 жніўня яны пры вялізнай перавазе ў сілах уварваліся ў Гомель, дзе яшчэ тры дні ішлі вулічныя баі.

Віцебскае гарадское народнае апалчэнне складалася з 4-х батальёнаў (Кастрычніцкага, Першамайскага, Чыгуначнага і Асаавіяхіма). У іх налічвалася 2100 чалавек. 9—11 ліпеня народныя апалчэнцы вялі баі па абароне горада Віцебска. Батальён Асаавіяхіма (камандзір В. І. Клябанаў) на беразе Заходняй Дзвіны ў раёне Мазурына ружэйна-кулямётным агнём знішчыў да 700 гітлераўцаў, якія пасля артылерыйскай падрыхтоўкі спрабавалі пераправіцца цераз раку. У наступных баях ля Журжава амаль уся 1-я рота загінула, але вораг з вялікімі стратамі быў спынены. Першамайскі батальён і яго 1-я рота (камандзір А. І. Юшкевіч) з выключным гераізмам не давалі наступаючым рэгулярным часцям ворага фарсіраваць Заходнюю Дзвіну

ў цэнтры горада. Два другія батальёны народнага апалчэння вялі жорсткія баі на Смаленскай шашы, стрымліваючы танкавыя і механізаваныя калоны гітлераўцаў. 11 ліпеня камандаванне прыняло рашэнне пакінуць Віцебск. Народныя апалчэнцы, якія засталіся ў жывых, адступілі сумесна з Чырвонай Арміяй. Значная частка з іх (камандзіры, камісары, партыйныя, савецкія, прафсаюзныя і камсамольскія работнікі) засталіся на захопленай тэрыторыі дзеля арганізацыі ўсенароднай барацьбы ў тыле нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

1 ліпеня 1941 года гітлераўскія войскі пачалі ладзіць пераправу, каб перайсці Беразіну і разгарнуць наступленне ў накірунку Смаленска. У ноч з 1-га на 2 ліпеня ў Крамлі адбылася нарада вышэйшага кіраўніцтва СССР на чале са Сталіным. Днём 2 ліпеня ў гарадскі камітэт ВКП(б) былі выкліканы раённыя ваенныя камісары, кіраўнікі савецкіх і партыйных органаў Масквы. А з раніцы 3 ліпеня было аб'яўлена па радыё пра фарміраванне народнага апалчэння. У гэты дзень ад мірных грамадзян Масквы ў ваенкаматы паступіла 167 тысяч заяў, па Маскоўскай вобласці — звыш 140 тысяч. За 5 дзён, з 3 па 7 ліпеня 1941 года, тут было сфарміравана 12 дывізій, да сярэдзіны кастрычніка — яшчэ 3 дывізіі народнага апалчэння. Звыш 24 тысяч масквічоў уступілі ў войскі супрацьпаветранай абароны.

10 дывізій народнага апалчэння за чэрвень—ліпень 1941 года сфарміраваў і адправіў на фронт горад Ленінград. Да 500 тысяч чалавек кожны дзень выходзілі на работу па будаўніцтве абаронных паясоў на шляху наступаючых нямецка-фашысцкіх войск. Тысячы ленінградцаў добраахвотна пайшлі ў лясы і балоты, дзе стваралі партызанскія атрады і вялі зацятую барацьбу з захопнікамі.

У гэты час Ленінград перажываў самыя цяжкія дні за ўсю гісторыю. 900 дзён і начэй стаялі насмерць яго абаронцы. Легендарнай славай авеяна знакамітая «Дарога Жыцця» праз Ладажскае возера, якая дала магчымасць завозіць у горад ваенны рыштунак, зброю, боепрыпасы, харчаванне. Ні масавыя ахвяры, ні голад і холад не зламалі дух і геройства савецкіх людзей.

7 ліпеня 1941 года Прэзідыум Вярхоўнага Савета, СНК і ЦК КП(б) Украіны звярнуліся да народа з прызывам арганізаваць адпор фашысцкаму агрэсару. 200 тысяч кіяўлян пайшлі добраахвотнікамі ў армію. Народнае апалчэнне Кіева склалі 29 тысяч чалавек гараджан і 60 тысяч з вобласці. Адначасова ў сталіцы Украіны было сфарміравана 11 партызанскіх атрадаў, якія налічвалі 1800 чалавек. 11—12 ліпеня, калі матарызаваныя часці немцаў прарваліся да Кіева, звыш 25 тысяч юнакоў і дзяўчат падалі заявы з просьбай накіраваць іх на фронт. 13 тысяч з іх сталі ў рады абаронцаў горада; 1500 былі перапраўлены ў тыл ворага, да партызан; 2500 дзяўчат пайшлі ў акопы медыцынскімі сёстрамі, 3500 сталі донарамі.

У 15-20 кіламетрах ад Кіева гітлераўцы былі затрыманы на два месяцы. Сумесна з воінамі часцей Чырвонай Арміі ў Корсуньскім і Кіеўскім умацаваных раёнах супраць часцей 6-й нямецкай арміі і 1-й танкавай групы мужна, ахвяруючы жыццём, змагаліся народныя апалчэнцы. Значная частка з іх потым стала асновай партызанскіх злучэнняў С. А. Каўпака і А. Ф. Фёдарава.

У пачатку вайны галоўная ваенна-марская база Балтыйскага флоту горада Таллінна аказалася недастаткова прыкрытай з сушы. Нямецкае камандаванне меркавала з ходу авалодаць горадам і захапіць ваенныя склады, нанесці ўдар па караблях. Супраць наступаючага праціўніка былі кінуты атрады ваенных маракоў і народнага апалчэння. На подступах да горада спешна ўзводзіліся абарончыя аб'екты, будаваліся інжынерныя агароджанні, выкопваліся супрацьтанкавыя равы.

З 19 ліпеня і амаль увесь жнівень ішлі цяжкія кровапралітныя баі за сталіцу Эстонскай ССР і галоўную базу флоту. Абаронцы паспяхова стрымлівалі бесперапынныя атакі нямецка-фашысцкіх войск. У гэтай гераічнай абароне вечную славу і памяць заслужыла сваім гераізмам народнае апалчэнне, якое складалася з рабочых, інжынераў і тэхнікаў таллінскіх заводаў і фабрык. Дзякуючы ім быў арганізавана адведзены ў Кранштадт Чырвоны Балтыйскі флот.

На працягу двух месяцаў (жнівень—верасень) 1941 г. гераічна змагалася Адэса. Побач з маракамі Чарнаморскага флоту і воінамі Чырвонай Арміі біла фашыстаў Адэская дывізія народнага апалчэння. Газета «Праўда» 11 верасня 1941 г. у сваім перадавым артыкуле пісала, што абарона Адэсы з'яўляецца выключным прыкладам беззапаветнай адданасці свайму роднаму гораду, здзіўляючым массавым гераізмам яго жыхароў у апалчэнні.

29 кастрычніка 1941 года нямецкія танкі прарваліся да Тулы. Сюды адышлі тры абяскроўленыя стралковыя дывізіі. У бесперапынных баях яны страцілі да 80 працэнтаў сваіх байцоў. За адны суткі горад папоўніў дывізіі прызыўнікамі з рэзерву, неабходнай зброяй, зрабіў рамонт баявой тэхнікі і вайсковага рыштунку, прывёў іх у баяздольны стан. За гэты кароткі тэрмін гараджане арганізавалі народныя апалчэнцкія ўзброеныя фарміраванні. Наступленне часцей арміі Гудэрыяна, якое адбылося 30 кастрычніка, было адбіта з вялікімі стратамі для немцаў. Выключную мужнасць і стойкасць праявіў у баях тульскі рабочы полк апалчэнцаў, якім камандаваў капітан А. П. Гаршкоў. Тула стала непрыступнай крэпасцю і адыграла важную ролю ў разгроме гітлераўцаў пад Масквой.

У добраахвотніцкія апалчэнцкія фарміраванні ўступалі тыя, хто не мог быць прызваны на фронт па ўзросце альбо знятыя з ваеннага ўліку па іншых прычынах. Гэта былі спецыялісты мірных прафесій — рабочыя, інжынеры, тэхнікі, пісьменнікі, навукоўцы, работнікі медыцыны, культуры і мастацтва. Яны не мелі ваенных уменняў і навыкаў, многае пазнавалі ў ходзе баявых дзеянняў. Іх яднаці агульныя рысы — высокі патрыятызм, трывалая вытрымка, жалезная стойкасць і ўпэўненасць у Перамозе.

Рабочы 1-й фабрыкі І. Балоцін пайшоў на фронт у апалчэнцкай дывізіі Ленінскага раёна Масквы сумесна з двума сынамі і дачкою. Вядомы даследчык творчасці А. С. Пушкіна прафесар Д. Благой у сваёй заяве напісаў: «Я ніколі не служыў у арміі, але ў адказ на наглы напад фашыстаў прашу запісаць мяне добраахвотнікам у рады Маскоўскага ваеннага фарміравання». Майстар Трохгоркі І. Баранаў уступіў у 8-ю Чырвонапрэсненскую дывізію народнага апалчэння сумесна з 16-гадовым сынам. Прафесар філасофіі Б. Кедраў камандаваў гарматай, а падносчыкам снарадаў у разліку была яго жонка І. Чанцова, навуковы супрацоўнік біяхімічнага навукова-даследчага Інстытута імя А. М. Баха.

Сярод добраахвотнікаў з вінтоўкамі ў руках ішлі знакамітыя музыканты — Акаёмаў і Лузенін, малады акцёр, а сёння сусветна вядомы драматург Віктар Розаў, віцэ-прэзідэнт АПН СССР В. Зубаў, будучы аўтар рамана «Сцяпан Разін» С. Злобін, студэнтка юрыдычнага факультэта МГУ імя М. В. Ламаносава, у 70-х гадах юрыст вышэйшай кваліфікацыі А. Хачатуранц, стары бальшавік, член КПСС з 1903 года вядомы пісьменнік П. Бляхін і інш.

Знаёмячыся з азамі ваеннай навукі прама на маршы да фронту, узброеныя вінтоўкамі, кулямётамі і гарматамі з запасаў ваенкаматаў, рамонтных баз, музеяў, народныя апалчэнцы аказаліся больш храбрыя і моцныя духам, чым гітлераўскія салдаты. У складанейшых умовах бесперапынных ваенных дзеянняў самаахвярна адстойваючы кожны метр

сваёй зямлі, яны хутка набіралі ваенны вопыт і калі атрымлівалі мінімальную колькасць баявой тэхнікі, адразу пераходзілі ад абароны да рашучага наступлення. Пасля цяжкіх баёў апалчэнцы склалі ядро многіх спецыяльных падраздзяленняў: разведчыкаў, падрыўнікоў, сувязістаў, лыжнікаў, дыверсійных атрадаў і груп у тыле ворага. Многія байцы часцей народнага апалчэння, знішчальных батальёнаў сталі ядром падполля, масавага партызанскага руху і да канца 1941 года ператварыліся ў яшчэ больш грозную сілу для ворага. На часова акупаванай тэрыторыі Беларусі, Бранскай, Ленінградскай, Смаленскай, Пскоўскай абласцей узніклі цэлыя партызанскія зоны, дзе існавала Савецкая ўлада, працавалі школы, бальніцы, бібліятэкі і іншыя сацыялістычныя ўстановы.

Аддаючы даніну павагі небываламу патрыятызму простых людзей у першы год вайны, маршал Савецкага Саюза Г. К. Жукаў у сваіх успамінах зазначыў, што многія апалчэнцкія фарміраванні, партызанскія злучэнні, сцякаючы крывёю ў несупынных абарончых і наступальных баях, набылі важкі ваенны вопыт і сталі асновай выдатных баявых злучэнняў, якія потым дайшлі да Берліна.





*КРЫТЫКА І ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА*

ВАЛЯНЦІНА КУЛЯШОВА

# У ВОДСВЕЦЕ СЦЯГА

*Его свободным языком*
*стихия правды говорила.*
***М. Дудзін***

Лёс такога паэта, як Аркадзь Куляшоў, — гэта дыялог яго музы з часам, абумоўлены акалічнасцямі самога жыцця. Свята 60-годдзя з дня вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў дае магчымасць прыгадаць адзін з лепшых твораў ваеннай паэзіі — паэму Аркадзя Куляшова «Сцяг брыгады».

Увесну 1980-га мне ўдалося сабраць у Маскве бацькавых сяброў-паэтаў, каб яны сказалі перад тэлекамерай свае слова пра яго. Яны параілі мне запрасіць на запіс і Максіма Танка, што жыў паверхам вышэй, але той адмовіўся.

Мы запісвалі пісьменнікаў па адным і потым вельмі здзівіліся, калі зразумелі, што Кайсын Куліеў, Міхаіл Дудзін і Расул Гамзатаў сказалі пра адно і тое ж: паэму Аркадзя Куляшова «Сцяг брыгады». Толькі Давід Кугульцінаў гаварыў пра асобу паэта, але гэта ўжо іншае.

«Как сейчас помню тот мартовский номер журнала «Знамя» за 1943 год, где в переводе Михаила Исаковского была напечатана поэма Аркадия Кулешова «Знамя бригады». Я лежал в то время в госпитале и читал, и перечитывал эту поэму. Я понял тогда, что Белоруссия обрела большого поэта. Великого поэта!» Упарта цытую Кайсына Куліева таму, што з усяго, казанага тады, менавіта з яго прамовы вычляняецца кароткая і ёмістая цытата.

Мой бацька ўсе свае жыццёвыя ўражанні скіроўваў у паэзію. У сваёй кнізе «Лясному рэху праўду раскажу» я падрабязна спынілася на тым, якім быў для яго пачатак вайны. Тут хачу дадаць толькі адно: інтарэсы чалавека і паэта аказваюцца часам супрацьлеглымі. Так здарылася, што ў першыя дні вайны Куляшоў прайшоў пешкі з Мінска да Оршы ў натоўпе бежанцаў. І вось вынік:

Идти устали маленькие ноги
Но он упорно продолжает путь.
Еще вчера хотелось близ дороги
Ему в ромашках полевых уснуть.

Но мать несла его теряя силы,
В пути минуты длились словно дни.
Все время сыну непонятно было:
Зачем свой дом покинули они?

Что значат взрывы, плач, дороги эти?
И чем он хуже остальных ребят,
Что на траве зеленой у кювета
Раскинув руки, рядом с мамой спят?

*«На минском шоссе», 1942 г.*

Я цытую не ўвесь верш, бо зараз мяне цікавіць не яго змест, а тое, што ён, як мне здаецца, з'яўляецца своеасаблівым «пралогам» да паэмы «Сцяг брыгады». Пралогам не па змесце, а па эмоцыі. Эмоцыі пакуль што неакрэсленай, але моцнай, той, што чакае працягу. Верш «На минском шоссе» ўбачыў свет на пачатку сорак другога, хоць падзеі, адлюстраваныя ў ім, адносяцца да чэрвеня 1941-га.

Перажытае трэба асэнсаваць. Гэта патрабуе часу. Як патрабуе часу і сам творчы акт, бо сюжэт звычайна выспявае ў часе.

Стрэс пачатку вайны, бежанства, адступленне, перажыванні асабістага характару — усё гэта існавала і да жніўня 1942 года, калі Куляшоў пачаў працу над паэмай.

Не было толькі сюжэта, як фармастваральнага моманту, як не існавала пакуль што і самой ідэі сабраць усе ўражанні вайны пад страхой вялікай паэмы.

Пакуль што з'яўляліся толькі асобныя вершы пра вайну, такія, як «Ліст з палону», «Над брацкай магілай», «Балада аб чатырох заложніках», «Камсамольскі білет».

Большасць з іх, як і цыкл вершаў (больш за восемдзесят), пра тое, як б'е ворагаў баец Аляксей Пятроў, пісаліся на рускай мове для «Сцяга саветаў», баявога лістка Адзінаццатай арміі Калінінскага фронту.

Калі пачалася вайна, Аркадзь Куляшоў знаходзіўся ў Хоцімску, у бацькоў. Мы ж: маці, брат і я — у Доме творчасці пісьменнікаў «Пухавічы», што пад Мар'інай Горкай. Гэты чырвоны цагляны дом стаіць і зараз: у ім месціцца дзіцячы санаторый.

Як заўсёды, зранку мы адпачывалі ля ракі. Тут і пачулі, што пачалася вайна. Першым памкненнем маці было ехаць у Мінск па дзіцячыя цёплыя рэчы. Што да мяне, якой ішоў ужо шосты год, то, зразумеўшы, што надышоў той момант, пра які 23 мая, ад'язджаючы з Мінска, гаварыў мой бацька, я ашчаперыла рукамі яе ногі і не пусціла ў Мінск. Не мой лямант, безумоўна, а словы бацькі, якія я ёй прыпомніла, спынілі маці.

А тады, 23 мая 1941-га, бацька, між іншым, сказаў: «Калі пачнецца вайна, бяры дзяцей і адразу ж едзь у Хоцімск да маіх бацькоў. (Сваіх у маці не было, бо яна была круглай сіратой з двухгадовага ўзросту.)

Так здарылася, што мы рушылі ў Хоцімск у той час, калі бацька накіроўваўся з Хоцімска ў Мінск.

Недзе на паўдарозе я ўбачыла яго ў сустрэчным цягніку. Вокны тагачасных вагонаў, калі вы памятаеце, адрозніваліся ад сучасных: яны былі «суцэльнакроеныя» і адчыняліся моцным штуршком, калі іх потым цягнулі ўніз за адзіную ручку-скабу, якая была прымацавана гарызантальна да верхняй часткі рамы. Я завісла на ручцы акна, але яна не паддалася.

Калі маці і брат вярнуліся, то засталі мяне ў роспачы і слязах. У тое, што я зараз бачыла бацьку, маці не паверыла. Бацька ж пацвердзіў гэты факт толькі на мяжы 1977—1978 гадоў, калі мы сям'ёй святкавалі Новы год і вялі ўсялякія неабавязковыя размовы.

А момант быў вызначальны. Уявіце сабе, што маці аказалася ў купэ, і мы з бацькам пабачыліся. Усё далейшае пайшло б інакш. І ці было б нам сёння пра што весці размову?

Наўрад ці прайшоў бы ён пешкі дарогай вайны з палаючага Мінска да Оршы і наўрад ці мелі б мы сёння такія радкі:

І пазнаць я не мог
Роднай вуліцы, ліп і каштанаў;
Рэха тысячы ног
Аглушыла мяне нечакана,
Падхапіла мяне, мае гора,
Жаданні, трывогі
І панесла за горад
Па бітаму шклу мае ногі.

Доўга вуліца родная
Шлях мне ўначы асвятляла.
І пры гэтым святле
Я запісваю з болем у сэрцы
Час дакладны, але,
Час яе незабыўнае смерці.
Людзям тым прысвячаю радкі,
Невядомым імёнам,
Што на бруку ляжаць без рукі,
Без жыцця пад каштанам і клёнам.

*«Сцяг брыгады», 1942 г.*

Усё, аднак, склалася на карысць паэзіі. Бацька ў рэшце рэшт апынуўся ў Мінску. Там ён застаў Хрысціну, нашу хатнюю гаспадыню, якая прыехала ў Мінск з Ялаўца напярэдадні, у суботу, і дзе мы знаходзімся, не ведала. Бацька загадаў ёй вяртацца дадому, а сам пайшоў шукаць ваенкамат, каб трапіць у дзеючую армію. Спачатку ён накіраваўся ў Саюз пісьменнікаў.

Калі тагачасны сакратар Саюза Міхась Лынькоў убачыў чарговага прэтэндэнта на месца ў адзінай палутарцы, якая павінна была эвакуіраваць пісьменнікаў, ён сказаў бацьку:

— Ведаеш, уюнаша, табе месца няма!

Што думаў тады Міхась Ціханавіч невядома, але месяцы за два да смерці, у жніўні 1976 года, ён за нешта прасіў у бацькі прабачэння. Не выключана, што і за гэта.

Што заставалася рабіць дваццацісямігадоваму патрыёту, якім быў мой бацька, у падобнай сітуацыі? Шукаць месца, дзе б яго забралі ў армію. Такім месцам быў ваенкамат. Бацька абышоў іх некалькі. Тры, здаецца. Ваенкаматы аказаліся зачыненымі. Аднак каля іх бацька сустрэў яшчэ двух патрыётаў: Івана Васільевіча Куляшова і яшчэ кагосьці, чыйго імя мы, на жаль, не ведаем. Разам яны вырашылі падацца ў Калодзішчы, дзе знаходзілася буйная вайсковая частка.

У Калодзішчах іх напаткала расчараванне. Вайскоўцаў яны там не знайшлі, а па-веснавому зялёная трава пляца «расцвіла» чырвонымі пятліцамі.

Бацька страціў прытомнасць. Гэта быў яго першы інфаркт, пра які доўгія гады ведалі толькі ён са спадарожнікамі, Пімен Панчанка ды мая маці.

Спадарожнікі Аркадзя Куляшова тры дні неслі яго на самаробных насілках праз барысаўскія балоты. Яны выбралі такі складаны маршрут таму што па дарогах, якімі ішлі бежанцы, шнырылі нямецкія дыверсанты. Іх было асабліва многа ў раёне сталіцы. Праз тры дні хлопцы зноў выйшлі на дарогу і да Оршы бацька ішоў ужо самастойна.

У канчатковым варыянце «Сцяга брыгады» пра гэта сказана вельмі сціпла:

Ці дарога мяне змагла,
Што глядзець я не змог,
Не знаю.
Толькі вочы заслала імгла...

У першым варыянце за гэтымі словамі ішло:

І я ўпаў і згубіў прытомнасць...

Потым аўтар, відаць, зразумеў, што воін, якім рабіла вайна звычайнага мужчыну, гэта трохі іншая іпастась, з іншым псіхічным складам.

Таму цяпер пасля слоў «толькі вочы заслала імгла» ідуць другія:

І пайшлі мы, і след замяла
У дуброве мяцель залатая...

У Оршы бацька, нарэшце, дагнаў свой «ваенкамат»: тых, хто ўваходзіў у горад, яшчэ на вакзале дзялілі на здольных ваяваць і бежанцаў. Бацька апынуўся сярод першых і трапіў на вайсковую падрыхтоўку ў Калінін, дзе дзён, можа, праз дзесяць-чатырнаццаць на вакзале яго сустрэў зямляк, паэт Аляксей Русецкі. Дадзім слова яму:

« — Мы сустрэліся з тваім бацькам у сярэдзіне ліпеня на прывакзальнай плошчы ў Калініне. Я стаяў у чарзе па морс. Раптам угледзеў Куляшова. У вайсковай форме, з даваенным скураным паліто праз руку, ён накіроўваўся да мяне. «Бачыш, дзе мы апынуліся, «хлопцы апошняй вайны»?» — сказаў паэт замест прывітання».

У час нашай размовы з Аляксеем Сцяпанавічам, калі я расказвала яму пра сімптомы інфаркту, ён раптам дадаў:

— Гэты сімптом у твайго бацькі тады прысутнічаў: у яго былі засмяглыя вусны. І вось толькі зараз я зразумеў чаму.

Бацьку накіравалі на Калінінскі фронт у 11-ю армію, дзе брыгадны камісар Іван Васільевіч Зуеў, прысвоіўшы яму воінскае званне малодшага палітрука, накіраваў у газету «Сцяг саветаў» супрацоўнікам.

Вось што піша пра сваё першае знаёмства з Аркадзем Куляшовым рэдактар газеты.

«Пасля адной жорсткай бамбардзіроўкі, калі супрацоўнікі рэдакцыі толькі што вярнуліся з укрыццяў, да мяне ў шалаш увайшоў чалавек ніжэй сярэдняга росту, апрануты ў форму малодшага палітрука.

— Ці магу я бачыць адказнага рэдактара? — запытаў афіцэр.

— Я рэдактар.

— Добры дзень, я — Аркадзь Куляшоў.

Не ўтаю, што даклад і выпраўка прыйшоўшага афіцэра мяне некалькі збянтэжылі. Гімнасцёрка на ім мела многа складак, пілотка была няправільна надзета — зорка знаходзілася недзе над правым вухам.

— Вы, пэўна, у арміі нядаўна? — запытаў я. Відаць, здорава вас напалохала бамбардзіроўка?

— Першае, — здагадаліся, у другім памыляецеся.

Тон адказу і чырвань, якая выступіла на бледных шчоках афіцэра, неяк адразу выклікалі сімпатыю да гэтага чалавека. Куляшоў сказаў, што ён толькі што прыбыў з групай палітработнікаў і накіраваны да мяне аддзелам кадраў для перагавораў аб рабоце ў рэдакцыі».

Пра тое, што такое вайна, паэт ужо неаднойчы думаў і спрабаваў выразіць у паэзіі. Ужо былі паэмы «Крыўда» і «Хлопцы апошняй вайны», а таксама асобныя вершы, прысвечаныя гэтай тэме. Было і само прадчуванне вайны:

Выходжу я ў разведку —
Рашучы заўтра бой.
Ты ранак,
Будзь за сведку,
Услед ідзі за мной.
З табой у згодзе поўнай
Жылі мы з першых дзён.
У барацьбе няроўнай
Я трапіў у палон.

І рукі мне звязалі,
І ў плечы б'е прыклад.
«Вядзі! —
Мне загадалі. —
Паказвай шлях назад...»

Ты, ранак мой вялікі,
У час маіх няўдач
Пад ногі кідай пікі
Дарогі перайнач.

Дзе рэчку помніў розум,
Там возера кладзі,
Дзе корч —
З карча бярозу
На месцы тым радзі.

Дупло зрабі з засечкі,
Хай птушка ў гэты дзень
Туды свае яечкі
Блакітныя кладзе.

У родную краіну
Дарогі перайнач.
А я? А я загіну.
А ты?
А ты не плач.

***«Ранак», 1940 г.***

«Гэта будзе жудасная вайна» — неаднойчы гаварыў Аркадзь жонцы, але калі табе ўдасца выратаваць абаіх дзяцей, я буду лічыць цябе гераіняй».

Аднак звернемся да цытаванага вышэй артыкула.

«Праз некалькі дзён ён прыйшоў да мяне ў зямлянку і сказаў:

— Прыйшоў да вас параіцца. Рашыў пісаць паэму аб сцягу часці.

Не паслабляючы работы ў рускамоўнай газеце, ён пачаў працаваць над паэмай.

Працаваў многа, з захапленнем. Ні варожыя бамбардыроўкі, ні беспера-пынны грукат артылерыйскай кананады не маглі перашкодзіць паэту.

Бывала, глыбокай ноччу зойдзеш у зямлянку. Усе спяць. Адзін паэт ляжыць з адкрытымі вачыма на тапчане, зробленым з бярозавых палак. Думка яго сканцэнтравана. Раптам ён пераварочваецца са спіны на жывот, бярэ сшытак і шпарка запісвае некалькі радкоў... І зноў пераварочваецца на спіну.

— Вы б адпачылі, Аркадзь Аляксандравіч!

— Не магу, вельмі ўжо захапіла мяне тэма...»

У лісце да жонкі ад 11 красавіка 1942 года Куляшоў піша: «Я имею возможность подать рапорт об использовании меня в белорусской прессе. Но это связано с возможным длительным и неопределенным пребыванием в резерве и я пока никак не могу решиться... Но все же, Ксанюша, я возможно решусь на этот шаг, поскольку меня здорово тянет к белорусскому языку, и я уже ощущаю острую необходимость в этом».

Вось і яшчэ адзін ліст — ад 16 мая 1942-га.

«...Вчера я дежурил и поэтому, как водится, не спал ночь. Рано утром все вокруг проснулось, запели соловьи и прочие пернатые существа. А потом закуковала зязюля и это так напомнило родные места, Белоруссию, что я вот уже целые сутки хожу под этим впечатлением. И, как видишь, не удержался, чтобы не написать тебе. Так все живо и ярко прошло перад моими глазами, столько разного и хорошего всплыло, что я физически почувство-

вал необходимость вернуть, отбить у врага родную красоту, родные дорогие нам поля и леса…»

У чэрвені 1942-га адбылася падзея, якой ніхто не чакаў.

Частка Другой Асобай Арміі на чале з генералам Уласавым перайшла да немцаў.

Гэтай арміі, мабыць, адводзілася нейкая асобая роля ў пытанні зняцця блакады Ленінграда, і мо таму месяцы за два да тых падзей у Другую Армію Калінінскага фронту быў перакінуты І. В. Зуеў, якому мы абавязаны першай у той вайне пераможнай аперацыяй пад Ціхвінам.

Для Куляшова гэтая падзея сталася і асабістай трагедыяй, бо за вайну яны з Зуевым паспелі пасябраваць. Не аднойчы ў вольную хвіліну Іван Васільевіч, звяртаючыся да свайго ардынарца Якава Сцяпанавіча Бабкова, гаварыў:

— Паехалі да Аркашы!

І яны садзіліся ў газік.

Я прачытала гэта ў кнізе Я. С. Бабкова, прысвечанай І. В. Зуеву, як і тое, што герой кнігі на фронце перапісваўся з Куляшовым.

Уласаў перайшоў да немцаў, а яго правая рука, начальнік палітаддзела Арміі І. Зуеў, знік. У тое, што ён здраднік, Куляшоў не верыў. Яго думка пацвердзілася, але амаль праз чвэрць стагоддзя. Сумскія следапыты раскапалі гісторыю Зуева. Ён загінуў, выводзячы з акружэння частку тых салдат, што не пайшлі за Уласавым. Сёння гэта сумна вядомы раён Мяснога Бору.

А ў той момант, калі «Аркаша» распачынаў сваю паэму, Зуеў, як і Уласаў, лічыўся здраднікам.

Вось, нарэшце, і ўсе неабходнае для паэмы: і сцяг, які трэба вынесці, і цяжка паранены батальённы камісар Зуеў — Зарудны, і Уласаў — Ворчык.

Вось вам і сюжэт паэмы, і яе эзопава мова, бо ні Уласава, ні Зуева нельга было ўзгадваць. І напал асабістага болю, такога неабходнага Куляшову для працы падобнага маштабу.

Вось яна, тая «розніца патэнцыялаў», якая запальвае «вольтаву дугу» куляшоўскай паэзіі.

Як ад роднай галінкі дубовы лісток адарваны
Родны Мінск я пакінуў, нямецкай бамбёжкаю гнаны.
Міма дрэў, міма дрэў
Усю ноч я ішоў, — за спіною
Родны горад гарэў,
І не ведала сэрца спакою...

*«Сцяг брыгады»*

«Дубовый листок оторвался от ветки родимой…»

Не дарэмна малая дачка Куляшова (маю на ўвазе сябе) стала плакала над радкамі гэтага верша, калі бацька, закалыхваючы яе, чытаў дачцэ, замест калыханкі, радкі лермантаўскага верша.

Сітуацыя і чытання, і плачу зрабілася тыповай, і паэт пачаў думаць ужо не пра яе, а пра паэзію. Вынікам гэтага стаў радок, які занёс у запісную кніжку яшчэ перад вайной, не ведаючы, што ён яму спатрэбіцца. Паслухаем паэму яшчэ раз:

Родны Мінск я пакінуў
Пажарам і бомбамі гнаны.
Хто сказаў, што мой горад загінуў,
Што ён зруйнаваны?

Я не веру ні зарыву ўночы,
Ні воблакам дыму,
Бо чаму, як заплюшчу я вочы,
Стаіць прад вачыма

Мінск жывы, не нябожчык, —
І звоняць трамваі на плошчах...

У лісце да М. Лынькова з просьбай выклікаць яго ў Маскву Куляшоў піша: «Работа над паэмай пасоўваецца наперад, нягледзячы на тое, што ўмовы для работы незвычайна кепскія. Пішу ў бліндажы, у якім змяшчаецца сакратар'ят з машынкай і супрацоўнікамі ў колькасці шасці чалавек. Акрамя таго часта адрываюся і пішу вершы на рускай мове для газеты. І наогул пішу ва ўмовах, у якіх усе на мяне глядзяць так, быццам я краду час, патрэбны для работы ў газеце.

Гэта вельмі крыўдна, але, на жаль, гэта так».

Праз дваццаць дзён, 21.X.1942 г., чарговае пісьмо Лынькову як сакратару Саюза пісьменнікаў:

*«Дарагі Міхась!*

Учора скончыў паэму «Сцяг брыгады», якую пісаў да 25 гадавіны Кастрычніка. Паэма аб айчыннай вайне і Беларусі. Памер — 2000 радкоў. Пішу т. Гарбунову пісьмо, каб ён напісаў сюды начальніку палітаддзела і рэдактару просьбу ад свайго імя, каб мяне камандыравалі ў Маскву ў распараджэнне аддзела прапаганды на 25-30 дзён. Думаю за гэты час зрабіць разам з перакладчыкам пераклад на рускую мову і прапанаваць паэму альбо «Известиям», альбо якому часопісу.

Паэма, як мне здаецца, атрымалася не кепская. Вядома, адшліфаваць яе не шкодзіць. Хацелася б прачытаць усім вам, бо я тут адзін, як воўк, і прачытаць некаму, а хацелася б ведаць думку людзей, якія ў паэмах разбіраюцца».

***Лісты друкуюцца без купюраў і ўпершыню — В. К.***

А цяпер слова Аляксандру Твардоўскаму:

«Зимой 1942 года в одной московской квартире собрался дружеский кружок писателей послушать белорусского поэта Аркадия Кулешова, прибывшего с фронта с новой поэмой в полевой сумке. Первоначальное знакомство с этой вещью — одно из самых ярких и дорогих для меня литературных воспоминаний военного времени».

Куляшову пашанцавала ў тым, што сярод першых слухачоў паэмы аказаўся такі знаўца паэзіі, як Аляксандр Твардоўскі.

Ён быў тым, хто змог даць паэме належную ацэнку.

«Покамест он не начал читать, я, как и другие товарищи, по собственному опыту знавшие трудности фронтовых условий работы, просто дивился тому, как в этих условиях человек нашел время и силы написать такую большую вещь, которая к тому же не могла даже идти в зачет его работы в газете, так как была написана на белорусском языке. Но с первых же глав поэмы, прочитанных автором, стало ясно, что он просто не мог не написать ее. Это было слово, которое не ждет особых внешних условий, чтобы явиться из сердца поэта, а даже скорее всего и естественнее может явиться тогда именно, когда трудно.

И чем дальше читал Кулешов, тем все чаще мы просили повторить отдельные места и порывались заглянуть в рукопись своим глазом, чтобы еще раз убедиться, что они есть на самом деле, эти за душу берущие, простые и полные большой новизны и силы слова и строки».

І зноў слова Твардоўскаму:

«В самом общем смысле поэма эта была голосом сердца, полного боли за родную белорусскую землю, плачем по ней, и горячей светлой веры в ее

силы к борьбе, в ее освобождение. И голос этот прозвучал еще тогда, когда не только вся Белоруссия находилась под игом немецко-фашистских захватчиков, но и много русской земли на восток от нее».

Высокі ўзровень мастацкага слова паэмы, яго пранізлівасць і актуальнасць зрабілі яе творам не толькі высокага мастацтва, але і творам-воінам.

«Дзесьці ў канцы 1943-га, у Чарнагорыю, дзе мы вялі цяжкія баі, савецкі самалёт даставіў пазарэз патрэбныя нам боепрыпасы і медыкаменты — і тое, і другое катастрафічна скончылася. Там аказалася і некалькі новых савецкіх кніг аб вайне, у тым ліку — паэма Куляшова «Сцяг брыгады» ў перакладзе Ісакоўскага. Паэма літаральна ашаламіла мяне. Я чытаў яе і перачытваў шмат разоў, чытаў таварышам па зброі, якія трошкі разумелі рускую мову, а для тых, хто не разумеў, асобныя мясціны сам перакладаў на сербскую. Гэта была паэзія, якая радніла нас з савецкімі братамі — радніла ў нянавісці да фашыстаў і веры ў перамогу, паэзія, якая прыдавала нам духоўнай моцы і сілы»...

Ад імя жыхароў,
Наша вуліца Нова-Маскоўская,
Гавару, што з усімі пайшоў
У чырвонае войска я.
Хоць і сцёрта ты, бачу,
Ды памяць твая не сатрэцца,
Бо грукоча твой попел гарачы
Усім нам у сэрца.
Я табе абяцаю і попелам родным клянуся,
Што з дарогі ўначы не саб'юся,
Вярнуся, вярнуся...

Гэтыя словы належаць чарнагорскаму паэту Радавану Зогавічу.

А я дагэтуль памятаю размову пачатку перабудовы. Адзін з маскоўскіх тэлежурналістаў, добры знаўца сваёй справы і літаратурнага асяроддзя Масквы, у размове са мной закрануў пытанне «Сцяга брыгады».

Ён называў паэму культаўскай, не згаджаўся лічыць Ворчыка здраднікам і спасылаўся на аўтара, які чамусьці толькі пасміхаўся ў адказ на падобную крытыку.

З усяго, што было сказана, я зразумела, што мой суразмоўнік, літовец па паходжанні, паэмы не чытаў, бо перш за ўсё не ведаў таго, што ў паэме, напісанай у 1942 годзе, аўтар ні разу не ўзгадаў ні імя Сталіна, ні нават слова «правадыр». Гэтаму не было месца ў яго народнай паэме.

У мірны час безадказнасць Ворчыка не была б пакарана так жорстка, як ва ўмовах вайны. Вайна ж закрэслівае сентыментальную атрыбутыку чалавечнасці. Застаецца толькі тое, што працуе на агульную справу перамогі над ворагам. Таму, мабыць, лепшым вершам ваеннага часу добрыя паэты Савецкага Саюза лічылі верш невядомага лейтэнанта, які загінуў пад Сталінградам:

Мой товарищ, в смертельной агонии
Не зови ты на помощь людей.
Дай-ка лучше согрею ладони я
Над дымящейся кровью твоей.

И не плачь, не скули, словно маленький,
Ты не ранен, ты просто убит.
Дай-ка лучше сниму с тебя валенки —
Мне еще воевать предстоит.

Верш, падобны па сіле разумення псіхалагічнай праблемы вайны, ёсць і ў Пімена Панчанкі, чалавека яшчэ больш мяккага і ранімага, чым Куляшоў. Вось яго пачатак:

Злосна сказаў: «Уставай, пяхота!
Мы не на пляжы, а на вайне».
І лёг на змяіныя скруткі дроту.
І дзвесце салдацкіх запыленых ботаў
Прайшлі па яго спіне.

*1943 г.*

Так што не характар, а талент аўтара і непасрэдны ўдзел у падзеях дапамагалі яму найбольш адэкватна адклікнуцца на іх.

А што да таго, што Куляшоў толькі моўчкі пасміхаўся ў адказ на словы суразмоўцы, то той, значна маладзейшы за Куляшова, проста не ведаў, што гэта была звычайная рэакцыя апошняга на сумніўную крытыку. Першым, дарэчы, гэта заўважыў беларускі літаратурны крытык Рыгор Бярозкін.

«Кулешов любил праздник мысли. Когда я наедине встречаюсь з кулешовскими книгами, когда я живу и наполняюсь его миром, я неизменно ощущаю в себе присутствие некой возвышенности души…

И сейчас мне кажется, что на всем творчестве Кулешова есть печать этой возвышенности, словно на всем, что он сделал… над всей его судьбой есть сень знамени. И это очень трогает и, думается мне, делает других лучше и чище, смелей и мужественней, и в этом суть его поэзии, ее чудо и ее непостижимая тайна» — сказаў рускі паэт Міхаіл Дудзін.

І дакладней, мне здаецца, сказаць нельга.

Сапраўды, яго чалавечы і творчы лёс яшчэ ярчэй прачытваецца ў водсвеце сцяга.





**НАТАЛЛЯ ЗАЯЦ**

# «ПЯЦЬ РЭЧАК З КРЫНІЦЫ МАЁЙ...»

***Паэмны цыкл Васіля Зуёнка «Пяцірэчча»***

Талент Васіля Зуёнка — аднаго з найбольш яркіх і самабытных прадстаўнікоў так званага філалагічнага пакалення — надзвычай шматгранны: ён плённа працуе ў самых розных жанрах (верш, паэма, празаічная элегія, эцюд і інш.). Адметнае месца ў творчым набытку паэта займае паэмны цыкл «Пяцірэчча», які ствараўся прыкладна чвэрць веку — з 1965 па 1990 год, калі была завершана праца над заключнай паэмай «Падарожжа вакол двара». «Задума ліра-эпічнай кнігі «Пяцірэчча» акрэслівалася паступова, — успамінае аўтар, адказваючы на пытанне прапанаванай намі анкеты. — Спачатку была «Сяліба», а ў ёй, як пасля пачало вынікаць, быў генетычна закладзены, таіўся код усёй кнігі. Ён і падаваў сігналы, падказваў, куды скіраваць творчыя намаганні — да вызначальных момантаў у гісторыі, у жыцці народа. Так вымалёўвалася панарама ў гістарычным шляху — ад Лукам'я з бунтоўным князем Іванам Лукомскім да сучасных нефармалаў з Зянонам… А ў цэнтры — паэма лёсу «Маўчанне травы»: праз лёс Васіля выяўляецца лёс простага чалавека, урэшце — лёс народа».

Кніга пачынаецца вершаванай прадмовай:

Пяцірэчча…
Пяць рэчак
бяссоння майго і крыві:
Ад капіляраў да сэрца —
ад сэрца да капіляраў.
Пяцірэчча,
з-пад Рэпішча ў свет незнаёмы плыві, —
Млечны Шлях,
Вечны Шлях
з беларускай куп'істай імшары.

Уладзімір Гніламёдаў вельмі дакладна і вычарпальна тлумачыць выбар Васілём Зуёнкам такога эпіграфа: «Назвамі родных рэк аўтар акрэсліў не толькі геапалітычнае становішча сваёй радзімы, але разам з тым згадаў і пра асаблівасці яе прыроднага свету, нацыянальнага космасу, гістарычнага лёсу». Паэмы «Пяцірэчча» дапамагаюць зазірнуць у душу беларуса, зведаць тое, што турбавала, засмучала, радавала, абнадзейвала яго на далёкіх і блізкіх гістарычных шляхах.

Творы кнігі «Лукам'е», «Сяліба» і «Прыцягненне» склалі паэтычную трылогію пад агульнай назвай **«Агонь і сонца»** з аўтарскім падзагалоўкам: «Паэма Радзімы». Для аб'яднання розных па тэматыцы паэм у адзін буйны твор у В. Зуёнка былі падставы. Усе тры паэмы перагукаюцца ў ідэйных адносінах, вызначаюцца канцэптуальным адзінствам. Агульнае для іх — нязгаснае пачуццё любові да Радзімы, клопат за ўвесь Сусвет: ад берагоў рачулкі Начы да недасяжных планет, ад даўняй крывіцкай сялібы да Сялібы-Зямлі. Як вынікае з твораў, старажытныя паганскія агні народнай гісторыі павінны бачыцца, помніцца на шляхах сучасных «ікараў» да Сонца, гістарычнай памяці належыць з'яднаць агонь мінулага і сонца будучыні з днём сённяшнім. У паэме «Агонь і сонца» судакранаюцца розныя часавыя і прасторавыя сферы: сівая мінуўшчына, глыбіні вякоў («Лукам'е») — сучаснасць (пераважна «Сяліба») — будучыня, касмічныя вышыні («Прыцягненне»). Розныя час і прастора пераплятаюцца і ўзаемапранікаюць і ў кожнай з паэм трылогіі. З сярэднявечнага Лукам'я — імклівае перанясенне ў 1993 год, з «машыннага», «прагрэсіўнага» XX стагоддзя — да сялібы продка-язычніка, з касмічнай арбіты — на зямныя сцяжыны маленства...

Зыходным матывам першабытнай міфалогіі літаральна ва ўсім свеце з'яўляецца ўспрыняцце сонца як нябеснага агню, разуменне «крэўнай» еднасці гэтых двух агнёў. «Аналогіі паміж сонцам і агнём, — чытаем у кнізе Т. Шамякінай «Міфалогія Беларусі (нарысы)», — падказвалі першабытнаму чалавеку сувязі паміж зямнымі і нябеснымі з'явамі». Гэты старажытны міфапаэтычны матыў сувязі супрацьлеглых стыхій увасабляецца ў паэмнай трылогіі В. Зуёнка. Сцвярджэнне еднасці, «роднасці» не замыкаецца толькі на бінарнай апазіцыі *зямля — неба*, а закранае і іншыя сферы: *чалавек — прырода, прырода — цывілізацыя, уладар — народ, мінулае — сённяшняе — будучае, продкі — сучаснікі — нашчадкі* і г. д. — і паўстае як універсальны закон быцця. З цэнтральнага матыву ўсеагульнай узаемасувязі вынікае матыў узаемаадказнасці, адчувальны ва ўсіх трох паэмах.

Паэма **«Сяліба»** стала першым унёскам у кнігу ліра-эпасу «Пяцірэчча», яе «генетычным кодам». Твор пісаўся на працягу 1965 — 1970 гг. і выйшаў у 1973 г., даўшы назву паэтычнаму зборніку, за які Васіль Зуёнак быў удастоены прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1974). Паэма была ацэнена даволі высока літаратурнай крытыкай, але адзінадушнага ўхвалення, безумоўна, не было. Пэўная частка крытыкаў лічыла вельмі істотным недахопам паэмы «Сяліба» недастатковую распрацаванасць характараў герояў, фрагментарнасць сюжэта, несцэментаванасць яго дзеяннем. Аднак такая ацэнка не можа прэтэндаваць на аб'ектыўнасць, паколькі не ўлічвае дамінантную рысу твора — выразна выяўлены лірычны пачатак. Толькі зыходзячы з гэтага і трэба ацэньваць вартасці «Сялібы». У зборніку 1973 года паэма была пазначана падзагалоўкам «Дыялог праз гады іростані». Пры наступных выданнях (у кнізе «Жніўны дзень» (1985) і другім томе Выбраных твораў (1998) аўтар удакладніў падзагаловак, свядома падкрэсліўшы перавагу адзнак лірыкі: «Дыялог праз гады і ростані, перамоўлены з самім сабою».«Галоўны тут (і ўвесь) сакрэт, — дзеліцца сваімі разважаннямі Васіль Зуёнак, — не ў нейкай сюжэтна-кампазіцыйнай расстаноўцы герояў, а ў лірычнай (і, калі хочаце, эпічнай) плыні аўтарскіх эмоцый, разваг, перажыванняў, у яго памкненнях выказаць сваё разуменне, успрыманне існага — у мінулым, сённяшнім, заўтрашнім». Слаба выяўленая падзейная аснова становіцца фонам для перадачы «падзей» у душы лірычнага героя, раскрыцця «сюжэта аўтарскай думкі» (У. Огнеў). У паэме «архітэктанічным цэнтрам», па выразу літоўскага даследчыка В. Кіканса, становіцца асоба аўтара: твор будуецца адкрыта канцэптуальна, «пры дапамозе» лірычнага героя, які (і толькі ён!) з'яўляецца галоўным у «Сялібе».

Для разумення мастацкай канцэпцыі твора, што выяўляецца найперш сродкамі лірыкі, вялікае значэнне маюць гістарычны, геаграфічны і аўтабіяграфічны моманты. Гістарызм як прынцып мастацкай творчасці — «базісная» ўмова стварэння сапраўднай паэмы, агульная рыса ўсіх паэм В. Зуёнка і «Сялібы» ў тым ліку. Паэтычны зрок аўтара не выхоплівае выпадковыя ізаляваныя фрагменты рэчаіснасці, а засяроджваецца на каранёвых момантах народнага жыцця, упісвае іх у агульнасусветны кантэкст. Аб'ектам мастацкага даследавання побач з унутраным светам лірычнага героя «тут і зараз» становіцца складаны «сусвет» вечных анталагічных пытанняў.

Лакальная геаграфічная акрэсленасць (Нача, Узнацк, Крутаяр, Пагост) не перашкаджае выходзіць на планетарны ўзровень асэнсавання з'яў рэчаіснасці. На першы погляд, вузка мясцовы вобраз сялібы, уласнага селішча, дзе некалі «асеў бегляк-язычнік», геаграфічна значна больш аб'ёмны. Сяліба паўстае як уся планета: «Квітней, мая Зямля — мая Сяліба». У абедзвюх семантычных сферах гэтага вобраза — родная сяліба і Сяліба-Зямля — аднолькава важнае гучанне набывае праблема Гаспадара (розныя бакі гэтай праблемы закранаюцца ў паэмах «Лукам'е», «Маўчанне травы», «Падарожжа вакол двара»). Аўтарам разглядаецца магчымасць альтэрнатыўнага выбару: гаспадар-спажывец, які кіруецца толькі пастановамі і дырэктывамі, ці беражлівы гаспадар, нашчадак таго язычніка, што бачыў у прыродзе сабе падобную жывую істоту.

Цэнтрам складаных часавых і прасторавых адносін выступае лірычны герой. Бясспрэчна, на развіццё гэтага вобраза вельмі значна паўплываў аўтабіяграфічны момант. Але аўтабіяграфізм паэмы (ды і любога мастацкага твора) нельга разумець спрошчана і звужана. Не варта імкнуцца разледзець у «Сялібе» праўдзівы летапіс паэтавага жыцця. «Факты жыцця, — падкрэслівае Ю. Лотман, — могуць стаць сюжэтам паэзіі, толькі пэўным чынам трансфармаваўшыся». Зусім не абавязкова, што паэт сам павінен прайсці праз усе жыццёвыя перыпетыі разам са сваім лірычным героем. Як факты біяграфіі аўтара могуць успрымацца перажыванні лірычнага героя, з адным удакладненнем: духоўнай біяграфіі.

На ўзроўні асваення пісьменнікам гістарычнага, геаграфічнага і аўтабіяграфічнага матэрыялу за асабіста-лірычным бачыцца імкненне да эпічнай аб'ектыўнасці. Для паэзіі XX стагоддзя ўвогуле характэрна набыццё лірычным героем эпічных рысаў. Не абавязковым становіцца падрабязны паказ падзей аб'ектыўнай рэчаіснасці, а патрабуецца іх асэнсаванне ў душы паэта. Адзінства асабістага і агульнага вельмі трапна прадэкляраваў Уладзімір Маякоўскі ў паэме «Хорошо» (1927): «Это было с бойцами, или страной, / или в сердце было моем». У «Сялібе» Васіля Зуёнка назіраецца падобны працэс: лірычны герой не адасабляецца, не замыкаецца ў сваіх асабістых праблемах, ён знаходзіцца ў эпіцэнтры падзей аб'ектыўнага свету, агульначалавечыя трывогі і праблемы ўспрымаюцца ім як уласныя. Пачуццё адказнасці — усіх за кожнага — акумулюецца ў вобразе лірычнага героя, які становіцца выразнікам гуманістычных поглядаў чалавецтва: «Надзеі старэнькай праменьчык сканаў / У сэрцы маім, а можа, ў тваім, / Бо на зямлі адной мы стаім».

У вобразе лірычнага героя бачыцца спалучэнне ўнутранага і знешняга свету чалавека, прасочваецца сувязь часоў у адной асобе, якая «вандруе» па дарогах сваёй уласнай памяці і памяці гістарычнай. Пачынаецца твор словамі адмаўлення ад забыцця і бяспамяцтва: «Агнём вазьміся час той і той дзень», калі герой «памяць крэсліў безліччу дарог» і «засціў стромамі падзей». «Сяліба» — паэма-вяртанне: вяртанне дарослага ў мясціны маленства і юнацтва, гараджаніна — у свет прыроды, да вясковых каранёў. У В. Зуёнка гэта не ўцёкі ад актуальных, злабадзённых праблем часу, а ўзмацненне,

акцэнтаванне іх шляхам кантрастнага супрацьпастаўлення «прыроднага» «ўчора» і «цывілізаванага» «сёння».

Лірычны герой з настальгічным сумам ізноў праходзіць па сцежках свайго юнацкага няспраўджанага кахання. Інтымная лінія твора ўвесь час перасякаецца з сацыяльнай (сапернік героя прытрымліваецца зусім іншых поглядаў адносна захавання прыроды). Хаця тэма кахання з'яўляецца другаснай у паэме, яна «падсвечвае» чалавечнасцю сацыяльную (на першы погляд) праблематыку. Творам на востра надзённыя тэмы часта бракуе непасрэднасці, шчырасці, што засцерагаюць ад голай публіцыстычнасці, дэкларатыўнай лозунгавасці. Паэма «Сяліба» шчасліва абышла падобную небяспеку: грамадзянская любоў да прыроды, роднай Сялібы ставіцца побач з інтымным пачуццём да жанчыны. Гэта розныя грані адной вялікай стваральнай Любові, якая ачышчае душу ад прагматычнага спажывецкага «бруду», узвышае яе. «Скажы, прырода, ці не гэтак, / Як сэрца вечнае жаночае, / І ты на ростанях сусвету / З усіх шляхоў адзін высочваеш?..» Стасункі чалавека і прыроды ўзаемазалежныя: яны разам трымаюць «адзіны сподак — Жыццё». Не разбіць «сподак», захаваць жыццё на Зямлі-Сялібе пад сілу чалавеку, з'яўляецца яго абавязкам. Такім чынам, асабістае, інтымнае пачуццё адцяняе, напаўняе чалавечнасцю агульнае, грамадскае.

У Васіля Зуёнка, у адрозненне ад іншых пісьменнікаў, не так і многа знойдзецца вершаў пра каханне. «Сяліба» ў некаторай ступені кампенсуе гэты «прагал». Даследчыкі творчасці паэта пры мастацкім аналізе названага твора амаль не звярталі ўвагі на гэты аспект. Аднак, думаецца, паэма «Сяліба», як ні адзін іншы твор, выявіла талент В. Зуёнка — майстра інтымнай лірыкі. Пяшчотныя адносіны лірычнага героя да дзяўчыны Ліі раскрываюцца на працягу ўсёй паэмы, у шчымлівых прызнаннях закаханага яднаюцца замілаванне любай і захапленне прыгажосцю зямлі. «Узмах крыла і ў цёплы лівень / Успleск гуллівых ручаёў — / Імя тваё, як лівень, — Лія, / Я ціха лашчыў зноў і зноў…» Асабліва паказальны ў гэтых адносінах раздзел з падзагалоўкам: «Запіска, знойдзеная ў дупле, дзе бярогся полудзень»: «Я ВОБЛІК ТВОЙ ПА КРОПЕЛЬЦЫ ЗБІРАЎ…/ Снаваўся голас з песень у жытах, / Са звону пчол, з шапоткай плыні траў, / З журбы асенняй, што раняе птах. / Твой позірк чэрпаў з глыбіні крыніц, / З нябёс, што палі верасамі ў бор. / Гарэзны смех твой выкраў у сініц, / Загадкавасць — у патаемных зор. / Жаданасць вуснаў вызнаў у малін, / А гнуткасць юную — у трапяткім трысці…» Каханая дзяўчына ўзнімаецца да ўзроўню недасягальнай вышыні («Мая і чужая, як неба»), лірычны герой абагаўляе яе і ўзносіць у яе гонар малітвы. …На жаль, пачуццё героя не ўзаемнае, Лія кахае іншага — далёка не ідэальнага, самаўпэўненага прагматыка-меліяратара.

Як зазначае У. Гніламёдаў, сапернік лірычнага героя «жыве фанатычнай ідэяй ператварыць прыроду (а заадно і грамадства) у нейкі адзіны механізм <…>. У гэтым штучным, схематызаваным свеце павінен быць усеагульны «парадак». Меліяратар увасабляе тып «новага чалавека», які не ведае сумненняў, кіруецца распрацаванымі вышэй пастановамі, жыве «ў адпаведнасці» з планамі. Тып «новага чалавека» шырока адлюстроўваўся (як з пазітыўных, так і з негатыўных пазіцый) савецкай літаратурай. Асабліва актыўна гэта адбывалася ў часы кардынальных сацыяльна-палітычных пераўтварэнняў, якія цягнулі за сабой перамены ў грамадскай псіхалогіі. Кожная ідэалагічная сістэма імкнецца выхаваць зручнага для сябе чалавека, новага «гаспадара», а па сутнасці «шрубку» ў вялікай машыне. Ператварыць родную Сялібу ў падобную машыну ва ўладзе новых «гаспадароў» — людзей без мінулага, слепа перакананых у «светлым» будучым. У «Сялібе» немалым крокам да такога «ўпарадкавання» з'яўляецца асушэнне балот і спрамленне рэк, што з вялікім энтузіязмам, апантана ажыццяўляецца ме-

ліяратарам. «Ён так умее расказаць, / Што ўвачавідкі бачыш, / Як гіне ніцая лаза — / Прытулак тлустых качак, / Як будзе жыта палавець / На зыбунах-балотах, / Палёўкай жаба заслыве / І бусел скіне боты… / Зямлю мы хочам падлячыць, / Дрыгву аддаць аратым…» Меліяратару гэтая перспектыва бачыцца вельмі прывабнай, ды на самой справе ўсё не так бязвоблачна. Карціна плануемых «новым чалавекам» прыродных змен ненатуральная, нават трагічная: ужо адно толькі слова *«гіне»* разбурае пабудаваныя ім паветраныя замкі, смерць, знішчэнне жывога ніяк не ўсяляюць аптымізму. «Лячэнне» зямлі — добрая, на першы погляд, справа, але няправільна выбраныя «лекі» могуць прывесці да непапраўных страт: «Рэкі, песні зямлі, / Рэкі, душы зямлі, / Бы ў трунах ляжаць — прамыя, / Бы струны — ды нежывыя. / Высечам пушчы, / Крыніцы засушым… / Як жа яны будуць — нашыя душы: / Ці не збяднеюць? / Ці не змялеюць?..»

Лірычны герой разумее непазбежнасць узаемадзеяння чалавека з прыродай, якое павінна насіць стваральны, а не варварскі характар: «Сапернiцтва з прыродай — непазбежнасць, / Як непазбежнасць — розум у прыродзе. / Мы ўзышлі на светлую вяршыню, / Мы ісціну пазнаць даўно гатовы. / А вартасці рачулак і фатонаў / Чаму дзікунскім мераем аршынам? / Сапернiцтва — яно не бой крывавы».

Думка пра разумнае суіснаванне чалавека і прыроды гучыць у творах многіх пісьменнікаў 1970-х гадоў, ранейшых і пазнейшых дзесяцігоддзяў, асабліва востра і балюча пасля чарнобыльскай катастрофы. Першым з савецкіх пісьменнікаў, хто ў лозунгах пра пакарэнне прыроды адчуў небяспеку яе вынішчэння, па назіранні С. Сямёнавай, быў Мікалай Забалоцкі. Менавіта праз яго творы (асабліва паэму «Урачыстасць земляробства», 1929 — 1930) у паэтычную свядомасць XX стагоддзя найбольш выразна пранікла ідэя адказнасці чалавека за ход эвалюцыі, за будучыню прыроды. Але, на вялікі жаль, пісьменніцкія прадчуванні і трывогі не засцерагуць свет ад экалагіч-ных трагедый, такіх глабальных, як Чарнобыль…

«Сяліба» вызначаецца наяўнасцю вострага канфлікту, які мае некалькі ўзроўняў. Самы просты ўзровень засяроджваецца ў «любоўным трохкутніку», але ён з'яўляецца толькі фонавым, знешнім. Значна больш складаныя ўзроўні засноўваюцца на сутыкненні поглядаў на прыроду (утылітарна-спажывецкіх і ашчадна-беражлівых), на супрацьстаянні герояў-антыподаў: чалавека, здольнага адчуваць і мысліць (такі лірычны герой, айцец Лявонцій, дзед), і чалавека — «шрубкі» сацыяльнай машыны (такі меліяратар). «Калі гаварыць схематычна-спрошчана, — заўважае В. Зуёнак, — канфліктнае ядро твора такое: лірычны герой — і астатні свет…» Аўтарская расстаноўка акцэнтаў указвае на дамінанту лірычнага роду літаратуры ў паэме: цэнтральным, канцэптуальна значным вобразам з'яўляецца лірычны герой, а галоўным канфліктам — канфлікт паміж яго суб'ектыўнай пазіцыяй і аб'ектыўнай рэальнасцю.

У паэме паўстае экзістэнцыяльная праблема выбару — ставіцца шэкспіраўскае пытанне. Яно не зводзіцца да вырашэння «меліярацыйных» праблем (асушаць балоты ці не). Аўтар выходзіць да значна больш шырокіх сфер сусветнага быцця: быць ці не быць захаванай прыроднай раўнавазе, гарманічнаму суіснаванню духоўна багатага чалавека і навакольнага асяроддзя і, урэшце, быць ці не быць увогуле жыццю на планеце. Апакаліптычныя карціны чорных гоняў, чорных ніў, чорных вятроў над імі прымушаюць менавіта так востра ставіць даўняе гамлетаўскае пытанне.

Арыгінальнасцю вызначаецца кампазіцыйная пабудова паэмы. Падкрэсленая ў падзагалоўку форма дыялога знешне захоўваецца амаль ва ўсім творы (чаргуюцца «рэплікі» юнака і дзяўчыны). Да размовы паміж лірычным героем і яго каханай (не прамой, а ўзноўленай ў памяці лірычнага ге-

роя) увесь час падключаюцца іншыя персанажы: меліяратар, святар, стары мясцовы жыхар — дыялог ператвараецца ў складаны палілог. У гэтым шматгалоссі ўдзельнічаюць не зусім звычайныя героі — анімістычныя вобразы Дарогі, паляны Пагулянкі, Вялікага Каменя. Анімістычнае ўспрыняццe навакольнага свету з'яўляецца асаблівасцю паэтычнага мыслення В. Зуёнка. Так, у «Сялібе» дарога, паляна, камень паўстаюць жывымі разумнымі істотамі, узнаўляюць старонкі мінулага. «Голас дарогі», «Голас Пагулянкі», «Голас Вялікага Каменя» пагружаюць у этнаграфічны побыт продкаў, раскрываюць таямніцы мясцовых назваў (Узнацк некалі «сувязь — «узы» з Начаю трымаў», а сама Нача азначае «плодная зямля»), «галасы» праводзяць ад язычніцтва да хрысціянства. Праз лірычную «споведзь» гэтых «персанажаў» аб сваім даўнім быцці ствараецца эпічна-аб'ёмная, панарамная карціна жыцця беларуса ў гістарычнай перспектыве. Розныя пласты мастацкага часу твора знаходзяцца ў апазіцыі: мінулае ў параўнанні з сённяшнім днём малюецца пераважна «залатым векам», перыядам дабрабыту, братэрскай еднасці чалавека і прыроды.

Усё ж абсалютнай ідэалізацыі мінулага ў паэме няма, у чым пераконвае гісторыя пана Заброцкага. Магнат загадвае мастаку намаляваць незвычайную ікону: «Святое паляванне». Працэс палявання алегарычна, вачамі сабак, перадаецца ў раздзеле «Гон». Карціна гону, на думку У. Гніламёдава, увасабляе «жорсткасць у адносінах да ўсяго жывога». Цалкам пагаджаючыся з выказваннем даследчыка, звернем увагу на адну дэталь: карціна палявання задумвалася панам як *ікона*. Узвядзенне ж у ранг святыні забойства жывым жывога — маральнае злачынства, святатацтва. Паўсюднае асушэнне балотаў, высяканне пушчаў, прыхаванае за «святымі» словамі (для пэўным чынам ідэалагічна выхаванага чалавека) «паляпшэнне ўмоў», «развіццё народнай гаспадаркі» — таксама не толькі «фізічнае», а яшчэ і духоўнае злачынства. Магнат мінулага зневажае святыні, увекавечваючы забойства, «магнат» сучаснасці робіць тое ж па-свойму: з паляўнічым азартам адпраўляючы «ў рай» цэрквы («Трасамі <…> ды за макаўку!..»), паводле новых «біблій» (планаў меліярацыйных работ) заганяючы ў труны рэкі… І ўчора, і сёння фізічныя дзеянні раскрываюць духоўнае аблічча чалавека.

Гістарызм, анімістычныя вераванні, што знайшлі глыбокае адлюстраванне ў творы, з'яўляюцца рознымі гранямі аднаго аб'ёмнага паняцця: культурная памяць. Фальклор — яшчэ адзін важны складнік культурнай памяці народа. Наследаванне фальклорным традыцыям характэрна для многіх твораў Васіля Зуёнка, у яго вершах і паэмах натуральна і арганічна зліваецца індывідуальна-аўтарскае і народнае, што дапамагае перадаць пачуцці герояў, стварыць пэўную эмацыйную атмасферу. Так, у тэкст паэмы «Сяліба» аўтарам ўводзіцца песня-вяснянка, па фальклорным узоры ствараецца вобраз каханай дзяўчыны (праз параўнанне са светам прыроды) і інш. Шырокае выкарыстанне народна-паэтычных матываў (побач з суб'ектыўна-асабістым спосабам падачы матэрыялу) у значнай ступені ўздзейнічае на агульную лірызацыю паэмнага палатна. У творы не проста стылізуюцца пэўныя часткі «пад фальклор» — з народна-светапоглядных пазіцый узнаўляецца ўся карціна навакольнай рэчаіснасці, паэма «дыхае» народнай стыхіяй.

Культурная памяць лірычнага героя ўваскрашае даўнюю, старажытную Сялібу. Паэтычна і гістарычна дакладна ўзнаўляецца цэлы перыяд у жыцці продкаў. Гэта сціслая (усяго невялічкі раздзел) і адначасова разгорнутая, надзвычай інфармацыйная карціна. Тут адлюстравана асваенне новай мясціны, асноўная праца старажытных жыхароў Сялібы, узнаўляецца этнатып беларуса, яго вераванні. Лірычны герой, успамінаючы «край, імшарны, з сумам верасоў», побач з пяшчотай адчувае дакоры сумлення, бо ён «з'ехаў

ад зямлі», стаў гараджанінам. У палілог уключаецца яшчэ адзін голас, які гучыць у сэрцы героя, — голас вёскі, якая ўспрымаецца лірычным героем як пакінутая пасталелымі дзецьмі маці, што заўсёды цярпліва чакае і ніколі не папракне.

Яшчэ адна важная рыса «Сялібы» — сцвярджэнне ў ёй нацыянальнай ідэі. Паэтычная думка ў творы развіваецца ад мясцовага патрыятызму да патрыятызму нацыянальнага. Выключнае значэнне тут мае любімы паэтам вобраз агню. Для старажытных грэкаў паняцці «патухлы агонь» і «заняпалы род» былі тоеснымі. Можна меркаваць, што В. Зуёнку вельмі блізкі падобны погляд: веру ў будучае свайго *народа* ён увасабляе ў метафары агню. Карцінай агню — сімвала ачышчэння ад бездухоўнасці, маральнага здранцвення — пачынаецца «Сяліба». Карціна ачышчальнага агню ўзнікае і напрыканцы паэмы: «Агонь не згасне, полымя ўзгарыцца, / і рухне ап'янела крыважэрны / Іканастас насільніцтва і цемры». Гэты вобраз усяляе аптымізм, спадзяванне на тое, што полымя беларускасці не затухне, не паглынецца цемрай чужароднасці. Але, як ужо адзначалася, геаграфія паэмных праблем не зводзіцца да вузка мясцовых ці нацыянальна абмежаваных, яна пашыраецца на планетарны ўзровень.

Ад Сялібы-Зямлі да касмічных прастораў скіроўваецца аўтарская думка ў наступнай паэме **«Прыцягненне»** (1978 — 1979), лірыка-публіцыстычнай паводле агульнай інтанацыйнай афарбоўкі. Першапачаткова твор з'явіўся пад назвай «Агонь і сонца», якая пазней распаўсюдзілася на трылогію. Паэма «Агонь і сонца» была змешчана ў чацвёртым раздзеле — «Прыцягненне» — зборніка «Світальныя птушкі» (1982). У пазнейшых выданнях, ужо як частка «Паэмы Радзімы», яна выступае пад загалоўкам «Прыцягненне».

У савецкай літаратуры пасля красавіка 1961-га года з'явілася шмат твораў на касмічную тэму. Вельмі папулярнымі ў 1960 — 70-я гг. сталі паэмы-прысвячэнні першаму касманаўту Юрыю Гагарыну. Так, кіргіз Суюнбай Эраліеў у гонар першага касманаўта напісаў паэму «Да зор» (1964), казах Алжас Сулейменаў — «Зямля, пакланіся чалавеку» (1961), расіянін Роберт Раждзественскі стварыў паэму «Прысвячэнне» (1970), літовец Эдуардас Межэлайціс прысвяціў раздзел паэтычнай кнігі «Чалавек» (1961) Ю. Гагарыну. Паказальна, што аўтары не малююць карцін палёту, а разважаюць, асэнсоўваюць эпахальную з'яву, пра якую з часоў міфічнага Ікара марыў чалавек.

Паэма Васіля Зуёнка ў гэтых адносінах вельмі блізкая да вышэйназваных твораў. Прысвечаная беларускаму касманаўту Уладзіміру Кавалёнку паэма ўяўляе лірычны роздум пра чалавека і яго месца ў Сусвеце. «Прыцягненне» будуецца па мадэлі лірыкі: асацыятыўна спалучаюцца «прапушчаныя» праз аўтарскую свядомасць фрагменты рэчаіснасці, пэўныя «эпічныя» малюнкі. Прынцып асацыятыўнага мыслення істотна адбіўся на кампазіцыі — яна вызначаецца фрагментарнасцю. Паэма складаецца з дванаццаці раздзелаў (кожны з іх адкрываецца эпіграфам), мае аўтарскі падзагаловак: «Дванаццаць сеансаў касмічнай радыёсувязі з неабходнымі адступленнямі». Прычым «зямныя» «адступленні», на наш погляд, вылучаюцца асаблівым лірызмам, пяшчотай, філасофскай медытатыўнасцю на фоне публіцыстычных, інтэлектуалізаваных «касмічных» радкоў. Кожны з раздзелаў, узяты асобна, па-за паэмным кантэкстам, можа ўспрымацца як самастойны верш. Мазаічнасць, фрагментарнасць кампазіцыі — характэрная адзнака многіх паэм XX стагоддзя, у якіх пераважае лірычны спосаб адлюстравання. Некаторыя такія творы даследчыкі называюць адначасова і кнігай вершаў, і паэмай (яскравы прыклад — «Чалавек» літоўскага паэта Эдуардаса Межэлайціса). Разрозненыя на першы погляд фрагменты паэтычнай мазаікі сцэментоўвае ў адзінае мастацкае палатно аўтарская ідэя. У «Прыця-

гненні», на думку У. Гніламёдава, гэта «ўслаўленне стваральнай актыўнасці чалавека, сцвярджэнне еднасці свету, які павінен развівацца толькі паводле гуманістычных законаў жыцця».

У лірыцы зборніка «Світальныя птушкі» вельмі адчувальны матыў *«узаемапрыцягнення»* Зямлі і Неба (вершы «Дала прырода мне ваду і цвердзь...», «Два крылы ў мяне...» і інш.). Гэты матыў адзін з асноўных і ў паэме «Прыцягненне». З Зямлёю звязваецца ўсё самае дарагое, роднае, з Небам — вера ў мару, імкненне да нязведанага. Супрацьлеглыя стыхіі аднолькава неабходныя чалавеку: «Ствараю неба — сонечны паганец, / А дайце неба — я ствару зямлю» («Дала прырода мне ваду і цвердзь...»). Полюсамі прывязанасці для У. Кавалёнка, героя паэмы, выступаюць начное неба, адкуль «загадкава кліча ў палёт Арыён», і знаёмыя мясціны з гаваркімі назвамі — Белае, Падбярэззе, Клён, Зялёная Пушча, што вяртаюць на Зямлю.

Вельмі значны ў творы вобраз *крылатых думак* паэта (адзін з вядучых у зборніку «Світальныя птушкі»). Паэт, як і яго зямляк У. Кавалёнак, таксама здольны да палёту — на крылах дум. «Я крылы дум узношу летуценна, / Ды не сагнацца з хуткасцю тваёй, / Свяці з нябёс, а я пабуду ценем — / У еднасці: ты — сонцам, я — зямлёй. / Іх паасобку проста не бывае, / Яны нішто адно без аднаго. / Іх сіла неразлучнасці трымае, / Ды перайсці не можа бераго́ў». Зямля ў творчасці Васіля Зуёнка, «вечнага аратага» на паэтычнай ніве, выступае найвялікшай каштоўнасцю. У той жа час, па назіранні І. Шпакоўскага, гэты аўтар, бадай, ці не самы паслядоўны «культавік» сонца сярод беларускіх пісьменнікаў. У «Прыцягненні» адбываецца пэўнае раздваенне, размежаванне свету паэтычных прывязанасцей В. Зуёнка: зямное ён «пакідае» сабе, нябеснае «аддае» свайму герою. Дзве іпастасі не супрацьстаяць, а ўзаемадапаўняюцца, выяўляюць розныя грані чалавечай сутнасці. Паэт і касманаўт — два крылы незвычайнай, фантастычнай птушкі — птушкі памкненняў Чалавека, сувязнога звяна паміж зямлёй і небам. Тут В. Зуёнак набліжаецца да поглядаў Э. Межэлайціса, згодна з якімі чалавек — гэта своеасаблівы «мост між зямлёй і сонцам» (кніга «Чалавек»). Абодва паэты мысляць у глабальным маштабе, у іх чалавек надзелены вялікай стваральнай сілаю і высокай духоўнасцю, выступае ў еднасці з Космасам.

Нягледзячы на неабходнасць чалавеку Неба (мары, палёту — у думках і наяве), галоўная для яго ўсё ж Зямля (народныя карані, радзіма). У аднайменным з паэмай раздзеле (адным з найбольш лірычных, па-мастацку дасканалых) аўтар, выкарыстоўваючы элементы псіхалагічнага аналізу, спрабуе ўзнавіць адчуванні свайго земляка ў час палёту. Касманаўт уяўляе сябе «кавалачкам Радзімы», «лістком Зялёнай Пушчы», «памяццю крыніц відушчых» у бяскрайняй галактыцы. «Я ляцеў, каб з роднаю зямлёю / Нітаваўся вырай твой высокі. / «Вось яна — не расставайся з ёю», — / І крылом я расхінаў аблокі. <...> / Чуеш — вецер у дубах зашастаў, / Чуеш — хваляй б'ецца ў бераг Нача, / Чуеш — камень уздыхнуў мышасты: / Метэорны сон, відаць, пабачыў...» В. Зуёнак надзяляе свайго героя паэтычным мысленнем, душэўнай чуйнасцю, здольнасцю ў маленькім убачыць значнае. Герой, таксама, як і паэт, змог бы адчуць падзенне маленькага яблыка «ля Халопеніч, на Беларусі», ад якога «шар зямны здрыгануўся». Варта звярнуць увагу, што ў паэме адсутнічае нават апісанне знешнасці касманаўта, няма раскрыцця вобраза ў эпічным разуменні (у дзеянні, праз учынкі, праз адносіны з іншымі героямі і г. д.). Ды гэта і не патрабуецца ад паэмы з дамінуючым лірычным характарам светаадлюстравання: галоўнае тут — асабісты аўтарскі роздум, выкліканы палётам у космас земляка. Усё ж вобраз Уладзіміра Кавалёнка ў «Прыцягненні» прысутнічае, але гэта хутчэй вобраз яго душы, унутранага свету.

Істотнаю прыкметаю творчасці В. Зуёнка з'яўляецца паэтызацыя працы, услаўленне стваральнай дзейнасці чалавека. У «Прыцягненні» аўтар разва-

жае пра значэнне работы як у касмічным палёце, так і ў жыцці наогул. Праца «абуджае дух», засцерагае ад аднастайнай бязважкасці: «Работа ад стомы ратуе, / Работа — як сілы глыток. <...> Работа, работа!.. А потым, / Як выбухне пульсу біццё, / Ізноў — да касмічнага поту — / Работа, а значыць — жыццё». Слушнасць прыведзеных радкоў выверана жыццёвым вопытам паэта і гістарычным — народа і чалавецтва. Аднак тут, на наш погляд, заўважаюцца пэўныя дыдактычна-маралізатарскія, дэкларатыўныя інтанацыі (увогуле не ўласцівыя паэзіі В. Зуёнка).

Паэма «Прыцягненне», стаўшы працягам натурфіласофскай лірыкі Васіля Зуёнка, шырока ўвабрала ў сябе элементы навуковага пазнання свету. Аўтар аперыруе найноўшымі для свайго часу навуковамі паняццямі і тэрмінамі (асабліва паказальны ў гэтых адносінах раздзел «Хуткасць»). Але інтэлектуалізм не заўсёды арганічна, па-мастацку «ўпісваецца» ў твор: ён рацыяналізуе паэтычную думку, выцясняе пачуццёва-эмацыйны пачатак. У некаторай ступені азначаная тэндэнцыя адбілася і на паэме «Прыцягненне».

Тым не менш падобныя моманты не зніжаюць агульнай вартасці твора, не разбураюць паэмнай канцэпцыі. Лірычнае выяўленне аўтарскага пачуцця перарастае ў глыбокі філасофскі роздум над праблемамі быцця чалавека як разумнай арганічнай часткі Сусвету (су-быцця чалавека з Сусветам). Паэт непакоіцца пра захаванне натуральнай раўнавагі ў сістэме Зямля — Космас. Планета людзей з касмічнай арбіты і з вышыні думак бачыцца маленькай слязінкай: «Яна слязінкаю дрыжыць, / А на слязінцы — людзям жыць...» Глабальны клопат чалавецтва заключаецца ў тым, каб не дазволіць слязінцы-планеце растварыцца ў агромністым акіяне галактыкі: думаючы пра Зямлю, чалавецтва думае пра сваю будучыню.

Клопат пра будучыню, пра заўтрашні дзень для В. Зуёнка неадлучны ад памяці пра мінулае. Паэма **«Лукам'е»** (1980 — 1983) — па волі аўтара яна стала першай часткай трылогіі «Агонь і сонца» — створана ў апавядальна-эпічнай манеры, тут вельмі выразна выяўляецца эпічная дамінанта: аўтар, нібы ў класічных эпасах, «адступае на другі план», становіцца летапісцам жыцця аб'ектывізаваных персанажаў, «сутнасць справы раскрываецца сама па сабе» (Гегель). Эпічны сюжэт паэмы засноўваецца на апісанні жыцця ўладара старажытнага Лукомскага княства, які жыў пяць стагоддзяў таму. Нават пераносячыся ў далёкія часы, В. Зуёнак застаецца верны сваёй малой радзіме, паэтызуе, міфалагізуе яе мінулае.

Больш за дзесяць гадоў да публікацыі паэмы «Лукам'е» ў адной з рэцэнзій крытык І. Шпакоўскі, даволі высока ацэньваючы паэтычнае майстэрства В. Зуёнка, звярнуў увагу на пэўны «прагал» у яго творчасці. «Чаго яшчэ, на нашу думку, не хапае паэту? — разважаў крытык. — Галоўным чынам умельства арганічна, не здраджваючы сваім індывідуальным творчым схільнасцям, не парываючы са светам прыроды і казкі, а «знутры» гэтага свету, пераключыцца на тэму гісторыі, зразуметай не толькі як мінулае, але перш за ўсё як сучаснасць, як сённяшні дзень. Паэт вельмі хутка запоўніў гэты «прагал»: многімі творамі засведчыў свой талент натуральна спалучаць розныя часавыя планы. Сувязь часоў знайшла ўвасабленне ў папярэдніх паэмах, аднак «Лукам'е» — адзіны ліра-эпічны твор, дзе далёкая гісторыя народа выходзіць на першы план, поўнасцю авалодвае ўвагай мастака. Тут сапраўды паядналіся свет прыроды і казка, легенда і міф, старажытныя язычніцкія вераванні і хрысціянства... «Лукам'е» апавядае пра падзеі беларускага Сярэднявечча, разам з тым гэты твор вельмі сучасны. На наш погляд, надзённасць, сучаснасць паэмы заключаецца найперш у яе праблематыцы. Цэнтральнай з'яўляецца *праблема нацыянальна-дзяржаўнай ідэнтыфікацыі беларускага народа*. Пытанні, якія турбавалі князя на схіле XV стагоддзя, не страцілі сваёй вастрыні і актуальнасці і на пачатку стагоддзя XXI.

Спецыфічныя культурныя і геаграфічныя варункі прадвызначылі Беларусі незайздросны лёс, краіна заўсёды трапляла ў поле геапалітычных амбіцый заходняй і ўсходняй суседак: «Белая Русь... Нібы яблык разладу: / Вабіць пры сонцы і сніцца ўначы».

Думаецца, ёсць падставы сцвярджаць, што вобраз Івана Лукомскага працягвае галерэю вобразаў змагароў за Беларускі Шлях, лёс падобных герояў бадай заўсёды трагічны. Іван дбае пра вяртанне былой сілы свайму княству, ён памятае слаўныя часы, калі на абароне беларуска-ліцвінскіх зямель стаялі «воля Міндоўга і Вітаўта меч». Паўстае экзістэнцыяльная праблема: для героя існуюць тры рэальныя шляхі выйсця са становішча заняпаду, адраджэння «роду свайго і велічы». За любы свой выбар Лукомскі адказны не толькі перад сабой, але і перад народам, памяццю продкаў і наступнымі пакаленнямі.

Першы шлях — хаўрус з польскім каралём, акаталічванне праваслаўнага княства — з самага пачатку непрымальны для Лукомскага: «Служба кароне — помніў Лукомскі / Перадсмяротны бацькоўскі наказ / І запавет апошні бацькоўскі — / Служба кароне — хаўтуры для нас». Высакародны нашчадак Ізяславічаў не хоча схіліцца перад чужой уладай. Ён ведае, што падобны альянс прывядзе да поўнага падпарадкавання заходняму суседу, «рабскай душой адгукнецца ў сынах». Князеў брат Сігізмунд, як і былы сябра Мацяс, не такі прынцыповы: з аднолькавай лёгкасцю ён мяняе імя (быў хрышчоны Сямёнам), веру. Уласны спакой, матэрыяльны дабрабыт і намінальную ўладу ён ставіць вышэй за душэўную чысціню. Не змогшы схіліць Івана на свае пазіцыі, Сігізмунд становіцца ворагам брату, заглушае ў сабе голас крыві, ідзе на маральнае злачынства. Ён адпраўляе братавых дзяцей у каталіцкі манастыр і загадвае выхоўваць іх у нянавісці да бацькі: «З цвёрдай умовай здаў лацінянам: / Каб княжанятам ніхто ні на міг / Не заікнуўся пра крэўнасць з Іванам — / Д'яблам хай стане бацька для іх». Гэтым Сігізмунд пазбаўляе бунтоўнага князя будучыні, Іван не зможа прадоўжыцца, паўтарыцца ў дзецях. (Падобны «выхаваўчы прыём» выкарыстоўваўся тыранамі розных эпох. Напрыклад, у часы сталінскіх рэпрэсій так «выхоўвалі» дзяцей знакамітых «ворагаў народа» — ім давалі іншыя прозвішчы, прывівалі жорсткасць і нянавісць да забытага ці зусім невядомага мінулага.)

Другім шляхам для Івана з'яўляецца шлях барацьбы. Аднак і тут усё вельмі складана. Не маючы ўзброенага войска, Лукомскі адмаўляецца стаць і на чале войска сялянскага: «Не выпадае мне з вамі, сяляне, / Як з вераб'ямі арлу, — не з крыла. <...> Рана пакуль што залазіць мне ў світку, / Кроў Ізяславічаў — не вада». Вербны бунт узначаліў апошні паплечнік і аднадумца Лукомскага баярын Кмітка — князь застаўся зусім адзін. Такім чынам, гістарычнае паразуменне ўладара і народа, асобы і калектыву, іх дыялектычнае ўзаемадзеянне, якое магло б прывесці да сацыяльных змен, робіцца немагчымым. Рашэнне князя драматычнае для ўсіх: трагедыя народа ў тым, што няма так патрэбнага яму ў гэты момант моцнага ўладара; трагедыя ўладара — у непаразуменні з народам. Князь сам адчужаецца ад сваіх верных падданых, падманвае іх спадзяванні, але яго не пакідае прыкрае пачуццё, быццам «некаму здрадзіў ён... Ім? Ці сабе?» Некалі, вяртаючыся з вучобы ў Вільні, Іван марыў стаць «найвялікшай сілай у народзе» і адчуваць, «што ён [народ. — **Н. З.**] — найвялікшая сіла ў табе». Лукомскі сам разбурае гэтую мару, застаецца адзін. Шлях барацьбы, як аказалася, таксама не прыводзіць яго да жаданай мэты.

І, нарэшце, трэці шлях, трэці спосаб адрадзіць уласнае княства — саюз з Масквой. Лукомскі, як да роўнага, едзе да свайго адзінаверца Івана III, нясе вялікі боль, просіць зарукі і дапамогі: «Край ратаваць хачу свой, / Народ, што з корня вырас / Упобачкі з табою...» Падтрымка рускага цара — апош-

няя надзея на выратаванне Лукам'я ад рабаўнікоў-чорнасутаннікаў. Аднак маскоўскі князь адразу расставіў усе акцэнты, пазбавіў Івана «самастойніцкіх» ілюзій: «А гэта ўжо — мой кліpac, / Дзе пець не могуць двое». Яму не патрэбна яшчэ адна вотчына, што ў любы момант можа ўзбунтавацца, цару неабходна абсалютная ўлада. Інтарэсы жыхароў Белай Русі нікога не цікавяць — ні Івана III, ні Казіміра, польскага караля, — для якіх «Адзіная турбота: / Гандлююць Руссю Белай, — / Спытаць няма ахвоты: / А што б яна хацела?..»

Напрыканцы твора адбываецца перанясенне ў часе: гучыць голас удзельніка паўстання 1508 года Андрэя Лукомскага. Насуперак задуме Сігізмунда, малады княжыч працягвае справу бацькі, са зброяй у руках бароніць свой край. Паўстанне пацярпела паражэнне, і Андрэй бачыць адзіны спосаб пазбавіцца польскай апекі: «Адзінае апірышча — з Масквою / Трымацца ў еднасці. Адзіны крэўны шлях / Абудзіць нас». Гэтая думка гучыць дысанансам, нават супярэчыць сказанаму раней.

У кантэксце паэмы адгалінаванні хрысціянства — не толькі і не проста рэлігія. І каталіцызм, і праваслаўе выступаюць хутчэй сродкамі палітычных маніпуляцый. Прыкрываючыся імем Бога, клопатам пра душу, і Польшча, і Масква імкнуцца ў першую чаргу да пашырэння ўласных межаў за кошт зямель сваіх адзінаверцаў — католікаў-«палякаў» і праваслаўных-«рускіх». На доўгія стагоддзі Беларусь апынулася ў драматычным становішчы: падзеленасць яе насельніцтва на «сваіх» і «чужых» паводле веравызнання абумовіла ўзнікненне цяжкай маральнай хваробы — «тутэйшасці».

Рэлігійная сутнасць самога Івана Лукомскага неадназначная, нават парадаксальная. З аднаго боку, у процістаянні з «рэлігійнымі перараджэнцамі» Сымонам-Сігізмундам і Мацясам-Мацiясам ён выяўляе сябе шчырым праваслаўным вернікам, выступае супраць акаталічвання. З другога — абагаўляе прыроду: «Бог ёсць прырода… Ніхто і ніколі / Веліч стыхіі адолець не мог». На наш погляд, хрысціянства так і не змагло «адваяваць» душу Івана ў язычніцтва. Першабытна-міфалагічныя ўяўленні, пакланенне прыродным стыхіям — сапраўдная рэлігіяя князя. Духоўна герой застаецца з тымі, хто моліцца прыродным багам і найперш — Агню і Святым Дубам, — з Жыжалем, Данутай, Стасяй.

Міфалагемы *агонь* і *дуб* нясуць адмысловую сэнсавую і ідэйна-эстэтычную нагрузку ў паэме. Сімволіка агню ў славянскай міфалогіі мае дваісты характар. У дачыненні да «Лукам'я» амбівалентнасць агню разумеецца вельмі шырока, праяўляецца ў розных сэнсавых кантэкстах. «Калі ён разгараецца аднойчы — / Агонь начлежны ці агонь купальны, / Агонь ахоўны ці агонь знішчальны, / Агонь сігнальны ці агонь мяцежны, / Агонь духоўны ці агонь пасмешны, / Агонь суцешны ці агонь грахоўны, <...> Агонь бадзяжны ці агонь ахвярны, — / Агонь раскажа, не пагасне марна. / Агонь не згіне, пройдзе праз вякі!..» Агонь сапраўды чырвонай ніткай праходзіць праз усю паэму, «расказвае» пра жыццё і смерць герояў. Ён становіцца сведкам (і прычынай) іх смерці, сведкам (і прычынай) развіцця гісторыі ўвогуле — ці не ва ўсіх культурах свету агонь з'яўляецца матывам зараджэння чалавечай цывілізацыі.

На самым пачатку твора ў цемру «змрочнага часу» на пераломе стагоддзяў урываецца полымя «ачышчальнага» агню. Падобнае ачышчэнне «ад бунтоў, ад нягод, ад прашэнняў» стварае вобраз зямнога пекла, у якім пакутуюць бязвінныя людзі, — паўстаюць апакаліптычныя карціны «ператкaнага вогненным бёрдам» 1493 года. Заканчваецца паэма вобразам абярэжнага агню, што выпраменьваецца «рукатворным сонцам» — электрастанцыяй. Варожаму агню мінулага супрацьстаіць спрыяльны для чалавека агонь будучыні. На жаль, паэтава надзея на перамогу дабра і ствaральнага розу-

му, увасобленая ў вобразе электрастанцыі, як паказаў час, не апраўдала сябе. Менавіта ў эпоху «рукатворных сонцаў» усё больш слабай становіцца сувязь чалавека і прыроды, парушаецца іх гарманічнае суіснаванне.

Узорам гармоніі чалавека з прыроднымі стыхіямі выступае ў «Лукам'і» свята Купалля. Гэта народнае свята, па словах К. Камейшы, «апісана аўтарам надзвычай каларытна і дэталёва. Такіх малюнкаў мы, здаецца, не мелі яшчэ ў нашай паэзіі». В. Зуёнак не шкадуе светлых, сонечных фарбаў, малюючы купальскі летні дзень: «Сонечна доле і ў паднябессі, / Сонца нырае ў азёрнай вадзе, / Сонечна ў полі, сонечна ў лесе, — / Сонца купальскай дарогай ідзе». Ноччу на змену нябеснаму сонцу прыходзіць зямное — вогнішча. Яго распальвае Стася паходняй, пазычыўшы ў ахвярніка агню. Яно ачышчае, адпрэчвае злых духаў, дорыць радасць, святочны настрой. Такую ж функцыю — ачышчэнне — выконвае і вогнішча інквізіцыі, прынесенае «цывілізаванымі» чужынцамі. Прызначэнне абодвух агнёў, здаецца, адно, аднак спосаб і вынік вельмі розныя...

Такім чынам, агонь у розных абліках выступае ў своеасаблівай апазіцыі да сябе самога. З агнём кахання, якое разгарэлася паміж маладым князем і Жыжалевай унучкай, змагаецца «агонь-душагуб» — жыццё змагаецца са смерцю. Дарэчы, у «Лукам'і» смяротны агонь запальваецца тройчы (аўтар не адступае ад фальклорна-міфалагічнага прыёму цыклізацыі, траічнасці): спальваецца прыгажуня Стася, у полымі гіне Жыжаль, агнём «карануецца» князь Іван. У разуменні нашых продкаў князь быў не толькі гаспадаром, але і лічыўся ахоўнікам агню. «Меч і агонь» у паэме таксама сімвалізуюць уладу Лукомскага — абаронцы сваёй зямлі і народа ад ворагаў. Агнём і мячом — сілаю — заваёўнікі імкнуліся скарыць, падпарадкаваць сабе Лукомскае княства. Вялікаму Агню маліліся продкі-язычнікі, у яго верылі — агнём выпальвалася гэтая вера, насаджалася новая, агнём адваёўвалася душа беларуса ў прыродных багоў. Злачынствы новых уладароў і служак новай веры нараджалі вогненную помсту. Не змогшы даравацъ смерць унучкі, Жыжаль чырвоным пеўнем пускае на вецер касцёл. Жыжаль — «сваяк» агню («Жыжаль — той дух, што ў агні жыве»), аднак ён гіне ў полымі, распаленым уласнай помстай, тым самым зліваецца, паядноўваецца са сваім богам. Агонь можа быць і сродкам помсты ў руках чалавека, і сам адпомсціць тым, хто адступіўся.

Побач з вобразам агню выступае ў паэме і цесна звязаны з ім вобраз дрэва (дуба), не менш значны для беларускай культуры. «...Дрэва, — разважае Т. Шамякіна, — суадносіцца з натурфіласофскаю стыхіяй агню ўжо хаця б таму, што яно добра гарыць, дае святло і цяпло. Крона дрэва падобная на полымя. У гарэнні дрэва аддае сябе, падказваючы маральны закон для чалавека — дабро і самаахвярнасць». Дрэва сімвалізуе імкненне да ідэалу, да Сонца, да Бога. Добрая і самаахвярная вогнепаклонніца Стася (гэтыя якасці яна атрымала ў спадчыну ад апошняй вайдэлоткі Дануты) прымае смерць прывязаная менавіта да дуба. У Святых Дубах дзяўчына малілася, дуб дзяліў з ёю радасць кахання, дуб суправаджае яе і ў апошні шлях. Дрэва, нібы жывая істота, адчувае несправядлівасць пакарання Жыжалевай унучкі, суперажывае дзяўчыне: «Кволай былінкай дуб захістаўся, / Вусны адчуўшы на шорсткай кары». Прыняўшы смерць разам са Стасяй, дуб, высахлы і абпалены, сведчыць усім пра яе знявечаны лёс.

У апошняй дарозе сустракаецца са свяшчэнным для язычнікаў-беларусаў дрэвам і князь Лукомскі. Сімвалам пакалечанага, загубленага жыцця ўспрымаецца «дуб, стары, абгарэлы, бязверхі», што «рукі распяў над Іванам» — нібы хацеў захінуць ад вогненнай смерці. Нязломная моц дуба і мяцежны дух агню паядналіся ў вобразе Жыжаля, у дуба прасіцца Данута, каб ахінуў яе ад гневу Перуна. Дуб для герояў паэмы — адначасова і бажаство,

і брат: такім чынам у паэме адлюстроўваюцца анімістычныя вераванні беларускага народа. Як бачым, В.Зуёнак надзяляе сілы прыроды, і ў першую чаргу агонь і дуб, якасцямі жывых істот, яны дзейнічаюць нароўні з астатнімі героямі твора — «Лукам'ю» побач з іншымі паэмамі ўласцівы антрапамарфізм.

Па нашым меркаванні, зусім не без падстаў І. Шпакоўскі ўсю мастацкую структуру «Лукам'я» асацыятыўна суадносіць з дрэвам: «Свет падаецца такім, якім ён уяўляўся нашым продкам, з касмічнай апорай — «усясветным дрэвам», у славянскай мадыфікацыі — святым дубам. Унізе, ля каранёў святога дуба, знаходзяцца апраметная, родныя магілы продкаў, капішча, усярэдзіне — ствол, зямля, жывёла і чалавек, угары — крона, агонь, птушкі. Гэта вертыкальная структура, у гарызантальнай — квадрат у клетцы з Іванам; магічныя кругі, якія замкнула вакол Івана купальскай ноччу Стася». Сапраўды, структура і кампазіцыя «Лукам'я» вельмі складаныя. Увогуле ў гэтых адносінах паэмы Васіля Зуёнка вельмі розныя, кожная з іх вызначаецца адметнасцю і непаўторнасцю. «Лукам'е» складаецца з сямі раздзелаў (сакральная лічба!), яны апавядаюць пра апошні шлях героя на сваю Галгофу: у клетцы Івана вязуць на спаленне. Твор адкрываецца зачынам — своеасаблівым гімнам агню. Па кантрасце з «вогненным» зачынам далей ствараецца змрочная карціна свету на зыходзе стагоддзя: «На зыходзе было стагоддзе. / Смутны час для цароў і тыранаў, / Час бяссонніц, што прывідна ходзяць / Цяжкім ценем ахвяр пакараных. / Час пажадны, няўтульны, нервовы, / Час вар'ятаў і самагубцаў».

У кожную з сямі частак уключаюцца Іванавы мроі-ўспаміны (толькі апошняя пераносіць у будучыню), якія найбольш значныя як сэнсава, так і ў ідэйным плане. Гэтыя мроі — перадсмяротная споведзь князя перад самім сабой — рэтраспектыўна ўзнаўляюць найбольш важныя моманты жыцця Лукомскага. Успаміны вельмі арганічна нанізваюцца на асноўны кампазіцыйны стрыжань, навяваюцца адчуваннямі і рэаліямі апошняга дня. Так, вербы на маскоўскай вуліцы ўваскрашаюць у памяці князя сялянскі вербны бунт, «шэры тыранік» верабей — шэрых жаўранкаў з вясны кахання…

Увядзенне галасоў летапісца, бацькі, сялян і інш. — яшчэ адзін цікавы і ўдалы кампазіцыйны прыём. Галасы ствараюць разгорнутую панараму падзей і пры гэтым пазбаўляюць твор ад празмернай апісальнасці, уласцівай многім паэмам з перавагай адзнак эпасу.

Адстойваць сваё права на свабоду ўжо ў іншых гістарычных варунках прыходзіцца і героям паэмы **«Маўчанне травы»** (1980), адзначанай Дзяржаўнай прэміяй Беларусі імя Янкі Купалы (1982). Гэты твор вельмі блізкі да класічнай эпічнай паэмы, «паэмы-архетыпу» (тэрмін В. Кіканса). Галоўным арганізуючым пачаткам, архітэктанічным цэнтрам падобных паэм становяцца героі-персанажы, праз характары якіх раскрываецца карціна жыцця народа, нацыі. У «Маўчанні травы» дзейнічаюць добра выпісаныя, адметныя (асабліва галоўны герой Васіль) персанажы, якія вядуць за сабой сюжэт.

Падзейную аснову твора складае жыццёвы шлях простага селяніна. Ён супаў з трагічнымі перыядамі гісторыі, калі ставіліся пад сумненне выпрацаваныя стагоддзямі крытэрыі справядлівасці, ламаўся спрадвечны ўклад жыцця. Распавядаючы пра жыццё аднаго чалавека, аўтар узнімае агульнанацыянальныя праблемы, імкнецца да шырокага універсальнага ахопу рэчаіснасці, глядзіць на быццё праз самыя каранёвыя каштоўнасці. У гэтым — аснова эпічнасці паэмы, яе набліжанасць да эпапеі, адным з галоўных крытэрыяў якой з'яўляецца народнасць. Твор мае падзагаловак «Паэма лёсу». «За кожным канкрэтным чалавекам, — тлумачыць сам В. Зуёнак такое вызначэнне, — стаіць лёс яго народа. Гэтыя іпастасі і катэгорыі неразлучныя,

падзяляць іх нельга. І вось тут, якраз у гэтай паэме, мой дзіцячы лёс, убачаны з вышыні сённяшняга часу, з вышыні перажытага пасля. Тыя падзеі, якія ляглі ў аснову гэтага твора, і тое, што бачылася мне ў маленстве, узбагачаецца маім наступным жыццёвым вопытам. У паэме ўсё гэта знітавана».

Знітаванасць першасна-пачуццёвага дзіцячага ўспрымання і аналітычна-ацэначнага погляду дарослага чалавека ўвасабляецца ў вобразе *лірычнага героя* — з ім уваходзіць у твор моцны лірычны струмень. Аўтар выкарыстоўвае прынцып двайнога бачання — у паэме побач з лірычным героем, дарослым чалавекам, прысутнічае хлопчык Васіль — сам паэт у маленстве. Вялікі ўплыў на лірызацыю паэмы, несумненна, аказаў аўтабіяграфічны фактар. Як адзначалася, аўтабіяграфічнасцю, разам з геаграфічнай акрэсленасцю і гістарызмам, пазначана ўся творчасць Васіля Зуёнка. Прычым, калі першыя дзве рысы могуць праяўляцца ў большай або меншай ступені, то гістарызм як прынцып мастацкай творчасці нязменна прысутнічае заўсёды. Апавядальнік, ці лірычны герой, не проста складае летапіс падзей, сведкам якіх быў у дзяцінстве, а перажывае ўсё наноў, перадумвае, прапускае праз сэрца. Лірычны герой адначасова належыць да дзвюх эпох: узнаўляючы мінулае, ён глядзіць назад, праз гады, вачамі сучаснасці.

На сцвярджэнні выпрабаванай часам «праўды зерня» — стваральнай сілы духоўна багатага народа — засноўваецца гуманістычная канцэпцыя паэмы. Носьбітам гэтай праўды ў творы выступае перш за ўсё Васіль, прататыпам якога паслужыў бацька паэта. Васіль не аддзяляе сябе ад народа, яго лёс цесна звязаны з лёсам землякоў («Як людзі — так будзем і мы»). Светапогляд, дзеянні і ўчынкі галоўнага героя дэтэрмінаваны асноўнымі ментальнымі ўстаноўкамі беларускага селяніна: «Нельга жывым здрадзіць, / Мёртвым — нельга стократ», «Жыта сей, хоць сядзе смерць на плечы», «Хлеб — нязводны, бо ён ад зямлі». Тыпалагічна блізкія Васілю, па назіранні У. Гніламёдава, Міхал з «Новай зямлі» Якуба Коласа, Мікіта Маргунок з «Краіны Муравіі» А. Твардоўскага, Дзяніс Зазыба з пенталогіі Івана Чыгрынава і іншыя героі, якія бачаць у зямлі не толькі карміцельку, а глядзяць на яе як на аснову народнай духоўнасці, «аснову ўсёй айчыне».

Многія крытыкі (А. Лойка, У. Гніламёдаў, У. Калеснік) падкрэслівалі падабенства герояў, сітуацый, канфліктаў паэмы «Маўчанне травы» з ліра-эпічнымі творамі Ф. Багушэвіча, Якуба Коласа, М. Танка. Напрыклад, А. Лойка ўвогуле адзначаў «беларускую літаратурнасць» паэмы В. Зуёнка — свядомае ўвядзенне літаратурных рэмінісцэнцый, падкрэсленую залежнасць ад вопыту папярэднікаў. Такі погляд на паэму не зусім правамерны. «Зразумела, — заўважае сам Васіль Зуёнак — гэтыя прымерванні не беспадстаўныя. Але карані трэба шукаць глыбей: яны — у тыповых праявах жыцця, на якіх угрунтаваныя пошукі мастака. Усе ідуць па адной зямлі, пад адным небам — небам жыцця. І ўсе глядзяць на адно і тое. Адсюль і непазбежныя падабенствы». Думаецца, ніхто не будзе аспрэчваць магчымасці падабенства Васілёвага жыцця з лёсамі тысяч простых беларускіх сялян, якія зведалі нястачы імперыялістычнай вайны, паслярэвалюцыйных пераўтварэнняў, фашысцкага нападу... Перажытае Васілём становіцца не толькі яго асабістым, яно блізкае, зразумелае, агульнае для многіх.

Што для Васіля ёсць зямля? Паказальным момантам для вызначэння месца гэтай катэгорыі ў свядомасці героя служаць эпізоды спрэчкі паміж чырвоным камандзірам і «кулаком» Сямёнам у Абрамавай карчме. У кожнага з герояў свая светапоглядная пазіцыя, уласнае разуменне «нутра» селяніна-працаўніка.

Чырвонаармейцу так уяўляецца «сялянская філасофія»: «Абы ў трыбух, абы паменей шуму, — / За жменьку гною прадасі ідэю». Сёмка ж сярод усякіх «ідэй» і «ўлад» прызнае адзіную: «Адна зямля — карміцелька і ўлада. /

З якога боку ні падзьмуў бы вецер — / Яна не ўважыць: ёй давай парадак». Сямён не здраджвае ўладзе зямлі і ў самыя трагічныя для яго (для ўсяго сялянства!) часы. Ён упэўнены ў сваёй праўдзе, нягледзячы ні на якія жыццёвыя нягоды. Назаўсёды пакідаючы радзіму, Сямён бярэ з сабой самае дарагое: побач з крыжам на грудзі прывязвае вузельчык са жменькай зярнят. «Даваць парадак» зямлі, «араць ды сеяць» будзе ён і «на сібірскім папары», у высылцы. Новая ўлада не прыняла гаспадара, запісала ў ворагі ці не за адзінае «злачынства»: няспынную працу «без аддыху», ад сонца да сонца. Старая спрадвечная ўлада зямлі ніколі не адпусціць свайго «падданага». Вернасць гэтай уладзе і вера ў замацаванае стагоддзямі беларускае «Будзем сеяць!» (а значыць — «Будзем жыць!») становіцца адзіным выратаваннем для селяніна, яго «цяжкой надзеяй» і «няўтоленым болем»: «Як бы доля ні секла, / Ні валіў гарапад — / Над вясною, над векам / Будзе праўда зярнят!»

У процістаянні дзвюх пазіцый Васіль прымае праўду працаўніка. Чырвонаармеец вельмі спрошчана разумее «ўладу зерня»: ён бачыць селяніна заземленым, беспрынцыпным («Хто з печы сцягне <…> з тым і пойдзеш»), у каго толькі і клопату, каб «набіць трыбух». Але не адзін толькі голад цягне селяніна да зямлі. Існуе нейкая вышэйшая неўсвядомленая сіла, якая вядзе «вясной у поле, восенню да ёўні». Васіль даказвае камандзіру: «Ёсць нешта і такое, што не знаю… / Вось ты глядзеў, як тоненька і квола / Расток зямную тоўшчу працінае / І ўсё грабецца — да вясны, да неба?.. / Дык знай тады: я — не сваяк гаротны, / Я з полем звязан не кавалкам хлеба — / Тут і жыццё, і смерць, і бессмяротнасць». Такое ўменне заўважыць «дробязь», адчуць судачыненне з жыццём кожнага парастка — калі чалавек адначасова і Творца, і гэткая ж мікрачасцінка ў бясконцым акіяне «жыцця, і смерці, і бессмяротнасці» — і ёсць аснова «прынцыповасці», духоўнасці, гуманнасці селяніна. Гэтыя каштоўныя якасці праяўляюцца ў спагадзе і спачуванні бліжняму, у адказнасці за кожную былінку і любові да ўсяго жывога.

З вобразам Васіля, а таксама Сямёна звязана ў паэме *праблема гаспадара.* Вобраз гаспадара, па назіранні А. Рагулі, — адна з найбольш сэнсава ёмістых мадыфікацый культурнага героя (разам з вобразам музыкі). «Парадыгма «гаспадар» была асноўнай і дзейснай на ўсіх этапах нацыянальнай гісторыі, — заўважае навуковец. — На яе арыентаваліся Ф. Скарына, А. Волан, А. Алізароўскі. Словам «гаспадар» афіцыйна называлі кіраўніка дзяржавы. На гэту народную парадыгму арыентаваўся Яська, гаспадар з-пад Вільні — Кастусь Каліноўскі. Разбурэнне яе пачалося з часоў калектывізацыі». Асобныя моманты гэтага злачыннага, антынацыянальнага працэсу знайшлі адлюстраванне ў паэме В. Зуёнка «Маўчанне травы» (высылка заможных сялян-працаўнікоў у Сібір, замена ашчаднага і разумнага стаўлення да працы гонкай за «працэнтам» і інш.). Савецкая ўлада з самага пачатку імкнулася выкараніць усе «лішнія» прывязанасці — да ўласнай гаспадаркі, зямлі, народных звычаяў, Бога. Ёй стаў патрэбны зусім новы чалавек, «свабодны» ад спрадвечных маральных устояў, пазбаўлены гістарычнай памяці, які ахвяруе ўсім дзеля міфічнай «светлай» будучыні. У аспекце праблемы гаспадара сімвалічным бачыцца прызначэнне на старшынёўства замест разважнага, гаспадарлівага, працавітага Васіля цыгана Плеўкіна. Зямля аддаецца ва ўладу тым, хто не хоча і не ўмее на ёй працаваць, не здольны яе любіць. Беражлівыя, адухоўленыя адносіны да зямлі змяняюцца на спажывецкія, а пазней яны перарастуць у драпежніцкія, варварскія, што, безумоўна, не зможа не адбіцца на псіхалогіі чалавека, не паўплываць на яго духоўны воблік. Ад такіх гвалтоўных зменаў В. Зуёнак перасцерагаў у «Сялібе» і з горыччу скажа пра іх вынікі ў паэме «Падарожжа вакол двара». Зразумела, у 70-я гады, калі пісалася «Маўчанне травы», паэт не мог адкрыта гаварыць на падобныя тэмы, аднак, як зазначыў А. Марціновач, «сап-

раўдны талент і праз недасказанасць можа «сказаць» вельмі шмат». Сёння нам прадстаўляецца магчымасць па-сапраўднаму прачытаць паэму, «пачуць» недагаворанае аўтарам больш за дваццаць гадоў таму.

Селянін адвеку быў цесна звязаны з зямлёю. Працуючы, ён накіроўваў свой позірк уніз, да баразны, да зямлі, адкуль, як Антэй, чэрпаў сілу. Гэта была, па выразу Г. Гачава, сапраўдная школа пакорнасці, «быцця з мірам у душы». Сувязь працаўніка з зямлёй значна слабее з узнікненнем новых сродкаў працы — машын. У часы Васілёвага старшынёўства адбылася знамянальная для вёскі падзея: з'явіўся першы трактар. Жалезны конь замяніў сапраўднага, жывога, запісанага саветамі ў «контры», бо вельмі ўжо не хацеў аддаваць уласнік-мужык у «абшчыну» сябра і памочніка каня. Сцэна развітання селяніна з канём у паэме не новая для нашай літаратуры пра калектывізацыю (успомнім, напрыклад, раман «Вязьмо» М. Зарэцкага), аднак ад гэтага яна не становіцца менш хвалююча-лірычнай і шчымлівай, яшчэ раз пераконвае, як цяжка было мяняць прывычны жыццёвы ўклад.

Новы памочнік у працы надае сілы і ўпэўненасці, нават знешне змяняе селяніна: «Як вырас ён! / І як узвысіўся, узнёсся / Над тым абшарам, над зямлёй!..» Беларуская літаратура, асабліва ў першыя паслярэвалюцыйныя дзесяцігоддзі, захоплена вітала механізацыю вёскі. В. Зуёнак, малюючы карціну першага дня працы на трактары, не ідзе па шляху апявання здабыткаў прагрэсу: галоўнага героя больш за радасць ахоплівае пачуццё трывогі і непакою. Яму здаецца, што існаванню вяскоўца «з мірам у душы» прыходзіць канец: «Конь добры, кажучы няўрокам. / Але здалося Васілю: / Глядзіць як быццам бы звысоку / Араты на сваю зямлю. / А хіба з ёю гэтак можна? / А не пакрыўдзіцца яна?.. / …Нібы ірвалася трывожна / Між сэрцам і зямлёй струна». Трактар ідзе па зямлі заваёўнікам: рашуча рве, змятае цераспалоссе, валачэ ворыва, варочае скібы. У адносінах аратага была і ласка, і павага да зямлі, ён «тупаў басанож раллёй», адчуваючы на дотык і пах кожны камячок… Васіль не адмаўляе здабыткаў цывілізацыі, аднак баіцца, каб жалезныя машыны не закавалі душу ў панцыр. Хваляванне героя небеспадстаўнае: на жыццёвай дарозе яму ўжо давялося сустрэцца з вельмі небяспечным «дзіцём прагрэсу» — у ваенных акопах (раздзел «Прэлюдыя жалезнай птушкі»).

Прылёт птушак з выраю заўсёды ўспрымаецца як прэлюдыя вясны, абуджэння ад зімовага сну, абвяшчэнне новага жыцця. К пачатку XX стагоддзя чалавечы розум ажыццявіў сваю даўнюю мару: узняўся ў неба на жалезных крылах, з'яўленне якіх пазначыла пачатак новай эры. У адрозненне ад сваіх жывых правобразаў рукатворныя птушкі сталі прэлюдыяй не толькі жыцця і нараджэння, а на жаль, нярэдка — смерці і разбурэння. Навуковая думка страціла ўсякае ўяўленне аб суадносінах яе шуканняў з рэальнымі жыццёвымі каштоўнасцямі. Уласныя вынаходніцтвы паступова пачалі выцясняць чалавечае з чалавека, пагражаць яго існаванню. Жалезная птушка ў «Маўчанні травы» — гэта не толькі ваенны самалёт, але і любое спараджэнне розуму, што выйшла з-пад кантролю стваральніка, стала жыць сваім, ужо непадуладным чалавеку жыццём. Падобнае сэнсавае напаўненне мае вобраз Жалезнай птушкі ў паэме Давіда Кугульцінава «Бунт розуму» (1970). Па загадзе хана мудрацы ствараюць незвычайную зброю — птушку. Знішчыўшы ворага, «ап'янелая» ад крыві шматлікіх ахвяр птушка вяртаецца назад: «Разохотилась она вдвойне / И теперь лютует в нашем крае, / Наших женщин и детей глотая». З гэтым вобразам калмыцкі паэт звязвае заўсёды актуальную праблему адказнасці чалавека за свае вынаходніцтвы. Жалезная птушка ў В. Зуёнка, як і ў Д. Кугульцінава, — таксама вобраз-перасцеражэнне, напамін пра будучыню.

Толькі ўступ, прэлюдыю да глабальных трагедый чалавецтва ўбачыў Васіль у франтавых акопах Першай сусветнай вайны. За кароткае імгненне

пад «жалезным крылом», «пад выццём ваўчыным» бомбаў перад вачыма Васіля пранеслася ўсё жыццё. Ён успомніў сям'ю, хату, нясплачаны «доўг» Сямёну... Гэта першае кола, часавы пласт, першы — стыхійны, пачуццёвы — узровень асэнсавання палёту «птушкі» — у рэчышчы эпічнай, сюжэтнай тканіны паэмы, праз успрыманне Васіля, яго неразуменне, боль, страх перад пагрозай смерці. Другі часавы пласт і новы, больш глыбокі ўзровень складае вопыт лірычнага героя, які перажыў страшную вайну. Перажываецца не толькі трагедыя аднаго чалавека, асобнай сям'і, а і гора мільёнаў ахвяр Хірасім, Хатыняў, Узбор'яў... Васілёвы прадчуванні для лірычнага героя — гэта спраўджаная страшная рэальнасць. На кожным новым вітку гісторыі жалезная птушка ўсё больш упэўнена «З крутых піке заходзіць / На вогненны пакос». Нарэшце, трэцяе кола — гістарычны вопыт чалавецтва, што зведала апошнія жахлівыя вынікі такой «эвалюцыі» — Чарнобыль. Калі два першыя сэнсавыя ўзроўні рэальна прысутнічаюць у тэксце, то трэці натуральна ўзнікае ў свядомасці чалавека XXI стагоддзя — рэалізуецца такая ўласцівасць мастацкага тэксту, як дыялагічнасць (адкрытасць свядомасці чытача нараджэнню новых сэнсаў). Сёння «эвалюцыя» навуковай думкі — ад машыны — да «жалезнай птушкі» і, урэшце, да атамнай катастрофы — прымушае ўсё чалавецтва задумацца над пагрозай самазнішчэння.

Жыццёвая дарога земляроба зноў перакрыжавалася са шляхам знішчальнай ваеннай машыны. У крытычнай сітуацыі (паміж Жыццём і Смерцю) неба бачыцца аўтару варожай стыхіяй, неверагоднай нівай, адкуль «бомбы прарастаюць да зямлі». Змаганне Жыцця і Смерці выяўляецца праз супрацьстаянне зерня і бомбаў, мяккай раллі і «нябеснай, непадступнай цвердзі», дзвюх «рам» — «букварнай», што «мыла мама», і самалёта-«рамы» «з азбукаю смерці пад крылом», жытняга і свінцовага багоў. Менавіта на сутыкненні гэтых анталагічных катэгорый — зерне, жыццё і хаос, смерць — і ствараецца, па словах У. Калесніка, «медытатыўны пафас паэмы, яе філасофска-роздумны пачатак».

«Маўчанне травы» можна аднначасова лічыць паэмай *перасцярожэння* і паэмай *памяці.* Гэты твор — «жывая памяць дзяцей вайны» (К. Камейша) — нагадвае пра вялікую трагедыю мінулага і разам з тым перасцерагае ад паўтарэння яе ў будучым. Апавядаючы пра асабіста перажытае ім і яго пакаленнем, яго землякамі і суайчыннікамі, аўтар выходзіць на праблемы сусветнага маштабу, думкамі скіроўваецца ў заўтрашні дзень — паэма набывае агульначалавечае гучанне. У гэтым творы В. Зуёнка, як у сапраўдным нацыянальным эпасе, па выразе В. Бялінскага, форма індывідуальнага народнага жыцця заключае ў сабе агульначалавечы, сусветны сэнс.

У час ваеннага ліхалецця Васіль не застаецца ў баку ад падзей: па загадзе падпольшчыкаў прызначаецца старастам (што прыносіць нямала пакут), даводзіцца пабыць яму партызанскім праваднікам, некалькі разоў сустрэцца тварам у твар са смерцю, нават прыходзіцца капаць самому сабе магілу. Дзякуючы моцнаму духоўнаму стрыжню, тонкаму адчуванню справядлівасці, Васіль не здраджвае ні жывым, ні мёртвым, не губляе «веры ў зямлю наўсцяж вякоў». Герою, мірнаму працаўніку, цяжка зразумець страшны сэнс вайны: «І той, хто народжаны сеяць і жаць / Ды плугам аблогу дзерці, / Крывавую ношу павінен узяць: / Забіваць у імя бяссмерця...» Чулая Васілёва душа не можа пагадзіцца нават з такой смерцю. Герою В. Зуёнка, як і ўсяму беларускаму сялянству, вельмі блізкія пацыфісцкія погляды на быццё, і ўсё ж ён вымушаны пагадзіцца, «што не ў жыцце / Вырастае праўда ў гэткі час». «Праўда зерня» часова (!) саступае месца «праўдзе барацьбы». Васіль гэта разумее, але не прымае душой («Навошта ж і неба і гэта зямля, / Як вечна такое будзе?..»), і толькі смерцю паядноўвае ён дзве праўды.

Паэма вызначаецца шматканфліктнасцю: у ёй знаходзіць адлюстраванне псіхалагічны канфлікт паміж унутраным светам галоўнага героя і аб'ектыўнай рэальнасцю, сутыкненне філасофскіх анталагічных катэгорый (жыццё—смерць), супрацьстаянне антынамічных светапоглядных пазіцый розных герояў (чырвоны камандзір — Сёмка, Васіль — Трыхан). Так, жыццёвая пазіцыя Трыхана, былога актывіста і селькора, нястомная «грамадская дзейнасць» якога прынесла нямала прыкрасці і хвалявання аднавяскоўцам, карэнна адрозніваецца ад Васілёвай. Трыхан запэцкаў рукі крывёю землякоў, сее смерць дзеля «медаля», ілюзорнай улады. Такія выраджэнцы становяцца болем і пакутай народа, што заўсёды дбаў пра душэўную чысціню. Нязломнасць беларусаў грунтуецца на вернасці жыццядайнай уладзе зямлі, зерня, якія б заваёўнікі ні прыходзілі ў родны край.

Дзелячыся разважаннямі пра свой народ, у адным з інтэрв'ю сярэдзіны 1990-х гг. Васіль Зуёнак сказаў: «У беларускім нацыянальным духу, відаць, найбольш значная рыса — нязломная трываласць і жывучасць; колькі б ні таптанлі беларуса, а ён усё паўстае перад светам і сведчыць, кажучы словамі У. Караткевіча: «Быў. Ёсць. Буду...» Яшчэ раней гэтая думка пісьменніка, «перакладзеная» на мову паэзіі, увасобілася ў ліра-эпічным творы «Маўчанне травы». Аўтар імкнецца разбурыць стэрэатыпнае меркаванне, што беларускі народ «мяккі і спажыўны, як мурог». Праз вобраз травы, якая заўжды праб'ецца да сонца, сцвярджаецца ўпэўненасць у трывушчасці, неўміручасці, віталістычнай сіле народа. У паэме «Маўчанне травы» шырокае ўвасабленне знаходзяць старажытныя анімістычныя ўяўленні нашых продкаў. Неба, зямля, дарога, хлеб, парастак, зерне — усё гэта героі паэмы. Яны маюць душу, разумеюць чалавека, дапамагаюць ці перашкаджаюць яму. Сімвалізацыя травы таксама бярэ вытокі з анімістычнага светапогляду мінулага. Вобраз травы ўспрымаецца ў паэме як вобраз беларускага сялянства і народа ў цэлым. Побач з гэтым паўстае пытанне: ці сапраўды такі маўклівы беларус, ці заўсёды «маўчыць» трава?

Заклапочанасць лёсам сваіх суайчыннікаў і роднай краіны стала лейтматывам заключнай паэмы пенталогіі — **«Падарожжа вакол двара»** (1989 — 1990), названай аўтарам «паэмай смутку і надзеі». Пра гэты твор, як, дарэчы, і пра «Лукам'е», крытыка пісала няшмат, аднак увогуле абысці ўвагаю не магла. Станоўча ацанілі паэму У. Гніламёдаў, А. Станюта, В. Ярац, у цэлым ухваліў твор М. Арочка, канстатуючы, аднак, што асобным яго часткам бракуе «свежасці мастацкага адкрыцця». Паэма, паводле вызначэння літаратуразнаўцы, — «гэта новыя кругі «падарожжа вакол» ужо апетага» як іншымі аўтарамі (напр., А. Вярцінскім у «Песні пра хлеб»), так і самім В. Зуёнкам (прынамсі, у «Маўчанні травы»). Падобная заўвага, з аднаго боку, слушная і аргументаваная: сапраўды, В. Зуёнак вяртаецца да ўзнятых у папярэдніх ліра-эпічных творах тэм. Але паглядзім на гэта з іншых пазіцый. Напэўна, ніхто не папракне, скажам, Сяргея Ясеніна, які ўсё жыццё пісаў пра самае дарагое — славіў «шестую часть земли / С названьем кратким «Русь», за недастатковую «свежасць мастацкага адкрыцця». Васіль Зуёнак, як і рускі паэт, таксама апявае найбольш блізкае і значнае для яго, і «свежасць» крыецца не столькі ў тэматычнай навізне, колькі ў навізне адчуванняў, перажыванняў аўтара і лірычнага героя. Лірычны герой «Падарожжа вакол двара» (ён з'яўляецца выразнікам аўтарскай пазіцыі, зближаецца з асобай пісьменніка) адрозніваецца ад герояў ранейшых паэм. Гэта ўжо сталы, надзелены немалым жыццёвым вопытам чалавек, што зведаў горыч страт і расчараванняў. Пэўныя паўторы і пераклічкі «Падарожжа вакол двара» з іншымі паэмамі В. Зуёнка не падаюцца недахопам, выглядаюць нават патрэбнымі, калі прымаць пад увагу тую акалічнасць, што гэты твор заключае пенталогію, падводзіць рысу сказанаму ўсім ліра-эпічным цыклам. Аўтар

па-новаму высвечвае, часта пераасэнсоўвае ўзнятыя ў папярэдніх паэмах пытанні. А падвядзенне вынікаў, натуральна, патрабуе апеляцыі да ранейшых роздумаў, пэўнага вяртання на «старыя кругі».

Магчыма, мае месца ў творы некаторы спад філасафічнасці, на які ўказвае М. Арочка. Філасафічнасць, роздумнасць, вядома, не знікае зусім, а толькі набывае новую якасць, што, аднак, не змяншае мастацкай каштоўнасці паэмы. Як нам падаецца, падобная акалічнасць абумоўлена выхадам на вядучыя пазіцыі публіцыстычнай плыні. На памежжы 1980 — 90-х гг. склалася такая гістарычная сітуацыя, калі аўтар нарэшце змог смела гаварыць пра набалелае. Прынамсі, нацыянальная ідэя, загнаная ў папярэдніх паэмах у падтэкст, цяпер адкрыта абвяшчаецца пісьменнікам.

Адкрытая канцэптуальнасць паэмы сведчыць пра важную ролю лірычных адзнак у мастацкай арганізацыі паэмы, напрыклад, у арганізацыі яе сюжэта. Сістэма сюжэта твора стратыфікаваная, шматузроўневая: ахопліваюцца ўсе сферы сучаснага жыцця (духоўная, сацыяльная, грамадска-палітычная), ажыццяўляецца зварот у мінулае, намячаюцца перспектывы будучыні. Рух аўтарскай думкі звязвае разрозненыя «эпічныя» карціны народнага побыту, асоба становіцца арганізуючым пачаткам і архітэктанічным цэнтрам твора.

Калі «Маўчанне травы» ўшаноўвае памяць бацькі паэта Васіля Захаравіча, які стаў правобразам галоўнага героя, то «Падарожжа вакол двара» прысвечана маці Куліне Канстанцінаўне, яе вобраз з'яўляецца ключавым, канцэптуальна значным у творы. Рэпрэзентацыя гэтага вобраза ажыццяўляецца праз прызму ўласнага, суб'ектыўнага перажывання сына. Падкрэслена асабістае ў абмалёўцы вобраза самага блізкага чалавека, аднак, не перашкаджае стварэнню эпічна значнага культурна-нацыянальнага вобраза Жанчыны-Маці. Матуля лірычнага героя («дырыжор сімфанічна-пячнога аркестра»), як і кожная беларуская сялянка, вялікую частку жыцця правяла ля печы — сімвала сямейнага ачага. Жанчына, падтрымліваючы агонь у печы, не дае патухнуць агню сямейнасці, крэўнай роднасці — такое разуменне ролі жанчыны характэрнае для беларускай культуры. Па горкай насмешцы лёсу печ (міфапаэтычны сімвал жыцця) стала «маленькім хатнім Чарнобылем», «дзякуючы» псеўда-прагрэсіўнаму развіццю чалавецтва перайшла на службу смерці — надзвычай моцным у паэме становіцца матыў самавынішчэння. Небяспека рукатворнага апакаліпсісу інтуітыўна прадчувалася В. Зуёнкам і раней (прыгадаем хаця б вобраз жалезнай птушкі з паэмы «Маўчанне травы»), аднак напрыканцы XX стагоддзя пагроза з магчымай, на жаль, у многім ператварылася ў рэальную. Калі іншыя паэмы нясуць футуралагічна-прагнастычную, папераджальную функцыю, то «Падарожжа вакол двара» ўяўляе своеасаблівы рэквіем па спраўджаных трагедыях рознага кшталту (духоўных, экалагічных, сацыяльных).

Чарнобыльская праблема па-рознаму вар'іруецца на працягу ўсяго твора. Атамная катастрофа, як вынікае з паэмы, стала прадказальным апафеозам злачыннага занядбання законаў прыродна-касмічнага суладдзя, увянчала «прагрэсіўнае» развіццё чалавецтва («Мы ад прэміі Нобеля прыйшлі да Чарнобыля»). Часта пазбаўленыя здаровага сэнсу дзеянні пакарыцеля прыроды, ап'янелага сваімі ілюзорнымі перамогамі, прывялі да збою ў спрадвечна наладжаным функцыянаванні сістэмы «чалавек — прырода», абярнуліся не толькі экалагічнаю, але і гуманітарнаю катастрофай. «Мы рассеклі прыроду на флору і фауну, / Рассакрэцілі бога да генаў і атамаў, / Мы жыццё абылгалі языкамі-прафанамі, / Заняволілі дух свой цытатнымі кратамі».

Дыхатамія «прырода — цывілізацыя» ў паэме «Падарожжа вакол двара» цесна спалучана з апазіцыямі «мінулае — сучаснасць», «вёска — горад»; прыроднае (г. зн., гарманічнае, духоўнае, вясковае) мінулае змяняецца цыві-

лізаванай (утылітарна-прагматычнай, гарадской) сучаснасцю — з засухамі, мёртвымі крыніцамі і рэкамі, загубленымі лясамі. Гэта расплата за той самападман, якім цешылася чалавецтва, верачы ў неабходнасць і справядлівасць удасканалення касмічнага парадку. Нават сам В. Зуёнак у паэме «Лукам’е» захапляўся палётам чалавечага розуму — рукатворным сонцам цеплаэлектрастанцыі. «Падарожжа вакол двара» засведчыла пераасэнсаванне аўтарам ранейшага погляду: «Пакуль яшчэ Чарнобылю радзіцца, / У неба ЦЭЦ ускінула хвасты. / Нас напачатку весяліў той дым / І радаваў вяршынямі прагрэсу, / Пакуль не адгукнуўся праз гады / Чарнобыльскім — яшчэ вышэйшым — стрэсам...» Змены ў навакольным асяроддзі адбіваюцца на ўнутраным вобліку чалавека, які паступова «трансфармуецца ў звера».

Небяспека дэгуманізацыі жыцця, праблема духоўнай экалогіі ніколі не пакідала абыякавым В. Зуёнка. Засведчаная яшчэ ў «Сялібе» перакананасць пісьменніка ў прамой залежнасці ўнутранага свету чалавека ад становішча прыроды пацвярджаецца паэмай «Падарожжа вакол двара». Спусташэнне наваколля адваротным бокам мае нівеліроўку маральных устояў, ачарсцвенне душы: «Пагаслі над зямлёй — няма крыніц, / Што рэчку рыбную вадой з глыбінь паілі, — / Яшчэ страшней: пад гнётам камяніц / Прадаць душу сваю бязроднай сіле». На думку паэта, не спрыяе захаванню душэўнай гармоніі і жыццё ва урбанізаваным грамадстве, дзе ўсё менш адчувальнай становіцца сувязь з зямлёй, народнымі каранямі. Супастаўленне горада і вёскі як дзвюх супрацьлеглых стыхій мае трывалую літаратурную традыцыю (творчасць Э. Ажэшкі, М. Гарэцкага, Я. Пушчы і інш.), у рэчышчы якой горад нярэдка малюецца жорсткім, нават варожым чалавеку. Чужой і незразумелай бачыцца гарадская стыхія гераіні В. Зуёнка, звыклай да размеранага сялянскага жыццёвага рытму. Жанчына заўважае, як моцна змяняе чалавека горад. Калі вясковец заўсёды навідавоку, ён адкрыты іншым, то гараджанін пазбаўлены непасрэднасці, хаваецца за маскаю адчужанасці, безуважнасці («Твар адзін. І на твары — цень...»), натуральнасць і шчырасць у паводзінах і адносінах замяняецца механічнасцю, сацыяльнай рэгламентаванасцю («То ж не людзі <...>, а ходзікі»).

Адносіны вяскоўца да горада неадназначныя: непрыняцце урбаністычнага ладу жыцця суіснуе з пэўным пакланеннем перад горадам, амаль бясспрэчным прызнаннем яго «законаў». Для ілюстрацыі прывядзём такі прыклад: маці, не слухаючы перасцярог сына, шчодра пасыпае грады хімічным ядам, перакананая ў карыснасці гэтага, — «Гарадское, казала, значыць, патрэбнае». Паняцці «гарадское» і «культурнае», «разумнае», «патрэбнае» збліжаюцца, часта зусім атаясамляюцца вяскоўцам. Тым самым у свядомасці селяніна горад і ўсё, звязанае з ім, трывала замацоўваецца на больш высокай іерархічнай ступені ў параўнанні з роднай жыццёвай стыхіяй. Аднак гарадская цывілізацыя не апраўдала такой шчырай веры. Ігнараванне разумнага пачатку ў яе развіцці прывяло да вялікіх страт — экалагічных і сацыякультурных на чале з Чарнобылем, цень якога злавесна праходзіць праз усю паэму.

У звязцы з тэмай Чарнобыля востра паўстае ў паэме шматаб’ёмная праблема *самабежанства* са свайго двара (выраз «самабежанцы» ў дачыненні да твора ўжыў Р. Барадулін). Роспачны «перасяленкі плач з-за Магілёва» чуўся лірычнаму герою ў гады ваеннага маленства, яшчэ больш балюча ўспрымаецца ім гора вымушаных перасяленцаў-«чарнобыльцаў» у мірны час. Іншая, не менш важная і трагічная грань праблемы — добраахвотнае адмаўленне ад свайго двара вяскоўцамі, звабленымі марамі пра гарадскі Эдэм. У выніку маштабнай па размаху акцыі — перасяленне моладзі ў гарады — многія вёскі аказаліся закінутымі, а разам з тым закінутай аказалася народна-сялянская мараль.

Адзін з раздзелаў паэмы ўяўляе своеасаблівую сціслую энцыклапедыю маральных запаветаў: «Чужой не зайздросці капейцы, / Калі свой рубель пракурыў...» / «Пакуль не ўзяўся за лейцы, / Каня не гані з гары...», «Пасварыліся ды памірыліся...», «З мудрым добра і памаўчаць...» і інш. Гэтыя выслоўі канцэнтруюць шматвяковы духоўны вопыт народа, нябачна накіроўваюць чалавека на жаданую дарогу да раю — душэўнай раўнавагі, гармоніі з навакольным светам, раю ў сваім сэрцы.

У сэрцы лірычнага героя назаўсёды застанецца двор маленства, які стаў для яго «цэнтрам сусвету» і духоўным апірышчам у «сумбурным, няўстойлівым» сучасным жыцці. Лакалізаваны мікракосмас двара непарыўна злучаны з Сусветам, вялікім Космасам. Паміж імі — хаос людскога быцця, які, аднак, можа і павінен прыйсці ў адпаведнасць з агульным галактычным парадкам. Двор паўстае «маяком у галактыцы душ ацвярдзелых», становіцца для лірычнага героя арганізуючым пачаткам у рэканструяванні прыродна-касмічнай гармоніі, з ім звязваецца і надзея на выхад усёй нацыі з глыбокага духоўнага крызісу. Каштоўнасць роднага двара для героя тлумачыцца вельмі проста і пераканаўча: «Родны двор, буду вечна табе маліцца. / А чаму? Пэўна, тайны вялікай не выдам: / Калі б глобус прыдумалі аўстралійцы, / Дык і «шапкай Зямлі» на ім была б Антарктыда...» Любоў да малой радзімы — нязменная канстанта творчасці В. Зуёнка, у аналізуемай паэме гэтая любоў яшчэ больш лакалізуецца, звужаецца да вобраза роднага двара. «Вялікае» пачуццё нацыянальнага патрыятызму нараджаецца менавіта з «малой» любові. Паэт не галаслоўны ў выяўленні патрыятызму, не кідаецца гучнымі словамі, ён персаніфікуе грамадзянскае пачуццё ў знаёмых з дзяцінства рэаліях (родны двор), у канкрэтным чалавеку (маці), чым пераводзіць яго ў сферу асабіста-інтымную. В. Зуёнак ставіць у адзін рад паняцці «мама, мова, Радзіма, народ»: яны выступаюць як раўназначныя, аднолькава дарагія для паэта. І, па ўсім відаць, гэта не проста словы.

Сутыкненне бінарных апазіцый шырока прымяняецца ў «Падарожжы вакол двара». Нават у падзагалоўку — «паэма смутку і надзеі» — аўтар зводзіць дзве антыноміі. Смутак стратаў, асабістых і агульнанародных, у фінале інтанацыйна драматычнага твора саступае месца надзеі: «Двор без мамы — народ без мовы... / Ды агонь святы не пагас. / Ёсць душа — будуць вешчыя словы, / Двор збірацьме, зняveraных, нас...» Вобраз мамінага следу, узятага лірычным героем «з двара гэтага ў свет», набывае сімвалічнае значэнне: след увасабляе захаванне культурнай памяці народа. Маці — душа двара, сям'і, роду навечна застанецца ў сэрцы героя, мова — душа народа, па перакананні паэта, не знікне з беларускай зямлі. Пераважна змрочную атмасферу твора асвятляе вобраз святога агню як сімвала адраджэння нацыі. Гуманістычны пафас паэмы засноўваецца на веры ў перамогу агню, святла, духоўнасці, жыцця над холадам, цемрай, раўнадушшам, смерцю.

Жыццесцвярджальны пафас, надзея на адраджэнне нацыі і краіны, на аднаўленне гармоніі чалавека і прыроды ўласцівы ўсім паэмам кнігі «Пяцірэчча», «геаграфія» якой вельмі шырокая: ад невялікіх Начы і Талінкі — да «сінякрылага» Дняпра і, урэшце, — да Вечнага Млечнага Шляху. Такія ж неабсяжныя і прасторы паэтычных думак і творчых памкненняў выдатнага беларускага пісьменніка Васіля Зуёнка.





**КАСТУСЬ ЦВІРКА**

# З АЎТАРАМ «ПІНСКАЙ ШЛЯХТЫ»

Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч... Па-мойму, мы яшчэ па-сапраўднаму не ўсвядомілі, якая гэта была вялікая постаць у беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Наша літаратуразнаўства яшчэ як след не раскрыла мастацкую вартасць яго твораў, не паказала прыгажосць паэтычнага слова першага беларускага класіка, самабытнасць гэтага незвычайнага таленту. Учытайцеся ў яго вершаваныя творы. Вось хрэстаматыйны «Гапон», «беларуская аповесць»:

Шум, крык, гоман у карчме,
Кіпіць сельская дружына,
Піва, мёд, гарэлку п'е,
Ажно курыцца чупрына.

Здаецца, простыя, «бясхітрасныя» радкі. Але яны адразу ўводзяць чытача ў само дзеянне паэмы, у якой паўстае жывая рэчаіснасць даўно аджылай эпохі. Спачатку паэт як бы расстаўляе «дзейных асоб», што прыйшлі на сельскую вечарынку. Тут і паважныя вясковыя гаспадары, якія вядуць за сталом заўсёды цікавую для іх гаворку пра свой штодзённы сялянскі клопат, і «ляндарка з лендаром», што разносяць заказныя стравы і пітво, і моладзь, якая «гамоніць» каля парога, і «старыя чараўніцы» — цікаўныя старыя жанчыны, што, пасеўшы каля печы, цішком назіраюць, як забаўляюцца «хлопцы, дзеўкі, маладзіцы».

Скрыпач Ананя пачынае іграць народныя танцы «Лявоніху», «Бычка», «Казачка». І моладзь адразу пускаецца ў скокі. Вясёлы сялянскі хлопец Гапон, выраблячы нагамі заліхвацкія выкрунтасы, галантна запрашае ў танец сваю каханую дзяўчыну Кацярынку:

«Эй, чух, Кацярынка!
Чабоцікі красны;
Каму блішчаць, каго любяць:
Твае вочкі ясны?..»

Дзяўчына не прымушае сябе доўга ўгаворваць. У адказ на запрашэнне каханага хлопца

Кацярынка ж успляснула,
На міленькага зіркнула,
Хвіць! спаднічку распусціла,

Трэйчы запяткам падбіла,
Дробны ножкі выкідаець,
Чаравічкі скрыпяць,
А із вочак аж сіяець,
Быццам іскры ляцяць.

У такім жа энергічным тэмпе, раскавана і весела праходзіць уся вечарынка — сапраўдная народная феерыя. Паэт шырока выкарыстоўвае фальклорныя вобразы і матывы, а таксама народныя песні, прыпеўкі, прыказкі і прымаўкі, вельмі да месца ўплятаючы іх у канву апавядання. Атрымліваецца адначасова і мастацкі паказ вясёлага вясковага ігрышча, і адначасова яго дакладнае этнаграфічнае апісанне.

Кожны пісьменнік ведае, як цяжка часам знайсці адпаведны задуманай ідэі твора сюжэт. Сюжэтамі нават дзеляцца часам паміж сабой пісьменнікі. Як, скажам, Пушкін, які падараваў Гогалю сюжэт «Мёртвых душ». Знайсці займальны сюжэт — гэта таксама трэба мець талент.

Такім талентам шчасліва валодаў наш Дунін-Марцінкевіч. Чытаючы яго творы, прыемна дзівішся, як умее ён знаходзіць патрэбны сюжэт ды ўкручваць у яго назапашаны «матэрыял». Сваю сюжэтную лінію мае і той жа «Гапон». Даволі займальную «лінію». З нечаканымі хадамі, інтрыгамі. Як і ў кожнага еўрапейскага класіка. На сельскае ігрышча ў карчме, так маляўніча апісанае ў пачатку паэмы, урываюцца раптам аканом з войтам. Гапон адразу зразумеў: гэта ж аблава, рэкруцкі набор! Таму паспявае гукнуць сябрам: «Уцякайце!» І тыя кідаюцца з карчмы хто куды. На самога ж Гапона з усіх бакоў навальваюцца памагатыя аканома. Як ён ні адбіваўся, «яго, беднага, звязалі дый у калодкі скавалі». Арганізаваў гэты налёт аканом таму, што намерыўся запраторыць у салдаты Гапона, каб адбіць у яго прыгожую Кацярынку. Пані, паважаная ўсімі ўладарка маёнтка і вёскі, убачыўшы аднойчы заплаканую Кацярынку, пашкадавала яе і захацела суцешыць. Даведаўшыся ад дзяўчыны прычыну плачу, яна загадала здаць у салдаты самога аканома. Кацярынку ж зрабіла сваёй пакаёўкай. Прайшло пяць гадоў. І вось раптам заяўляецца ў панскі двор прыгожы і статны малады афіцэр. Якая была для Кацярынкі радасць, калі яна пазнала ў ім свайго любага Гапона! Да афіцэрскага стану яго ўзвысілі за добрую службу ў войску, за адвагу на вайне. Цяпер ён прыйшоў прасіць у Кацярынкі рукі, а ў пані — дазволу на шлюб. Пані не толькі дазволіла, але і сама прыйшла на вяселле сваёй пакаёўкі, а яшчэ ёй — «маўляў, роднаму дзіцяці, прыгожы пасаг дала, радасну слёзку ўраніла, маладых блаславіла, сама к вянцу павяла».

Такая атрымалася ідылія!

Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, хоць быў паважным і заможным панам, але шчыра паважаў простага селяніна, бачыў у ім, не ў прыклад іншым панам, чалавека, як мог спрыяў яму. З пашанай ставіцца да сялян клікаў ён і ўсіх вяльможных паноў. Такім мастацкім «заклікам» была і паэма «Гапон».

Не ведаю, як для каго, а для мяне чытанне Дуніна-Марцінкевіча — свята. Бо яго творы я ўспрымаю як пісьмы з XIX стагоддзя. Яны — і жывыя сведкі часу, і творы мастацтва адначасова.

Так я чытаў «Гапона». Так чытаю «Вечарніцы» — народныя аповесці «Дурны Зміцер, хоць і хітры» і «Стаўроўскія дзяды». Смакую кожнае слова. Ужываюся ў жыццё герояў. Знаёмлюся з мінулым народным побытам, дыхаю паветрам даўно зніклай эпохі.

А вось разгарнуў паэму «Купала». Як маляўніча апісвае аўтар святкаванне ў народзе язычніцкага Купалля! Якая прастата і высокая маральнасць ва ўзаемаадносінах сельскай моладзі!

Такая вельмі значная падзея ў сялянскім жыцці, як дажынкі, стала асновай яшчэ адной вершаванай аповесці Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча — «Шчароўскія дажынкі». Колькі самабытных народных звычаяў, папраўдзе паэтычных малюнкаў вясковага жыцця раскрывае тут перад намі аўтар!

А як вобразна і дэталёва, з сапраўдным народным гумарам разгортвае-паказвае беларускі пісьменнік рытуал каранацыі ў Маскве рускага цара ў вельмі нечаканай па тэме «быліцы Навума Прыгаворкі» пад назвай «Халімон на каранацыі»! Нічога падобнага ў рускай літаратуры я не чытаў. Ці абмінулі рускія літаратары такую значную падзею сваёй гісторыі?

Шмат пазнавальнага і цікавага знаходжу я і ў польскамоўных творах беларускага дудара (так, і іх вымушаны быў ён пісаць) — «Благаславёная сям'я», «Славяне ў XIX стагоддзі», «З-пад Іслачы, або Лекі на сон», а таксама ў яго вершах.

А колькі выдумкі, іскрыстага гумару, нечаканых сюжэтных хадоў у драматычных творах Дунін-Марцінкевіча — у «Ідыліі», якая і сёння з поспехам ідзе ў нашых тэатрах, «Залёты» і «Пінская шляхта»! Апошняя камедыя стала папраўдзе народнай, яна вось ужо не адно стагоддзе бесперастанна ставіцца не толькі на сталічнай сцэне, але і шматлікімі калектывамі мастацкай самадзейнасці ва ўсіх кутках краіны.

Уладзіслаў Сыракомля называў Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча «сапраўдным гладыятарам» на арэне беларускай літаратуры. І тут няма перабольшання. У першай палове XIX стагоддзя, ды, можна сказаць, і да яго канца беларускія пісьменнікі вымушаны былі пісаць на польскай або рускай мовах і толькі ў выключных выпадках, у асноўным дзеля асветы народа, пераходзілі на беларускую мову, карэнную мову роднай зямлі. Творчасць на беларускай мове з прычыны адсутнасці беларускага друку ды і фактычна беларускага чытача была ў іх другараднай. Першы, хто зрабіў яе асноўнай, сваёй «рабочай» мовай, быў Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Ён, папраўдзе, як той гладыятар, смела і адкрыта выйшаў на арэну барацьбы за мову свайго народа. Гэта быў сапраўдны подзвіг пісьменніка. Тады ж уся шляхта, усё вяльможнае панства, як чорт ад ладана, жахалася ад «мужычай» мовы, пнучыся размаўляць і пісаць на «панскай» польскай мове, а то і французскай. Гаварыць па-мужыцку — азначала апускацца да мужыка-селяніна, самага ніжэйшага стану тагачаснага грамадства. Дунін-Марцінкевіч не пабаяўся стаць на бок селяніна, узвысіць праз друк яго мову. І тым самым выклікаў агонь на сябе.

Пра злосныя нападкі на беларускага паэта польскіх паноў мы ведаем з артыкулаў Уладзіслава Сыракомлі, таксама беларускага сваім духам пісьменніка, які скалой стаяў у абарону свайго сябра ад ненавіснікаў беларускай мовы. У вершаваным пасланні Уладзіславу Сыракомлю «Літаратурныя клопаты» Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч расказаў пра свае «хаджэнні па муках», каб данесці да чытача ўласныя творы, пра стаўленне да іх выдаўцоў, якія адразу ж вярталі гэтыя творы аўтару, крывячыся: «Нашто вы па-мужыцку пішаце, мой пане?»

Зрэдчас усё ж удавалася Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу пусціць у свет якое-небудзь сваё тварэнне. А як удавалася, як увогуле працавалася яму на ніве беларускай паэзіі, ён скардзіцца сябру Сыракомлю:

А што ж дае мая скупая ніва,
Быллём парослая? Шмат трэба працы,
Пакуль уробіш! Дык хачу прызнацца,
Што трачу дух. Я гэтак клапатліва
Шмат месяцаў тварыў, а ўвесь здабытак —
Што многа слоў пустых пачуў і крытык.
Здароўя шмат забрала гэта праца!

Якім паддаўся прыніжэнням, мукам,
Пакуль яе ўдалося выдаць друкам,
Табе, вястун, хачу цяпер прызнацца.

А выдаўшы кнігу, яе яшчэ трэба было прадаць, каб вярнуць хаця б частку затрачаных на выпуск грошай і, галоўнае, каб яе чыталі. Як вядома, непісьменны селянін не мог яе купіць. Паэту заставалася толькі прапаноўваць свае творы адукаванай шляхце, якая была апалячана, а то і афранцужана. Вось прадавец, расказвае аўтар, «кіруецца ў салон праслаўленай Цаліны», тыповай велікасвецкай пані з яе франкаманіяй:

Там модныя паненкі, панічы і пані
У самым наймаднейшым, дарагім убранні;
Свайго радзімага там не пачуеш слова.
Раскошы тыя ўбачыўшы, пачуўшы мовы тоны,
Падумаеш: Парыж тут адчыніў салоны.

Калі прадавец прапанаваў гаспадыні салона кнігі, яна, каб паказаць сваю «культурнасць», паслала дачок паглядзець іх: «Дзюма там ці Бальзак?», на што дачка Франя адказала:

«Nou, Maman! Мужыцкі твор, якісь «Купала».
«Ah mon Dieu! Як можна мову так паскудзіць!
Кінь гэтыя грымзолы, каб рук не пабрудзіць!..»

Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч выслухоўваў злыя насмешкі і знявагі апалячанага панства, зразумелую няўвагу да беларускіх кніг выдаўцоў і кнігароў, цярпеў немалыя матэрыяльныя страты, выпускаючы кнігі за свае ўласныя сродкі, але не адступаўся ад свайго. Біўся на арэне беларушчыны за свой народ да канца. Як гладыятар.

Зацікавіўшыся асобай Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, я аб'ездзіў у розны час, здаецца, усе яго мясціны. Мне хацелася даведацца, што жывіла творчасць беларускага дудара, якія захаваліся звязаныя з ім матэрыяльныя памяткі, як ушаноўваецца ён на сваёй «малой радзіме».

Пачаў я, натуральна, з месца нараджэння паэта. Як ведаем мы са школьных падручнікаў, нарадзіўся ён у фальварку Панюшкавічы Бабруйскага павета. У Бабруйск я лёгка даехаў поездам. Там завітаў да рэдактара раённай газеты, з якім дамовіўся пра паездку загадзя.

І вось весела паскакаў спрытны раённы «козлік» па грудах і выбоінах лясных і палявых прасёлкаў. Зялёналістыя, не змрочныя лясы і пералескі, раздолле палёў, расфарбаваныя жаўтацветам лугі. Зямля, што ўзгадвала нашага слаўнага пісьменніка.

Ад колішняга фальварка, дзе гаспадарыў бацька Вінцэнта Ян Дунін-Марцінкевіч — ні знаку. Нічога канкрэтнага пра той фальварак мы, вядома ж, не дапыталіся ў жыхароў невялічкан вёсачкі, што вырасла на яго месцы, займеўшы тую ж назву — Панюшкавічы. Ды адкуль ім што ведаць: амаль усе яны — перасяленцы з іншых вёсак.

Адзінае, што напамінае тут пра беларускага дудара, — гэта даволі высокая стэла на ўзбярэжжы ракі Бярэзіны з выявай паэта. Месца для помніка выбрана выдатнае, вось толькі сам помнік на мяне не зрабіў уражання: ён як бы зляплены наспех, дзе-нідзе ўжо адлушчыўся бетон. Хочацца думаць, што гэта помнік часовы, што некалі ўстане тут больш годны, варты памяці нашага выдатнага пісьменніка.

Помніцца мне і паездка ў былую Пяршайскую валасць Мінскага павета, дзе ў 1840 годзе асеў Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч у фальварку Люцінка і дзе пражыў да канца свайго зямнога быцця — цэлых 44 гады. Заехаў я туды

са сваім студэнцкім таварышам, пісьменнікам Іванам Чыгрынавым на маёй машыне.

У Люцінцы ад былой сядзібы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча засталіся толькі ўрослыя ў зямлю камяні падмурка на ўзвышэнні, да якога падступалі хаты невялікай вёсачкі. Мы хадзілі па колішнім селішчы пісьменніка, і мне ўявіўся ўтульны прасторны дом Марцінкевічаў, дзе кожны дзень гучалі галасы сямейнікаў, суседзяў і гасцей, дзе ў асобным кабінеце так добра працавалася за пісьмовым сталом гаспадару, перад якім адкрываліся з акна краявіды роднай зямлі, змяняліся адна за адной вёсны і зімы. Тут былі напісаны ці не ўсе творы беларускага дудара, пачынаючы ад «Ідыліі», «Гапона», «Вечарніц» і канчаючы «Залётамі» і іншымі п'есамі, паэмамі, быліцамі, вершамі. У доме пісьменніка гучала музыка, ставіліся спектаклі на яго п'есы. Тут жа працавала і арганізаваная ім школа, дзе вучыліся дзеці вяскоўцаў і дзе, дарэчы, атрымаў першапачатковую адукацыю пачынальнік беларускай прозы, пісьменнік Ядвігін Ш. Марцінкевічаў дом быў сапраўдным асяродкам беларускай культуры ў XIX стагоддзі.

Мы доўга тупалі з Іванам па былым селішчы Марцінкевічаў і апанурана думалі не толькі пра нелітасцівы разбуральны час, але і пра нашу ўсеагульную абыякавасць да ўласных святыняў, да дарагіх памятак мінулага. На добры лад, ужо даўно трэба было ўзнавіць тут сядзібу першага беларускага пісьменніка-класіка, сапраўднага патрыёта роднай зямлі, паказаць у ёй увесь тагачасны побыт, тыповы побыт шляхецкага двара XIX стагоддзя. Каб сюды, у сядзібу-музей, прыходзілі школьнікі і студэнты, усе, хто любіць і шануе нашу культурную спадчыну, хто хоча ведаць, як жылі нашы далёкія продкі.

Са сваёй Люцінкі Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч выязджаў часам у новую дарогу, каб зведаць і іншыя куткі Беларусі, пашыраючы тым самым тэматыку сваёй творчасці.

З адной такой адлучкі ён прывёз славуты драматычны твор «Пінскую шляхту». У пачатку твора аўтар пазначае: «Дзея адбываецца ў ваколіцы О... паміж балотаў, у глушы Пінскага павета». Пры шматлікіх публікацыях гэтай невялікай, але вельмі змястоўнай камедыі я чамусьці не знаходзіў расшыфроўкі той загадкавай «ваколіцы О...» Мне заўсёды здавалася, што аўтар проста прыдумаў гэтую ваколіцу, прыдумаў і герояў твора — надта ж адпавядалі прозвішчы персанажаў нейкім рысам іхных характараў: Кручкоў, Пісулькін, Пратасавіцкі, Цюхай-Ліпскі...

Якое ж было маё здзіўленне, калі як удзельнік адной этнаграфічнай экспедыцыі на Пінскае Палессе я трапіў у гэтую самую «ваколіцу О...»! Аб'язджаючы на акадэмічным аўтобусіку вёскі Столінскага раёна, які раней уваходзіў у Пінскі павет, мы спыніліся ў адной з іх — у Ольпені. Тутэйшы настаўнік, які якраз трапіўся нам на вуліцы, паведаў, што гэта ж акурат тут адбывалася дзеянне камедыі «Пінская шляхта», што тая загадкавая «ваколіца О...» і ёсць гэты во Ольпень! Усё правільна: і аднаго ж з персанажаў камедыі Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч назваў — Альпенскі, Цімох Альпенскі.

Мы з цікавасцю аглядалі старасвецкія хаты з патрэсканымі бярвёнамі сцен, з маленькімі прыземістымі вокнамі, з якіх выглядвалі на нас, невядомых прыхадняў, старэнькія, з такімі ж пазамі-маршчынамі на тварах, як і ў сценах, бабулькі і дзядкі — жывая пінская шляхта!

Маладая круглатварая шляхцянка, што падышла пад наш аўтобус, нават паказала хаты, дзе і цяпер жывуць... Цюхай-Ліпскія і Пратасавіцкія! І мы заходзілі да нашчадкаў Марцінкевічавых персанажаў у хаты і гаманілі з імі, як з самымі звычайнымі людзьмі!

Настаўнік пад'ехаў з намі і ў недалёкую школу, дзе ў невялікім музейчыку паказаў пад шклом пажоўклыя ад часу паперы-дакументы, на якіх мы таксама прачыталі засведчаныя гербавымі пячаткамі прозвішчы Цюхай-Ліпскіх і Пратасавіцкіх.

Зрэшты, чаго мне далёка было хадзіць, каб даведацца пра існаванне рэальных герояў «Пінскай шляхты». Аказваецца, я даўно ўжо ведаў, і не толькі ведаў, а нават пахаўрусаваў з адным Цюхаём-Ліпскім! Кажу не пра каго іншага, як пра нашага вядомага беларускага пісьменніка, старшыню Беларускага дзіцячага фонду Валодзю Ліпскага! Вось толькі не папытаўся я яшчэ ў Валодзі, на якой дарозе згубіў ён свой родавы прыдомак Цюхай.

Трохі пазней пра Цюхай-Ліпскіх, пра ваколіцу Ольпень, пра паездку туды Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча я ўзахлёб прачытаў у «ЛіМе» і нарыс Уладзіміра Ліпскага «Дунін-Марцінкевіч і пінская шляхта». Нашчадак Марцінкевічавых герояў намерыўся дакапацца і дакапаўся-такі да вытокаў, да жыццёвай асновы знакамітай камедыі. Аказваецца, зачэпкай для яе паслужыла адна вельмі гучная судовая справа пра ольпенскіх Цюхаеў-Ліпскіх, якіх самыя высокія ўлады змушалі перакінуцца з каталіцкай у праваслаўную веру. Заведзеная ў Мінскай духоўнай кансісторыі загадам губернскага кіраўніцтва, гэтая справа («Справа № 39»), якая была распачата 17 лістапада 1837 года, цягнулася не многа, не мала — трыццаць тры гады! Трыццаць тры гады абараняліся ўпартыя Цюхай-Ліпскія ад неадчэпнага націску высокіх чыноўнікаў, якім вельмі карцела вярнуць у «истинную веру» гэтыя «заблудшие души». Не адзін раз цягалі ольпенскіх неслухаў у Мінск да самога праваслаўнага архіепіскапа. А калі і гэта не памагло, ольпенскімі Цюхаямі заняліся ўсемагутны Сінод і нават сам гасудар Расійскай імперыі. Ды, як выявілася, пінскай шляхце і намеснік Бога на зямлі быў не ўказ! Не паслухаліся нязломныя Цюхаі-Ліпскія цара-бацюшку! Не здрадзілі веры сваіх продкаў!

Ці ж мог не зацікавіцца сапраўды народны (хай і без звання) беларускі пісьменнік Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч такімі праявамі паляшуцкіх характараў? От і пакаціў на параконнай брычцы люцінскі гаспадар у палескую глушэчу, у самае гняздо непакорлівых Цюхаеў-Ліпскіх, у іхнюю «суверэнную дзяржаву» — ваколіцу Ольпень. Напрасіўшыся ў некага з іх ці ў іншага ольпенца на пастой, пачаў наш пісьменнік гаманіць з людзьмі, вывучаць іх жыццё-быццё, паляшуцкія норавы і характары. І, мусіць, нямала там сядзеў-вывучаў, калі нават іхнюю гаворку, адметны паляшуцкі дыялект беларускай мовы здолеў вывучыць. Ды так вывучыць, што і твор свой напісаў на гэтай гаворцы.

Уладзімір Ліпскі ў сваім нарысе прыадкрыў яшчэ адну таямніцу Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча: вытокі яго паэмы «Халімон на каранацыі». Хто з нас не задумваўся: як мог так дакладна і вобразна намаляваць пісьменнік каранацыю расійскага цара, самую Маскву? Нідзе ж у біяграфіі Дуніна-Марцінкевіча і згадкі няма пра яго паездку ў Маскву на такую важную ўрачыстасць. Знайшоў Валодзя Ліпскі адгадку і гэтай загадкі. «Спроба літаратурнага адкрыцця» — так сціпла вызначыў ён жанр свайго нарыса пра Дуніна-Марцінкевіча і пінскую шляхту. Ды гэта ж не спроба, а можна сказаць пэўна, само адкрыццё, сапраўднае даследаванне, якім ён проста ўцёр нос некаторым дыпламаваным вучоным-даследнікам. От табе і Цюхай!

Добра пашукаўшы, можна знайсці рэаліі і іншых твораў Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Скажам, паэм-быліц «Шчароўскія дажынкі», «Стаўроўскія дзяды». Чытаючы гэтыя творы, я чамусьці быў упэўнены, што

гэта прыдуманыя аўтарам назвы. Аказваецца, не: і Шчаўры, і Стаўры — зусім рэальныя беларускія вёскі ці засценкі. Выпала так, што і ў гэтыя селішчы трапіў я недзе ў 70-х гадах з фальклорнай экспедыцыяй Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору нашай акадэміі навук. Разам з вядомымі нашымі фалькларыстамі Арсенем Лісам, Іванам Цішчанкам, Анатолем Фядосікам, Антонам Гурскім, Леанілай Малаш-Аксамітавай і, здаецца, Майсеем Грынблатам. Знаходзіліся абедзве вёсачкі, калі не памыляюся, у Крупскім раёне. Стаялі яны блізка адна каля адной, праз нейкі выган. І мы запісвалі народныя песні і абрады і ў Шчаўрах, і ў Стаўрах. Тут таксама хадзіў некалі Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. І, як бачым, вярнуўся адтуль не без плёну.

Вельмі добра было б выявіць, на чым засноўваў свае творы Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Гэта дапамагло б нам раскрыць вытокі яго творчасці, лепш зразумець нашага выдатнага пісьменніка сярэдзіны XIX стагоддзя, выразніка дум свайго народа, яго шчырага абаронцу.

Пра Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча пісалі шмат. І, вядома ж, будуць пісаць яшчэ. Гэта — сапраўды велічная постаць у нашай літаратуры. І ўсебакова, ва ўсёй глыбіні раскрыць творчасць выдатнага нашага пісьменніка — пачэсная задача літаратуразнаўства. Тут жа я падаў толькі асобныя штрышкі да яго творчага партрэта, якія, спадзяюся, таксама прыдадуцца ў далейшым спасціжэнні нашага класіка XIX стагоддзя.





▸ АЛЕНА ЯСКЕВІЧ

# З КЛОПАТАМ ПРА АЙЧЫННУЮ ДРАМАТУРГІЮ

Пяру Сцяпана Лаўшука належаць шмат кніг і сотні артыкулаў у розных энцыклапедычных і навуковых выданнях, у перыёдыцы. Сярод найбольш значных яго прац: «Сучасная беларуская драматургія» (1977), «Станаўленне беларускай савецкай драматургіі» (1984), «Кандрат Крапіва і беларуская драматургія» (1986, 2002), «На драматургічных скрыжаваннях» (1989), «Беларуская літаратура і праблемы сучаснасці» (1978, у сааўтарстве), «На парозе 90-х» (1993, у сааўтарстве), «З думкай пра сучасніка» (1977), «Першы народны артыст БССР» (1982), «Высокія арбіты грамадзянскасці» (1984). Ён сааўтар «Истории белорусской советской литературы» (1977), «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры» (т. 1, 1981; т. 2, 1982); «Нарысаў па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязей» (т. 2, 1994; т. 3, 1994; т. 4, 1995); «Гісторыі беларускай літаратуры» (1999), «Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя» (т. 1—4, 1999—2003), ім ажыццёўлена падрыхтоўка і выданне «Твораў Уладзіслава Галубка» (1983), Збора твораў Кандрата Крапівы (т. 1—3, 1998—2000), зборнікаў «Беларуская дакастрычніцкая драматургія» (1978), «Хлопчык у лесе» (1992) і інш.

Ажыццяўленню такіх працаёмкіх, комплексных па сваёй структуры даследаванняў папярэднічалі велізарныя распрацоўчыя пошукі, якія далі плён у выглядзе раздзелаў «Гісторыі беларускай літаратуры», тэматычных зборнікаў, прысвечаных спецыяльнаму заглыбленню ў паасобныя канкрэтныя перыяды і тэмы.

Працы С. Лаўшука ўражваюць шырынёю і шматаспектнасцю пастаноўкі даследчых задач: вытокі і своеасаблівасць шляхоў станаўлення айчыннай драматургіі, народнаадкрывальніцкая, адраджэнская місія «маладанацыянальных» літаратур, канцэпцыя народнага тэатра, праблема нацыянальнага рэпертуару, месца творчай індывідуальнасці ў літаратурным працэсе, нарэшце, складаныя перыпетыі літаратурнай барацьбы ва ўмовах пралеткультаўскай эстэтыкі і тэорыі бесканфліктнасці. Комплексны характар даследаванняў абумовіў напружаную іх кампазіцыю. Аўтар разгортвае цалкам абноўленую, паводле творчага працэсу перыядызацыю айчыннай драматургіі. Літаратурна-тэатразнаўчы падыход вучонага дазваляе рабіць аналіз «двухсюжэтным» у кожнай ячэйцы даследавання. Асабліва важны гэты двайны погляд для вызначальна-вытокавых работ, у якіх прасочваец-

ца змена літаратурных пакаленняў на мяжы стагоддзяў, нараджэнне ўласна прафесійнага тэатра, назапашванне першага нацыянальнага рэпертуару і ўзнікненне тэатральных калектываў І. Буйніцкага, А. Бурбіса, Ф. Аляхновіча, Ф. Ждановіча, пазней тэатра У. Галубка. Такія кнігі, апрача ўсяго, цікавыя ўвядзеннем новага, забытага матэрыялу, з сапраўднай увагай да літаратурных фактаў, дзе прааналізаваны, пастаўлены ў мастацкі рад, можна сказаць, згубленыя ўжо з поля зроку даследчыкаў сцэнічныя творы К. Вясёлага, К. Буйлы, Л. Родзевіча, З. Бядулі, Я. Быліны, А. Паўловіча, ранняя драматургія Якуба Коласа, У. Галубка, М. Гарэцкага, Ц. Гартнага. Своеасаблівым адкрыццём выглядае новая паглыбленая трактоўка «Раскіданага гнязда» Янкі Купалы. Трэба адзначыць, што гэты надзённейшы для свайго часу і праграмны для самога аўтара твор пазнейшымі пакаленнямі даследчыкаў быў да таго сацыяльна схематызаваны, што фактычна застаўся непрачытаны па-сапраўднаму. У дадзеным выпадку ідэйна-мастацкім ключом для даследчыка паслужыла, так бы мовіць, экзістэнцыяльная ўвага да законаў псіхалогіі творчасці, матываў і самой гісторыі напісання твора.

«Я. Купала, — як зазначае С. Лаўшук, — у сваіх пакутлівых пошуках сэнсу жыцця як бы паслядоўна прайшоў шляхам кожнага персанажа. Быў час, калі яму здаваўся адзіна правільным выбар Данілкі, які бачыў панацэю ад усіх жыццёвых антыномій у музычным мастацве. Жыццё вельмі хутка развеяла гэтае памылковы погляд. Тое самае атрымалася і з думкамі, якія ў п'есе выспавядалі Зоська, Марыля, Лявон.

Вядома ж, інтэлігентнай натуры Янкі Купалы па-чалавечы блізкай была жыццёвая пазіцыя гэтых персанажаў, аднак менавіта яна падвераглася найбольш бязлітаснаму выкрыццю, бо аўтар добра разумеў бесперспектыўнасць ілюзорнай надзеі на мірнае вырашэнне антаганістычнага канфлікту паміж землеўласнікамі і працоўным сялянствам... Разам з тым яго ўсё ж трывожыла перспектыва крывавых сутычак: таму п'еса завяршаецца сэнсавым шматкроп'ем: Сымон і Незнаёмы настроены цалкам радыкальна, але яны накіроўваюцца «не ў баявыя дружыны, а на Вялікі сход».

У цэлым даследчык, дзякуючы сваёй двухгаліновай спецыялізацыі, змог раскрыць сапраўдную «лабараторыю» творчага працэсу з тымі важнымі тонкімі прафесійнымі момантамі, якія не маглі ўбачыцца толькі з літаратурнага ці, прынамсі, з тэатральнага боку. Не можа не ўражваць спектр творчых шуканняў маладой нацыянальнай драматургіі: Ц. Гартнаму ў тую пераломную эпоху тэатр уяўляўся гераічным, У. Галубку — рамантычным, паводле Якуба Коласа, наадварот, пабудаваным на бытавых, а А. Вазнясенскаму — на эпічных пачатках.

Сцяпан Лаўшук бачыць нацыянальную драматургію родапачынальнага перыяду адкрытай для самых разнастайных мастацкіх плыняў, знаходзячы плённым выкарыстанне элементаў сімвалізму, мадэрных прыёмаў у «Раскіданым гняздзе» Янкі Купалы, «Пакрыўджаных» Л. Родзевіча, «Антосе Лаце» і «На дарогах жыцця» Якуба Коласа, «Страхах жыцця» і «Ценях» Ф. Аляхновіча. У сувязі з праблемай фарміравання народнага тэатра, выхаваннем катэгорый нацыянальнага гледача ўяўляецца тэарэтычна мэтазгодным аўтарскае ўспрыманне меладрамы як «жанру перыяду рушэнняў і сацыяльных катаклізмаў» («Бязвінная кроў», «Праменьчык шчасця», «Бязродны», «Ганка» У. Галубка; «Калісь», «Дзядзька Якуб», «Страхі жыцця», «Цені» Ф. Аляхновіча).

Развіццё тэатральнага працэсу прадстаўляецца С. Лаўшуку яшчэ досыць эксперыментальным, часам фарміравання буйных прафесійных калектываў: трупы беларускіх артыстаў пад кіраўніцтвам Галубка і Беларускі дзяржаўны тэатр. У далейшым даследчык не спрашчае сітуацыю, кваліфікуючы наскокі

пралеткультаўскай крытыкі на этнаграфізм, што ў нашых умовах мусіў выконваць важнейшую народнаадкрывальніцкую функцыю, як першыя сімптомы расправы з адраджэнствам, якая ўжо дае пра сябе знаць напрыканцы 20-х гадоў у абвінаваўчым выступленні В. Вольскага супраць п'есы В. Шашалевіча «Апраметная». Вучоны ўсёй знясіленай практыкай нацыянальнай драматургіі пераканаўча паказвае, як сумна вядомай эстэтыкай бесканфліктнасці і вульгарна-сацыялагічных падыходаў літаральна падкошвалася драматычная творчасць, якая без канфлікту асуджана на паступовае мастацкае згасанне.

Былыя члены заўчасна прыпыненага згуртавання «Узвышша» К. Чорны і К. Крапіва сёе-тое з яго глыбока творчай праграмы імкнуліся супрацьпаставіць так званаму калектывізму «Масавага тэатра». Прыняўшы на творчае ўзбраенне тэорыю «Жывога чалавека», ідэю «малых спраў», яны ў тэорыі і практыцы паўставалі на абарону мастацкіх прыярытэтаў драматургіі, адстойваючы правы эстэтычнага аналізу, псіхалагізму, гістарызму. У адрозненне ад папярэдняга вытокавага, дадзены перыяд выглядае творча разрэджаным, у актыве нацыянальнай драматургіі з яго застаюцца «Тутэйшыя» Янкі Купалы, «Сымон Карызна» М. Зарэцкага, п'есы К. Крапівы, з якіх праблемнай сцэнічнай культурай вылучаецца «Хто смяецца апошнім».

Перыяд 40-х — першай палавіны 50-х гадоў даследчыкам, як гэта і прынята апошнім часам, ацэньваецца найменей плённым з усіх літаратурных этапаў. За ваенныя гады не напісана і дзесяці п'ес, якія, за выключэннем «Пробы агнём» К. Крапівы і «Круці не круці — трэба памерці» Ф. Аляхновіча, паспешліва сыходзілі са сцэны з першай іх пастаноўкі. Ды і ў пасляваенныя гады з зачараванага кола ўстановак тэорыі бесканфліктнасці, з путаў сацыялістычнай ідэалізацыі змаглі выбавіцца толькі К. Крапіва («Мілы чалавек»), А. Макаёнак («Выбачайце, калі ласка»), ды поспехам свайго часу карысталіся гераічныя драмы «Канстанцін Заслонаў» А. Маўзона і «Брэсцкая крэпасць» К. Губарэвіча. Сацыяльны заказ на буйныя высокамастацкія творы ў разгар ваенных падзей відавочна ўступаў у супярэчнасць з законамі творчай псіхалогіі. Пра немажлівасць непасрэднага мастацкага адлюстравання падзеі, пакуль яна адбываецца, маюцца шматлікія аўтарскія сведчанні. «Пакуль вы знаходзіцеся пад уплывам жарсцей, — пісаў Дж. Байран, — вы толькі адчуваеце і не можаце пісаць, як не можаце звяртацца да свайго суседа і апавядаць яму пра здарэнне, пакуль не дзейнічаеце. Калі ўсё адбылося, абсалютна ўсё і назаўсёды, даверцеся сваёй памяці, яна тады нашмат аб'ектыўнейшая». Патрэбна была мінімальная часавая аддаленасць ад падзей, каб з-пад пяра К. Крапівы з'явіўся «Мілы чалавек», п'еса пра ганебных прыстасаванцаў ваеннага часу, выкананая ў наватарскай тэхніцы, з прадбачаннем многіх мадэрнісцкіх прыёмаў, якую належыць аднесці не толькі да найважнейшае асабістае ўдачы драматурга, але і найлепшых дасягненняў нашай сатырычнай камедыяграфіі. Махлярствы «мілага чалавека», прадпрымальнага прайдзісвета Жлукты — тыповая грымаса бізнесу, яны, як нельга лепш, праецыруюцца і на сённяшнюю рэчаіснасць з яе непрыкрыта злачынным накапляльніцтвам.

У цэлым даследчыкам пры ацэнцы названага перыяду вытрымана мера аб'ектыўнага мастацкага аналізу і сацыяльна-псіхалагічнага ўспрымання часу, якая дазволіла ўбачыць, побач з творчым скоўваннем, і пазітыўныя бакі літаратурнага развіцця, нарастанне найперш у драматургіі моцнага творчага і тэарэтычнага супрацьдзеяння лакіровачным тэндэнцыям, што пазней вылучаць беларускіх драматургаў ва ўсесаюзны авангард напярэдадні «адлігі» 60-х гадоў («Мілы чалавек» і тэарэтычныя выступленні К. Крапівы, «Выбачайце, калі ласка» А. Макаёнка). Дзякуючы дыялектычна тонкаму адрозненню літаратурнага і сцэнічнага бакоў у творы, дослед-

чык дае, можна сказаць, стылёва завершаную трактоўку лепшым мастацкім дасягненням гэтага перыяду, разам з тым развенчваючы шматлікімі доказамі эстэтыку бесканфліктнасці як антыэстэтыку, асабліва згубную для драматычнай творчасці. У дадзеным выпадку Сцяпан Лаўшук у лепшых традыцыях айчыннага літаратуразнаўства адстойвае аўтаномную функцыю літаратурнай тэорыі, пра якую Ю. Тынянаў некалі выказаўся так, што нават калі б само мастацтва прыйшло ў заняпад, дык і тады тэорыя застанецца сама сабой, прынамсі, каб вытлумачыць прычыны гэтага заняпаду.

За сорак апошніх гадоў, — на думку даследчыка, — нацыянальная драматургія зведала ўзлёт камедыяграфічнага эксперыменту А. Макаёнка (трагікамедыя — народны лубок, трагікамедыя — памфлет, камедыя — рэпартаж, сентыментальны фельетон), лебядзіную песню К. Крапівы ў фантасмагарычнай камедыі «Брама неўміручасці», сапраўднае ўзмужненне драматычнага таленту М. Матукоўскага ў «Амністыі», «Апошняй інстанцыі», «Мудрамеры», стварэнне цэлага пласта гістарычнай драмы У. Караткевічам, А. Петрашкевічам і пазней дэбютаваўшым у драматургічным жанры І. Чыгрынавым. На творчай культуры папярэднікаў змог рэалізавацца ўжо цалкам сучасны па выяўленчых прыёмах талент А. Дударава, якому ранейшае акцёрскае амплуа пасобіла ўзгадніць у «Парозе», «Вечары», «Радавых» сцэнічную тэхніку з эмацыянальным успрыманнем сённяшняга гледача. Перыяд так званае перабудовы даследчык ацэньвае сінхронна з іншымі літаратурнымі родамі як глыбока-крызісны стан драматургіі.

Для гісторыка-тэарэтычных даследаванняў такога цэласнага аб'ёму надзвычай важна правядзенне футуралагічных, прагназуючых ліній літаратурнага працэсу. У работах Сцяпана Лаўшука яны ёсць, па меншай меры рэтраспектыўна пазначаны ў выглядзе магчымых варыянтаў развіцця.

Творчая дзейнасць С. Лаўшука атрымала высокую ацэнку ў навуковай грамадскасці, сведчанне таму — узнагароджанне яго ордэнам Францыска Скарыны.

Са шчырым гаспадарскім клопатам даследчык зазначае: «Сёння Беларусь, яе сцэнічнае мастацтва, апынулася на такім лёсавызначальным гістарычным пераломе, калі без спробы зазірнуць за завесу, якая аддзяляе нас ад заўтра, не маюць сапраўднага плёну ніякія даследаванні сучасных праблем мастацтва, літаратуры, жыцця ўвогуле. Камо грядеши? Каб зноў не аказацца пасынкамі лёсу, нам трэба «пралічыць» сваю будучыню. Каб заставацца патрэбным людзям, тэатру неабходны вялікія ідэі».

Сёння Сцяпан Сцяпанавіч Лаўшук у росквіце творчых сіл. Дабрыня, працавітасць, мэтанакіраванасць даюць яму крылы для новых навуковых узлётаў, задум і творчых адкрыццяў.





## КСЕНАФОНТ ЛЕЦКА

# У СВЯТЛЕ ФАЛЬКЛОРНЫХ ВЫТОКАЎ

## 1. Каляндарна-абрадавая паэзія

Пры даследаванні фальклорных вытокаў і генезісу беларускага рамантызму XIX стагоддзя на матэрыяле народных казак, легендаў, паданняў і балад (Полымя, 2003, № 7, с. 167—187) аўтар гэтых радкоў ужо адзначаў, што дадзеная праблема не можа быць належным чынам вырашана без народнай песеннай творчасці, якая, як вядома, складае аснову каляндарна-абрадавай, сямейна-абрадавай і пазаабрадавай паэзіі. Больш таго, жанр песні ў вуснай славеснасці вельмі багаты і разнастайны сярод іншых жанраў беларускага фальклору.

Прыступаючы да працягу ранейшага навуковага даследавання, спачатку адзначым, што ўзнікненне фальклорнай песеннай творчасці звязваецца з зямным паходжаннем свайго роднага краю і цікава вытлумачваецца ў легендах «Адкуль песня» і «Адкуль песня беларуская». Апошні з названых намі твораў кажа пра гэта так: «Ці то полем, ці то лесам ішлі тры падарожнікі. Ішлі яны тры дні і тры ночы, ды яшчэ паўдня. Прытаміліся. Прыселі. Раптам чуюць — спявае нехта. Прыслухаўся першы:

— Відаць, жаўранак.

— Не, — кажа другі, — гэта лес шуміць.

А трэці прыпаў вухам да зямлі і прашаптаў:

— Ды гэта ж зямля наша спявае».

У прадмове да зборніка «Народныя песні» нямецкі філосаф, пісьменнік і асветнік Ёган Готфрыд Гердэр адзначае: «...Не падлягае сумненню, што паэзія, і ў асаблівасці песня, была напачатку цалкам народнай, гэта значыць лёгкай, простай, якая ідзе да саміх прадметаў, і стваралася на мове мас, а таксама самой прыроды, багатай і адчувальнай для ўсіх. Песня патрабуе масы, сугучнасці многага: ёй неабходна вуха слухача і хор галасоў і душ. Яна ніколі не змагла б узнікнуць як мастацтва літар і складоў...». Рамантыкі падкрэслівалі калектыўны характар гэтага роду непісьмовай славеснасці і зроўнівалі яе з моваю. На думку тэарэтыкаў рамантызму, мова чалавека па сваёй прыродзе і паходжанні пачыналася з паэзіі, якая была сама па сабе народнаю, і таму яна — выток і аснова кожнай літаратуры. «Сюжэты і кантэксты беларускія, — як слушна заўважаюць некаторыя польскія даследчыкі, — абазначыліся перш за ўсё ў песеннай творчасці і ў «міфалогіі» рамантызму». Цесна звязаныя са старажытнейшымі жанрамі фальклору, вершы песеннага

складу за працяглы перыяд свайго існавання прайшлі значны шлях развіцця і занялі ў беларускай народна-паэтычнай творчасці адно з важнейшых месцаў. Беларускія песні, па словах Адама Кіркора, перш за ўсё дайшлі да нас з крыніц міфалагічных. З гэтага пункту гледжання яны багацейшыя за ўсе славянскія». Як заўважыў у свой час вядомы фалькларыст і этнограф А. Я. Багдановіч, «беларускія песні, — гэта агульнапрызнанае люстэрка народнай душы».

Непісьмовая славеснасць у такой яе форме, як песня, яе прыёмы, матывы і г.д. як бы пракладвалі асобную сцяжыну ў літаратуры эпохі рамантызму. Гэтая форма народнай лірыкі стала для рамантыкаў сапраўднай школай паэзіі, прыкладам для пераймання і творчага засваення. Узнікла свайго роду разнавіднасць лірыкі, якая ўяўляе сабой шматлікія варыяцыі народных песень. Дастаткова ўспомніць некаторыя арыгінальныя вершы-песні Яна Чачота (часта без змен або з апрацоўкаю ў выглядзе рамансаў), устаўкі песеннага фальклору ў творах В. І. Дуніна-Марцінкевіча, а таксама заснаваныя на беларускім фальклорным матэрыяле песні Уладзіслава Сыракомлі (Людвіка Кандратовіча), Вінцэся Каратынскага, Францішка Багушэвіча, Валяр'яна Грымалоўскага і іншых.

Генетычныя карані беларускага рамантызму XIX стагоддзя праявіліся не толькі ў абрадавай, але і ў пазаабрадавай песеннай паэзіі, што, як і іншыя разнавіднасці непісьмовай славеснасці, не пазбаўлена і рэалістычнай канкрэтызацыі. Паколькі таго патрабуе агульнапрынятая паслядоўнасць пры класіфікацыі такога роду вусна-паэтычнай творчасці, мы звернемся спачатку да каляндарна-абрадавай паэзіі, якую яшчэ называюць песнямі гадавога круга, што ўключаюць зімовы, веснавы, летні і асенні цыклы і складаюць адпаведна чатыры перыяды земляробчага календара. Гэты кругаварот у гаспадарчай дзейнасці чалавека, як і ў самой прыродзе, набыў надзвычай шырокае рамантычнае і рэалістычнае адлюстраванне ў беларускім фальклоры і літаратуры.

Народныя песні зімовага перыяду земляробчага календара, нягледзячы на іх відавочную бытаапісальнасць і абраднасць, напоўнены рамантычнай верай руплівых гаспадара і гаспадыні ў магічны сэнс пажаданняў калядоўшчыкаў, якія выконваюць калядныя, шчадроўскія вершы песеннага складу. Аналагічныя асацыяцыі выклікае варажба дзяўчат у навагоднюю ноч, што прагнуць даведацца пра свайго будучага жаніха, ад шлюбу з якім у многім залежыць іх далейшы лёс. У некаторых песнях зімовага цыклу выказваецца скарга герояў на свой лёс, які залежыць ад волі Усявышняга («А не даў мне Бог долі»), ад жыццёвых абставін («Ай, гора, гора ў маёй галаве»), часам заўважаецца сувязь з сюжэтам чарадзейнай казкі пра мачыху і сірату («Ой, Божа, Божа, кагда тэй вечар будзе»). Рамантычнай вобразнасцю вызначаюцца велічальныя песні, дзе, напрыклад, гіпербалізуецца хата гаспадара, якая нагадвае казачны палац. Тыя ж стылёвыя адзнакі набывае тут «вельмі пашыраны матыў параўнання гаспадара і членаў яго сям'і з сонцам, месяцам, зорамі і хмарай» (А. Ліс). Рысамі рамантызму надзелены персаніфікаваны антрапамарфічны вобраз Каляды і ўсяго таго, што з ёю звязана:

Прыехала каляда на белым коні,
Яе конічак — ясен месячык,
Яе дужачка — ясна зорачка,
Яе пужачка — ясна звёздачка,
Яе вазочак — з тоўстага лядку,
Яе кажушок з белага сняжку.

Нельга не заўважыць, што некаторыя калядныя песні вызначаюцца павышаным лірызмам, які, як вядома, у многім сугучны рамантычнай настра-

ёвасці. Аднак гэтая якасць аказваецца яшчэ больш характэрнай для іншых песенных твораў гадавога цыклу, пра што сведчаць веснавыя, купальскія і пятроўскія песні.

Роднасныя праявам рамантызму тэндэнцыі, якія мы знаходзім у веснавой песеннай паэзіі фальклорнага паходжання, прыкметна заўважаюцца ў адлюстраванні самой прыгажосці веснавога абуджэння прыроды і радасна прыўзнятага настрою чалавека ў час гэтай пары года, якая, акрамя земляробчай тэматыкі, пераважна лучыцца тут з парою заляцання і кахання маладых людзей («Ой, што вясна, то вясна», «Ой, вясна, вясна», «Ой, вясна, ой красна», «Ой, прыйшла вясна красна!», «Вясна ж красна ж, гэй, гэй, гэй!», «Ой, вясна мая, вясёначка», «Але ўжэ вясна, вясняначка», «Вясна-вясенечка», «Ой, вясна мая, вясняначка», «Ой, вясна красна, вясеначка», «Ой, вясна, вясна, вясененнечка»). Сярод вершаваных твораў такога роду ёсць нямала песень, дзе захаваліся рэлігійныя вераванні людзей і іх звароты да святых:

Благаславі, Божа,
Прачыстая Маці,
Вясну загукаці,
Зіму замыкаці.

Узнёсла-рамантычнай паэтызацыяй вызначаецца вобраз Прасвятой Багародзіцы ў песнях пра Тройцу. Заўважаецца пэўны ўплыў рэлігійных легенд пра Георгія Перамаганосца ў т.зв. юраўскіх песнях, дзе пры відавочнай спрошчанасці святога Юрыя і яго земляробчых спраў ёсць прыкметы рамантызацыі, якія надаюць герою незвычайныя цудадзействы ўсясветнага маштабу:

Ты, Юр'я, свенты ключнік,
Сядлай каня варанога,
Едзь у поле чыстае,
Адамкні зямлю, пусці расу,
Пусці расу на ўсю вясну,
І густую, і частую,
І цёплую, і мокрую,
І на ўвесь свет,
На кожны цвет[1].

Некаторыя веснавыя песні, не пазбаўленыя асобных рыс сентыментальна-рамантычнай пачуццёвасці, перадаюць надзеі, спадзяванні і пажаданні людзей на добры ўраджай і шлюбнае шчасце. Замілаваннем і пяшчотаю прасякнуты вобразы-сімвалы вяснянак, дзявочага вянка, гуканне вясны. Рамантыка-рэалістычнай двухпланавасцю пазначаны русальныя песні «На граной нядзелі», «Правяду русалку», «Русалачка, купалачка» і інш. Такім жа прынцыпам мастацкага стылю адпавядае паэтызацыя ідэальнай прыгажосці маладой дзяўчыны ў песенным вершы «Па лужкам, лужкам, лужкам»:

Адна дзеўка крашы ўсіх,
Па прыбору луччы ўсіх,
Па прыбору луччы ўсіх,
У касе лента шыры ўсіх.

Як творы пра каханне іншых жанраў фальклору, так і веснавыя народныя песні ўпадабняюць любоўныя заляцанні маладога хлопца да дзяўчыны плаванню весляра па воднай прасторы («А на рэчцы, рэчаньцы»). Аднак такі паралелізм можа заключаць у сабе рух чоўна з трагізмам няўдалага кахання юнака («Плаваў чаўнічок», «Плаваў чаўночак па рэчаццы», «Плаваў чаўнок па рэчцы»). На глебе нешчаслівай любові дзяўчыны ўзнікае ў адным з вершаваных твораў роднасны рамантызму матыў уцёкаў гераіні ў прыроду: «Пайду з гора я ў чыстае поле, У кучаравы цёмны лес». У веснавых песнях нам бачацца многія матывы і вобразы, іх усемагчымыя пераўвасабленні, багацце моўна-выяўленчых прыёмаў

[1] Дарэчы, Юр'еў конь і абагульнены вобраз гэтага скакуна трывала «прапісаўся» ў беларускай народна-песеннай паэзіі амаль усяго веснавога цыкла.

і сродкаў, на якіх мы падрабязна не спыняемся, паколькі яны маюць шмат агульнага са стылёвай манерай іншых жанраў фальклору, якія прааналізаваны намі ў папярэднім артыкуле пра вытокі і генезіс беларускага рамантызму XIX стагоддзя.

Рамантычнай настраёвасцю вылучаюцца велікодныя і валачобныя песні, што выконваліся на працягу велікоднага тыдня. Яны, як і песенныя творы пра вясну, перадаюць радасныя воклічы-весткі, якія гучаць велічна і ўрачыста паводле аднаго з вядучых рэфрэнаў «Вясна красна на ўвесь свет»! Па-ранейшаму згадваецца пра святога Юрыя і пра яго гаспадарскія абавязкі, якія ён павінен з цудадзейным умельствам выконваць у веснавы перыяд. Разам з тым гэтыя матывы дапаўняе і ўзбагачае разгорнуты ледзь не касмічна-маштабны паралелізм магутнай прыроды і постацей валачобнікаў:

А з-пад лесу, лесу цёмнага,
Вясна красна на ўвесь свет!
А з-пад гаю, з-пад зялёнага
Ці не тучка йдзець, ці не воблачка?
А йшлі ж тудой валачобнікі,
Валачобнікі — людзі добрыя.

«Мажорныя па гучанню, рамантычна-ўзнёслыя па зместу валачобныя песні, — слушна заўважае А. С. Ліс, — напаўняюць шэрае сялянскае жыццё святлом надзеі, зычылі нябачны, казачны ўраджай, дабрабыт, узвышалі працоўнага чалавека ва ўласных вачах, прыдавалі яму моцы, руплівасці ў працы». Далей вучоны прыводзіць яркія прыклады спалучэння рэальнага і чарадзейна-казачнага пры апісанні двара гаспадара і шатра, які выглядае незвычайна прыгожым і дзівосным. Думаецца, што і гіпербалізаваны «гаспадарскі жытні палетак», які «такі неаглядны», стварае, на наш погляд, уражанне бясконцасці прасторавага вымярэння і цалкам адпавядае паэтыцы рамантычнага стылю:

А пашоў жа ён (гаспадар. — **К.Л.**) у чыстае поле
Поле паляваці, жыта аглядаці,
Пяшком пашоў, ён не абышоў,
На кані паехаў, ён не аб'ехаў,
Сокалам ляцеў, жыта аглядзеў…

Сярод велікодных і валачобных песень генетычныя карані рамантызму мае асобны цыкл вершаў пад агульнаю назваю «Цудоўны конь — памочнік у пошуках паненкі». Гэтыя творы тэматычна пераклікаюцца са знаёмай нам ужо навелістычнаю баладаю «Пахвала каню», аднак амаль аналагічныя казачныя дзеянні скакуна і душэўныя хваляванні яго гаспадара падпарадкаваны ў дадзеным выпадку іншай мэце:

…Вот жаль жа мне аднаго каня.
З яго рота цякло злота,
Ён капыцікам камень разбівае,
Ён хвосцікам вулку падмятае,
Ён вушкам неба падпірае,
Ён вочкамі зорачкі шчытае,
Ён Андрэйку паненку шукае.

*(«Ой, на моры, на сінім Дунаі»)*

З ліку фальклорных твораў, якія нас цікавяць, вылучаецца яшчэ адзін цыкл песень, што аб'яднаны загалоўкам «Малойчык заваёўвае сабе дзевачку». Яны перадаюць любоўныя заляцанні хлопца да дзяўчыны на фоне ўмоўна-сімвалічнага мора, што, як і ў папярэдняй песні, атаясамліваецца

з ракою Дунай і праецыруецца на жыццёвыя рэаліі, дапоўненыя алегарычнымі вобразамі карабля і чоўна.

Нашы ўяўленні пра фальклорныя вытокі беларускага рамантызму і яго генезіс дапаўняюць і ў немалой ступені ўзбагачаюць купальскія і пятроўскія песні. Яны, як і веснавыя песенныя вершы, спалучаюць і развіваюць галоўным чынам аграрную і любоўную тэматыку, толькі прымеркаваную ўжо да летняй пары года, калі адбываецца найвышэйшы росквіт прыроды. Нароўні з рэалістычнаю апісальнасцю купальская народная паэзія захоўвае відавочныя прыкметы рамантычнага стылю, які найперш праяўляецца ў паказе ўрачыста-святочнай атмасферы летняга свята і прыўзнята-радаснага настрою людзей. Арэолам таемна-рамантычнага авеяны персаніфікаваны жаночы вобраз Купалкі (Купалінкі, Купалы) — адзін з галоўных і вядучых вобразаў купальскай народнай творчасці. «Купалка, па словах фалькларыстаў, заставалася ў цэнтры ўвагі і захоўвала ў сваім абліччы рысы незвычайнасці, як бы прыйшла з нейкага іншага свету». Таямнічасць і загадкавасць гераіні надае яе прыхаванае аблічча і амаль поўная адсутнасць партрэта:

Ішла Купала сялом, сялом,
Закрыўшы вочкі пяром, пяром.
На Йвана Купала, на Йвана Купала!
Закрыўшы вочкі пяром, пяром,
Вітала хлопцаў чалом, чалом,
Свяціла ночкі агнём, агнём.

Гэтыя ж якасці не страчвае Купалка і тады, калі яна становіцца то зязюляю («Да сядзіць кукаўка на плоце, Да яе галоўка ў злоце»), то суадносіцца з галубкаю («Ай, на тыну, на тыночку, Ай, рана на Йвана! Там сядзела галубачка, Залатая галовачка. Ажно гэта не галубачка, Ажно гэта Купалачка»), то значыцца дзівосна-чарадзейнаю кветкаю:

Сягоння Купало, заўтра Ян,
Да пойдзем, дзевачкі, у зялёны гай,
Да нарвём купала па пучочку,
Да саўём, дзевачкі, па вяночку,
Каб нашыя вяночкі харошы былі,
Каб нашы хлопцы нас любілі.

Праўда, у асобных выпадках ролю Купалы выконваюць маладыя людзі мужчынскага полу. Пры гэтым у духу рамантызму вызначаецца самая высокая ступень святочнасці і хараства аднаго з герояў:

Як на нашай вуліцы,
Тры купалцы-малойцы.
Няма найкупальшага,
Як Івана нашага.

На яму кашуленька,
Як белен бяленька,
На яму сукна граюць,
Як сады зацвітаюць.

Заўважым, што рамантызацыяй авеяны не толькі песенныя вершы такога роду, але і розныя цуды, якія, паводле народных уяўленняў, адбываюцца ў купальскую ноч (павер'е аб разгуле ў гэты час звышнатуральных сіл, варожых чалавеку; вераванні пра дзівосна-загадкавае, прывіднае святло рэк, пра адухоўленасць дрэў і траў, якія быццам бы могуць гаварыць). Згаданыя народныя ўяўленні маюць сувязь з некаторымі сюжэтамі чарадзейных казак, легендаў і паданняў. Прыкметна вылучаюцца купальскія паданні пра папараць-кветку і пошукі розных скарбаў. Дарэчы, у баладзе Францішка Багушэвіча «Хцівец і скарб на Святога Яна» выкарыстаны і па-свойму апрацаваны распаўсюджаны ў беларускіх купальскіх песнях і легендах матыў пра

чароўную моц папараці-кветкі, якая быццам бы прыносіць чалавеку багацце і шчасце.

Незвычайнай урачыстасцю прасякнута сама атмасфера купальскай ночы з яе вогнішчам, што шугае ў неба і асвятляе твары людзей і наваколле. Гэты важны святочны момант набыў у народных песнях пра Купалле нямала адзнак, якія ў многім тыпалагічна вельмі сугучныя рамантычнай паэтыцы. Паказальна, што некаторыя пісьменнікі Беларусі XIX стагоддзя не толькі звярталіся да напісання твораў з падобнаю тэматыкаю, але і нярэдка выкарыстоўвалі той жа фальклорны матэрыял у якасці вершаваных уставак у свае творы. Наглядны прыклад такой пераемнасці — вершаваная аповесць В.І.Дуніна-Марцінкевіча «Купала», дзе, у прыватнасці, знаходзім наступныя радкі, узятыя аўтарам з фальклорных крыніц:

«Сягодня ў нас Купала! — то-то-то!
Сам Бог агонь раскладаў, — то-то-то!
Усіх святых к сабе зваў, — то,то,то!
Толькі нету Іллі з Пятром; — то-то-то!
Пайшоў Ілля каля жыта. — то-то-то!»

Даволі эфектна перададзены адзін з фрагментаў свята Купалля ў малавядомай для сучаснага чытача драматычнай паэме «Doba nad Dźwiną» («Суткі над Дзвіною») Гераніма Марцінкевіча — беларускага і польскага паэта сярэдзіны XIX стагоддзя. У аўтарскім каментарыі да сёмай сцэны гэтага твора намалявана карціна начнога пейзажу і вогнішча, вакол якога на беразе Дзвіны сядзяць сяляне і пачынаюць спяваць. Навокал курганы, якія абраслі высокімі дрэвамі. Праз успрыманне аднаго з галоўных герояў па імені Праўдаслаў, які выпадкова аказаўся сведкаю гэтай урачыстасці, Геранім Марцінкевіч перадае ў фальклорна-рамантычным стылі харавыя спевы ўдзельнікаў свята:

*Chór 1-szy*
Oj Kupało! Kupało!
czegoś pilnie szukało?
Co tam tobie przepadło?

*Chór 2-gi*
Oj przepadła dziewczyna —
Za dziewczyną chlopczyna,
A byłoby to stadło!..

На глебе фальклору генетычнаю асноваю стаў для паэмы «Суткі над Дзвіною» Гераніма Марцінкевіча і такі абрад, паводле якога жанчыны з распаленымі галавешкамі дроў ад кастра грамадою ідуць у поле і спяваюць песні, каб выгнаць з жыта ведзьму:

Nie idź wiedźmo nam do żyta! —
Będziesz wiedźmo — będziesz bita…
Spalim wiedźmę my głowniami
I zabijem ożogami.

Сярод шматлікіх купальскіх песень ёсць некалькі балад, якія, будучы генетычна звязанымі з Купаллем, вытлумачваюць паходжанне кветак браткаў, «травіцы брат-сястрыцы», апавядаюць пра збор красак травіцы, якая па сваёй назве набывае разнастайныя сэнсавыя адценні: «брацітка й сястрыца», «брахнейка і сястрыца», «брацец-сястрыца», «брацейка із сястрыцай». Некаторыя творы такога роду, як і іншыя жанры фальклору, маюць родныя рамантызму тыпалагічныя рысы барока. Апошнія можна назіраць у паказе ўзаемаадносін брата і сястры, якія, не ведаючы пра сваё кроўнае сваяцтва, ледзь не праявілі ў купальскую ноч блізкасць адзін да аднаго:

А на Йвана Купала
Праявілась праява,
Праявілась праява —
Сястра з братам прапала.

— А Бог мяне засцярог
Што я з сястрой спаць не лёг.
А Бог мяне мілаваў,
Што я сястру не абнімаў.

Рамантычнаю па сваёй таямнічасці значыцца ў купальскай народна-песеннай паэзіі варажба дзяўчат, якія пускаюць на ваду сплеценыя з кветак вянкі, каб прадугадаць свой далейшы лёс, даведацца, што яшчэ можна чакаць у жыцці:

Сягоння Яна Купалы,
Дзевачкі зелле збіралі.
Дзевачкі зелле збіралі
Да і ў вяночкі сплялалі.

Да і ў вяночкі сплялалі,
Да на вадзіцу пушчалі:
— Плывіце, вяночкі, аж на дно,
Скажыце пра мілага майго.

Рысы рамантычнага стылю даволі адчувальныя пры паказе прыгажосці купальскага свята, яго лучнасці з сонечным граннем і навакольным светам:

Ой, рана-рана на Яна
Да хараша сонейка гуляла,

І зямля стагнала з купалля,
Дарожка звінела ад песень.

У купальскай песеннай паэзіі фальклорнага паходжання таксама сустракаецца сімволіка-алегарычная трактоўка мора (а часам і ракі Дунай) як складанага і супярэчлівага свету, поўнага трывог і няшчасцяў, што нярэдка ўказвае на цесную сувязь гэтага жанру фальклору з сюжэтам чарадзейнай казкі пра падчарыцу, мачыху і яе родную дачку («Пайшлі дзевачкі ў красачкі…», «На вуліцы на шырокай…», «Пайшлі дзеўкі ў ягадкі…»), а таксама з некаторымі творамі баладнага жанру.

Як навелістычная балада «Дзеўка-ваяк», так і асобныя купальскія песні расказваюць у перабольшаным выглядзе пра ваенныя подзвігі войтавай дачкі, якая, седзячы на баявым кані, з казачнай лёгкасцю перамагае варожае войска. Праўда, рамантычная гіпербалізацыя дзеянняў гераіні набывае тут новыя формы мастацкага выражэння:

Першы разок як махнула,
Палавіна войска ўлякнула,
Другі разок як махнула,
Дык усё войска ўлякнула.

…Левай ножачкай ступіла —
Тысячу войска згубіла,
Правай ручачкай махнула —
Семсот казакоў злякнула.

Рамантычны антураж стварае ў купальскай паэзіі і такая сітуацыя, калі жыццёвыя прыгоды маладой дзяўчыны асацыіруюцца з лёсам тапельца ў моры («Да на моры сонца йграла…», «У нядзельку раненька…»). У гэтай сувязі вобразы мора, чоўна і вясла маюць той жа сімволіка-алегарычны сэнс, што і ў творах беларускага фальклору іншых жанраў з падобнаю тэматыкаю. Як песенныя вершы пра вясну, так і асобныя купальскія песні пабудаваны на паралелізме плавання чоўна і выражэння вялікага душэўнага суму хлопца па сваёй каханцы («Да плаваў чаўночак па рэчачцы, Да плакаў Данатка па дзевачцы…»).

У згаданым цыкле народнай паэзіі таксама назіраюцца рамантычныя тэндэнцыі пры апісанні прыроды, якая, у адрозненне ад песень пра каханне, увасоблена не ў вобразе рабіны, а ў вобразах сасны, вярбы і бярозы, кожная з якіх то палягла, то схілілася, то легла на мора і стала перашкодаю для маладых дзяўчат на іх шляху-дарозе. Увогуле трэба сказаць, што марыністычная тэматыка з яе праекцыяй на рэальныя жыццёвыя абставіны чалавека тут даволі выразная (суаднесенасць купання «вуткі» на моры з дзяўчынаю). Але і тут не абыходзіцца без нязвыклай умоўнасці і гіпер-

балізацыі, якія не ў меншай ступені ўласцівы паэтыцы рамантычнага стылю: «Іванька Купалька на гарэ купаўся, На гарэ, купаўся, бераг калыхаўся», «...Дзе Іван купаўся, там бераг зыбаўся, Дзе Мар'я купалась, мора валнавалась».

Дзеля параўнання варта прывесці некалькі іншы варыянт той жа купальскай народнай песні, якую перадае лацінкаю ў «Нарысе Паўночнай Беларусі» Ян Баршчэўскі перад пачаткам сваёй кнігі «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях»:

Iwan da Marija
Na hare kupalnia,
Hdzie Iwan kupausia,
Bierach kalychausia;
Hdzie Marija kupalas,
Trawa razściłałaś.

Нягледзячы на пэўнае адрозненне гэтага фальклорна-паэтычнага фрагмента ад папярэдняга, ён, як можна заўважыць, не пазбаўлены роднасных рамантызму тэндэнцый пры паказе незвычайнай карціны купальскага відовішча, створанага святочнай абраднасцю маладых людзей. У купальскай народнай паэзіі, дзе раскрываюцца ўзаемасувязі чалавека і прыроды, значнае месца займае паэтызацыя сонца, месяца і зораў, якія нярэдка набываюць метафарычную вобразнасць і служаць сродкам характарыстыкі герояў або садзейнічаюць стварэнню пейзажнага фону, на якім адбываюцца падзеі.

Вельмі багата роднасных рамантызму тэндэнцый, якія могуць стаць прадметам спецыяльнага даследавання, увабралі ў шматлікіх варыяцыях жніўныя песні фальклорнага паходжання. Праўда, працоўная жніўная практыка людзей нярэдка падаецца тут у сацыяльным аспекце і канкрэтна-бытавой абстаноўцы. Што ж тычыцца праблемы, якая нас зараз цікавіць, то выразныя рысы рамантычнага стылю набываюць вобразы жней у жніўнай песні «Чые ж гэта жоначкі?»:

А чые ж гэта жаночкі,
Як белыя лебядочкі?
Віроўскія жаночкі –
Як белыя лебядочкі?
Самі яны, як лябёдкі,
Іх галоўкі, як макаўкі.
Па сонейку жалі,
Сярпы пазлачалі.

У дажынкавай песні «Ішлі жнейкі сасонкаю» ў многім сугучная паэтыцы рамантызму невызначальная прасторавая бясконцасць зжатай нівы і бязлікая множнасць складзенай на ёй збажыны: « — Мы (жнейкі – **К.Л.**) зжалі поле нязмернае // Наклалі коп незлічонае». У другой такой жа песні «А ці поўна арэхава чашка салодкага мёду?» выкарыстаны разгорнуты паралелізм празмерна малога мядовага збору і гіпербалізаванага багацця «жыта ядранага», якое знаходзіцца ў гаспадаровым гумне і якога так многа, што «канём не ўз'ехаць, пяшком не выйсці // Толькі можна сокалу ўзляцець дабра паглядзець!»

Разнастайныя формы паралелізму, сугучныя паэтыцы рамантызму, увабралі многія жніўныя песні фальклорнага паходжання, у якіх з'явы прыроды і аб'екты навакольнага свету суадносяцца з жыццём чалавека і яго працоўнаю дзейнасцю. Набліжанасцю да рамантычнага стылю вызначаецца і тая народна-песенная творчасць такога роду, якая раскрывае гаротны лёс жанчыны, яе скаргу на сваю нешчаслівую долю («Ай, шкода, шкода сваея маладосці», «Жалка мне, жалка», «Жалею, жалею сваей маладосці»). Як і ў творах рамантыкаў, так і тут самотна душэўны стан героя (у дадзеным выпадку гераіні) прыводзіць да жадання пайсці ў прыроду ад бязрадаснага жыцця. Падобная сітуацыя ствараецца з дапамогаю сімволіка-алегарычных вобразаў наламанай каліны ці парэчкі, праз якія перадаюцца нялёгкія жыццёвыя выпрабаванні і смутак маладой замужняй

жанчыны («Пайду я з тугі ў лугі», «Да пайду я з тугі ў лугі», «Да й пайду я ў цёмны лес»).

Даследчыкі не раз указвалі на творчае пераасэнсаванне жніўнай народнай паэзіі ў В.І.Дуніна-Марцінкевіча і Адама Гурыновіча, звярталіся да раскрыцця рамантызаванага вобраза беларускай жняі ў вершах Янкі Купалы. Мы ж, не паўтараючы ўжо сказанага і вядомага, спачатку спашлемся на некаторыя паэтычныя фрагменты з марцінкевічаўскай вершаванай аповесці «Шчароўскія дажынкі», якая таксама сведчыць пра яе сувязь з фальклорна-рамантычнай традыцыяй:

Да што ж там такое на дварэ мігаець?
Чы снег прыкрыў краскі, аль мак расцвітаець?
Не снег то, не мак то, мае вы міленькі!
Гэта ідуць з нівы жнейкі маладзенькі…

Вельмі адчувальная стыхія вуснай народнай творчасці ў песнях пра жней, у песенных зваротах да добрага пана-гаспадара, які, акрамя яго партрэтнай характарыстыкі і адрасаваных яму пажаданняў, часам паўстае ў вобразе казачнага героя, што нагадвае сярэднявечнага воіна-рыцара, які едзе на баявым кані:

«...Наш пан маладзы, конь яго вараны,
Сядло золатам вышыта, брылянтам выбіта.
Наш пан на кані войска куець,
Сваяго рыцарства даказуець...»

Суладна фальклорна-рамантычнаму стылю да незвычайных памераў узвялічваецца і сабраны ўраджай, які «У полі капамі, А ў гумне стагамі; А ні ўвайці, а не ўехаць, Ні сакалу ўляцець, Толькі пану паглядзець». На повязь з вуснай народнай творчасцю ўказвае і вядомая з чарадзейных казак (у дадзеным выпадку не ўяўная, а нібыта рэальная) прысутнасць аўтара-апавядальніка на пышным свяце дажынак:

І я, мае дзеткі, на дажынках быў,
Піва дый гарэлкі досыта папіў,
І па барадзе цякло,
Да і ў роце было,
Бо гэта, браткі, праўда, а не казка.

Асабліва паказальным для вызначэння вытокаў рамантычных тэндэнцый вершаванай аповесці «Шчароўскія дажынкі» В.І. Дуніна-Марцінкевіча з'яўляецца адзін інтэрпрэтаваны пісьменнікам фрагмент народнай песні, якую выконвае хор дзяўчат і дзе гаворыцца пра маладых людзей, што сталі мужам і жонкаю пасля свята дажынак:

«Ай, борам, борам, баравіною,
А хто там едзе вечарыною?
Ох, едзе, едзе Домачка п'яны:
«Ой, адчыні ж мне, Тадорка-пані!» —
«А я не пані, я паненэчка,
Я ў сваім доме гаспадынечка;
Мая хацінка дахам пакрыта,
Мая спаднічка золатам шыта».

Нельга не адзначыць, што жніўная тэматыка знайшла адлюстраванне і ў польскамоўнай лірыцы Беларусі XIX стагоддзя. Так, «Pieśń żniwiarek» («Песня жней») з вершаванай аповесці «Rotmistr drążkowy» (Ze wspomnień starego, ostatniego sługi) («Дробнапамесны ротмістр» (З успамінаў старога, апошняга слугі) Аляксандра Грот-Спасоўскага замілавана перадае пра-

цу жней, якія «jak słoneczko, jasnolicę, Mołodzicę, krasawicę». Прыкметна рамантызуюцца «hoże dziewczęta» з іх нялёгкаю доляю ў вершы «Żniwiarki» («Жнеі») Гераніма Марцінкевіча:

Skwarne południe pierś ogniem pali,
Zdyszane źwierzę do cieniu pędzi —
Cóż to na polu bieleje wdali,
Jak liczne stado snieżnych łabędzi?
To długi szereg wiejskich żniwiarek
Oblega niwę plonem usłaną…

Да разгледжаных намі вершаваных твораў тэматычна прымыкае «Pieśń żniwiarska» («Жніўная песня») Уладзіслава Сыракомлі, аднак яе сюжэт, вобразы і эмацыянальны настрой падаюцца ў некалькі іншай інтэрпрэтацыі.

Рамантычныя тэндэнцыі захоўваюць асобныя восеньскія песні, што належаць да асенняга перыяду земляробчага календара і вызначаюцца большай доляй рэалізму, чым іншыя жанры вуснай народнай творчасці. Восеньскі цыкл, нягледзячы на адметнасць тэматыкі і сюжэтнасці, перадае роднасныя рамантызму настроі тугі, смутку, што часта лучацца з прыкметамі асенняй пары года, якая ўзмацняе душэўныя перажыванні чалавека. У большасці выпадкаў гэта адносіцца да вобраза дзяўчыны, якая скардзіцца на нешчаслівы лёс і на марнасць свайго існавання: «А мая ж ты доля, як макаў цвет, Уначы цвіце, удзень западзе, А маё жыццё ўсё марна йдзе». Пачуццёва-кранальна і замілавана-пяшчотна гучыць душэўнае ўзрушэнне гераіні з выпадку развітання са сваім любым у песенным вершы «Ой, адлятае сызы ясны саколік сы зялёнага саду». У восеньскай песні «Ой, заржы, заржы, сівы конічак» рамантычнае выражэнне набывае любоўнае тамленне маладой жанчыны:

Каб жа я была шэрай зязюляй,
Умела кукаваці,
Паляцела б я па белым свеце
Міленькага шукаці.

Што ж тычыцца талочных песень, то рамантычныя тэндэнцыі прыкметна заўважаюцца толькі ў тых творах, дзе гаворыцца аб прадвызначанасці лёсу чалавека. Народныя песні такога роду вытлумачваюць лёсы людзей праз прызму рамантычнай антытэзы герой — наканаванасць, няхай сабе і пры бытавых абставінах («Наверна, наша доля плахая», «Знаць, наша доля не такая», «Доля наша, доля худая»), у сямейным жыцці замужняй жанчыны («Нядоля, нядоля, няшчасце маё»), у самотна-маналагічнай споведзі гераіні па сваім каханым, па дачцэ ці сястры, што знаходзяцца на чужыне («Лятала павачка», «Лятала паванька ў саду, па саду», «Лятала паванька па шчырым бару»).

Такім чынам, праведзенае даследаванне наглядна паказала, што беларуская каляндарна-абрадавая паэзія адыграла значную ролю ў падрыхтоўцы спрыяльнай глебы для ўзнікнення, станаўлення і развіцця рамантычнага кірунку ў літаратуры Беларусі XIX стагоддзя.

## 2. Сямейна-абрадавая паэзія

Пры далейшым даследаванні фальклорных вытокаў і генезісу беларускага рамантызму XIX стагоддзя нельга абысці ўвагаю сямейна-абрадавую паэзію, дзе можна напаткаць нямала матываў і вобразаў, якія ў многім

агульныя для ўсёй нашай непісьмовай славеснасці. Так, пры звароце да радзіннай песеннай творчасці з яе сямейна-бытавою апісальнаю абраднасцю заўважаецца сугучная рамантызму суаднесенасць дзяўчыны-прыгажуні з нябеснаю зарою:

І туды гара, і сюды гара,
Ай, між(д)у тымі горамі крутымі
Ўсхадзіла зара.
Ета не зара, — дзяўчына мая,
Яе брові чорныя і ліцо румянае,
За вадою йшла.

У пэўнай ступені адпавядае паэтыцы рамантычнага стылю паказ мяжы паміж дзявочым і жаночым жыццём, што ўпадабняецца кладцы праз водную перашкоду («Чэраз рэчаньку, чэраз быструю», «Чэраз рэчаньку», «Чэраз кладачку, чэраз дубовую», «Чэраз рэчку кладачка» і інш.). Сімволіка-алегарычны сэнс набывае водная стыхія ў песнях «А цераз мора, цераз сіня», «А па возеру, а па сіненькаму», «А па мору, мору».

У радзіннай паэзіі можна назіраць роднасны рамантызму разлад паміж мараю і яваю, дзе суседнічаюць разгорнуты паралелізм прыроды і нездзяйсняльны сон дзяўчыны аб маючым прыездзе свайго любага хлопца:

Дуб да дуба пахіліўся,
А дзяўчыне сон прысніўся.
Ой прысніўся сон чудненькі,
Што прыехаў мой міленькі.
А [я] выйшла, адчыніла, —
Не той мілы, што любіла.

Суґучна рамантычнай настраёвасці тутідавочны матыў скаргі маладой замужняй жанчыны на свой лёс («Ой, каб жа я знала», «Доля мая нешчасліва»), жаданне гераіні стаць птушкаю («А каб я была шэраю зязюляю»). Сярод твораў радзіннай паэзіі роднасныя рамантызму тэндэнцыі маюць некаторыя хрэсьбінныя песні, у прыватнасці, велічальныя і застольна-бяседныя.

Выяўляючы генетычныя карані рамантызму ў сямейна-абрадавай паэзіі, немагчыма абмінуць вясельныя песні, якія складаюць шасцітомнае выданне твораў вуснай народна-паэтычнай творчасці і найбольш распаўсюджаны сярод іншых жанраў беларускага фальклору. Многія песенныя вершы такога роду, нягледзячы на іх бытаапісальнасць, вызначаюцца павышаным лірызмам і багаццем эмацыянальнага зместу. Падрабязна ўзнаўляючы ўсе рытуалы вясельнага абраду, гэтыя песні сваёй разнастайнаю настраёвасцю і багатаю вобразнасцю нярэдка вельмі блізкія да рамантычнага стылю. Вось як узвялічваецца і ідэалізуецца нявеста ва ўяўленні яе жаніха ў вясельнай песні «За лесам, лесам сонейка іграе»: «Бяру каралёўну — сабе не роўну: На двор уз'едзе — увесь двор асвеце…». Не пазбаўлены рамантызацыі «дзіўны сон» дзяўчыны, які разгадваюць яе маці або сястра напярэдадні прыезду жаніха і сватоў («А ў суботу проці нядзелі заснула Галечка пад кудзеляй»). Прыкметнай гіпербалізацыяй надзяляюцца ў песнях такога роду галоўныя ўдзельнікі вяселля, асабліва маладая і малады:

Райскае дрэва над раем стаяла,
Над раем стаяла, сільна зацвітала.
Нямнога ўрадзіла — дзвюма макаўкамі.
Адна макаванька — малады жаніхна,
Другая макаванька — красная дзеванька.

Не менш цікавы і займальны эпізод, калі дружына маладога выкупляе маладую ў дзяўчат яе роду. Пры гэтым дружкі нявесты атаясамліваюцца з зоркамі, жаніх — з месяцам, а нявеста — з сонцам:

Уставайце, зораньکі,
Да садзіце месяца
Каля яснага сонца.
Дзе сонца сіяе,
Там месяц сядзе.

Але даволі часта сустракаюцца выпадкі, калі ў вясельнай песеннай паэзіі фальклорнага паходжання падразумяваецца пад вобразам зоркі нявеста: «Ой, узышоў ясён месяц над ізбою, Ён узвёў зараньку за сабою». Такія супастаўленні, якія ўзвялічваюць і рамантызуюць галоўных дзейных асоб шлюбнага рытуалу, даволі распаўсюджаныя ў беларускай вясельнай паэзіі. Прытым празмерна гіпербалізуецца месца ля варот і ў двары сядзібы свата, куды прыбыў вясельны поезд маладога:

Проці сватняга двара
Да высокая гара —
Ні ўзыйсці, ні ўз'ехаць,
Ні сакалом узляцець.

У святле пошуку вытокаў і вызначэння генезісу беларускага рамантызму XIX стагоддзя варта адзначыць, што вясельная тэматыка ўведзена ў кантэкст вершаваных аповесцей «Гапон» і «Стаўроўскія дзяды» — другая частка «Вечарніц» В.І.Дуніна-Марцінкевіча. Першы з названых твораў падрабязна апісвае шлюбны абрад сіраты Кацярынкі і яе каханага Гапона, перадае фрагменты асобных сірочых і вясельных песень фальклорнага паходжання пра маладую:

«Хто ў полі паціхоньку гукаець?
Там Кацярынка свайго таткі шукаець.
Хоць шукаець, не шукаець — не знайдзець.
Ой, далёка яе татачка, далёка,
У сырой зямлі, у жоўтым пяску глыбока.
Да зрабілі добры людзі вечны дом,
Без дзвярэй, без аконачка, без сонца,
Не прамоўлю, дзіцятка, ні слоўца».

Паказ вяселля Гапона і Кацярынкі дапаўняе ўмоўная прысутнасць на гэтай урачыстасці аўтара-апавядальніка, які, нягледзячы на ўвядзенне бытавых дэталей і рэалій, узнёсла паэтызуе вясельнае застолле:

Я на том вяселлі быў
Піва, мёд, гарэлку піў,
У роце здаволь было,
Аж па барадзе цякло.

Заўважым, што прыведзены намі фрагмент мае некалькі іншую інтэрпрэтацыю ў вершаванай аповесці «Стаўроўскія дзяды» В.І.Дуніна-Марцінкевіча, дзе, у прыватнасці, расказваецца пра жаніцьбу князя Грамабоя на сялянскай дзяўчыне Кацярыне (Касі), што засталася без маці і выхоўвалася пры мачысе:

І я на вяселлі, дзетачкі, том быў,
Піва, мёд, гарэлкі досыта папіў,
Хоць мо'а ў роце нішто не было,
Зато па барадзе ўздаволь цякло.

Як і творы рамантыкаў і іншыя жанры фальклору, многія вясельныя песні пабудаваны на кампазіцыйным паралелізме душэўнага стану чалавека і з'яў прыроды. Дзеля гэтага часта ўводзяцца вобразы-сімвалы дрэў: бярозы, вярбы, рабіны, каліны, сасны, явару, яліны і інш. Некаторыя з іх не толькі ўзвялічваюцца, але і выступаюць у іншасказальна-пераносным сэнсе перашкодаю на дзявочым жыццёвым шляху, які асацыіруецца з воднай стыхіяй: «— О, бела, бела бяроза, Чаму на моры палягла, Дзеўкам дарогу залягла?»

Або яшчэ: вярба «на мора палягла», «на мора навісла», «Раскудравая бярозка на Дунай палягла». Складальнікі вясельных песень выкарыстоўваюць разнастайныя прыёмы і сродкі, пры дапамозе якіх магчыма ўласцівае рамантычнаму светаўспрыманню парушэнне праўдападобнасці: «Пад тую вербу (што на мора навісла. — **К.Л.**) сцежачка, Туды ішла дзевачка Да несла золата ў прыполе, Да рассыпала на моры».

Шматлікія асацыяцыі з рэальнасцю выклікаюць у вясельных песнях не толькі сімволіка-алегарычныя вобразы сіняга мора, але і выратавальнага чоўна і вясла («Да ў нядзелю рана», «У нядзельку рана», «У нядзельку параненьку», «У панядзелак рана», «У нядзелю раненька»). Разам з тым яны ўказваюць на недоўгавечнасць і зменлівасць жыццёвых рэалій: «— Чаўночак вада вымывае, А весельца жвірок выядае» . Нярэдка плаванне чоўна па вадзе (рэчцы, возеры) даецца па аналогіі шляху да бедаў, якія чакаюць маладую дзяўчыну ў будучым. Разнастайныя варыяцыі ўмоўнага і рэальнага, якія сугучны рамантычнай паэтыцы, стварае ў вясельных песнях паказ цячэння ракі (ці ручая) у мора (часам з возера ў мора), дзе водная плынь сімвалізуе расставанне нявесты са сваёю шчасліваю дзявочаю парой, а марская стыхія праецыруецца на жыццёвыя цяжкасці і беды. Не меншай асацыятыўнай вобразнасцю пазначаны паралелізм хуткаплыннай ракі і нешчаслівага дзявочага кахання, залежнага ад Божай волі: «Быстрая рэчка ваду замуціла. Ой, не даў мне Бог, не судзіў мне Бог, Каго верна любіла». Такі журботна-эмацыянальны настрой, сугучны рамантычнай танальнасці, ярчэй за ўсё выяўляюць сірочыя песні, многія з якіх уваходзяць у цыкл вясельнага песеннага рэпертуару. Немалаважную ролю ў дадзенай сувязі адыгрываюць звароты да звышнатуральных сіл і з'яў прыроды. Часам у творах з падобнай тэматыкай некаторыя нябесныя свяцілы ствараюць фон, на якім адбываецца дзеянне. Пра гэта, у прыватнасці, сведчыць «Piosęnka weselna» («Вясельная песня»), якую даслоўна пераклаў польскамоўны паэт Беларусі XIX стагоддзя Ігнат Кулакоўскі з гміннай песні і ў якой падрабязна апісана паездка маладых у царкву для вянчання. Іх суправаджаюць самыя блізкія і непасрэдныя ўдзельнікі вяселля. Пачатак вышэйназванай песні ў выкананні хора гучыць так:

Turpczą konie, wozy lecą,
Tętni droga kręta;
A nad nami gwiazdki swiecą,
Świéci Cerkiew święta.

Пэўныя рысы фальклорна-рамантычнага стылю захавала ў Ігната Кулакоўскага яго арыгінальная, стылізаваная пад народную, «Pieśń swata na wieśniaczem weselu» («Песня свата на сялянскім вяселлі»), якая змешчана ў лістападаўскім нумары часопіса «Dziennik Wileński» за 1829 год. Асобныя вясельныя песні, складзеныя, па ўсёй верагоднасці, пад уплывам польскай малітвеннай паэзіі, засвоілі выраз «Нех бэндзе пахвалёны!», што непасрэдна лучыцца з імем Ісуса Хрыста.

Паводле Н.С.Гілевіча, «у духу старажытнага гераічнага эпасу гіпербалізуецца (а, на наш погляд, і рамантызуецца. — **К.Л.**) у вясельных песнях конь маладога». Гэты вобраз казачнага скакуна, які даволі распаўсюджаны ў беларускім фальклоры і творах рамантыкаў, валодае і тут незвычайнымі здольнасцямі: гаворыць чалавечым голасам, здзяйсняе неверагодныя цуды, каб дапамагчы забраць маладую:

— Не бойся, Іванушка, не зняважу цябе.
На цясцёў я на двор арлом узлячу,
А сваёй грывушкай цясцёў двор украшу
А сваім капытом цясцёў двор уссяку,

А сваім хвосцікам цясцёў двор замяту,
А тваю суджаную з табой павязу.

*(«Гаварыў Іванушка з вараным канём»)*

Акрамя таго, у вясельных песнях конь маладога можа выпісаць капыткамі дарожку, вочкамі палічыць на небе зоры, вушкамі за морам пачуць вайну і т.п. У асобных выпадках вобразы konнiка i яго чатырохногага скакуна ствараюць іншую сітуацыю, якая нагадвае эпізоды многіх чарадзейных казак: «Прыехаў Іванька к варотам, Яго конічак пад злотам».

Падводзячы вынікі нашага даследавання па выяўленні вытокаў і генетычных каранёў беларускага рамантызму XIX стагоддзя ў сямейна-абрадавай паэзіі, заўважым, што яна спалучае самотна-тужлівыя настроі многіх герояў з узвышанаю і ўрачыстаю танальнасцю, вытрыманай нярэдка ў рамантычным стылі. Нават такі найбольш старажытны пласт фальклору, як замовы, якія вызначаюцца сваёй блізкасцю да абрадавай паэзіі, надзелены рамантычнай верай у магічную сілу слова.

## 3. Пазаабрадавая паэзія

Прыступаючы да выяўлення фальклорных вытокаў і генезісу беларускага рамантызму XIX стагоддзя ў пазаабрадавай паэзіі, мы не будзем падрабязна спыняцца на ўсіх разнавіднасцях згаданага роду непісьмовай славеснасці, а засяродзім увагу на тых яе жанравых формах, якія сталі адной з асноў рамантычнага кірунку ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Гэта ў першую чаргу народныя песенныя вершы пра каханне. «Любоўныя песні, — як адзначае Н. С. Гілевіч, — складаюць адну з прыгажэйшых жамчуговых нанізак у беларускай народнай лірыцы». Не выклікае асаблівых спрэчак і сцвярджэнне І.К.Цішчанкі, які лічыць, што фальклорныя творы згаданага жанру «сярод іншых песенных жанраў і груп вылучаюцца ў мастацкіх адносінах выключным рэалізмам у адлюстраванні рэчаіснасці», «моцным рэалістычным пачаткам». У цэлым пагаджаючыся з прыведзеным выказваннем вучонага, мы, аднак, лічым, што многія любоўныя вершы песеннага складу выяўляюць і выразныя рамантычныя тэндэнцыі, што выступаюць у цеснай узаемасувязі з канкрэтна-рэалістычнай апісальнасцю. Гэта тым больш відавочна, што фальклорныя песні пра каханне, як ужо адзначалася намі, не толькі карысталіся вялікай папулярнасцю ў пісьменнікаў-рамантыкаў, але і аказвалі самы непасрэдны і дзейсны ўплыў на іх творчасць.

Любоўныя народныя песні, якія несумненна паўплывалі на прафесійную пісьмовую славеснасць песеннага складу, па сваёй танальнасці даволі часта набліжаюцца да рамантычнага стылю. «У рамантычным каханні, — як пранікнёна заўважыў В.М.Жырмунскі, — спалучаецца вучэнне рамантыкаў пра сутнасць жыцця і пра абавязак, містычная анталогія і этыка. Каханне для рамантыка ёсць містычнае пазнанне сутнасці жыцця; каханне адкрывае любячаму бясконцую душу любага. У каханні зліваецца зямное і нябеснае, пачуццёвае адухоўлена, духоўнае знаходзіць увасабленне; каханне ёсць самая салодкая зямная радасць, яно ж — малітва і нябеснае пакланенне». Увогуле гэтае пачуццё часта аказваецца немагчымым для разгадкі, і таму яно, як і сама прыгажосць, не заўсёды паддаецца выказванню словамі не толькі ў вуснай, але і ў пісьмовай форме. Ужо гэта складае адну з характэрных асаблівасцей любоўнай народнай лірыкі песеннага складу. Нельга не заўважыць, што галоўнае месца ў ёй займае вобраз дзяўчыны. Як і ў рамантыкаў, дзявочая абаяльнасць і прыгажосць, няўлоўная жаночая чароўнасць нярэдка даюцца ў разнастайных варыяцыях праз паралельныя супастаўленні і раз-

горнутыя параўнанні з нябеснымі свяцiламі, звычайна з зорамі («Вячэрняя зара», «Ой, зара, зара», «І туды гара, і сюды гара», «І туды гара», «І адсюль гара»). Такі мастацкі прыём узбуйняе і ўзвышае вобраз маладой гераіні, рамантызуе яе характво і знешняе аблічча:

І туды гара, і сюды гара,
Прамеж тымі крутымі гарамі
Усходзіла зара.

Гэта не зара, — дзеўка малада.
Яе бровы, як вуголлі, чорны,
Па ваду ішла.

Паралельна з вобразам зоркі некаторыя песні такога роду раскрываюць тужлівы душэўны стан дзяўчыны, якая зведвае жыццёвыя беды і любоўныя тамленні («Скацілася ды ясная зорачка», «Кацілася заранaчка з неба», «Кацілася ды ясная зорачка»). Прыцягальная дзявочая прыгажосць можа выражацца праз іншыя кампаненты яе знешняга аблічча: «Ён (кавалер. — **К.Л.**) мяне любіў, я яго прынадзіла, Я яго прынадзіла русаю касою, Русаю касою, дзявочай красою («Ах, Божа, Божа, калі той вечар будзе?»). Згадваючы пра даволі частае выкарыстанне вобраза дзявочай касы ў любоўнай лірыцы, вядомая беларуская пісьменніца і даследчыца Валянціна Коўтун трапна зазначае: «Каса — гэта ўвасабленне чысціні і маладосці, дзявочага характва. Якое гэта свята для дзяўчыны — расчасаць сваю шоўкавую касу, пагаварыць з ёю, бы з сяброўкай, пра мары-надзеі».

Прывабнасцю вызначаецца і вобраз вачэй дзяўчыны для яе каханка, які «У дзявочы ясны вочы Улюбіўся!» («Вяне рута ля прысадаў»). Дэманічнаю красою сваёй абранніцы цалкам захоплены сінявокі юнак у песні «Ляціць сарока»: «—Выйдзі, дзяўчына, Сэрца адзіна, Да мяне. Сінія вочы Спаці не хочуць Без цябе!» А верш песеннага складу «Ой, у лузе, у лузе зялёны барочак» перадае клятву вернасці ў вечнай любові дзяўчыны і казака, які перад сваёй заўчаснай смерцю выражае пачуцці, што нагадваюць бясконца няўцешны плач біблейскага Эклезіясту:

— Ой, не сам я плачу, плачуць кары вочы,
Плачуць кары вочы.
Не дадуць спакою, а ні днём, ні ночы,
А ні днём, ні ночы.

Аналагічны матыў тужліва-самотнага плачу героя, якога «суседзі блізкія, ворагі цяжкія» не дапускаюць да жаніцьбы на любай дзяўчыне, развівае песня «Ой, гаю мой, гаю, гаю зеляненькі» з яе рамантычна-замагільнаю тэматыкаю: «...Ой, памру, памру я, ты жыва будзеш. Там мая магіла, у сіняга мора, І там будзе ўся мая размова». У народнай жа любоўнай песні «Цераз рэчаньку, цераз балота» маладая гераіня ва ўяўленні свайго кавалера паўстае чараўніцаю:

— Ой ты, дзяўчына, чараўнічэнька,
Ачаравала маё лічэнька,
Ачаравала цела і душу,
Цяпер да цябе хадзіць мушу.

На самай жа справе прывабнасць дзяўчыны, паводле яе шчырага прызнання, ствараюць не чары і магічныя прыёмы, а яе натуральная, нічым не падробленая краса, якая пры ўсёй яе знешняй дакладна рэалістычнай апісальнасці захоўвае пэўныя рысы рамантызацыі:

— Каб так дайшоў з сяней да хаты,
Колькі я знаю, як чараваці.

А мае чары напагатове —
Белае лічка, чорныя бровы.

Абышлася без чараў і гераіня песні «Ой, у лесе на дубочку», якая паланіла свайго любага хлопца «не агнём, не вадою, А сваёю дзявочаю кра-

сою». Разам з тым любоўная народная песня «У садзе хадзіла, кветачкі рвала» развівае матыў дзявочага чарадзейства як сапраўдны і дзейсны акт магічнага паланення свайго кавалера:

— У садзе хадзіла, кветачкі рвала,
Мяне дзяўчына ачаравала.
Ачаравала сэрца і душу,
Цяпер да цябе хадзіці мушу.

Як і гераіня рамантычных твораў, каханая ў народных песнях застаецца шчыра вернаю свайму кавалеру: «А я цябе (мілы. — **К.Л.**) верна люблю, За табою праз свет пайду» («Уставай, мілы, годзе спаці»). Або: «Ужо нас не разлучыць ні світ, ні зара, Хіба нас разлучыць сырая зямля» («Пташкі-салавейкі жалосне паюць»). У фальклорнай жа песні «Выйду на гару, гляну на мора» шчырасць любоўнага пачуцця дзяўчыны вельмі наблiжана да прафесійнай рамантычна-замагільнай лірыкі. Журботна-шчымлівы настрой суседнічае тут з імем Бога і «таго свету» як прыстанішча вечнай любові і людскога шчасця:

Калі ён (каханы. — **К.Л.**) успомніць мяне ў жалобе,
Будзе чытаці надпіс на гробе:
«Тут ляжыць тая, што цябе любіла», —
Не злучыў Бог нас — злучыць магіла.

Даволі блізкі да рамантычнага светаадчування паказ бясконца бязмежнага, ненатольнага любавання дзяўчыны прыгажосцю свайго каханага, прывабная постаць якога ў песні «Травачка-муравачка» даецца па аналогіі з ландшафтам:

Травачка-муравачка,
Зялёненькі лужок.
Я па табе скучыла,
Мой міленькі дружок.

Я па табе, травачка,
Не нахаджуся.
На цябе, мой міленькі,
Не нагляджуся.

Або яшчэ: «Я па табе, травушка, не нахаджуся, Каго верна люблю — не налюблюся..!» («Травушка-муравушка — зялёны лужок. Гэй»!). Гэтыя любоўныя вершы песеннага складу адносяцца да тых узораў народнай лірыкі, у якіх знайшлі адлюстраванне сардэчны смутак і інтымныя перажыванні. У іх гаворыцца пра разнастайныя чалавечыя пачуцці, пра няспынныя і нястомныя любоўныя заляцанні і тамленні, у якіх змяняюць адно другое смутак і радасць, журба і міласць. Не менш чуллівыя, па-рамантычнаму жывучыя і пяшчотна-кранальныя душэўныя хваляванні дзяўчыны па сваім былым кавалеры ў песні «А за ліхімі за марозамі», якая пабудавана на паралелізме ўзаемаадносін чалавека і прыроды:

Ой, узыйдзі, узыйдзі, узыйдзі, рутачка,
Хоць завяжыся!
Ой, прыдзі, прыдзі, прыдзі, міленькі,
Хоць пакажыся!

На глебе такога жаданага ідэалу ў песні «Дуб да дуба пахіліўся» гераіні «прысніўся сон чудненькі» аб прыездзе яе каханка, аднак снабачанне не супадае тут з рэальнасцю, бо ў сапраўднасці з’явіўся «не той лю́бы, што любіла». Моцнае пачуццё кахання ў песні «Няма цвету сільнейшага» суадносіцца з квеценню сіняга васілька і каляровым апярэннем голуба:

Няма цвету сільнейшага,
Як сінь васілёчак,
Няма друга вярнейшага,

Як мілы дружочак,
Сядзіць сабе за столікам,
Як сінь галубочак.

Нагадаем, што ў песнях пра каханне, як і ва ўсёй песеннай лірыцы, вельмі распаўсюджаныя і блізкія да рамантычнай стылізацыі сімвалічныя вобразы голуба і галубкі, якія адпаведна падразумяваюць узаемаадносіны хлопца і дзяўчыны («Сівенькі галубчык», «Сядзіць голуб на дубочку», «Зашчабятаў сізенькі галубчык», «Закукуй, забуркуй, сівы галубочак», «Варкаваў, буркаваў сівы галубок», «Пад дубінаю, пад зялёнаю» і інш.). Гэтыя вобразы птушак фальклорнага паходжання знайшлі асабліва яркае і арыгінальнае ўвасабленне ў рамантычнай элегіі «Gołąbki» («Галубкі») В. І. Дуніна-Марцінкевіча. Для гэтага твора ўласцівы глыбокі лірызм і тонкае ўспрыманне першых інтымных пачуццяў юнай дзяўчыны на парозе яе сталасці. У элегіі «Галубкі», прысвечанай тэме кахання, В. І. Дунін-Марцінкевіч выкарыстоўвае шырока ўжывальныя ў фальклоры вобразы голуба і галубкі, якія сімвалізуюць хлопца і дзяўчыну. Гэты лірычны твор цалкам народны і рамантычны па сваёй структуры. Сказанае праяўляецца ўжо з самага пачатку верша.

Szesnastoletnia Alinka,
Wdzięczna, świeża, jak malinka,
Raz w wieczornej lata dobie,
Gdy paciórki odmówiła,
U okienka nucąc sobie,
Marzeniom sie powierzyła…
…Nuż odgadywać przyczynę
Jakiejś tęsknoty, pragnienia,
Które niewinną dziecinę
Nieraz dziś budzą z uspienia.

Душэўны неспакой і сардэчныя тамленні гераіні раскрываюцца і дапаўняюцца праз яе хвалюючы і шчыры дыялог са сваёй маці:

I kiedy dziewcze dumało,
Zkąd ta nuda, żądza, trwoga,
Tak się swej matki spytało:
«Powiedz mi mamuniu droga
Co też to się ze mną dzieje?
Ja chora, mamo, bydź muszę,
Jakiejś chęci i nadzieje
Ciągle trapią teskną duszę…»

З прыведзеных паэтычных фрагментаў відаць, што ў іх многія словы і выразы не маюць прадметнага значэння, а падабраны як ноты эмацыянальных гучанняў: «jakiejś tęsknoty, pragnienia», «jakiejś chęci i nadzieje» і г.д. Шаснаццацігадовая Алінка адмаўляецца ўжо ад дзіцячых забаваў, а малюнкі і з'явы прыроды, паводле разважанняў дзяўчыны, больш яе не цікавяць і не захапляюць. У элегіі В. І. Дуніна-Марцінкевіча «Галубкі» адлюстраваны ледзь выразныя зыбкія адценні настрою маладой дзяўчыны, якая, назіраючы за варкаваннем і паводзінамі двух галубкоў, упершыню сама выпрабоўвае інтымныя пачуцці. Але паколькі нельга дакладна ўзнавіць і перадаць невыразныя, амаль няўлоўныя нюансы любоўных перажыванняў чалавека, то для гэтага паэзія павінна служыць умоўным ключом, які адкрывае патайнікі чалавечага духу ва ўспрыманні самога чытача. Гэта і ёсць выражэнне невыказнага — рыса, якая складае адну з характэрных асаблівасцей рамантызму. Акрамя таго, адносіны паміж хлопцам і дзяўчынаю раскрываюцца часам у народных песнях пра каханне праз вобразы сокала і саколкі («Учора не быў»). Роднасныя рамантызму тэндэнцыі, спалучаныя з канкрэтызацыяй абставін, мае песня «Я свайго міленькага», дзе гераіня выказвае намер стаць шэраю зязюляю, каб за нявернасць і здраду звесці са свету свайго былога кавалера падчас яго жаніцьбы на іншай дзяўчыне. У адрозненне ад народных балад, у любоўных песнях фальклорнага паходжання няшчырасць і нявернасць у каханні звычайна зыходзіць не ад гераіні, а ад яе каханка, легкадумныя паводзіны якога залежаць не толькі ад колеру яго чорных вачэй, але нават і броваў, што можна назіраць як па назве саміх песень («Здрада, здрада, чорны вочы здрада», «Здрада, здрада, чорны бровы, здрада!»), так і па іх змесце: «Ой, здрада, чорныя вочы, здрада! Чаму ў цябе, мой мілы, не праўда» («Ой, у лесе клён-дзерава росла»).

Рамантычныя тэндэнцыі, вытрыманыя ў духу элегічна-журботнай танальнасці, перадаюць душэўныя перажыванні і любоўныя тамленні гераінь, якія звязваюць свае жаданні і надзеі ў каханні са зваротам да Бога: «Ах, Божа, Божа, калі той вечар будзе? Прынясі, Божа, каго я люблю верна» («Ах, Божа, Божа, калі той вечар будзе?»); «А дай, Божа, вечар, да сонейка зыйдзе, Можа, мой міленькі дай да мяне прыйдзе» («Плылі, плылі гусі ціхаю вадою»); «Параўнуй, Божа, Горы, даліны Роўненька. Прынясі, Божа, Майго мілога Раненька!» («Ляціць сарока»). З вобразам Усявышняга непасрэдна лучыцца клятва ў вернай любові маладых людзей («Ой з'езджу я, з'езджу каня варанога», «Заезджу я каня, заезджу варанога»). Нярэдка шчырыя прызнанні хлопца, як і дзяўчыны, у чысціні пачуцця вызначаюцца ў канкрэтна-бытавых абставінах, але з відавочнай рамантычнай вобразнасцю:

— Скарай мяне, Божа, у вялікай дарозе,
Калі я замыслю аб іной нябозе.
Ты ў мяне, дзяўчына, ты адна,
Як на небе ясная зара.

Заляцанні кавалера да дзяўчыны (нават і беднай) у дадзеным выпадку бескарыслівыя і высакародныя: «Ты ж мне пасага, ты сама, Як на небе ясная зара». Між тым дзве аднайменныя песні «Ой, Божа, мой Божа» перадаюць вялікае душэўнае ўзрушэнне лірычных герояў з нагоды няўдалай любові і сяброўства.

Як і ў фальклоры ўвогуле, праз многія народныя песні з любоўнаю тэматыкаю праходзіць матыў дзявочай долі, які відавочны і ў творах рамантыкаў. Толькі ў адзінкавых выпадках дзяўчына задаволена сваім лёсам: «А я, маладзенька, Гуляю і скачу. Бо добрая мая доля, Той не заплачу» («Па садочку хаджу»). Здаралася і так, што асабісты лёс хлопца, па яго ж прызнанні, склаўся нешчасліва па ўласнай віне: «Пацяраў я долю праз сваю сваволю, Гей, гей, праз сваю сваволю» («Чаму, салавейку, рана не спяваеш»). Але звычайна няўдачы асабістага жыцця маладых людзей зыходзяць не ад іх саміх. Безвыніковымі аказваюцца стаpанні і намаганні хлопцаў-рыбалоўцаў «злавіць долю» сеткаю «ў быстрай рэчцы» для маладога чалавека («Каліна-маліна»). Не прыносіць шчаслівага лёсу і прыгажосць дзяўчыны, якая выглядае не горш за красу іншых дзяўчат: «Ці ж я не такая, Як і тая другая, — Я харошая, Я прыгожая, Толькі доля ліхая» («Ці свет, ці світае»). Гераіня спрабуе пазнаць сябе, яна паглыбляецца ва ўласную душу, каб зразумець яе імкненні, якія не знаходзяць задавальнення ў тагачасным свеце і жыцці. Падобны паэтычны настрой пераклікаецца з настроем рамантычнай паэзіі з яе засяроджанасцю ва ўнутраны свет асобы.

У песні «Вой, я хаджу, пахаджаю» нават умоўна засеяная «горка доля», калі яна «вырастае» і «цвіце» колерам сіняга васілька, становіцца светлай рамантычнай марай і сімвалам вернасці закаханай дзяўчыны свайму кавалеру. Прытым такое сумяшчэнне супрацьлегласцей зноў нагадвае нам стыль барока:

Узыйдзі, мая горка доля,
Густымі ўсхадамі,
Цвіці, мая горка доля,
Сінімі цвятамі!

Нішто, нішто так не сіне,
Як сінь васілёчак,
Ніхто, ніхто так не верны,
Як мой міл дружочак...

Рамантычная летуценнасць аб шчаслівай долі і разлад паміж жаданым і рэальным у жыцці вымушае гераіню песні «Да ляцелі гусі цераз сіне мора» звярнуцца з маленнем да Бога і з пакаяннем у сваёй вінаватасці перад уласным лёсам:

Сонейка заходзіць, доля не прыходзіць,
Ой, Божа мой, Божа, а што мне рабіці,
Ой, Божа мой, а што мне рабіці,
Угнявіла долю, не магу ўпрасіці.

На глебе душэўных перажыванняў лірычных герояў іх пачуцці ў многіх песнях пра каханне па-ранейшаму лучацца не толькі са зваротам да Бога, але і са скаргаю на свой незайздросны лёс («Ці то, Божа, з тваёй волі», «Гора ж маё, гора», «Каля млына, каля броду», «Ой, у лузе цвет-каліна» і інш.). Аднак надзеі на Усявышняга не заўсёды апраўдваюцца і нярэдка аказваюцца марнымі. Цікава, што ў песні «Ай, Божа мой, Божа, без долі ўрадзіўся» нешчаслівае каханне хлопца суадносіцца з рачною воднаю перашкодаю:

Ай, Божа мой, Божа, які я ўрадзіўся,
Плыў я цераз рэчку, да і не ўмыўся.
Плыў я цераз рэку,
Плыў я ды цераз быстру,
Пераплыў я рэку,
Ды не ўціраўся.

Разам з тым прыведзеная сітуацыя прымеркавана не толькі да Усявышняга і скаргі лірычнага героя на сваю долю, але і скіравана да вобраза каня — надзейнага сябра і шчырага памочніка закаханага:

Ох ты, конь мой мілы,
Конь мой мілы, сівагрывы,
Бяжы, сівагрывы,
Аж да маёй мілай.

Прывабная постаць гэтага скакуна — неразлучнага і вернага спадарожніка чалавека — па-рамантычнаму любоўна і замілавана апаэтызавана ў песнях «Ой, сівы конь бяжыць», «Ай, кося, мой кося», «Не бяжы, конь, зялёным лугам», а таксама ў іншых творах народнай песеннай лірыкі з падобнаю тэматыкаю. Акрамя таго, у любоўнай фальклорнай песні «У Марусі хата на памосце», якая тэматычна і вобразна пераклікаецца са шматсюжэтнай баладай «Заморскае зелле», ролю памочнікаў, каб дастаць заморскае шлюбнае зеллейка для аднаго з маладых жаніхоў-казакоў, выконваюць трое коней рознай масці. Апошнія таксама, як і ў названай баладзе, спачатку адпаведна суадносяцца з колерам апярэння птушак лебедзя, голуба і ворана, а потым выступаюць у сваёй натуральнай існасці:

Белым канём поле пераеду,
Сівым канём, сівым канём за мора даеду,
Чорным канём зеллейка дастану,
А з Марусяй, а з Марусяй на ручнічку стану!

Немалаважны, на наш погляд, і такі істотны факт: у народных песнях пра каханне, у адрозненне ад іншых жанраў фальклору, вобразы каня і конніка выкарыстоўваюцца настолькі часта, што займаюць тут ледзь не пануючае месца. Як і ў вуснай народнай творчасці пра каханне, тая ж любоўная калізія мае месца ў вершы Гераніма Марцінкевіча «Spóźnione Zaloty do N.N. czyli Serc Próba» («Запозненыя залёты да Н.Н. або выпрабаванне сэрцаў») і дапаўняецца ў сваю чаргу вобразамі каня і конніка, якія праяўляюць сумесна зладжаныя дзеянні ў пошуках дзяўчыны з-над Дзвіны:

Ot nadbrzeżne mija błonia,
Koń znienacka na bok skoczy —
Jezdziec milczkiem wstszymał konia
I wkrąng cisnał gniewne oczy.

…I nie pomknał kroku dalej,
Czwalem cofnał sie ku Dźwinie;
Znać przy wtórze Dźwinnej fali
Chce podumać o dziewczynie…

У песнях пра каханне, як і ў баладах з аналагічнаю тэматыкаю, назіраецца добра знаёмае нам з твораў іншых жанраў фальклору рамантычнае

ўпадабленне няўдач асабістага жыцця маладога чалавека яго марскому вандраванню:

Божа мой, Божа, па кім я ўдаўся?
Плаваў па моры, ды не ўмываўся.
Плаваў па моры, ды не ўмываўся,
Любіў дзевачку, ды не абвянчаўся.

Тая ж аналогія і метафарызацыя жыццёвага шляху героя з яго ўяўным плаваннем па моры на караблі можа набываць некалькі іншыя варыяцыі. Напрыклад, смутак дзяўчыны па сваім кавалеры, які адправіўся недзе «на мора гуляць», цесна лучыцца ў песні «дзесь паехаў міленькі...» з відавочнай марыністычнай тэматыкай:

А на сінім моры
Карабель плыве.
Адзін парус белы,
Другі галубы.

Адзін парус белы,
Другі галубой.
На палубе ходзіць
Мілёначак мой[1].

Нельга не адзначыць, што некаторыя любоўныя песні фальклорнага паходжання многімі матывамі і вобразамі пераклікаюцца з народнаю рамантычнаю баладаю «Чарнаморац патанае» і разам з тым яны набываюць новыя якасці і формы мастацкага выражэння. У песнях «Ужо я ўстану ранеська» і «Устану, устану я ранен(і)ка» — тое ж, скіраванае на рэальнасць любоўнае тамленне дзяўчыны, што знаходзіцца ў нязвыклай паставе: яна садзіцца ля акна то насупраць «жаркага», то «яснага» сонца і «паджыдае» любага — хлопца-чарнаморца, які нагадвае маладога закаханага чалавека і яго неспакойнае жыццё, поўнае інтымных трывог і душэўных хваляванняў. Як і ў баладзе «Чарнаморац патанае», тут сімволіка-алегарычны сэнс маюць вобразы лодкі і вясла з іх відавочнай праекцыяй і арыентацыяй на рэальныя жыццёвыя абставіны людзей. У згаданых намі любоўных песнях назіраецца тая ж рамантызацыя абстаноўкі і падзей. Разам з тым у песні «У нядзелю ранюсенька» памкненні гераіні набываюць адметны характар і падкрэсліваюць незвычайнасць яе намераў: «Ой, я выйду на край сонца, Эй! Я выйду на край сонца, Ці не ўгледжу чарнаморца?» Аднак, як і ў некаторых варыянтах балады «Чарнаморац патанае», так і ў гэтай песні вобраз вясла, заменены на вобраз папружкі, некалькі зніжае, на наш погляд, рамантыка-алегарычную ўмоўнасць і сімволіку: «Каб той човен і папружка, Эй! Каб той човен і папружка, Улавіла б свайго дружка». У многім сугучна згаданай баладзе і ў разгледжаных намі вершах песеннага складу з аналагічнаю тэматыкаю песня «Устану я раненька», дзе ў ролі ўмоўнага плыўца-тапельца выступае той жа, не пазбаўлены рамантызацыі «чарнабровец». Праўда, у дадзеным выпадку яго функцыю выконвае не муж жанчыны, а кавалер дзяўчыны. Акрамя таго, рытміка-інтанацыйны лад песеннага верша «Устану я раненька» прыкметна ўраўнаважаны і не такі гучны.

Даволі цікава і арыгінальна перададзены інтымныя пачуцці маладога чалавека ў песні «Баліць мне галовачка», дзе пошукі героем інтымнай любові і асабістага шчасця ў жыцці ўвасабляюцца ў постаці рыбалова, што знаходзіцца ў чоўне, які тоне «на моры ды на Дунаі». Але для ўмоўнага рыбалова-весляра не шкада ні «чаўночка размаляванага», што «Сярод мора тоніць», ні «платочка вышываненькага», што «Сярод мора плывець», ні «дзяўчыначкі закаханай», што «Па беражку ідзець». Хлопцу толькі «жаль малявання», «вышывання» і «закахання», г.зн. усяго таго радаснага і незва-

[1] Дзеля параўнання спашлёмся на баладу «Дзяцюк стаў цернем, дзеўка — калінаю», у якой маюць месца міфалагічныя матывы: «Дзесь паехаў мілы на мора гуляць, А мяне пакінуў у доме гараваць».

ротнага, што прыносіла яму прыгажосць і сардэчную асалоду на жыццёвым шляху. Аналагічныя асацыяцыі, уласцівыя ў значнай ступені рамантычнаму стылю, выклікаюць у песні «А на возеры ды на сіненькім» метафарычныя вобразы «рыбака» і яго «чаўночка белакрыленькага», патопленых бураю, што ўсхадзілася на вадзе. Больш таго, у песеннай інтымнай лірыцы фальклорнага паходжання ўзнікае парадаксальнае сумяшчэнне воднага пейзажу з лугам, дзе адбываюцца любоўна-спакушальныя заляцанні казака да чарнавокай дзяўчыны: «Сіне мора зацвітае, Казак каня напасае, З сабой дзеўча намаўляе» («Сіне мора зацвітае»). На падставе блізкіх да разгледжаных мастацкіх прыёмаў і пераўвасабленняў раскрываюцца ўзаемаадносіны казака і дзяўчыны ў песні «Плыве човен вады повен». Не менш цікавыя асацыяцыі ўвабраў песенны верш «Купалася Кася ў моры». Сугучныя ці блізкія праявам рамантычнай паэтыкі маюць асобныя песні пра каханне, у якіх спалучаецца сацыяльная і марыністычная тэматыка з больш ускладненай сэнсавай сімволікай слоў і паняццяў:

Адгукніся ты, доля,
Пасярэдзіне мора,
Адгукніся ты, друга,
Пасярэдзіне луга.

*(«А ў садзе каліначка»)*

Ах ты, мора, мора,
Чаго шыбка йдзеш?
Конік вараненькі,
Вадзіцы не п'еш.

*(«Ах ты, мора, мора...»)*

У беларускіх любоўных песнях фальклорнага паходжання часам заўважаюцца рамантычныя тэндэнцыі ў абмалёўцы прыроды. Пра гэта, у прыватнасці, яскрава сведчыць гіпербалізаваны вобраз рабіны з лірычнай песні пра каханне:

Ты сама стаіш на крутой гарэ,
А тваё галлё на сырой зямлі,
А тваё лісце на сінім моры.

Як і ў творах рамантыкаў, у дадзеным цыкле народнай лірыкі пры раскрыцці вобразаў герояў даволі шырока выкарыстоўваецца паралелізм узаемасувязей чалавека і прыроды праз вобразы мора, рэк, дрэў, кветак, нябесных свяцілаў — сонца, месяца і зораў, а таксама цёмных або чорных хмараў і т.п.

Роднасныя рамантызму тэндэнцыі маюць некаторыя сямейна-бытавыя песні, у якіх пры паказе жыцця і побыту народа пераважае моцны рэалістычны пачатак. Гэты песенны жанр пазаабрадавай лірыкі тэматычна вельмі блізкі да дзявочых песень пра каханне, а таксама да асобных народных казак і некаторых вершаў баладнага жанру. Таму мы, каб пазбегнуць паўтораў пра ўжо раней намі сказанае ў ракурсе ўзнятай тэмы даследавання, абмяжуемся ў дадзеным выпадку толькі агульнымі разважаннямі. У сямейна-бытавых песнях, дзе светлыя і радасныя настроі сустракаюцца вельмі рэдка, аказваюцца сугучнымі рамантызму элегічныя матывы журбы, гора, ліхой долі, скарга героя на свет і на свой нешчаслівы лёс і т.п. «Увогуле ўсе беларускія песні, — пісаў адзін невядомы даследчык яшчэ ў другой палове XIX стагоддзя, — па зместу і па напеву адрозніваюцца чымсьці меланхалічным, невыказна цяжкім». «У пераважнай большасці, — трапна заўважае Н.С.Гілевіч, — гэта голас невымернага жалю, смутку, нясцерпнага душэўнага болю і крыўды, гэта горкі і няўцешны плач, бясконцыя нараканні і гнеўныя праклёны. Узятыя разам, яны прадстаўляюць адну вялікую трагічную паэму-споведзь, роўных якой па глыбіні зместу і сіле вобразаў не было і няма ў нашай літаратуры».

У сямейна-бытавых песнях прасочваецца той жа, уласцівы для народных казак, легенд, паданняў і балад культ роднай зямлі, які назіраецца ў творах рамантыкаў:

Старонка мая, да староначка,
Не магу я цябе да забыці –
Ні ноччу сплючы, ні ўдзень ходзячы.
А як лягу спаць, я не высплюся,
Удзень ходзячы, не размыслюся.

З тэмаю радзімы (калі лірычны герой па волі лёсу адарваны ад свайго краю) цесна лучыцца матыў адзіноцтва («Ой, сама я, сама»), жаласнага плачу («Зялёная вішня») і праклёну няроднаму краю («Загарыся, чужа старана»). Сярод песенных вершаў дадзенага цыкла народнай лірыкі намі адшуканы даволі рэдкі матыў уцёкаў героя ў прыроду ад бязрадаснасці свайго паўсядзённага жыцця («Да пайду я з тугі ў лугі»). Імкнучыся пазбавіцца ад бед і расчараванняў, ён шукае ратунку, уцехі і заспакаення на ўлонні прыроды. Як і іншыя жанры фальклору і творы рамантыкаў, так і асобныя сямейна-бытавыя песні пабудаваны на паралелізме жыцця чалавека з плаваннем у чоўне («З рэчкі ў рэчку чаўночак плыве»), на аналогіі жыццёвых абставін маладых людзей з пераадоленнем па кладцы воднага бар'ера («Чэраз рэчаньку, чэраз быструю»). Амаль такія ж асацыяцыі выклікаюць мары герaіні аб яе вяртанні з чужыны ў дом свайго брата («Прыплывуся пад братковы сені»). Узаемасувязь чалавека і прыроды, што часта назіраецца ў творах рамантыкаў, выражаюць тужліва-самотныя пачуцці і душэўныя парыванні дзяўчыны да свайго каханага, што адправіўся недзе ў далёкае і невядомае падарожжа:

А на гары соўнейка,
Ў даліне туман,
А на маім сэрцайку
Журба ды пячаль.

Ой, паехаў міленькі
Аж у белы свет.
А я, маладзенькая,
Дый за ім услед.

Прыведзеныя намі прыёмы мастацкага паралелізму таксама адлюстравалі сацыяльна-бытавыя песні, асабліва салдацкія, рэкруцкія і казацкія вершы песеннага складу. Акрамя таго, яны ў сваю чаргу перадаюць элегічны смутак, адчай і жальбу герояў, іх скаргу на свет і на свой лёс, падкрэсліваюць марнасць чалавечага існавання і т.п. Іх фальклорнае паходжанне, вельмі набліжанае да рэальнасці, аказалася разам з тым надзвычай сугучным і рамантычнаму светаадчуванню. Тое ж можна сказаць пра сірочыя песні і пахавальныя галашэнні.

Такім чынам, беларуская каляндарна-абрадавая, сямейна-абрадавая і пазаабрадавая паэзія, якая прадстаўлена ў жанры народнай песні, мае шмат агульных тэндэнцый, якія ў многім аказваюцца суладнымі рамантызму. Аднак нельга не заўважыць, што песенная лірыка фальклорнага паходжання ў цэлым больш пачуццёва выразная, дэталёва дакладная, і разам з тым яна даволі адметная павышанай экспрэсіўнасцю і пяшчотным лірызмам, асабліва калі браць пад увагу пераважна рамантызаваныя песні пра каханне. Ва ўсякім разе роля беларускай народнай паэзіі, як і прозы, ва ўсталяванні і развіцці рамантызму на Беларусі XIX стагоддзя, заслугоўвае значнай увагі і належнага прызнання.

* * *

Праведзеныя ўпершыню аўтарам дадзенага артыкула папярэдняе і цяперашняе навуковыя даследаванні ў святле пастаўленай праблемы прывялі да высновы, што фальклорныя вытокі і генезіс беларускага рамантызму XIX стагоддзя (акрамя знешніх уплываў) бяруць пачатак у нацыянальным фальклоры — невычэрпным скарбе вуснай народнай творчасці, і таму гэты мастацкі накірунак уваходзіць сваімі каранямі ў глыбіню стагоддзяў і нават тысячагоддзяў. З самага пачатку ўзнікнення непісьмовай славеснасці беларусаў у ёй нараўне з рэалістычнай дакладнасцю праяўляюцца «адлёты» фан-

тазіі як адзін з самых ранніх правобразаў рамантычнага тыпу мыслення. Выключна важную ролю ў гэтым працэсе адыгралі народныя казкі, легенды, паданні, балады, песні і іншыя віды фальклору, якія пазней шырока выкарыстоўвалі ў сваіх творах пісьменнікі-рамантыкі. Роднасныя ці сугучныя рамантычнаму стылю тэндэнцыі, што маюць месца ў беларускай непісьмовай славеснасці і ў фальклоры іншых народаў, праяўляюцца ў своеасаблівай фальклорнай тыпізацыі. Як і ў творах рамантыкаў, яна зводзіцца да наступнага.

1. Гіпербалізацыя як адзін з галоўных, вядучых і абавязковых прыёмаў і сродкаў паэтыкі вуснай народнай творчасці.

2. Адсутнасць падрабязнай партрэтнай характарыстыкі героя, яго псіхалагічнай канкрэтызацыі, бытавой дэталізацыі.

3. Адналінейнасць у вобразнай характарыстыцы героя, які можа быць цалкам станоўчы або адмоўны.

4. Рамантычная ідэалізацыя станоўчых дзейных асоб, іх паводзін і ўчынкаў.

5. Незвычайныя абставіны ці асяродак, у якіх знаходзіцца і дзейнічае герой (акрамя некаторых сацыяльна-бытавых казак, сямейна-бытавых і сацыяльна-бытавых песень).

6. Фантастычна-міфалагічная ўмоўнасць, якая пераважна характэрна для чарадзейных казак, народных балад і ў пэўнай ступені для асобных легендаў. Нямала рысаў таямніча-загадкавага, спалучэння рэальнага і фантастычнага, паказ выключнай прыгажосці і моцнага кахання і т.п., што тыпалагічна сугучна рамантызму, увабралі беларускія народныя паданні з іх відавочнаю набліжанасцю да рэалістычнага адлюстравання.

Сюды ж варта аднесці і сімволіка-алегарычную вобразнасць, якая найбольш уласціва чарадзейным казкам, баладам і песням пра каханне. Пераважная наяўнасць гэтай вобразнасці ў згаданых жанрах фальклору служыць галоўным крытэрыем у вызначэнні аднаго з яе відаў. Зразумела, што ў ідэйна-эстэтычных адносінах рамантызм, абапіраючыся на багаты матэрыял вуснай народнай творчасці, дасягае значна большай мастацкай дасканаласці і спеласці.

Даволі шырокае распаўсюджанне атрымала ў беларускім фальклоры, а пасля і ў літаратуры Беларусі XIX стагоддзя рамантычнае ўпадабленне жыцця чалавека плаванню весляра або плыўца па воднай прасторы ў чоўне (ці лодцы), а то нават і на караблі. Названая тэма карысталася вялікай папулярнасцю не толькі ў беларускай, але і ў сусветнай рамантычнай паэзіі.

Фальклорныя вытокі і генезіс беларускага рамантызму XIX стагоддзя зыходзяць у пэўнай ступені з эстэтыкі барока і маюць з ім некаторыя агульныя рысы падабенства (шматзначнасць, метафарычнасць, кантраснасць, парадаксальнае сумяшчэнне несумяшчальнага і г.д.). Нельга не адзначыць, што барочная тэма «жыццё ёсць сон» адрадзілася менавіта ў эпоху рамантызму.

На падставе прааналізаванага аб'ёмнага і разнастайнага матэрыялу вуснай народнай творчасці аўтар даследавання прыйшоў да агульнай высновы, што багаты і змястоўны беларускі фальклор мае шмат роднасных рамантызму тэндэнцый, якія сталі адной з важнейшых прадпасылак узнікнення рамантычнага кірунку ў літаратуры Беларусі XIX стагоддзя. Зробленыя ў гэтай сувязі назіранні і абагульненні далі магчымасць у значнай ступені вызначыць неадшуканыя дасюль фальклорныя вытокі беларускага рамантызму, выявіць яго генетычныя карані, што зыходзяць з глыбокай старажытнасці.



## АНАТОЛЬ ТРАФІМЧЫК

# ЖЫЦЦЁ. ЛІТАРАТУРА. БОЛЬ

*Янка Брыль. З людзьмі і сам-насам. Запісы, мініяцюры, эсэ. Мн.: Мастацкая літаратура, 2003.*

Рыхтуючы рэцэнзію на чарговую кнігу мініяцюр Янкі Брыля, падумаў, што, мабыць, было б не лішнім прагледзець водгукі на ранейшыя запісы нашага класіка — каб не паўтарацца, бо для рэцэнзавання заўсёды можна выбраць нейкі новы аспект, новую прызму разгляду мастацкага слова. Але пабаяўся, што ў гэтым выпадку мяне спасцігне пэўная ступень змушанасці, а хочацца ж хаця б збольшага перадаць менавіта тое, што ўваходзіць у панятак «*мой* Брыль», магчыма, і паўтараючыся. Да таго ж рэцэнзаванне справа хоць і творчая, ды ў ёй, як і ўва ўсім, што пад сонцам, няма нічога новага.

Цяжка таксама выдзеліць і нешта кардынальна новае, адметнае ў гэтым выданні з шэрагу падобных кніг Янкі Брыля (пералік ёсць у анатацыі), да таго ж калі шчэ й не ўсё — прызнаюся — чытаў з таго спісу. Аднак, што кінулася адразу ў вочы, дык гэта тое, што пісьменнік, заўсёды ўдзяляючы вялікую ўвагу ў такіх запісах асэнсаванню свайго ўзросту, **пачынае** лічыць свой век (запісы ў гэтай кнізе з 1996 года) набліжэннем да завяршальнага жыццёвага і творчага этапу. Адсюль у мініяцюрах пісь-менніка — і пастаянныя азіранні назад, і немалая ўвага да маладога — будучага — пакалення. Наогул жа — працягваецца лінія *ўсяго чалавечага* (падалося нават, каб гэтай фразы не мела беларуская літаратура, яе абавязкова ўвёў бы ва ўжытак Янка Брыль, які і без гэтага не стаяў у баку ад яе аўтарства і аўтара — Уладзіміра Калесніка). Квінтэсенцыя кнігі Янкі Брыля магла б змясціцца ў некалькі радкоў, але яны ўжо былі сказаны Максімам Багдановічам: «Я хацеў бы спаткацца з Вамі...»

Структура кнігі Янкі Брыля таксама прывычная чытачу, знаёмаму з іншымі кнігамі пісьменніка. Кароценькія занатоўкі ўпарадкаваны храналагічна — ад 1996 да жніўня 2002 года, а дзве з іх перараслі ў адасобненыя эсэ — пра Фёдара Янкоўскага і чэшскага літаратара Вацлава Жыдліцкага, але яны не выбіваюцца з агульнага кантэксту кнігі.

Кароткія запісы, сапраўды, прываблліваюць сваёй шчырай простасцю. Насамрэч не ўсім гэта ўдаецца. Але нехта рэальна, ацэньваючы на гэтай літаратурнай дзялянцы свае сілы і майстэрства, назаве свае занатоўкі сечкай,

а нехта знойдзецца з прэтэнзіяй на большае[1]. І толькі, бадай, адзін аўтар гэтага жанру ў нашай літаратуры не выклікае спрэчак у якасці класіка «звышмалой» лірычнай прозы — Янка Брыль.

Дык чым жа, якімі пачуццямі, думкамі, а ў вербальным перакладзе — словамі, рэагуюць твае (мае) spiritus і ratio на новае (ці добра забытае старое?) шчыраванне Янкі Брыля? Вось пра гэта і хацелася б трохі распавесці перадусім у межах рэцэнзіі.

Рыхтуючы гэтыя нататкі, нарабіў выпісак, адзнак, вылучэнняў і да т. п. як ніколі (праўда, і практыкі ў мяне «дзякуючы» ўзросту малавата, ды ўсё ж і гэта, відаць, нешта значыць). Рэцэнзаваць, выказваць свае думкі, наладзіць дыялог хацелася б ці не з кожнай мініяцюрай. Гэтага, зразумела, не раблю. Але задаюся пытаннем, чаму ўзнікае такое жаданне? І адразу адказваю: бо ўсё тут лаканічна, змястоўна і адкрыта — для тых, хто хоча адкрыць. Такім чынам аўтарам ствараецца своеасаблівы палілог «з людзьмі», хоць прамаўляе ён нібыта «сам-насам». Шматлікія «пункціры» стасоўна літаратуры аперыруюць дастаткова шырокім колам вядомых і невядомых мне аўтараў. Аднак, што цікава, у іх шэрагу я не знайшоў Бахціна, у якога, здавалася б, алюзійна і «ўпіраецца» сама назва кнігі. Ці гэта адно рэмінісцэнцыя?

З мініяцюры пра напаўзабытую кнігу можна даведацца, што Янка Брыль не ставіць на мэце свядома тварыць у гэтым жанры, яго *нешта* падштурхоўвае, як у дадзеным выпадку чыесьці (Аляксандра Чаянава) словы. Такая імпульсіўнасць працэсу стварэння гэтага празаічнага жанра тоесная нараджэнню верша. Таму запісы і лірычныя. І не паэт па тытуле Янка Брыль па сутнасці з'яўляецца вельмі тонкім паэтам-лірыкам, душа якога бянтэжыцца «працы над вершам», інтуітыўна схіляючыся да сапраўднай паэзіі, якая ўзнікае з таемства.

Спроба раскласці мініяцюры па некалькіх паліцах, як я люблю рабіць пры сухім тэарэтызаванні, на гэты раз не ўдалася — настолькі сінкрэтычна знітаванымі аказаліся запісы, амаль кожны з іх. Але можна казаць пра нейкае тэматычнае кола. Вельмі шмат увагі нададзена літаратурнаму працэсу, дзе знайшлося месца роздумам пра непасрэдную літаратурную творчасць (тут жа захацелася напісаць — што і раблю — і пра пасрэдную таксама), пра гісторыю літаратуры (не адно беларускай), а таксама пра ваколлітаратурныя падзеі і з'явы (дарэчы, пры негатыве імёны не называюцца). Багата запісаў пра моўныя залацінкі нашага народа: настолькі *багата*, што пасля прачытання хаця б «некалькіх гадоў» кнігі ўзмацняецца разуменне існавання цэлай залатой жылы ў беларускай мове, жылы, на якой так мала сёння сапраўдных шчыравальнікаў (хоць у адным СП іх павінна было б быць не менш, чым членскіх білетаў). Да прыроды ў Янкі Брыля адносіны без ценю адчужанасці, без намёку на «урбаністычнае» любаванне флорай і фаунай, якое сустракаецца ўсё часцей і часцей нават сярод прадстаўнікоў «сена на асфальце»: адчуваецца, што чалавек Янка Брыль і прырода — адно цэлае, яны раствараюцца адно ў адным; адсюль у пісьменніка не проста любаванне ў стылі «ах, як прыгожа!», а прыродная любоў да таго, што «ах, як прыгожа!», і да таго, што не заўсёды і прыгожым назавеш. Ды ўсё ж чырвонай ніткаю праз кнігу цягнецца роздум пра чалавека і чалавецтва, у якім знайшлі

[1] Ні ў якім разе не хачу пакрыўдзіць некага канкрэтна. Шчыра кажучы, мне як чытачу імпануе такі літаратурны імпрэсіянізм творчага мыслення. Яго вынікі прывабліваюць і чытачоў усё той жа ўяўнай простасцю (Л. Рублеўская слушна дадае сюды і шчырасць: Дзеяслоў, 2002, № 1, с. 208). А калі гэта шчэ й прыцягальна цікава, калі глыбіня таго мыслення аформлена бліскуча і філігранна (тут для сябе поруч з Янкам Брылём стаўлю Леаніда Галубовіча), то я раблюся не проста цікаўным чытачом гэтага жанру, а яго апантаным аматарам.

свой адмысловы куточак і біблейскі смутак, і «вечная женственность», і маральнасць (брылёўская — несентэцыйная, але таксама з «зорным небам» над суб'ектам).

Мініяцюры Янкі Брыля, як і наогул кароткія зацемкі пра жыццё-быццё, відавочна падобны да дзённікавых запісаў. Але апошнія ўступаюць у літаратурным плане, бо мініяцюры — гэта не толькі і не столькі адбітак паўсядзёншчыны, але і літаратурна-філасофскі аналіз ды сінтэз. Вось чаму, відаць, тут не кожнаму дадзена адбыцца. Практыка паказвае, што творчасць у «мініяцюрным» жанры літаратуры найбольш эфектна і эфектыўна ўдаецца ўжо немаладым літаратарам. Сёння Янка Брыль схільны да самаўшчування сябе за колішнюю «нестарую бяздумнасць». А гэта — і прыклад для цяперашняй моладзі, і пэўны доказ неабходнасці жыццёвай сталасці аўтараў мініяцюр.

Падобнасць (у шмат якіх месцах) да дзённікавых запісаў міжволі падштурхоўвае да параўнання з дыярыушамі беларускіх літаратараў, асабліва з тымі, якія прачытаны за апошні час (абыдземся, беручы прыклад з Івана Антонавіча, без імёнаў). І наколькі тут Янка Брыль вылучаецца ў сэнсе культуры, мудрасці, шчырай чалавечнасці! Сапраўды, такое не сорамна і пры жыцці надрукаваць.

«Запісы, зацемкі, споведзь...

Ратуй нас, натуральны сэнс, ад старэча-недалужнага стрыптызу, а тым больш — ад бяззуба чорнай зласлівасці».

(Прашу прабачэння, што ўсё-такі не паслухаў самога аўтара, які назваў бы гэты мой пасаж «дурным звычаем».)

У рэцэнзіі я сказаў не ўсё, што меўся сказаць. Зрэшты, падалося, таксама, як і Янка Брыль у сваёй кнізе, выдадзенай у дзяржаўным выдавецтве «Мастацкая літаратура». Але Янка Брыль сказаў з таго, што хацеў, усё ж больш за мяне. Ён даў зразумець. Што і я намагаюся зараз зрабіць гэтым абзацам.

Амаль у любой рэцэнзіі традыцыйна прынята сказаць хоць колькі слоў крытыкі. Што тычыцца разглядаемай кнігі Янкі Брыля, то я для сябе адзначыў, што калі (б) і знайшоў нейкія хібы, то яны, мусіць, былі (б) не проста суб'ектыўныя, а больш таго — засведчылі (б), што я ў тых момантах нечага «недаразумею» (хоць па гамбурскім рахунку мною не выключаецца здольнасць Янкі Брыля памыляцца — як чалавека)[1].

Аднак гэтак, параўнальна гладка, чытанне Янкі Брыля (да таго ж для рэцэнзіі) не магло адбыцца ex definitione. Аднекуль усплыло вострае жаданне працытаваць словы «невыносна лёгкага» Мілана Кундэры (дарэчы, такі паварот рыхтык у стылі запісаў самога Янкі Брыля): «Там, где говорит сердце, разуму возражать не пристало. В империи кича властвует диктатура сердца. Чувство, которое порождает кич, должно быть, без сомнения, таким, чтобы его могло разделить великое множество. Кич поэтому не может строиться на необычной ситуации, он держится на основных образах, запечатленных в людской памяти: неблагодарная дочь, заброшенный отец, дети, бегущие по газону, преданная родина, воспоминание о первой любви. Кич вызывает две слезы растроганности, набегающие одна за другой. Первая слеза говорит: «Как это прекрасно — дети, бегущие по газону!» Вторая слеза говорит: «Как это прекрасно умилиться вместе со всем человечеством при виде детей, бегущих по газону!» Лишь

[1] Іван Антонавіч (падкрэсліваю, не пісьменнік Янка Брыль) сам пра гэта кажа людзям, бо ў яго толькі ад уяўлення верагоднасці сітуацыі, невырашальнай з гледзішча катэгорый гуманізму і ваеннага часу, «разбалелася сэрца»: «Лёс пазбавіў мяне ад такіх ды падобных сітуацыяў. А мог бы і не пазбавіць. І гаворкі пра гэта цяпер не было б».

эта вторая слеза делает кич кичем. Братство всех людей на земле можно будет основать только на киче». (Пераклад Ніны Шульгіной.) Самі па сабе ў сувязі з гэтым правяліся паралелі з мініяцюрамі. І не толькі Янкі Брыля. А калі шырэй: і не толькі з мініяцюрамі — з літаратурай і мастацтвам наогул. І слабым апраўданнем з'явіліся адшуканыя ў памяці словы, якія належаць, па-мойму, сучаснаму ўкраінскаму літаратару Ю. Андруховічу, пра тое, што кіч — адна з рысаў эпохі «постмадэрн», бо адразу падумалася, што гэтая рыса «вечная», ды толькі ў эпохі а la постмадэрн яна становіцца эксплiцытнай, прэ з **усіх** шчылін. А можа, тут і не патрэбна ніякіх апраўданняў ці (успомнім Борхеса) «арніталагічных доказаў» — ні мастацтву, ні літаратуры, ні мініяцюрам Янкі Брыля? Як у выпадку дыялога паміж Воландам і Берліозам пра існаванне Бога: Ён ёсць «и доказательств никаких не требуется». Ды ўсё ж хоць і казыча душу неспакойнае дыялектычнае «але», сапраўды, якая розніца, ці ёсць той кіч ці не, таму што: «Святасць жаласці, шкадавання. Усіх, бо ўсе, калі глыбей разабрацца, незразумела і безнадзейна няшчасныя». І гэта — «не эмоцыі, **гэта — боль...»**





▸ ЛАДА АЛЕЙНІК

# СУБ’ЕКТЫЎНАЕ РАЗВАЖАННЕ ПРА «ЛЁГКІ» ЖАНР

*В. Праўдзін. Шлях да Галгофы. Аповесць, апавяданні. «Мастацкая літаратура», 2003.*

Сітуацыя, якая бытуе вакол дэтэктыўнага жанру, вызначаецца няйначай як парадаксальная. Мабыць, ніводзін іншы літаратурны жанр не бэсціўся так, як дэтэктыўны, не заслужыў такой колькасці негатыўных водгукаў. Але разам з тым які жанр параўнаецца з ім па папулярнасці, па запатрабаванасці ў чытача? Здзіўляе таксама і тое, што часам нават самы заўзяты аматар апускае вочы долу, пачынае сарамліва апраўдвацца, калі гутарка зойдзе пра дэтэктыў. Якімі толькі эпітэтамі яго ні ўзнагароджвалі! Зняважліва называлі «танным», «нізкім», «бездухоўным», «чытвом для хатніх гаспадынь», у лепшым выпадку — «займальным» або «забаўляльным». Пісьменнік, які асмеліўся зрабіць спробу самавыяўлення ў гэтым жанры, моцна рызыкуе быць закляймёным пільнай крытыкай як «нізкапробны», «кірмашовы» або яшчэ горш... Але давайце згадаем імёны класікаў і эстэтаў дэтэктыўнага жанру сусветнай літаратуры. Сярод іх Джон Макграфт, Нікалас Блэйк, Гіём Апалінэр, Бертольд Брэхт, Хорхе Луіс Борхес, іншыя славутыя, сусветна прызнаныя пісьменнікі, якіх ніяк нельга абвінаваціць ні ў легкадумнасці падыходу да мастацкай творчасці, ні ў «несур’ёзнасці» твораў...

Вядомы факт, што ў XIX стагоддзі ў Лондан на Бейкер-стрыт ішлі лісты з усяго свету — людзі звярталіся да Шэрлака Холмса, мастацкага героя А. Конан-Дойла, з просьбамі аб дапамозе, прасілі расследаваць нейкую ўласную заблытаную гісторыю. Пазней быў створаны музей Шэрлака Холмса, які і зараз канкурыруе па папулярнасці са знакамітымі мастацкімі галерэямі. А. Крысці на ўвесь свет праславіла сельскую Англію, «вотчыну» міс Марпл (дарэчы, сёння існуюць нават дарагія экскурсійныя туры «па месцах злачынстваў» паводле твораў пісьменніцы). Гэта ўсё, так бы мовіць, сведчанні магчымасцей жанру...

Прааналізаваўшы айчынныя літаратурныя набыткі, можна ўпэўнена сцвярджаць, што ў беларускай літаратуры дэтэктыўны жанр не стаў асабліва папулярны. Тут, вядома, вызначыліся свае адметныя постаці — Я. Маўр, У. Караткевіч, але наяўнасць менавіта адзінкавых імёнаў і твораў яшчэ раз

пацвярджае нераспаўсюджанасць жанру. Цікавасць да дэтэктыва ў беларускіх пісьменнікаў відавочна абвастрылася ў апошняе дзесяцігоддзе XX стагоддзя. Так, напрыклад, спроба самавыяўлення ў названым жанры была зроблена некаторымі пісьменнікамі з літаратурнага аб'яднання «Тутэйшыя». Іх творы з дэталёвай пільнасцю прааналізавала маладая даследчыца літаратуры Аксана Бязлепкіна ў кнізе «Разам і паасобку: таварыства «Тутэйшыя», справядліва адзначыўшы, што «беларускія дэтэктывісты па-ранейшаму мусяць апраўдвацца за абраны жанр, і стварэнне дэтэктыўных твораў вымагае ад аўтараў пэўнай смеласці». Мабыць, гэтая самая «смеласць», своеасаблівая аўтарская «рызыка» заўсёды прывабліваюць і мяне асабіста. Хаця, мушу агаварыцца, беручы ў рукі твор айчыннага пісьменніка, прыналежны да дэтэктыўнага жанру, адчуваю спецыфічную боязь… Ці не чарговы гэта «шэдэўр» накшталт узораў расійскага маскультаўскага канвеера «Марыніна and Данцова (ды іншая шматлікая кампанія)»? Для аўтара заўсёды застаецца небяспека збочыць яшчэ і ў гэтым кірунку — з адной крайнасці ў другую.

Думаецца, што і сёння ўвага беларускіх пісьменнікаў да дэтэктыва па-ранейшаму не губляецца. Тут зроблены новыя, безумоўна, удалыя, спробы стварэння арыгінальных гісторый. Сведчаннем гэтаму з'яўляюцца аповесці В. Праўдзіна «Эксгумацыя» і Л. Рублеўскай «Сэрца мармуровага анёла», апавяданне А. Федарэнкі «Цугцванг», іншыя творы айчынных майстроў слова. Падыход да адлюстравання падзей розны: заўважаецца і пераемнасць нацыянальных (найперш, караткевічаўскіх) традыцый, і традыцый сусветнай класікі, і, несумненна, мае месца свежае аўтарскае ідэявыяўленне.

Кожны твор па-свойму адметны, мае сваю каларытную мастакоўскую дэталь. Так, аповесць Л. Рублеўскай выяўляе прыгожа-рамантычную гісторыю росшуку каштоўнай перліны (з уласнай легендай, уласным лёсам), захаванай у мармуровай скульптуры анёла, замураванай у яго «сэрцы».

У апавяданні «Цугцванг» А. Федарэнкі, дарэчы, блізкім прынцыпамі сюжэтабудовы да лепшых узораў навелістыкі С. Цвейга, арыгінальным па іранічна-спавядальным пафасе, — аўтарская знаходка ў «месцапалажэнні» скарбу. Неардынарная ідэя ўвасоблена пісьменнікам з дасканалым мастацкім досціпам. Уладар багацця, чалавек сталы, вялікі аматар шахматнай гульні, захоўвае золата ва ўласнай кухні, дзе лінолеум на падлозе выкладзены ў выглядзе шахматнай дошкі. Каб атрымаць скарб, трэба толькі своечасова разгадаць хітрыкі старога авантурыста, рашыць складзеную ім «шахматную задачу».

Што датычыцца аповесці В. Праўдзіна… Бытуе меркаванне, чым больш прыкладаеш намаганняў быць аб'ектыўным, тым больш схіляешся да суб'ектыўнасці. Таму проста паспрабую выказаць прыватны пункт гледжання.

Аповесць В. Праўдзіна «Эксгумацыя» стаіць нібыта наўзбоч ад вышэйназваных твораў. Калі аповесць Л. Рублеўскай і апавяданне А. Федарэнкі можна ахарактарызаваць як дэтэктыўна-прыгодніцкія, то аповесць В. Праўдзіна — гэта, хутчэй, «чысты», міліцэйскі дэтэктыў. Тут аўтара (не менш, чым яго герояў) небяспека падпільноўвае з усіх бакоў. Найперш трэба засяродзіцца непасрэдна на стылі, каб не збіцца на пратакольна-афіцыйны ці публіцыстычны, якога сам па сабе вымагае абраны жанр. Па-другое, нерацыянальнае нагрувашчанне падзей пагражае празмернай заблытанасцю, што не паспрыяе прыцягненню чытацкай увагі, а адсутнасць неабходнай «дозы» здарэнняў адразу ж спрашчае сюжэт, падзеі губляюць дынаміку, робіцца прадказальным фінал. Таму пісьменнік павінен пабудаваць такі ланцужок лагічна абгрунтаваных фактаў, якія ўрэшце складуцца ў рэальна-верагодную гісторыю.

Дэтэктыўнай аповесцю «Эксгумацыя» распачынаецца кніга В. Праўдзіна «Шлях да Галгофы». Назва кнігі інтрыгуючая, неардынарная ілюстрацыя на вокладцы — вянец з калючага дроту над лугам, праз які ліецца нябеснае святло — спараджае масу асацыяцый, таму сімвалічна ўспрымаецца і назва першага твора: думаецца хутчэй не пра крыміналістычную працэдуру, а пра ўзнаўленне нейкіх даўно адышоўшых падзей. Але пачатак аповесці, сустрэча з самым што ні ёсць празаічным сучасным следчым, у нейкай ступені і расчароўвае, і стымулюе да далейшага чытання.

Сітуацыя на авансцэне твора таксама даволі трывіяльная — галоўны герой, старшы следчы пракуратуры Смаляк, на якога паступіла скарга, атрымлівае «наганяй» ад начальніка. Вось тут узнікае меркаванне, што аповесць стане падобнай на інфармацыйную зводку з перадачы «Дзяжурная часць». Не. Далей з гэтай «паўсядзённай» скаргі развіваецца цікавая, на самой справе вострасюжэтная гісторыя.

У творы дзейнічае дастаткова вялікая колькасць персанажаў, падзеі разгортваюцца, так бы мовіць, на «рэальнай» глебе — у Мінску (фігуруюць і назвы вуліц, захоўваецца «геаграфічная» верагоднасць здарэнняў). Пачатак заблытанага здарэння мае месца ў так званым прыватным сектары. Першыя кантакты следчага з іншымі героямі не выклікаюць асаблівага напружання чытацкай рэфлексіі. Дынаміка падзей узмацняецца, калі пачынаюць высвятляцца абставіны скаргі.

Стары чалавек, не адзінокі, маючы родных пляменнікаў, знаходзячыся ў цвярозым розуме і памяці, піша завяшчанне на ўсю сваю маёмасць абсалютна чужой жанчыне. А на наступны дзень пасля «дакументальнага» афармлення спадчыны раптоўна памірае. Сквапныя пляменнікі, не могучы пагадзіцца з такой несправядлівасцю, абвінавачваюць жанчыну ў забойстве. Пісьменнік відавочна наўмысна абмалёўвае сітуацыю такім чынам, каб чытач адчуваў сябе нібыта прыцягненым да разблытвання справы. Дзеля гэтага аўтар паказвае ўвесь шлях і механізм расследавання, выяўляе не толькі вынікі дзеянняў, але і логіку мыслення следчага Смаляка, змушаючы тым самым чытача да ўласных версій, да неаслабнай цікаўнасці.

Разам з тым пісьменнік эмацыянальна ўплывае на чытача, даючы ўласную ацэнку кожнай асобе і з'яве. Яго вачамі бачыцца, напрыклад, Вярбіцкая, якая ўнаследавала маёмасць памёрлага Альховіка. «Ціхмяная, добра складзеная брунетка трыццаці пяці год, шчыра, іншым разам нават наіўна адказвала на пытанні следчага...<...> Дзяцей гадавала адна, і зразумела было, чаго яна бралася за ўсялякую работу». Ужо нават гэтая лаканічная характарыстыка гераіні выклікае да яе не толькі давер, але і спачуванне, і сімпатыю. Зусім іншае ўражанне ад знаёмства з «законнымі нашчадкамі», братамі Шчэрбамі. «Яны былі вельмі падобныя, хаця розніца ва ўзросце складала пяць гадоў. Тоўстыя, потныя, лысыя, яны ў пакамечаных клятчатых гарнітурах, як футбольныя мячы, укаціліся ў кабінет, утаропіліся ў Смаляка шэрымі насцярожана-ліслівымі вочкамі». Так атрымліваецца, што сутнасць скаргі вымагае інтэлектуальнай ацэнкі сітуацыі, а партрэты і паводзіны персанажаў выклікаюць супрацьлеглае эмацыянальнае ўспрыняцце. Несупадзенне інтэлектуальнага і эмацыянальнага стаўлення да падзей і герояў утварае дысананс, які, па сутнасці, і ёсць мастацкая інтрыга.

Таямнічасць гісторыі паглыбляецца, а далейшае разгортванне сюжэта робіцца непрадказальным, калі аўтар праз пэўнае адступленне ў часавай прасторы робіць нечаканы экскурс у мінуўшчыну і знаёміць чытача з падзеямі 1939—1941 гадоў. Тут у поле зроку чытацкай аўдыторыі трапляюць сяржант і лейтэнант НКУСа, якія, выконваючы загад начальства, спрабуюць арыштаваць мясцовага «ворага народа» — царкоўнага старасту. Але ў той самы момант, калі староста ўжо быў затрыманы, а скрыня з нейкім «кампра-

матам» (як думалі нкусаўцы, рацыяй) яго дзейнасці знойдзена, але яшчэ не адкрыта, у вёску ўваходзяць немцы. Пачынаюць узрывацца размешчаныя бліз вёскі вайсковыя склады. «Вораг народа», скарыстаўшы сітуацыю, пасправаваў уцячы, але быў забіты сяржантам на месцы. Далей аповед аўтара вяртаецца ў ранейшае рэчышча, а чытач вяртаецца ў сучаснасць. Але гэтае знаёмства з абставінамі мінулых гадоў адкрывае яшчэ адну магчымасць для пабудовы новых версій, супастаўленняў і прагнозаў.

Верагодна, з мэтай своеасаблівага «разняволення» чытацкай увагі, пісьменнік характарызуе герояў з доляй пэўнай «няяснасці», персанажы ў чарговай паслядоўнасці трапляюць пад чытацкае падазрэнне. Так, напрыклад, напачатку выклікалі непаразуменне дзіўныя паводзіны Казіміры Францаўны, былой суседкі Альховіка. Калі ж яна раптоўна трапляе пад колы аўтамабіля, пад увагу бяруцца неадэкватныя змены настрою яе сына — спачатку скандал у бальніцы, а пасля хуткая згода з невінаватасцю вадзіцеля-забойцы. Сістэму звязаных паміж сабой падзей, што складаюць сюжэтную тканіну расследавання, пісьменнік папаўняе новымі асобамі паступова, з пільнай мэтазгоднасцю. Персанажы трапляюць пад чытацкую ўвагу праз іх кантакты са следчым. Менавіта ў стасунках з іншымі дзеючымі асобамі раскрываецца характар і галоўнага героя. Следчы Смаляк пазбаўлены заўсёднага каларыту, якім звычайна надзелены такі персанаж у замежнай літаратуры: ён не такі карыкатурны, як Эркюль Пуаро, не супермэн, як камісар Мегрэ, і нават не такі інтэлектуал, як Шэрлак Холмс. Ён надта звычайны, будзённы і зразумелы, таму і пазбаўлены фікцыі, не эфемерны, а рэальны, жыццёва-праўдзівы. Гэты герой з'яўляецца той цэнтруючай фігурай, якая «ажыўляе» падзеі сваёй прысутнасцю. Бо вядома, што «апрача жыццёвага матэрыялу, які кладзецца ў аснову любога твора, патрэбна яшчэ фарміруючая сіла, якая надае жыццёвым фактам адпаведны сэнс, збірае, адпаведным чынам іх асвятляе і ў гэтым сэнсе «стварае» іх для мастацтва». Следчы Смаляк выпісаны ў аповесці з відавочнай псіхалагічнай дакладнасцю. Аўтар дэманструе ў яго паводзінах пэўны стыль вышуковай працы: карпатлівы збор інфармацыі, назіральнасць у спалучэнні з уменнем аналітычна ацэньваць звесткі, а таксама і «хітрыкі» вядзення допыту, псіхалагічнага ўплыву. «Смаляк не прыспешваў Шашка, ён сядзеў і моўчкі назіраў. І менавіта гэтае маўчанне больш за ўсё нервавала Шашка, з кожнай хвілінай рос, шырыўся незразумелы пратэст і чамусьці злосць на самога сябе. Ён з цяжкасцю кантраляваў думкі, у любы момант мог сарвацца...» Разам з гэтым пісьменнік не ідэалізуе свайго героя, Смаляк не застрахаваны ад памылак, не заўсёды спраўджваецца яго інтуіцыя (як, напрыклад, у выпадку з Вярбіцкай, якая напачатку выклікала ў яго самыя пазітыўныя эмоцыі).

Даволі грунтоўна выпісаны ў аповесці і вобразы двух іншых следчых, Зубенкі і стажора Загірава, падключаных да справы пазней. Кожны са сваім характарам, з уласным пунктам гледжання. Рэалістычна, псіхалагічна зразумела адлюстраваны вобраз Зубенкі, які трымаецца са сваім «падшэфным» з доляй начальніцкай самаўпэўненасці і адначасова з бацькоўскім клопатам. Але асабліва каларытна выглядае вобраз стажора Загірава. Пісьменніку ўдалося перадаць і ментальныя асаблівасці гарачага дагестанскага характару, і імпульсіўнасць у дзеяннях, выкліканую малавопытнасцю, і адвагу, уласцівую маладосці. Камічна выглядае стажор у сітуацыі з «канфіскацыяй золата» ў панадворку Шашкоў. Як дзіця, абводзіць яго вакол пальца спрактыкаваны ашуканец, разыграўшы цэлы спектакль «з пераапрананнем» у падпалкоўніка міліцыі. Рашучым і мужным бачыцца стажор у фінале твора, гарцуючы на кані насустрач кантрабандыстам.

Па-майстэрску абмаляваны і вобраз Вярбіцкай: ціхмяная і безабаронная, «затурканая жыццём жанчына» на пачатку твора, пазней — «расфрэнчаная, спакуслівая маладзіца», урэшце ператвараецца ў агрэсіўную дра-

пежніцу, «якая трапіла ў пастку і, зразумеўшы, што цяпер стала лёгкай здабычай нават для слабейшых, ашчэрыўшыся, чакала ворагаў, чакала і не ведала, хто і адкуль нападзе. Жорсткая лінія твару, нахабны, ледзяны позірк, нервознасць у рухах і асабліва смех, нядобры, здзеклівы...» Дзеянні гераіні абгрунтаваны важкім матывам атрымання вялікага багацця, цэлай скрыні золата. Злачынны шлях Вярбіцкай да гэтага скарбу лагічна абумоўлены і рэалістычна пададзены, а яе алібі і хітрыя «абаронныя канструкцыі» разбураюцца доказна, дэталёва выяўляючы спецыфіку вышуковай працы аператыўнікаў. Пільна прасочаны ў аповесці пакручасты і крывавы лёс самога скарбу, які нікому не прынёс шчасця. Ён праз доўгія дзесяцігоддзі вандраваў ад капітана Пурхіневіча да былога царскага афіцэра Замагільнага (царкоўнага старасты Нямцова), ад сквапнага сяржанта-нкусаўца Гнацюка (які пазней «схаваўся» за прозвішчам Альховік) да сучасных злачынцаў — Вярбіцкай, яе «замежнага жаніха» ашуканца Вітаўса і іншых прадстаўнікоў крымінальнай суполкі. Дарэчы, вобразы злачынцаў Куклазе-Вітаўса і Лескаўца выпісаны ў творы даволі абстрактна: з імі не адбываецца непасрэднага знаёмства — з дыялогам, партрэтнымі падрабязнасцямі і іншымі асаблівасцямі, неабходнымі для паўнаты вобраза. Гэтыя героі выяўлены апасродкавана, праз гутарку з Вярбіцкай, праз факты, сабраныя следчымі. Адзінае «судакрананне» з Вітаўсам адбываецца ў доме Шашка, дзе злодзей з немалой акцёрскай здольнасцю перахоплівае «пяць кіляў» золата. Думаецца, што аўтар менавіта так і планаваў кампазіцыю твора. Але асобнымі згадкамі, дробнымі эпізодамі пісьменнік з рацыянальнай мэтазгоднасцю абумоўлівае тыя ці іншыя характэрныя рысы і гэтых персанажаў. Так, Вера Іўчык, сакратарка Лескаўца, убачыўшы фотаздымак Вітаўса, заўважае: «Прозвішча не ведаю. Лескавец на падпітку зваў яго «Артыстам». І ўжо гэтая заўвага падкрэслівае, што ў біяграфіі злачынцы, верагодна, і раней былі эпізоды з «тэатралізаванымі шоу». Ды і ўвогуле ў аповесці назіраецца шчыльная знітаванасць фактаў, цесная сувязь асобных падзей у завершанае адзінства. Вышэй вялася гутарка наконт назвы твора... Так, літаральная «эксгумацыя» ў сюжэце мае месца. Але відавочна, што назва ўсё ж сімвалізуе «эксгумацыю» перыпетый мінулага, скарб, які праз доўгі час зноў нібыта ўваскрасае з небыцця і патрабуе новых ахвяраў.

Немалаважную ролю ў дэтэктыве В. Праўдзіна адыгрываюць і вельмі арыгінальныя дэталі, свежыя аўтарскія ідэі. Так, напрыклад, унікальнай па досціпу аўтарскай знаходкай выглядае спосаб «транспарціроўкі» золата праз мяжу. «Зубенка раптам усё зразумеў: лось глуханямога быў кантрабандыстам. Ён на сабе пераносіў праз мяжу любы тавар у «панчохах», наўмысна сшытых са шкуры, колерам ворсу падобнай да ласінай. Здалёк не разгледзіш, а блізка ён чужога не падпусціць. І пamежнікі вялікіх прэтэнзій не маюць, як з аднаго боку, так і з другога». Калі пачатак твора быў у нейкай ступені запаволены, не вызначаўся празмернай «захапляльнасцю», то фінал аповесці, дзякуючы ў тым ліку і гэтай дэталі, абыграны віртуозна і дасканала.

Як увогуле ахарактарызаваць дэтэктыў В. Праўдзіна? Цікавы і арыгінальны, займальны і непрадказальны... Ну, вось, ніяк не абыходзіцца без эпітэта «займальны»... Але ж гэта на самой справе так! Чаму дадзенае вызначэнне амаль заўсёды ўжываецца з грэблівай ухмылкай, з цынічнай інтанацыяй? Вядома, займальнасць — не самая важная мэта літаратуры, хутчэй, факультатыўная. Тым не менш, калі мастацкі твор, акрамя іншых вартасцей, надзелены яшчэ і гэтай, то яго агульная ацэнка тым самым толькі падвышаецца.

А зараз — да пытання пра смеласць... Вядома, што ў «лёгкім» жанры паспрабаваў сябе нават А. П. Чэхаў. Яго дэтэктыўны раман «Драма на паля-

ванні», знакаміты па сённяшні дзень, у свой час атрымаў толькі газетную публікацыю, пасля якой аўтар нідзе больш яго не выдаваў, не ўключыў нават у збор твораў. Саромеўся папулярызацыі твора, прыналежнага да «нізкага» жанру? Пабаяўся быць узнагароджаным пэўнымі (вельмі прадказальнымі) эпітэтамі? Магчыма. Толькі сёння «Драма на паляванні» заслужыла высокія ацэнкі у даследчыкаў літаратуры, лічыцца каштоўным набыткам і з пункту гледжання мастацкасці, і разумення паўсядзённага быту, і выяўлення псіхалогіі свайго часу. Можа, смялей трэба ставіцца да ўласных спробаў?

І яшчэ адно, апошняе пытанне… Ці лёгка напісаць твор такога кшталту, які ў рэшце рэшт атрымаўся ў В. Праўдзіна: каб не ператварыць у літаратурную «папсу» (накшталт сучасных расійскіх узораў, дзе легкадумныя дамачкі адчыняюць складаныя замкі пілачкамі з манікюрных набораў, а моднай сумачкай збіваюць з ног спрактыкаваных «сек'юрыці»); каб абысціся без містычных нагрувашчанняў (вельмі модных зараз прадказальнікаў, варажбітак, экстрасенсаў і іншых звышнатуральных персон), але ўтрымліваць таямнічую напружанасць і загадкавасць на працягу ўсяго сюжэта; каб захаваць рэалістычнасць у адлюстраванні падзей, верагоднасць і лагічную сувязь фактаў і не ператварыць твор у міліцэйскую справаздачу; каб адлюстраваць псіхалогію персанажаў, абумоўленасць іх учынкаў, знайсці арыгінальныя дэталі і пасля звесці ўсё пералічанае ў адзінае цэлае пад назвай дэтэктыў?! Не надта простая задача?.. Думаецца, што так. Але жанр па-ранейшаму вызначаецца як «лёгкі», а скептыкі па-ранейшаму паблажліва-іранічна ўсміхаюцца…

*P. S.* Дарэчы, пра скептыкаў… У кнігу В. Праўдзіна ўваходзіць акрамя дэтэктыўнай аповесці яшчэ дзесятак апавяданняў — «Шлях да Галгофы», «Помста», «Цукеркі ад бацькі»… Гэта драматычныя гісторыі пра чалавечыя лёсы, пра самаасэнсаванне асобы, пра сэнс чалавечага існавання. Тут аўтар прадэманстраваў ужо іншую эмацыянальную глыбіню, таленавіта выяўляючы псіхалогію герояў — адметных, характэрных, тыповых прадстаўнікоў часу. У гэтых творах пісьменнік адкрывае іншыя грані свайго майстэрства. Апавяданні В. Праўдзіна, у некаторай ступені эсэістычныя, па-філасофску шматпланавыя (якія, безумоўна, заслугоўваюць асобнага, дэталёвага разгляду), яшчэ раз падкрэсліваюць мастакоўскія здольнасці аўтара…





## ДЗЯДОЎНІК НА ПАРНАСЕ

## *Анатоль ЗЭКАЎ*

### СЛОВЫ ПАД ДРОВЫ

Раскладу пад вечар
у двары касцёр.
З думаю аб вечным
дым плыве да зор.

Прасяджу ўвесь вечар,
покуль хопіць дроў.

***Эдуард Акулін***

Каб заняцца нечым,
выйду сёння ў двор
і на ім пад вечар
раскладу касцёр.
Рыфмы буду гнаць я
колькі вечароў...

Добра хоць, што бацька
назапасіў дроў!

### ЯКОЙ МНЕ СТАЦЬ?

Я стану такой, як ты хочаш...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Я стану шчаслівай, шчаслівай
На верасня светлай мяжы...
І восень ліст апаліла,
Забудзь, не вяртайся — чужы.

***Ала Канапелька***

Ты пажадай, якой мне стаць,
І стану я такой, як хочаш,
Каб потым мог мяне кахаць
І светлым днём,
І цёмнай ноччу;
Каб і на восеньскай мяжы
Сярод апаленай лістоты
Я знала, што ты не збяжыш,
Мяне пакінуўшы самотнай.
Якой мне стаць,

